

# МАЛАДОСЦЬ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Год выдання XI

9

ВЕРАСЕНЬ

1963

У нумары



Выдавецтва «ЗВЯЗДА».
МІНСК.

**КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ**



**ГУМАР І САТЫРА**



**СПОРТ**



**ШАХМАТЫ**



**Пры гэтым нумары — бясплатны дадатак «А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...»**

**Вокладка А. ПЛАКСІНА.**

**НА ДРУГОЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ — перадавы механізатар Міхаіл Клуйша. Адпрацаваў свае на камбайне, сабраў багаты ўраджай, а цяпер — на трактар. Такі парадак у гэтага чалавека — рабочага саўгаса «Зялёны луг», што пад Мінскам.**

Фота **А. ДЗІТЛАВА.**

**НА ТРЭЦЯЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: Кветкі трэба апраўдаць!**

Фотаэцюд **А. ДЗІТЛАВА.**







**Пятрусь МАКАЛЬ**

# СІКЕЙРАС

**Выдатнага мексіканскага мастака Давіда Сікейраса трымаюць у турэмным зняволенні за прагрэсіўныя перакананні.**

**З газет.**



Мексіка. Мехіко. Камера.
Свеціцца вязень, як свечка.
Не ў Лету, а ў камеру з каменя
Канула сярэднявечча.
Як пазыўныя, выстукаў
Фрэскі аловак нядрэмны...
Цемрыва?
Маніце! —
Выстаўка
У рамцы сценаў турэмных!
У вочку замочным — з акенцаў —
Промень, як ключ, завязнуў.
Камера — рэзідэнцыя

Вялікай дынастыі вязняў,
Што пішуць бяссонна і сошна...
Калі ж не дастаць рукамі
Да палатна і сонца —
Пішуць на сценах камер!
У мастакоў за кратамі
Фарбы, як хлеб, ратоўныя,
Штоноч пацукі раскрадвалі —
Сааўтары іх гвалтоўныя.
Аўтографы вязняў адбіты
Тымі крутымі гадамі
На сценах усіх Маабітаў
І ўсіх на зямлі Майданекаў.
Што ж вас трасе ліхаманка,
Ямбы мае і харэі?
Я, нібы росчырк маланкавы,
Мексікаю хварэю.
Сонца —
мой доктар —
над светам
Схіляецца: — Мексіка, дзе ты?
Але глухія к паэтам
Урады і прэзідэнты.
Астрожнымі бразгаць брамамі
Піратам і імператарам,
Пакуль на зямлі не абрана
Праўда адзіным дыктатарам.
...Трымціць у акенцы Сікейраса,
У барвах іржавых крапін
Месяц блішчастай сякераю,
Вышчарбленай аб краты.

## ПЛОШЧА ПЕРАМОГІ


лошча круглая —
Пляц Перамогі...
У салдацкіх шынелях сюды
Нас вялі франтавыя дарогі
Даўжынёю ў чатыры гады.
Млечны шлях наш, — і дымны, і горкі,
Пра які і не сніў небасхіл, —
Пяцікутныя ўсыпалі зоркі
На гарбатых пагорках магіл.
Нашы ногі гулі ад знямогі,
Ды зямлю калаціла, як куль.
Мы спяшаліся,
Пляц Перамогі,
Да цябе
Пад заслонаю куль.
Ты сягоння ў грудзях маіх, плошча,
Б'ецца сэрца — твой вечны агонь.
Выбуховаю хваляю хвошча



Кроў чырвоная ў белую скронь.
Тым, хто з вогненнай грознай арбіты
Не вярнуўся да родных руін,
Слуп з граніту
Узносіць к блакіту
З тысяч ордэнаў — ордэн адзін.
Як вянком, чарадою мінчане
Апярэзваюць плошчу сваю.
Камяніцы ў каменным маўчанні,
Нібы волаты ў строгім страю.
Прыраслі да зямлі, як антэі,
Над галовамі — дах з сінявы...
Іх нядрэмныя вушы-антэны
Ловяць кожнае слова Масквы.

## ГЛЯДЗІЦЕ, ЛЯТАЕ


ібрыраваў бас Левітана высока.
Шумы шалупінне сваё аблупілі.
Рамку прыёмніка —
рамачку сотаў —
Мы па-пчалінаму абляпілі.
Мы слухалі рапарт аб выйгранай бітве:
— Ізноў камуніст на касмічнай арбіце...
Эфір скаланаў
глухаваты і дробны
Трэск, да аддаленых стрэлаў падобны...
І чуліся пошчакі трапяткія
Бою, што цяжка над Волгай бабахаў,
І шолах шаўковы штандараў,
якія
У май незабыўны выраслі з дахаў...
І толькі ў кутку —
у баку ад стагоддзя —
Адзін карапузік эпохі дзічыўся,
Нешта, пацеючы, вынаходзіў
У першабытнай дзяржаве дзяцінства.
І раптам:
— Глядзіце! Лятае! Лятае!
Падскокваючы,
як расшчэплены атам,
Нас у дзяржаву дзяцінства вяртае
З каленькамі голымі авіятар.
Ён лепятаў,
лапатаў, як прапелер,
З космасу нас прызямліў на імгненне.
Мы ўбачылі, як самалёцік з паперы
Адолеў нялёгкае прыцягненне.
Крылаты караблік,
як д'яблік,
адчаліў

З хлапечай далоні — пляцоўкі для ўзлётаў,
Нібыта кідаючы выклік адчайны
Магутнаму брату,
што небам валодаў.

## ВОЗЕРА


іж водару травы і ворыва,
Нібы зашклёнае акно,
Наскрозь прасвечваецца возера —
У дзірах зорак дно відно.
Бы ў воку лінзы, свет вялізны,
Дзе рыбіны і невады,
І воблачка — багоў бялізна —
Нанізана на правады.
І раптам пыркі — як асколкі:
Нібыта бомбу, камень колкі
Бяздумна выраніць рука
Разбойнага жартаўніка.
Ды разаб'юцца, нібы сподкі,
Усе кругі аб берагі.
Хмурынкі — свой убор дрыготкі —
Ізноў развешваюць багі.
І зноўку возера, як шыба,
Усталяваная ў акно,
Дзе зоры, невады і рыба...
А камень дзе!
Пайшоў на дно.

## ПАВЕТРА


юдзі трывожацца ды бядуюць,
Сняцца ім атамныя грыбы.
Гора гадуюць і сховы будуюць
Моцы сваёй выбуховай рабы.
Адны бунтуюць і пішуць петыцыі



Да мудрасці і да галоўных галоў.
Другія наладжваюць рэпетыцыі
Пагібелі свету:
— Розум, далоў!..
І вось ужо атам з прывязі спушчаны,
У падзямеллі нас гоняць грамы...
А дзе схавацца Шэкспіру і Пушкіну,
Што засяляюць тамы,
як дамы?
У чорных калысках, што ў друзе пахованы,
Не зведаўшы музыкі і святла,
Слепнуць Гамеры і глухнуць Бетховены...
Ты джунглямі ўзрываў, Зямля, зарасла!
У пыле і попеле тлеюць акропалі,
Абшнырваюць шчыліны ўсе і куткі,
Быццам жандары, атрутныя кроплі:
Ці не ўцалелі паветра шматкі?
Нехта ўцячэ ад хваль выбуховых,
Ды пазайздросціць мёртвым жывы...
Вы,
што кратамі стаіліся ў сховах,
Чым жа дыхаць будзеце вы?
Каб суднае атамнае відовішча
Свет не ўцягнула ў бяздонны вір,
Будуйце, зямляне, адно бамбасховішча —
Мір!

## ДУШ


ы ўладарна шуміш у лазні,
Душ — магутнейшы вадаспад.
Мы без лазні,
нібыта вязні,
Хітраватымі ўбраннямі звязаны
З галавы і да самых пят.
Дык гуляй жа, гуляй, мачалінка,
Па шырокай, тугой спіне.
Падначалены хвошча начальніка:
Можа, гэтак, а можа, не?
Нам, аголеным, не да разбору.
Ходзяць тазікі, як чаўны.
Мы павесілі ў шафах уборы —
Мы павесілі нашы чыны.
Гардэроб — вясёлая вісельня:
Нешта вешаюць там заўжды.
Агаліла ўсіх нас і ўзвысіла
Ачышчальная сіла вады.
Адступаецца ўсё нязбытнае.
Боль — не боль. І бяда — не бяда.
Нібы сам Адам — першабытны —
Ты —
І ў пары з табой вада.
Жар гаючы пяшчотна дорачы,

Быццам вечнасць, яна цячэ.
Нават сонейка гэтак горача
Падапечнага не апячэ.
Сотым потам цела ўспацела,
Ды пяе сваю песню душ...
Гэта штосьці не толькі для цела,
Гэта штосьці таксама для душ.

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, БАХ!

**Галіне.**


зень добры, Бах! Ну вось мы і знаёмы...
Твой бас густы крануў да нематы.
Падобны да прыручанага грому,
Па клавішах аргана,
нібы з дому,
Па лесвіцы ка мне злятаеш ты.
Па клавішах —
з мінуўшчыны ў сягоння —
Разбег цыбатых быстракрылых рук.
За радасцю няспынная пагоня —
Падковы шчасця цокаюць аб брук...
Сярод людзей, сярод аглухлых статуй,
Вандруючы нястомна з века ў век,
Пасуцца гукі, быццам дзікі статак.
Зláві і забратай іх, чалавек!
Патрэскваюць кастры, што паляць кнігі,
Гучыць, як крык, бунтоўны скрып пяра,
Грыміць вада, якая крышыць крыгі,
Рука раба шукае тапара!
Звініць, нібы надзея, ключ астрожны
У цішыні, распятай на крыжы...
О гукі, гукі!.. Утаймуй з іх кожны
І да лінейкі нотнай прывяжы!
...Мільгаюць гулкіх клавішаў ступені,
З зіхотна чорным снежна белы ўзбоч,
Чаргуюцца, як водсветы і цені,
Як на арбіце зорнай, дзень і ноч.
І ты палоніш не дзяржавы —
сэрцы,
О музыка — вышэйшая з улад!
Не пахіснецца з часам на паверцы
З'яднаных гукаў чалавечы лад.
Тут Бах — нязменны старшыня ва ўрадзе.
Прад ім —
плячо кранаецца пляча —
Міністр і муляр у адзіным радзе,
У самым чуйным рангу слухача.
Дзень добры, Бах,— набат сярэднявечча,



З бяздоння ночы к сонцу ўзлёт круты!
Як доўга мы ішлі на гэта веча:
Я трыццаць год
І тры стагоддзі ты.

## САЛАТ «СЯМЕЙНАЯ ІДЫЛІЯ»


х, і сусед мой — гурман-непаседа!
Які сямейны салат у суседа!
Крышачку вернасці,
Крышачку здрады,
Крышачку рэўнасці,
Крышку спагады...
Салат кулінару па густу,
Па сэрцу,
Прыпраўлены лаянкай густа,
Як перцам.
Ды падсаладжаны ласкай падманнай —
Казачнай маннай, што сыпле з нябёс.
Ды перасыпаны самаю таннай
Соллю жаночых пакутлівых слёз...
Ах, і сусед мой—гурман-непаседа!
Які сямейны салат у суседа!
Гатуецца ён і уночы і днём...
Мне б па-братэрскаму праву
Перакульнуць бунтоўна ўверх дном
Гэту нязвыклую страву!

## АНСАМБЛЬ


е ведаю, ад таўкатні ці працы
Такі на плечы ўзваліцца цяжар,
Што ўжо твае пантофелькі, як прасы,
Шліфуюць перагрэты тратуар.
Ад спёкі ледзь не плавіцца жалеза,
Падсмажваць пяткі чэрці тут маглі б...
І я ўцякаў у першабытнасць лесу,
У глыб яго, нібы стагоддзяў глыб.

Гляджу я задумёны і здзіўлёны:
Ці гэта горад ці гушчар лясны?
Нібы архітэктурныя калоны,
Узносіцца сасна каля сасны.
А ўзбоч — дубы, разны́м узорам кроны,—
Пад стыль «барока» падагнаны мур.
Лясное царства! Твой ансамбль зялёны
Зрадніў узоры ўсіх архітэктур!
У елкі — шпіль гатычны, вастраверхі,
Яна — нібы вышынны, вечны гмах,
Грувасцяцца галіны, як паверхі
У толькі што збудаваных дамах.
Скляпенні лесу распісала сонейка
Вясёлаю мазаікай мазкоў.
Як негры, з-пад зялёных парасонікаў
Выглядваюць чарніцы з-пад лісткоў.
Гукну — і рэха, нібы гул авацый,
Пакоціцца лавінаю — злаві!
Куды мне, горад, ад цябе схавацца,
Калі гудзіш ты у маёй крыві?
...І зноў нясе мяне страла экспрэсу:
Зялёны бор, шумлівы збор, бывай!
Бывайце, дрэвы! Але дрэвы з лесу,
Сарваўшыся, бягуць за небакрай.

## ПЕЙЗАЖ



На белым аркушы зімы
Акрэсліла прырода рэзка
Дамы, і дрэвы, і дымы —
Пейзаж задумлівы, як фрэска.

На першым снезе — першы след.
Калі ж суддзёю сонца ўстане,
Намаляваны белы свет
Ад позірку яго растане.



**Лідзія АРАБЕЙ**

# ЭКЗАМЕН

**Аповесць**

Мал. Ф. Бараноўскага.

1

Апошнія дні Рыгор Сіліцкі адчувае сябе зусім іншым чалавекам. Нібы ў яго пашырэлі плечы, нібы нават і падужэў. Цяпер ён упэўнена адчыняе дзверы ў кабінетах інстытута, цвёрда ходзіць па яго калідорах.

А нядаўна ўсё яшчэ было зусім няпэўна. Тэрмін вучобы ў аспірантуры канчаўся. Дысертацыя ўвогуле была напісана, але яшчэ не абмяркоўвалася, і Рыгор непакоіўся, як прымуць яго работу. Турбавала і другое — дзе ён будзе працаваць пасля аспірантуры і як, наогул, пойдуць яго справы далей.

Але ўсё скончылася добра. Лепш і чакаць нельга было. На пасяджэнні сектара, якое адбылося ў сераду, яго дысертацыю «Шляхі павышэння прадукцыйнасці працы ў машынабудаванні» ў асноўным адобрылі. Былі, вядома, і заўвагі. У каго драбнейшыя, у каго больш сур'ёзныя. Даволі рэзка выступіў Новікаў. Пачаў папракаць Рыгора ў апісальнасці.

Успамін пра Новікава непрыемны, і Рыгор стараецца тут жа адагнаць яго. Сапраўды, навошта псаваць сабе настрой: дысертацыю ж прынялі... У рашэнні запісалі, што пасля некаторай дапрацоўкі яе можна ставіць на абарону.

Рыгор вельмі ўдзячны загадчыку сектара Сцяпану Раманавічу Рымару. Так падтрымаў яго работу! Пасля выступлення Рымара і Новікаў змоўк.

А не так даўно Рыгора выклікаў дырэктар і сказаў, што ёсць магчымасць залічыць яго ў інстытут малодшым навуковым супрацоўнікам.

Так што цяпер ён, можна сказаць, на кані... Вядома, наперадзе многа хвалявання — дысертацыя ж яшчэ не абаронена, але сёння, як ніколі, Рыгор адчувае, што мэта яго блізка, што ён да яе дойдзе.

З грукатам адставіўшы крэсла, Рыгор устаў з-за стала, крыху павёў плячыма, глянуў на Валю Івашыну, малодшага навуковага супрацоўніка, якая сядзела, нізка схіліўшыся да стала, і нешта чытала, робячы паметкі алоўкам.

— Кіньце, Валечка, грызці граніт навукі,— весела сказаў ёй.— Без пяці хвілін пяць. Хоць што-небудзь на заўтра пакіньце.

Валя падняла на яго крыху блізарукія, стомленыя за дзень работы вочы, усміхнулася, паклала аловак.

— Яго, Рыгор Данілавіч, гэты граніт, і за сёння, і за заўтра не перагрызеш,— адказала ў тон яго жарту.

— Тым больш. Нашчадкам пакіньце. Хаця, не. Наш калега не дазволіць,— кіўнуў ён у бок Новікава, які, унурыўшыся ў нейкі рукапіс, сядзеў за суседнім сталом.— Ён хоча сёння ж павырашаць усе праблемы. Бедныя нашчадкі... Ім жа і тэм для дысертацый не астанецца.

Новікаў не падняў галавы, нібы і не чуў, што сказаў Рыгор, нібы не заўважыў падколу.

А Рыгор з усмешкаю пазіраў на Валю, чакаючы, каб яна падтрымала яго, бо гэты хлопец, відаць, лічыць тут сябе разумнейшым за ўсіх.

Валя ўздыхнула. Пачала збіраць кнігі, рукапісы, складаць у стол. Рыгор так і не разабраўся, што азначаў гэты яе ўздых — ці згоду з ім, ці адказ на нейкую сваю думку.

Новікаў перагарнуў старонку, правёў рукою па гладка зачасаных валасах. Не, знешне ён зусім не быў падобны на вучонага, ды яшчэ на ўпартага кніжніка. Добра пашыты гарнітур на зграбнай шыракаплечай фігуры, бялюткі каўнер кашулі, прыгожы твар — усё гэта хутчэй рабіла яго падобным на артыста ці на спартсмена, але толькі не на чалавека, які намерыўся ўсё жыццё аддаць вырашэнню складаных эканамічных праблем.

Ён чытаў і, відаць, не збіраўся дахаты. Не спяшалася і Валя. І Рыгор, узяўшы пад паху сваю тоўстую папку і кінуўшы ім: «Бывайце здаровы», пайшоў да выхаду.

Не, ён не злаваўся на Новікава. Цяпер ён, як сапраўдны пераможца, быў памяркоўны і кальнуў Новікава проста так. Хутчэй нават таму, каб загаварыць з ім, каб той нешта адказаў і каб яны пагутарылі. Рыгор нават хацеў паказаць яму сваё вялікадушша. «Ты, маўляў, мне палкі ў колы ставіў, але я на цябе не крыўджуся». Рыгор нават хацеў параіць гэтаму хлопцу не быць такім задзірыстым. Некалі і ён сваю работу на



стол пакладзе. Каб яму пасля не ўспомнілі, як ён крытыкаваў іншых.

А калі казаць праўду, то Новікаву Рыгор крыху зайздросціў. Зайздросціў яго незалежнасці, уменню гаварыць свабодна і адкрыта. Для Рыгора, напрыклад, Сцяпан Раманавіч Рымар, загадчык сектара, быў асобаю, намнога вышэйшаю за яго. Ён гаварыў з ім з вялікай павагай, не адважваўся спрачацца. Як мог ён спрачацца з чалавекам, які ўжо дабраўся да вяршынь навукі, калі ён, Рыгор, стаіць яшчэ толькі каля яе падножжа. А Новікаў з Рымарам гаворыць даволі свабодна. І пажартаваць можа, і паспрачацца. Таксама і з дырэктарам, і з іншымі старэйшымі навуковымі супрацоўнікамі. Зайздросная незалежнасць...

Рыгор ішоў асеннімі вуліцамі горада, і ўсё вакол здавалася яму прыгожым. Прыгожа заходзіла сонца, фарбуючы ў ружовы колер клубы аблокаў. Прыгожа цвілі на бульвары чырвоныя каны. Хораша стаялі ў сваім асеннім уборы ліпы.

Няўвага Новікава не магла засмуціць яго. Рыгор ішоў, як усе апошнія дні, узбуджаны, радасна-лёгкі. І зусім не пасавала да яго настрою тое, што ён убачыў дома. Пяцігадовая дачка Алёнка стаяла ў кутку тварам да сцяны і плакала. Шырокая сіняя стужка развязалася і целяпалася на тонкай белай косцы. Шлейка ад спаднічкі спаўзла на руку. Галя, відаць, была ў кухні. Адтуль чуўся стук талерак, пахла смажаным.

— Што ж гэта ты? — прысеў Рыгор каля дачкі. — Мамка пакарала?

Алёнка нічога не адказала, толькі яшчэ мацней заплакала. У пакой убегла Галя. У цыратавым фартушку, крыху растрапаная.

— Ты ўжо дома? — кінула яна Рыгору, здаецца, і не звяртаючы ўвагі на слёзы дачкі.

Яна таропка падбегла да шафкі, бразнула дзверцамі, пачала скоранька нешта шукаць там.

Галя працавала на заводзе і вучылася. Прыбегшы з работы, кідалася хутчэй што-небудзь зварыць, памыць, прыбраць, каб пасля яшчэ схапіць кніжку і пачытаць, падрыхтавацца да заняткаў. І таму ўсё рабіла спяшаючыся.

— За што ты яе пакарала? — спытаўся Рыгор у жонкі.

— З тваёй дысертацыі ліст выняла ды ўвесь счыркала,— паказала вачыма на стол Галя.

— Праўда? — Рыгор устаў, падышоў да стала. Там сапраўды ляжаў ліст, спісаны яго густым почыркам, а на другім баку сінім і чырвоным алоўкамі было намалявана нешта такое, на што трэба была вялікая фантазія.

Не, Рыгор не мог злавацца на дачку, хоць ведаў, што неяк трэба навучыць яе не браць таго, чаго браць нельга.

— Дык цябе ж мамка правільна пакарала. Чаго ж ты плачаш? — сказаў ён Алёнцы, хаваючы ўсмешку.

— Я не хачу ў гэтым кутку стаяць,— нарэшце сказала дзяўчынка.

Рыгор і Галя не вытрымалі, засмяяліся.

Раней, калі Алёнку каралі, то ставілі ў другі кут. А пазаўчора той кут занялі: купілі кніжную шафу. Алёнка ж, аказваецца, не магла прывыкнуць да іншага месца пакарання.

— Ну, добра, мама, можа на гэты раз хопіць ёй стаяць? Можа яна больш не будзе маляваць на маёй дысертацыі? — лагодна паглядзеў на жонку Рыгор.

— Як, дачушка, не будзеш больш браць з татавага стала паперкі?— падышла да дзяўчынкі Галя.

— Не буду,— адразу згадзілася тая.

— Ну, то хадзі сюды,— узяў яе на рукі Рыгор. Сеў з дачкою каля

стала, дастаў насоўку, выцер заплаканы тварык.— Нічога, Алёнка, не плач. Скора тата атрымае кватэру. Вялікую-вялікую... У ёй будзе многа куткоў. У які захочаш, у такі цябе мама і паставіць.

Іншым разам Галя пасмяялася б з таго, як суцяшае дачку бацька, але цяпер спынілася пасярод пакоя з сальніцаю ў руках.

— Ты гэтак дзіця забаўляеш, ці сапраўды што-небудзь... — нясмела спытала яна.

— Галка, сам паверыць баюся,— спусціў Рыгор на падлогу дачку.— Але сёння старшыня мясцкома падышоў да мяне і сказаў, каб я падаў заяву. Інстытут жа дом будуе...

Галя апусцілася на крэсла.

— Няўжо сапраўды можа што-небудзь атрымацца? — летуценна сказала яна.

— А што ты думаеш... Кажуць, бяда адна не ходзіць. І дабро... таксама ў кампаніі... Як пайшло, дык адно за адным...

Так, кватэра была ім вельмі патрэбна. Галоўнае цяпер, вядома, Рыгорава дысертацыя. Але кватэра, гэта было, напэўна, не менш важна, чым дысертацыя. Яны стаялі на чарзе ў райвыканкоме. Але чарга была вялікая, ішла марудна, і часам здавалася, што наогул усё гэта нерэальна. Прынамсі, кватэру чакаць трэба было гады тры, чатыры. А калі б далі яе ў інстытуце, дык гэта было б раней. Будуюць дамы цяпер хутка, і праз якія паўгода яны ўжо былі б навасёламі.

— Рыгорка, любы,— цешылася радаснаю навіной Галя.—Як добра было б. Ой!.. — схамянулася яна. — Там жа ў мяне абед... Усё выкіпела, мусіць,— і яна, схапіўшы сальніцу, пабегла ў кухню.

Рыгор прылёг на канапу, агледзеў пакой. Цяпер пакойчык здаўся асабліва цесны. Ну і праўда, прайсці няма дзе...•Алёнцы пабегаць недзе. Стол, дзве шафы, канапа, на якой яны спяць, Алёнчын ложак,— усё стаяла шчыльна адно да аднаго. І, галоўнае, кнігі. Яны былі ўсюды. Новая шафа ўсіх не змясціла, і яны ляжалі на ёй зверху, на стале, на крэсле. На стале ляжала і яго дысертацыя: учора забыў схаваць. Так што не дзіва, калі Алёнка выцягнула лісток.

— Ты хоць растлумач мне, дачушка, што ты намалявала там? — узяў Рыгор са стала старонку, размалёваную каляровымі алоўкамі.

Алёнка ўзабралася на канапу.

— Гэта ракета і касманаўт,— тыцнула яна пальчыкам у лісток паперы.

— Праўда? — круціў малюнак Рыгор, не могучы разабраць, дзе тут верх, дзе ніз.

— А дзе ж ракета і дзе касманаўт?

— Во гэты, з ножкамі, касманаўт, а во ракета...

— Дык у цябе ж і ракета з ножкамі.

— Гэта не ножкі, гэта агонь... Гэта яе так запускаюць.

— Фантазёрка ты мая,— абняў дачку Рыгор. Ён пагладзіў яе па мяккіх светлых валасках, завязаў стужку. Рыгор і ўявіць сабе некалі не мог, што можна так любіць дзіця, што яно можа быць такім дарагім, такім родным. Толькі вось шкада, што Галя мала бывае з ёю. Працуе і вучыцца. Вечна занятая, вечна ў рабоце. А дзіцяці так патрэбен матчын догляд...

Галя зноў убегла ў пакой.

— Во, ляжаць сабе, галубяцца... А ну, памагаць мне! Талеркі на стол збірайце, гультаі!

— Алёнка, мама праўду кажа,— падхапіўся з канапы Рыгор.— Пайшлі мыць рукі ды збіраць на стол.

За абедам Рыгор раптам сказаў Галі:



— Ведаеш што... Вось абараню я дысертацыю, і — кінеш ты работу. Хопіць з цябе пакуль вучобы. А скончыш інстытут, тады зноў на работу пойдзеш.

Галя апусціла лыжку, уважліва паглядзела на мужа.

— Ну, што глядзіш? — нарокам строга сказаў ён. — Хіба не бачу, як ты круцішся... Здароўе страціць хочаш? І дзіця будзе лепш дагледжана. Вось абараню дысертацыю, і кінеш...

— Добра, Рыгорка. Абараняй дысертацыю,— лагодна сказала Галя,— а там будзе відаць.

## 2

Галя прыйшла на работу з нейкім дзіўным адчуваннем. Часам так яна вяртаецца ў родны горад пасля камандзіроўкі. Тады яна глядзіць на горад вачыма чалавека, які прыехаў сюды ўпершыню. І тады ёй робіцца асабліва хораша ад шырокіх вуліц, высокіх прыгожых дамоў, і асабліва непрыемна бачыць які-небудзь цесны завулак, маленькія драўляныя домікі, якіх яшчэ не паспелі знесці.

Так, збоку, новымі вачыма глядзела яна сёння і на свой цэх, на людзей, з якімі працуе ўжо некалькі год.

Магчыма, прычынай такога настрою былі словы, сказаныя ўчора Рыгорам: «Вось абараню я дысертацыю, і — кінеш ты работу...» І вось Галя глядзіць на ўсё вачыма чалавека, які, магчыма, скора адсюль пойдзе. І агромністая прастора цэха, застаўленая станкамі, пах жалеза, машыннага масла — усё гэта адбілася такім харошым адчуваннем, што Галя зразумела — адмовіцца ад гэтага, хаця і часова, ёй будзе цяжка.

Паўз яе прайшоў з паперамі ў руках, прывітаўся Анатоль Кірылавіч Сазановіч — начальнік участка лініі. Зверху, з крана, ёй махала рукою Тамара Шнітко. Ужо стаяў пры лініі Вася Мох, доўгі, худы, і, наморшчыўшы лоб, пазіраў на шчыт кіравання.

Яшчэ хвіліна, і рабочы дзень пачаўся. У Галі ішоў апошні этап наладкі — з наладачным рэжымам на дэталі. Пакуль не ўсё было добра — кепска працавала транспартнае ўстройства. Трэба было разабрацца, што тут за прычына, і Галя ўключыла лінію.

Прыйшлі і другія наладчыкі, мантажнікі. Усе разам яны пазіралі на работу лініі, выказвалі свае думкі аб тым, як усё лепш адладзіць. Час панёсся, паляцеў, і Галя не агледзелася, як прыйшоў абедзенны перапынак.

У цэху зайграла музыка. Са сняданкам, загорнутым у белую паперу, да яе ўжо ішла Тамара. Тоненькая, высокая, вельмі зграбная нават у рабочым камбінезоне. Ішла і ўсміхалася, нібы толькі што пачула нешта радаснае. Але Тамара ўсміхалася амаль заўсёды, і Галя часта дзівілася, як магла яна быць такой жыццярадаснай, калі жыццё ў яе было зусім нялёгкае і ёй ужо давялося нямала перажыць.

Хоць Галя была на пяць гадоў старэйшая за Тамару, яны пасябравалі. Часта гаварылі пра розныя заводскія справы, гаварылі пра жыццё наогул. У абед разам перакусвалі, частуючы адна другую сваім сняданкам. У сталоўку не хадзілі, бо там доўга трэба было стаяць у чарзе, ды і не смачна там гатавалі.

Цяпер яны сядзелі на лавачцы каля Галінай лініі і жавалі бутэрброды. Па радыё перадавалі музыку. Пастуквалі касцяшкі даміно, у якое гулялі ў час абеду аматары «казла».

Тамара раз-пораз пазірала на аўтаматычную лінію.

Галя даўно заўважыла, што Тамара цікавіцца яе работаю. Аглядае



лінію, распытвае пра тое, пра другое. Вось і сёння пачалося.

— Скажы, а што вось гэта? — устала Тамара з лавачкі, падышла да лініі, паказала на шчыт з прыборамі, з зялёнымі і чырвонымі шкляными вочкамі.

— Гэта панель для кантролю работы лініі,— адказала Галя.

— А што азначаюць гэтыя агеньчыкі?

— Пашкоджанні знаходзіць.

— А гэта што? — пыталася Тамара.

— Гэта шнэк. Стружку прыбіраць.

— А гэта?

— Гэта гідрапомпы.

Тамара хадзіла ўздоўж лініі, аглядала яе. Спынілася перад велізарнаю скрынкаю з мноствам дратоў і дроцікаў, спіралек, малюсенькіх ізалятараў.

— Гэта электрамантаж, — тлумачыла Галя.

— І ў гэтым табе трэба разбірацца?

— А як жа.

— Я, мусіць, век не навучылася б...— уздыхнула Тамара.— А каб ты ведала, як і мне хацелася б быць наладчыцай.

— Дык вось яно што,— засмяялася Галя.— А хіба табе твая работа не падабаецца?

— Падабаецца, што ты!..— ускінула бровы Тамара.— Але наладчыцай цікавей.

— У цябе як у тым вершы Маякоўскага:

Быть токарем хорошо,
Но лётчиком — лучше.
Я бы в лётчики пошёл —
Пусть меня научат.

— Нешта накшталт гэтага,— згадзілася Тамара. І раптам, зусім без сувязі з тым, аб чым толькі што гаварыла, спыталася: — Твой муж не ведае Сцяпана Раманавіча Рымара? Ён у інстытуце эканомікі працуе.

Пыталася і глядзела ўбок, хавалася ад Галінага позірку.

— Рымара? — крыху здзівілася Галя.— Канечне, ведае. Ён у іх загадчык сектара.

— Ага,— пацвердзіла Тамара.

— Ну і які ён?

— Рыгор кажа, што гэта вельмі харошы чалавек. Да Рыгора ён, наогул, як бацька ставіцца.

— Праўда? — узрадавалася Тамара.



— А навошта я табе няпраўду буду гаварыць. Ты лепш скажы, нашто табе гэта?

— Так,— загадкава ўсміхнулася Тамара. Яна раптам абняла Галю, закружыла яе.

— Пусці, дзяўчо неразумнае. Чаго дурэеш? — нарокам строга сказала Галя.

Але Тамара не слухалася яе, смяялася, кружыла. Нарэшце яны апусціліся на лавачку і абедзве прыцціхлі.

Пасля і не заўважылі, што вось ужо некалькі мінут сядзяць моўчкі і кожная думае аб сваім. Але ім і не абавязкова размаўляць. Ім і пасядзець разам, думаючы кожная пра сваё, добра.

## 3

Рыгор працаваў над аўтарэфератам. Работа гэта аказалася вельмі цяжкай. Усё, аб чым ён пісаў у дысертацыі, трэба было выкласці ў рэфераце. Сцісла, каратка, але ўсё галоўнае, усе важнейшыя думкі. Рыгор круціў так і гэтак. Шкада было апусціць і тое і другое, але аб'ём не дазваляў пісаць шырока, і ён пакутаваў. Перапісваў, крэсліў і зноў пісаў. Яму трэба было спяшацца. Днямі адбыўся вучоны савет, і ўжо быў назначаны тэрмін абароны яго дысертацыі. Яму прызначылі апанентаў. Першым — кандыдата эканамічных навук Тарасевіча, дацэнта з інстытута народнай гаспадаркі. Другім — Сцяпана Раманавіча Рымара.

Калі Рымар сказаў яму гэту навіну, Рыгор і ўзрадаваўся і разам з тым адчуў, што яму зрабілася крыху трывожна. Узрадаваўся, бо абарона яго дысертацыі рабілася рэальнасцю. Нават дзень быў вызначаны. Нельга было не радавацца і таму, што адзін з яго апанентаў — Рымар. Яму проста шанцавала.

А занепакоіўся Рыгор, бо блізкі тэрмін абароны зрываў яго намеры.

Астыўшы пасля пасяджэння сектара, Рыгор прыйшоў да вываду, што некаторыя заўвагі Новікава варта было ўлічыць. Яны выклікалі ў яго новыя думкі. Ён вельмі хацеў бы цяпер неяк рэалізаваць іх. Але для гэтага Рыгору трэба было б яшчэ пасядзець на заводах, паназіраць і падумаць.

Рыгор сказаў пра свой клопат Рымару. Той пастаяў, падумаў.

— Пастарайцеся ўправіцца. Але майце на ўвазе, часу ў вас мала...

Так, часу мала. Не паспее ён паправіць тыя мясціны, а то і перапісаць. Ды і наогул страшнавата. Як-ніяк, будзе вырашацца яго лёс.

— А дацэнта Тарасевіча вы ведаеце? Што ён за чалавек? — спытаўся Рыгор у Рымара.

— З Тарасевічам я мала знаёмы. Яго прапанаваў прафесар Парамонаў,— назваў Рымар імя вядомага вучонага-эканаміста.— А з Тарасевічам мы перакінуліся на вучоным савеце некалькімі словамі. Ён цікавіцца вылічальнымі машынамі. У нас тут падбіраецца група эканамістаў для паездкі ў Чэхаславакію. Па абмену вопытам работы на гэтых машынах. Тарасевіч гаварыў, што ён з задавальненнем паехаў бы ў такую камандзіроўку. Вось і ўсё, што я ведаю пра Тарасевіча,— усміхнуўся Рымар.

Гэта, вядома, не раскрывала Тарасевіча як чалавека. «Ну, ды нічога,— думаў Рыгор.— Мая дысертацыя не горшая за тыя, што абараняюцца. Калі Рымар кажа, што трэба спяшацца і абараняць, значыць, трэба спяшацца. Рымар лепш ведае. У яго вопыт».

І Рыгор працаваў. Позна сядзеў у бібліятэцы. Канчаў аўтарэферат.

Дысертацыя ўжо была передрукавана ў чатырох экземплярах, два з іх знаходзіліся ў апанентаў.

Рыгор пісаў і адчуваў, як цяжэе яго галава, млее рука. Не дзіва. Адразу пасля работы ён ішоў у бібліятэку. Не адпачываючы. І так дзень у дзень цэлы месяц.

Не, сёння, ён адчуваў, больш працаваць не можа. Трэба ісці дахаты. І хоць было яшчэ не вельмі позна, ён сабраў свае спісаныя старонкі, паклаў у папку дысертацыю і пайшоў да выхаду.

Пасля душнага пакоя бібліятэкі асенняя прахалода прыемна асвяжала яго твар. Ён адчуваў задавальненне ад таго, што ідзе, а не сядзіць крукам — становішча, у якім ён цяпер знаходзіцца па дванаццаць гадзін у суткі. З задавальненнем удыхаў пах вялага лісця, адчуваў яго пад нагамі.

Ён ішоў скверам, у якім растуць старыя высокія дрэвы. На лавачках сядзяць пары. А Рыгор не зайздросціць ім. Яму хораша ад таго, што ён стаміўся і ідзе дахаты.

— А, юнача, добры вечар,— пачуў Рыгор амаль над самым сваім вухам.

Ён страпянуўся. Перад ім стаяў Рымар, Сцяпан Раманавіч: у капелюшы, у светлым модным паліто.

— Нас, старых, пазнаваць не хочаце,— жартаваў Сцяпан Раманавіч.

— Што вы, Сцяпан Раманавіч,— пачаў апраўдвацца Рыгор.— Я вас проста не заўважыў. Ішоў, задумаўся...

— Што ўжо вам цяпер думаць. Без пяці хвілін, можна сказаць, кандыдат,— упэўнена сказаў Рымар.

— Ох, Сцяпан Раманавіч, не жартуйце. Усё ж такі я хвалююся,— сур'ёзна адказаў Рыгор.

— Кіньце,— махнуў рукою Рымар.— Куды вы ідзяцё? Дахаты? У той бок? — паказаў ён рукою.— То і я з вамі. Вось, пагуляць выйшаў,— ужо ідучы, тлумачыў ён.— Мацыён, так сказаць.

Рымар узяў Рыгора пад руку і зусім па-свойску, проста гаварыў з ім.

— Вечар сёння вельмі харошы. Вам бы не ў бібліятэцы сядзець, а з жонкаю гуляць, пакуль маладыя. Бо гады ох як ляцяць! Не агледзішся, як маладосць і мінула...

Рыгору было крыху няёмка ісці з Рымарам пад руку. Не ведаў, як з ім трымацца. Усё ж такі паміж імі дыстанцыя — загадчык сектара і малодшы навуковы супрацоўнік. Аднак Рымар сам узяў такі сваяцкі тон.

Яны выйшлі на цэнтральную вуліцу. Рыгору трэба было збочыць, але Рымар вёў яго з сабою, і яму нялоўка было сказаць, што ім далей не па дарозе. Ды Рыгору і прыемна было ісці са Сцяпанам Раманавічам, ён адчуваў да гэтага чалавека вялікую ўдзячнасць і быў рады, што таму, відаць, прыемна пагуляць з ім.

Яны падышлі да аднаго з вялікіх будынкаў на цэнтральнай вуліцы.

— Ведаеце што,— раптам узяў Сцяпан Раманавіч яго за гузік,— давайце зойдзем да мяне. Чайку пап'ём. Пагаворым, так сказаць. Я вось тут у гэтым доме жыву,— паказаў ён на будынак.

— Што вы...— запярэчыў Рыгор.— Позна, мусіць, ужо... Мне няёмка.

— Ну, кіньце. Падумаеш, няёмка. Калі я клічу вас, то... — настойліва паўтараў Рымар і ўжо цягнуў Рыгора за гузік у ярка асветлены пад'езд.

Усё ж адчуваючы сябе ніякавата, Рыгор нясмела пайшоў за Рымарам.

Дзверы ім адчыніла высокая поўная жанчына ў доўгім шаўковым халаце. Рыгору адразу кінулася ў вочы, якая яна дагледжаная і шыкоўная нават у сваім хатнім уборы.



— Да нас госці, Верачка,— прапускаючы наперад Рыгора, сказаў Рымар.— Знаёмцеся, мая жонка,— павярнуўся ён да Рыгора.

— Вельмі прыемна. Вера Андрэеўна...— падала гаспадыня Рыгору мяккую руку.

Зусім збянтэжыўшыся перад жонкаю Рымара, Рыгор адрэкамендаваўся.

— Прабачце, можа позна ўжо... — дадаў ён.

— Хопіць вам прасіць прабачэння. Распранайцеся і будзьце, як дома. Вельмі вы ўжо сарамлівы,— выгаворваў яму Рымар.

Сам ён хутка распрануўся, прыгладзіў рукою пасмачку валасоў, акуратна зачасаную на лысіну, і па дывановай дарожцы, якая ўсцілала калідор, пайшоў наперад, запрашаючы за сабою Рыгора.

Нягледзячы на няёмкасць, якая ўсё ж не праходзіла, Рыгор краем вока азіраў кватэру, у якой жыў Сцяпан Раманавіч.

Яны ішлі па ярка асветленым калідоры, з двух бакоў якога былі дзверы і дзверцы. Адны зачыненыя, другія адчыненыя. За аднымі дзвярыма быў, відаць, кабінет Рымара, бо Рыгор убачыў паліцы з кнігамі, пісьмовы стол. Прызначэння другога пакоя ён не паспеў разабраць, бо заўважыў толькі канапу і чалавека на ёй, твар якога закрывала газета. Чалавек чытаў і не звярнуў увагі на таго, хто прыйшоў.

Наступны пакой, у які запрасілі госця, быў, відаць, гасцінай. Тут стаяла дарагая мэбля. Сервант, тахта, яшчэ сервант, бліскучы паліраваны стол з крыштальнай попельніцай пасярodку. У кутку тэлевізар. На сурвэтках, якімі былі пакрыты серванты, безліч розных фігурак. Падлогу ўсцілаў мяккі дыван. Рыгор з жахам падумаў, ці чыстыя ў яго чаравікі...

Яго запрасілі сесці. Сцяпан Раманавіч таксама сеў. Вера Андрэеўна прымасцілася на ручку крэсла каля мужа.

— Вось, — паказваў на Рыгора Сцяпан Раманавіч. — Наш дысертант. Таленавіты малады вучоны. З вялікаю перспектываю. Хутка абароніць кандыдацкую дысертацыю, пасля доктарскую. Нам, старым, падмога. Наша будучыня, так сказаць.

— Вы так мяне рэкамендуеце, што я, каб не ашукаць вас, павінен сапраўды ў сваім жыцці зрабіць вельмі многа,— хацеў звесці на жарт словы Рымара Рыгор.

Вера Андрэеўна глядзела на яго з мяккай усмешкаю на круглым поўным твары.

— А што ж,— крыху нараспеў сказала яна.— Нашай моладзі цяпер усе дарогі адкрыты. Абы ахвота ды стаpанне.

— Можа б ты нам якога чайку згатавала? — абняў Сцяпан Раманавіч жонку.— Пачастуй нас, калі ласка.

— З вялікаю ахвотаю,— устала з крэсла Вера Андрэеўна.— Зараз усё будзе.

— Мы з жонкаю любім, калі да нас знаёмыя заходзяць,— гаварыў Сцяпан Раманавіч.— Так што вы гэта майце на ўвазе і заходзьце да нас. Будзем вам заўсёды рады.

— Дзякуй, Сцяпан Раманавіч, дзякуй,— адказваў Рыгор і думаў, якія гэта мілыя, сімпатычныя людзі.

Вера Андрэеўна тым часам пачала збіраць на стол. Яна пакрыла яго белым абрусам і застаўляла талеркамі і талерачкамі.

— Сядайце сюды, бліжэй,— гасцінна запрасіла яна.

Рыгор зразумеў, што калі трапіў у госці, то адмаўляцца ўжо няёмка. Ды, зрэшты, не дзікун жа ён які-небудзь, што не ўмее сябе паводзіць у прыстойнай сям'і, і ён вырашыў трымацца больш свабодна.

На стале была чырвоная ікра, заліўная курыца, паштэт, адмыслова ўпрыгожаная рыба.

«Нічога сабе чаёк...» —падумаў Рыгор.

— Можа і Валодзя з намі павячэрае? — глянуў на жонку Сцяпан Раманавіч.

— Ага, зараз я яго паклічу,— устала з-за стала Вера Андрэеўна.

Яна выйшла ў другі пакой і вярнулася з маладым чалавекам, вельмі коратка падстрыжаным. У руках ён трымаў газету. Відаць, гэта ён ляжаў на канапе і чытаў, калі Рыгор толькі ўвайшоў сюды. Выгляд у хлопца быў нейкі пануры.

— Знаёмцеся, наш сын,— прадставіў яго Сцяпан Раманавіч.

— Уладзімір,— буркнуў хлопец, сеў за стол і ўтаравіўся ў газету. Яго нахіленая галава з коратка падстрыжанымі валасамі, насуплены твар рабілі яго падобным на вожыка. Здавалася, ён зашыпіць, запыхкае, калі хто-небудзь ненарокам зачэпіць яго, скажа што не так, як ён таго хоча.

— Дык, Слепачка, налівай віно,— затурбавалася гаспадыня.— Вам чаго пакласці? — узяла яна Рыгораву талерку.

— Ды ў вас тут усё такое смачнае, што я не ведаю, з чаго пачаць, — весела сказаў Рыгор.

— Ну, вы жартуеце, што ўсё тут смачнае,— з захаваным гонарам сказала гаспадыня.— Я ж не чакала гасцей, усё тут так, на скорую руку, выпадковае.

— Ну, калі гэта выпадковае, дык як жа вы частуеце ў выключных выпадках? — развёў рукамі Рыгор.

— А вось, дасць бог, убачыце. А хіба ваша жонка не займаецца дома гаспадаркаю?

— Мая жонка... Ёй часу няма. Яна працуе і вучыцца.

— Праўда? А дзе яна працуе?

— На заводзе аўтаматычных ліній.

— Вось як? Рука Веры Андрэеўны на хвілінку застыла над сталом. Яна кінула быстры погляд на мужа. Нейкую цікавасць да апошніх слоў Рыгора праявіў і Валодзя. Ён глянуў з-за газеты на Рыгора, адклаў яе ўбок.

— А табе наліць, сынок? — спытаў Сцяпан Раманавіч у Валодзі, трымаючы руку з бутэлькаю над яго чаркай.

— Не, не буду,— прапыхкаў у адказ Валодзя і адсунуў свой кілішак.

За вячэраю гаварылі не вельмі многа. Здавалася, не толькі Рыгора, але і бацькоў крыху бянтэжыў пануры выгляд сына. І ён сам адчуў гэта. Калупнуўшы пару разоў у сваёй талерцы і выпіўшы шклянку мінеральнай вады, ён папрасіў прабачэння і, забраўшы сваю газету, выйшаў з-за стала.

— Ох, і моладзь цяпер пайшла,— уздыхнуў Сцяпан Раманавіч, калі за сынам зачыніліся дзверы. — Ганарыстая, калючая. Сама не ведае, чаго хоча.

— Нічога страшнага,— заступіўся за Рымаравага сына Рыгор.— Хлопцу сумнавата ў кампаніі са старэйшымі, і ён не хоча прыкідвацца, што яму весела.

— Ох, не кажыце,— пакруціў галавою Рымар.— Усё ж такі дзёрзкія цяпер маладыя людзі. Няма ў іх павагі да старэйшых. Але, вядома, не ўсе такія. Вось вы — сціплы, харошы малады чалавек. І я вас люблю за гэта.

— Дык можа тут, Сцяпан Раманавіч, не ў маладосці справа, а ў характары наогул?

— Гэта само сабою. Вось вазьміце Новікава. Ці было хоць адно абмеркаванне, на якім ён не выступіў бы з крытыкай, ці была хоць адна работа, якая б яму цалкам спадабалася, якую б ён пахваліў? А сам і радка яшчэ не даў на сектар. Што ўжо ён там піша? Можа, адразу доктарскую? — засмяяўся Рымар.



Рыгор слухаў Рымара і думаў, што вось Рымар чамусьці не вельмі прыхільна ставіцца да Новікава, і можа не так страшна, што ён не ўлічыў яго заўваг, не ўнёс у дысертацыю. Зрэшты, яшчэ невядома, ці сапраўды яго заўвагі былі такія ўжо слушныя.

— А наогул я нашу моладзь люблю, — гаварыў Рымар. — Я толькі супраць разбэшчанасці, супраць нігілістаў, а таленавітага, сціплага маладога чалавека я заўсёды рады падтрымаць. Вось на вашу дысертацыю я падрыхтаваў ужо водгук. Альбо вось... вось... — Сцяпан Раманавіч устаў з-за стала, выйшаў з пакоя. Хутка ён вярнуўся з нейкаю кніжкаю ў руках.— Вось,— сказаў ён,— кніжка. Таксама маладога вучонага. Яшчэ цёпленькая, так сказаць. Месяц таму назад выйшла. Я прачытаў яе і хацеў напісаць рэцэнзію. Пахваліць, падтрымаць хлопца. Ды часу ўсё не дабяру. Вось, вазьміце, паглядзіце.

Рыгор узяў кнігу, глянуў на тытул. «І. Д. Кавалеўскі. Выкарыстанне працоўных рэсурсаў у сезонных галінах прамысловасці». Выдадзена ў Кіеве.

— На матэрыяле нашай рэспублікі напісана, — тлумачыў сваю зацікаўленасць Рымар.— Аўтару прыемна было б, каб яе ў нас адобрылі, прызналі. Можа б вы гэта зрабілі?

Такога павароту размовы Рыгор ніяк не чакаў і не ведаў, што адказаць Рымару. Напісаць рэцэнзію на цікавую кнігу — гэта вельмі добра, але цяпер Рыгор так заняты.

А Сцяпан Раманавіч казаў далей:

— Вазьміце кнігу, пачытайце. Калі спадабаецца — напішаце рэцэнзію. Вы, моладзь, таксама павінны падтрымліваць адзін другога.

Рыгору было прыемна, што Рымар размаўляў з ім, як з калегам. Гэта цешыла яго самалюбства. Значыць, Рымар лічыць, што ён, Рыгор, ужо зможа напісаць рэцэнзію, зможа выступіць у друку. І ўсё ж...

— Я б з вялікаю ахвотаю, ды часу ў мяне цяпер таксама... Вы ж ведаеце,— адчуваючы няёмкасць ад таго, што адмаўляецца, гаварыў Рыгор.

— А вы вечарамі... Між іншым... Адпачываючы ад сваёй дысертацыі.

Рыгору было нязручна адмаўляцца і далей, і ён сказаў няўпэўнена:

— Добра... Я пагляджу... Пачытаю.

А праз хвіліну яму самому зрабілася сорамна, што ён так неахвотна выконвае просьбу Сцяпана Раманавіча.

«Падумаеш,— разважаў ён.— Не пасплю пару начэй, прачытаю кнігу. І, можа, сапраўды напішу рэцэнзію».

І ўжо ўпэўнена паабяцаў:

— Я зраблю, Сцяпан Раманавіч. Абавязкова зраблю. І пастараюся напісаць скора.

— Вось гэта іншая размова. Для карыснай справы і час знайсці трэба. Дарэчы, гэта ўвойдзе ў ваш актыў і пры абароне. Дысертант ужо, так сказаць, выступае ў друку.

— Частуйцеся, частуйцеся, а то загаварыліся,— перабіла размову мужчын гаспадыня.— Можа яшчэ кілішак віна вып'еце? — узяла яна бутэльку з віном.

— О не, дзякуй. Досыць. І так я ў вас заседзеўся,— спрабаваў падняцца Рыгор. Але гасцінныя гаспадары не адпускалі.

— Не, не, што вы. Яшчэ чайку пап'ём. З варэннем. У мяне ёсць, ведаеце, якое? Райскія яблычкі. Жонка вас такім не пачастуе. Так што, карыстайцеся выпадкам,— гаварыла Вера Андрэеўна.

Яна прынесла ў белым фарфоравым чайніку крута завараны духмяны чай, разлівала яго ў прыгожыя кубкі.

— Скажыце,— раптам упаўголаса, азірнуўшыся на дзверы, загаварыла Вера Андрэеўна, — вось вы сказалі, што ваша жонка працуе на заводзе аўтаматычных ліній. Завод, вядома, вялікі, але, выпадкам, ці не ведае яна там дзяўчыну — Тамару Шнітко?

— Тамару? Шнітко? Кранаўшчыцу?

— Ага, ага...

— Добра ведае. І я ведаю. Яны з жонкаю сябруюць.

— Праўда? — паставіла Вера Андрэеўна чайнік на стол, селэ ў крэсла.— Дык, можа, вы ведаеце, што гэта за дзяўчына?

— Чаму ж не. Ведаю. Гэта вельмі харошая дзяўчына. Мне яна вельмі падабаецца. Вельмі добрая, шчырая.

— Так. А што ў яе за сям'я? Чаму яна пасля дзесяцігодкі на завод пайшла? — накладваючы ў маленькі сподачак райскія яблычкі і ставячы гэты сподачак перад Рыгорам, пыталася Вера Андрэеўна.

— Сям'я? Вось тут дзяўчыне не пашанцавала. Яна з мужам разышлася. Цяпер жыве з маткаю і з сынам. І маці хворая. Два гады з ложка не ўстае.

Твар у Веры Андрэеўны выцягнуўся.

— Ды ну? — здзівілася яна. — А я думала, што Тамара зусім яшчэ дзяўчынка. Гадоў васемнаццаць. Яна так молада выглядае.

— Ёй дваццаць два гады,— сказаў Рыгор.

— Вось як? — зноў азірнулася на дзверы Вера Андрэеўна.— Цікава, цікава. А як жа яна ўпраўляецца? І дзіця, і маці хворая...

— Цяпер да яе цётка прыехала. Матчына сястра. Вось яна і памагае. А наогул Тамары цяжка. Толькі яна не падае выгляду.

— Піце, піце чай, каб не прастыў,— зноў замітусілася гаспадыня, але Рыгор адчуў, што цяпер яна менш за ўсё думае пра чай. На яе твары адбіўся нейкі клопат.

Як ні добра было Рыгору ў гасцях, але на вуліцы ён уздыхнуў з палёгкаю. Ішоў, спяшаўся дахаты. Галя ўжо недзе хвалюецца, чаму яго так позна няма.

Дзіўнае адчуванне было цяпер у Рыгора. Ён крыху больш уведаў Рымара. Нельга сказаць, каб ён расчараваўся ў ім. Гэта было б смешна. Чалавек быў з ім, лічы што з хлапчуком, яшчэ нават не кандыдатам, як з роўным, як з таварышам. І ўсё ж нешта не вельмі прыемнае асталося ў душы Рыгора. Чаму? Можа не вельмі спадабалася тая раскоша, у якой жыве Рымар? А што ж тут дрэннага,— пярэчыў ён сам сабе.— Чаму вучоны не можа жыць у добрай кватэры? І наогул яны добрыя, сімпатычныя, гасцінныя. Ён проста няўдзячны, калі, толькі выйшаўшы ад іх, пачынае шукаць у іх нешта дрэннае.

## 4

Вера Андрэеўна не дарма распытвала Рыгора пра Тамару Шнітко. Яе Валодзя, які раней больш за ўсё бавіў час у хлапечай кампаніі, а калі быў з дзяўчатамі, то таксама ў кампаніі, у гурце, у апошні час усё часцей і часцей пачаў сустракацца з Тамараю. Вера Андрэеўна некалькі разоў бачыла яго з ёю ў горадзе. Яны ішлі пад руку, і выгляд у іх быў, як у закаханых. Валодзя некалькі разоў прыводзіў Тамару да іх. Ён запрашаў яе і на дзень нараджэння, які не так даўно спраўляла сыну Вера Андрэеўна.



Маці не магла не заўважыць, што сын танцаваў толькі з Тамараю, што яўна вылучаў яе сярод іншых дзяўчат.

Хто такая гэта Тамара, маці не ведала, бо сын не вельмі ахвотна гаварыў з ёю аб сабе і наогул аб тым, чым ён жыве, што яго цікавіць. Усё, што магла ў яго выпытаць Вера Андрэеўна, гэта тое, што завуць дзяўчыну Тамара, што прозвішча яе Шнітко, што працуе яна на заводзе аўтаматычных ліній.

Наогул дзяўчына ёй падабалася. Прыгожая, прыветлівая, са шчырымі вачыма. Супраць яе самой Вера Андрэеўна нічога б не мела, але тое, пра што яна даведалася ад Рыгора, мяняла справу.

Учора вечарам, адразу пасля таго, як пайшоў Рыгор, Вера Андрэеўна расказала мужу, чаму яна пацікавілася Тамараю.

Сцяпан Раманавіч махнуў рукою.

— Кінь, глупства. Мне здаецца, што Валодзька яшчэ не збіраецца жаніцца. Не падобны ён да жаніха.

— Ох, Сцёпачка, дзеці так умеюць рабіць сюрпрызы. Успомні Віталіка Карабуціна.

Вера Андрэеўна прыгадала выпадак з сынам іх суседа, падпалкоўніка ў адстаўцы. Хлопец, толькі скончыўшы дзесяць класаў, жаніўся са сваёй аднакласніцай, і маладыя разам паехалі на цаліну.

— Ну, не ўсе ж так будуць рабіць, як Віталька Карабуцін,— сказаў Сцяпан Раманавіч.— А за нашага Валодзьку ты не бойся. Ён хлопец разумны.

— Ат, разумны... — махнула рукою Вера Андрэеўна.— Толькі прыкідваецца разумным. Гонару многа. Не падступіся да яго. Не пагавары з ім...

— Падыходу ў цябе да яго няма.

— Калі ў мяне няма, дык ты пагавары,— пакрыўдзілася Вера Андрэеўна.— Бацька ж, можа.

— Не, гэта больш жаночая справа. Ты ўжо сама,— узяўся за нейкую сваю кніжку Сцяпан Раманавіч.

І Вера Андрэеўна пачала чакаць выпадку пагаварыць з Валодзем. Ёй нецярпелася, яна адразу, у той жа вечар, пайшла да сына, ды, зазірнуўшы ў яго пакой, убачыла, што Валодзя ўжо спіць.

Назаўтра раніцаю сын збіраўся на работу, і таксама не час было пачынаць з ім такую далікатную размову. І Вера Андрэеўна чакала, калі Валодзя прыйдзе з работы.

Маці супакойвала сябе тым, што, магчыма, у адносінах яе сына з гэтай Тамараю і сапраўды няма нічога сур'ёзнага. Проста так, захапленне маладосці, дружба. І ўсё ж такі яна вырашыла, што калі гэта і толькі дружба, то і дружбу гэту трэба канчаць, бо невядома да чаго яна можа прывесці.

«Магчыма, Валодзя і не ведае, што ў Тамары ёсць дзіця,— думала Вера Андрэеўна.— Магчыма, яна яму нічога не сказала. Ён упэўнены, што гуляе з дзяўчынаю, закахаецца ў яе, калі ўжо не закахаўся, а тая і рада будзе ажаніць на сабе хлопца. А навошта Валодзю гадаваць чужое дзіця? Ды і не сям'я гэта, з чужымі дзецьмі».

Вера Андрэеўна ходзіць па пакоі, пераціраe белаю анучкаю і так бліскучую паліраваную мэблю і ўсё думае, думае. У кухні стукае посудам Дуня — хатняя работніца. Яна сёння прыехала з вёскі: ездзіла адведваць хворага бацьку. Веру Андрэеўну раздражняе гэты стук. Ёй здаецца, што Дуня стукае нарокам, неахайна нешта робіць.

— Дуня, цішэй! — крычыць з пакояў гаспадыня.

«Але ж і моладзь цяпер пайшла,—думае Вера Андрэеўна.— Жэняцца, разводзяцца. Гэтая Тамара, мусіць, добрая штучка. З мужам разышлася,

а цяпер Валодзю інтрыгуе. Дзіва, Валодзя — вельмі харошая партыя для любой дзяўчыны. Мог бы ўзяць, якую б захацеў. А ён знайшоў жанчыну з дзіцем, з маткаю хвораю. Не агледзіцца, як ажэняць. Уссядуць усёй сямейкай на беднага хлопчыка».

Вера Андрэеўна не магла дачакацца сына з работы, каб усё расказаць яму, папярэдзіць, абараніць.

Нарэшце Валодзя прыйшоў. Сцяпан Раманавіч таксама быў дома. Селі абедаць. Дуня, высокая маладая жанчына з дужымі, амаль мужчынскімі рукамі, прынесла на стол белую міску з супам.

Вера Андрэеўна пачакала, калі Дуня зноў пойдзе ў кухню, і, разліваючы суп у талеркі, далікатна, асцярожна пачала:

— А ты, Валодзечка, дарэмна ўчора вечарам хутка пайшоў з-за стала. Той малады чалавек, што быў у нас, расказваў нешта цікавае.

Яна спынілася, чакаючы, што адкажа Валодзя, але той з зусім абыякавым выглядам падсунуў да сябе талерку.

— Пра тваю дзяўчыну, пра Тамару расказваў,— казала далей Вера Андрэеўна.

— Цікава,— нарэшце адазваўся Валодзя,— што гэта ваш малады чалавек мог расказваць пра Тамару?

— Ды, мусіць, такое, чаго і ты не ведаеш.

— Гм,— сёрбаў суп Валодзя.— Што ж гэта?

— Вось, напрыклад, ці ведаеш ты, што ў Тамары ёсць дзіця?

Валодзя паклаў лыжку на стол. Уважліва паглядзеў на маці.

— Ведаю,— нарэшце адказаў ён.

Вера Андрэеўна сумелася. Такога адказу ад сына яна не чакала. У яе ўжо быў склаўся вобраз Тамары — хлуслівай круцёлкі, якая хоча ашукаць яе сына.

— Яе кінуў муж,— не здавалася ўсё ж Вера Андрэеўна.— Акрамя таго, яна старэйшая за цябе на тры гады. Ты разумееш, што ўсё гэта значыць?

— Па-першае, хто там каго кінуў, яшчэ невядома. Па-другое, яна старэйшая за мяне не на тры гады, а на паўтара, — зноў узяўся за лыжку Валодзя.

— Ну, сыночак,— цяпер паклала лыжку Вера Андрэеўна.— Няўжо ж табе дзяўчат мала? Навошта табе жанчына гэтая? Навошта ты з ёю ходзіш?

— Ведаеш, мама,— суха, холадна загаварыў Валодзя.— Гэта мая справа, з кім я хаджу. З кім хачу, з тым і сустракаюся.

— Як ты гаворыш з маткаю? — не вытрымаў нарэшце бацька, які да гэтага часу толькі слухаў, што гаварылі за сталом.

— А што ж яна... Плёткі розныя слухае ды мне тут даносіць.

— Плёткі! — узвысіла голас Вера Андрэеўна.— Якія ж гэта плёткі? І што мне ўсё роўна, што за дзеўкі каля цябе круцяцца? Хіба я не матка?

— Ніякія дзеўкі каля мяне не круцяцца,— узбуджана загаварыў Валодзя.— А Тамара... Ты не ведаеш, якая яна харошая...

— «Харошая!..» — перакрывіла сына Вера Андрэеўна.— Вельмі ты ведаеш! Ці яна ўжо сапраўды закруціла табе галаву?!

Валодзя глядзеў на маці і, здавалася, шукаў слова, якое прымусіла б яе або змоўкнуць, або загаварыць зусім інакш.

— Вось што,— нарэшце сказаў ён.— Вось што,— паўтарыў ён і нібы набраў у грудзі паветра перад тым, як выгаварыць самае галоўнае.— Калі ўжо на тое пайшло... калі загаварылі пра Тамару, то я вам павінен сказаць, дарагія тата і мама, што я з ёю ажанюся... Так што з гэтым пытаннем — усё... Да яго больш можна не вяртацца.



Некалькі хвілін у кватэры было зусім ціха.

— Божа ж мой!.. — нарэшце прастагнала Вера Андрэеўна. Яна няўцямна глядзела на Валодзю, нібы не верачы таму, што пачула, нібы чакаючы, што сын зараз засмяецца, скажа, што ён пажартаваў. Але сын сядзеў, яшчэ ўсхваляваны, але сур'ёзны, рашучы. Вера Андрэеўна кінула поўны адчаю позірк на мужа, нібы шукаючы ў яго паратунку, нібы клічучы яго на дапамогу.

Сцяпан Раманавіч устаў з-за стала. Прайшоўся па пакоі. Глянуў на сына. Сустрэў яго позірк — упарты, калючы.

— Не чакаў я, сынок, такой навіны. А калі і думаў, што ты некалі ажэнішся, то не так уяўляў нашу з табой пра гэта размову.

— І я не хацеў так,— на хвіліну збянтэжыўся Валодзя.— Але чаму мама так пра Тамару загаварыла... Яна ж яе зусім не ведае.

— Ты вельмі ведаеш яе,— азвалася маці.— Прыкінулася недзе казанскаю сіратою... апутала...

— Мама! — узвысіў голас Валодзя.

— Што «мама»! — узняў голас і бацька.— Ты падумаў, што робіш? Навошта табе жанчына з чужым дзіцем? Муж яе кінуў, а ты падбіраеш... Трэба ж і нейкі мужчынскі гонар мець.

— Ты разважаеш, тата, прабач, як мешчанін...

— Як сабе хочаш, але я табе жаніцца з ёю не дазволю... Разумееш? Не дазволю! — ціха, але цвёрда сказала Вера Андрэеўна.— Сам некалі дзякуй скажаш.

— Паслухайце, тата, мама...— калючымі вачыма глядзеў на іх Валодзя. — Даўно прайшла ўжо тая пара, калі бацькі забаранялі дзецям жаніцца. Цяпер дзеці самі жэняцца. З кім хочуць.

— Карміць-паіць вас, вучыць вас — на гэта не прайшла і цяпер пара? — крычаў ужо і бацька.— Выгадавалі сыночка... Хто цябе вывучыў? На работу хто ўладзіў? На гэта пара не прайшла яшчэ? Гэта ты ўсё прымаў ад бацькі?

— Прымаў. Многа прымаў,— рэзка павярнуўся да бацькі Валодзя.— І шкадую, што прымаў. Асабліва работу, якую ты мне падсунуў. Я кожны дзень іду на тую работу і думаю — а што ж я сёння там буду рабіць: чорцікаў маляваць ці красворды разгадваць?

Сварка пераходзіла на іншае, і бацька не мог не сказаць таго, што ўжо не раз гаварыў сыну:

— Каб разумны быў, то сядзеў бы на той рабоце і ў інстытут рыхтаваўся. Другі на тваім месцы толькі шчаслівы быў бы, што на рабоце вольнага часу многа.

— А ў нас там і з інстытуцкімі значкамі штаны праседжваюць,— рэзка гаварыў Валодзя.

Сцяпан Раманавіч утаропіўся на Валодзю. Яны з сынам спрачаліся не першы раз. Мала чаго ў сям'і не бывае. Але так Валодзя з ім яшчэ не гаварыў ніколі. З такой іроніяй, з такім здзекам. Сцяпан Раманавіч на хвілінку разгубіўся.

— Так, так... крый бацьку... Крый навуку,— прагаварыў ён.

— А што ж,— не адступаў Валодзя.— Чаму ж вы, вучоныя, не зробіце, каб такіх устаноў, як тая, дзе я працую, не было... Вы ж эканамісты... павінны эканоміць дзяржаўныя сродкі!

— Божа мой, ды ціха вы, ціха,— застагнала Вера Андрэеўна. Яна бачыла, што спрэчка перакінулася на іншае, адышла ў бок ад галоўнага, што так хвалявала яе. Вера Андрэеўна ведала, які ўпарты, гарачы яе Валодзя. Калі яго раззлаваць, ён можа наўмысля, знарок зрабіць ім наперакор. І, разгубленая, збянтэжаная, кіруючыся хутчэй не розумам, а жаночым інстынктам, Вера Андрэеўна вырашыла мяняць тактыку.—

Валодзечка, сыночак,— падбегла яна да сына.— Ну што ты гаворыш толькі! Што ты кажаш бацьку! Ці ж мы табе ворагі? Ці ж мы з бацькам не жадаем табе дабра? Мы ж і жывём для цябе толькі. Ты ж у нас адзін-адзінюсенькі...

— Дык вы абедаць будзеце ці не? — пачуўся раптам голас. Гэта спыталася Дуня. Яна стаяла ў дзвярах і абыякава пазірала, як сварыліся гаспадары.

— Адчапіся,— махнула рукою Вера Андрэеўна.

— Хадзі сюды, сядзь. Сцёпачка, і ты садзіся,— цягнула яна за рукаў мужа і сына.— Не сварыцеся. Давайце пагаворым, як людзі.

— Няма чаго гаварыць,— адвёў руку жонкі Сцяпан Раманавіч.— Ён сёння ці не п'яны. Хай ідзе — ці праспіцца, ці адумаецца. Ідзі, каб я цябе зараз і не бачыў. Чуеш?

— Я пайду,— устаў Валодзя.— Але ведайце, ад таго, што сёння сказаў, я не адступлюся.

— А абед... абед... Ён жа галодны,— прастагнала Вера Андрэеўна ўслед сыну.

— Нічога, пагаладае, дык, можа, паразумнее, — выцер сурвэткаю лоб Сцяпан Раманавіч.

5

У пакоі было зусім ціха. Ціха было і за акном. Не гулі, як удзень, машыны. У доме, што стаяў насупраць, толькі адно акно свяцілася сінім агнём. Горад спаў.

Скурчыўшыся ў клубочак і нацягнуўшы коўдру да падбародка, спала Галя. Раскінуўшыся ў сне, усміхалася Алёнка. Мусіць, сніла нейкі свой дзіцячы сон. Каб не перашкаджаць ім, Рыгор завесіў настольную лямпу газетаю, і толькі вузенькі праменьчык святла падаў на кніжку, якую ён чытаў. Рыгор асцярожна перагортваў старонкі. Але вось дачытаў апошнюю. Закрыў кнігу. Успёрся галавою на далоні і задумаўся.

Ці ён нічога не разумее і не разбіраецца ў пытаннях, аб якіх тут ідзе гутарка, ці ўсё ж такі гэта кніга вельмі слабая? Але чаму ж Рымар хваліў яе, чаму прасіў Рыгора напісаць на яе рэцэнзію?

Галава ў Рыгора цяжкая. У вочы — нібы пяску насыпалі. Ён вельмі стомлены. Легчы б цяпер ды заснуць, але думкі адганяюць сон. Ён зноў гартае кнігу, праглядае месцы, якія адзначыў алоўкам.

Кепска. Усюды кепска. Навукападобнасць. Наіўна. Аб зусім простых, ясных рэчах аўтар піша, нібы Амерыку адкрывае. Ну вось, напрыклад, апісанне работ на адным з участкаў торфараспрацовак. Тут табліцы на некалькі старонак, лічбы і працэнты, а пад імі глыбакадумны вывад: «З прыведзеных дадзеных бачна, што фактычныя затраты працы ў цэлым на гэтым участку ў асноўным прыпадаюць на летнія, найбольш напружаныя перыяды работы — ліпень, жнівень, верасень месяцы». Вось дык адкрыццё! На гэта ж яны і сезонныя работы...

Альбо далей: «На торфараспрацоўках затраты працы патрабуюцца толькі для здабычы торфу, яго сушкі, механічнай пераапрацоўкі і фармоўкі. Для стварэння прадукту працы затраты працы не патрабуюцца. Ён сам утвараецца, як арганагенная парода з рэштка ў раслін, што падвяргаюцца поўнаму гніенню ва ўмовах балот». Тут ідзе зноска на аўтарытэтны даведнік, нібы без гэтай зноскі аўтару не паверылі б, што торф сапраўды ўтвараецца сам.

Усе гэтыя і да іх падобныя разважанні аўтар завяршае вывадам: трэба, каб на торфараспрацоўках як мага лепш выкарыстоўвалі пра-





цоўныя рэсурсы. Не раўнуючы, як у той аб'яве, што павесілі на воднай станцыі: «Спасение утопающих дело рук самих утопающих».

Рыгор гартаў кнігу. Цытаты, цытаты... Цытуюцца вызначэнні, што такое рабочая сіла. Што такое заработная плата. Знаёмыя, сто разоў ужытыя ўжо цытаты.

Раптам у Рыгора непрыемна засмактала пад лыжачкай: гэтыя ж цытаты і ў яго дысертацыі. І ў яго дысертацыі іх вельмі многа. І, галоўнае, многа сярод іх і тых самых, што і ў кнізе Кавалеўскага.

Як ні дзіўна, але ўслед за цытатамі Рыгор звярнуў увагу і на іншае, што робіць яго дысертацыю падобнай на гэту кнігу. Такая ж кампазі-

цыя. Увесь першы раздзел складаўся з лічбаў, якія гаварылі ў адным выпадку аб росце нашага машынабудавання, а ў другім — аб росце торфаздабычы ў параўнанні з 1913 годам.

У Рыгора з'явілася адчуванне, нібы ён знянацку зірнуў на сябе ў люстэрка і раптам убачыў, які ён непрыгожы — стары і ўвесь у маршчынах. Ён не хоча верыць, што сапраўды ён такі. Думае, што трапілася яму дрэннае люстэрка, якое скажае выгляд.

«Усё гэта глупства,— ледзь не загаварыў сам з сабою Рыгор.— Мая дысертацыя зусім іншая. Мала што некаторыя дэталі супадаюць. Гэта спецыфіка работы на эканамічную тэму...»

«Дык тады, можа, і гэта кніга добрая?» — пытае ў Рыгора нейкі іншы голас.

«Не, гэта ўзор непатрэбнай, бескарыснай работы. Рымар не чытаў яе. Паверыў некаму на слова. Нехта сказаў яму, што кніга добрая, а ён — харошы чалавек і рады нейкага хлопца падтрымаць».

Гэта было першае, што падумаў Рыгор. А недзе варухнулася і іншая думка. Нават не як выразная думка, а хутчэй як адчуванне. Каб выказаць словамі тое, што адчуў Рыгор, гэта азначала б: «А можа... можа Рымар хоча ўзяць з яго плату за свае добрыя адносіны... Можа Рымар хоча за нешта ўгадзіць аўтару кнігі, Кавалеўскаму?..»

Рыгор пастараўся хутчэй адагнаць ад сябе такое падазрэнне. Праз хвіліну ён ужо ўпікаў сябе, што мог такое падумаць пра Рымара.

Паварушылася, нешта сказала праз сон Алёнка. Рыгор азірнуўся на ложак дачкі, паправіў газету на лямпе. Зірнуў на гадзіннік. Тры гадзіны ночы. Рыгор адчуваў, што больш думаць не можа. Што ён стомлены, стомлены страшэнна.

«Добра, няхай,— вырашыў ён.— Раніца за вечар мудрэйшая. Буду класціся спаць, бо заўтра не ўстану. А заўтра зноў дзень напружаны».

І ён націснуў на кнопку выключальніка, патушыў лямпу.

## 6

Назаўтра Рыгор, хоць спаў і мала, адчуваў сябе бадзёра. І настрой палепшыўся. Усё, што ўсхвалявала ноччу, здалося прыдуманым страхам. Зрэшты, як добра ісці па вуліцы звонкім асеннім ранкам, калі ў паветры ўжо адчуваецца замаразак. Дрэвы паскідалі лісты. Толькі на некаторых яшчэ дзе-нідзе трымаюцца — скурчаныя, сухія. Яны, можа, будуць трымацца аж да снегу, а можа і да вясны, пакуль не паскідаюць іх новыя лісты — зялёныя, маладыя.

Рыгор прыйшоў у свой пакой, сеў за стол. Паклаў перад сабою матэрыялы, што пачаў збіраць для планавай тэмы. Вырашыў перагледзець іх. Нават перагарнуў некалькі старонак, але раптам адчуў, што працаваць не можа, што яго зноў пацягнула да кнігі Кавалеўскага. Ды, зрэшты, нешта ж трэба было з ёю рабіць — ці пісаць рэцэнзію, ці аддаць кнігу Рымару.

Рыгор дастаў кнігу з папкі, паклаў перад сабою. Цікава, ці чыталі яе іншыя супрацоўнікі. Паглядзеў на Новікава, на Валю Івашыну. Новікаў, як заўсёды, чыста паголены, у бялюткай кашулі, сядзеў, нахіліўшы сваю прыгожую галаву над сталом — працаваў. Валя Івашына,— у чырвонай шарсцяной кофтачцы, ад якой на яе твар падаў ружовы водсвет,— чытала нейкую кніжку.

Рыгор намерыўся спытаць у Новікава, ці знаёмы ён з кнігаю Кавалеўскага, як Валя Івашына раптам пачала чытаць уголас:

— «Работы, якія выконваюцца ў час толькі аднаго сезону, называюцца сезоннымі. Рабочая сіла набіраецца для такіх работ толькі на адзін сезон. Да такіх работ і адносяцца работы на торфараспрацоўках, якія з'яўляюцца адной з важнейшых галін нашай сезоннай прамысловасці, бо торф з'яўляецца важнейшым палівам ва ўмовах многіх раёнаў...»

«Што гэта яна чытае? — думаў Рыгор, слухаючы Валю.— Нешта вельмі знаёмае... Ды гэта ж з кнігі Кавалеўскага,— успомніў ён.— Канечне, у яе руках гэта кніга... Вунь і сіняя вокладка відаць...»

— Сапраўды, трэба было гэтых восем аркушаў выдаваць тыражом дзесяць тысяч экземпляраў,— патрэсла кнігаю Валя,— каб давесці да чытачоў такія важнейшыя адкрыцці. Гэта ж смеху варта,— паклала яна кнігу на стол.

Новікаў адхінуўся на спінку крэсла.

— Над кім смеяцеся, Валечка... Над сабою смеяцеся,— сказаў ён.

— Валя здзіўлена паглядзела на яго.

— Не разумею, чаму вы так гаворыце...— паціснула яна плячыма.— Не я ж вінавата, што выйшла гэта кніжка.

— Што гэта кніжка — не,— крыху памаўчаўшы, сказаў Новікаў.— Але наогул, што такія кніжкі выходзяць, вінаваты і мы з вамі. І вы, і я.

Рыгор з хваляваннем слухаў, што гаварылі супрацоўнікі. Яму хацелася сказаць, што і ён прачытаў гэту кнігу, што і ён падзяляе думку Валі. Але апошнія словы Новікава стрымалі яго. Новікаў сказаў, што яны з Валяю вінаваты ў тым, што з'яўляюцца такія кнігі. Ён не назваў імя Рыгора і гэтым аддзяліў Рыгора ад іх. Рыгору нават здалося, што за гэтым хаваецца нейкі сапраўдны папрок яму, Рыгору.

— Гаварыце ясней, чаму гэта мы з вамі вінаваты? — дапытвала Валя Новікава.

— Ну, хіба ж не ясна, Валечка? Бо часам мы хоць і бачым, што работа нікуды не варта, не хапае прынцыповасці, а можа і смеласці, каб давесці справу да канца.

— Ну, вам, па-мойму, прынцыповасці пазычаць не трэба,— шматзначна сказаў Рыгор.

— На жаль, і ў мяне яе не хапае...

— Пахвальная самакрытыка,— адказаў Рыгор. Ён адчуваў, што пачынае раздражняцца. Здаецца ж, ніхто яму нічога такога не сказаў, каб ён мог пакрыўдзіцца. Ніхто ні ў чым не ўпікнуў, а Рыгору здавалася, што ў словах Новікава ёсць нейкі падтэкст, і гэты падтэкст нечым яго, Рыгора, абражае.

— На жаль, вы кажаце праўду,— уздыхнула Валя.— Прынцыповасці ў нас сапраўды часам не хапае. Але я бачу, што і ў Рыгора Данілавіча гэта кніжка ляжыць. І вы яе чыталі? — спыталася яна ў Рыгора.

У Валіным голасе Рыгор не адчуў нічога непрыемнага сабе і адказаў ёй:

— Ага, чытаў. І мне здалося, што кніжка слабая, але я думаў, можа, памыляюся.

— Тут цяжка памыліцца,— сказаў, як адрэзаў, Новікаў. Ён зноў нахіліўся над работаю. Пачала працаваць і Валя. А Рыгор гартаў кнігу Кавалеўскага. Цяпер ён быў упэўнены, што Рымар не чытаў яе. Але дзіўна, учора Рыгор, думаючы аб кнізе Кавалеўскага, як апраўданне Рымару, прыводзіў довад, што Рымар не чытаў яе. Цяпер Рыгор не мог гэтым апраўдаць Рымара.

«Несур'ёзна выходзіць,— думаў ён.— Чаму ж Рымар, не чытаючы кнігі, хваліць яе ды яшчэ на добрую рэцэнзію падбівае?»

Адчуванне, якое ўчора варухнулася ў ім, вылілася ў выразнае падазрэнне.

«Можа,— думаў цяпер Рыгор,— Рымар спецыяльна завёў мяне дахаты, каб даць гэту кнігу... Можа, і на вуліцы з-за гэтага затрымаў...» Ён адчуў, як у грудзях яго варухнулася крыўда. Але Рыгор тут жа пастараўся адагнаць ад сябе нядобрае пачуццё.

«Глупства,— са злосцю падумаў ён.— Мы ж зусім выпадкова сустрэліся ў скверы. І пра кнігу за сталом разгаварыліся выпадкова...»

Але нялёгка было пазбавіцца ад гэтай думкі. Раз прыйшоўшы ў галаву, яна ўжо не пакідала яго. Рыгор працаваў і адчуваў, што недзе на дне душы яна ляжала і муляла, муляла.

«Нічога,— супакойваў ён сам сябе.— Пры першай магчымасці аддам Рымару кніжку. Цікава, што ён скажа, як растлумачыць усё гэта».

Адчыніліся дзверы, і да іх у кабінет зазірнула Надзея Ігнатаўна, сакратарка, немаладая жанчына з добрым, спакойным тварам.

— Рыгор Данілавіч, там вас да тэлефона клічуць,— сказала яна.

— Дзякуй, Надзея Ігнатаўна,— адказаў Рыгор. Ён устаў, пайшоў за сакратаркай у прыёмную, дзе стаяў агульны тэлефон, узяў трубку.

— Гэта Рыгор Данілавіч Сіліцкі? — пачуўся крыху хрыплаваты мужчынскі голас.— З вамі гаворыць дацэнт Тарасевіч.

Рыгор мацней прыціснуў да вуха трубку. Тарасевіч? Гэта ж яго першы апанент. Цікава, чаго ён звоніць...

— Я б хацеў сустрэцца з вамі,— сказаў Тарасевіч.

— Калі ласка,— адказаў Рыгор.

— Можа б вы зайшлі да мяне на кватэру? Я дам вам свой адрас. Запішыце, будзьце ласкавы.

— Зараз, зараз,— шукаў Рыгор вачыма аловак.

Надзея Ігнатаўна падала Рыгору аўтаручку і лісток, выдраны з настольнага календара. Ручка драпала, не пісала. Рыгор страсянуў яе. Нарэшце запісаў адрас. Паклаў трубку.

«Цікава, навошта кліча Тарасевіч? — думаў Рыгор, складваючы лісток календара з запісаным адрасам.— Можа, водзыў паказаць хоча?.. А можа і гэты на некага рэцэнзію заказаць збіраецца»,— са злосцю падумаў ён. У кепскім настроі праседзеў ён да канца рабочага дня.

## 7

Пасля размовы з бацькамі Валодзя Рымар прыйшоў у свой пакой, закурыў цыгарэту і лёг на канапу. Бывае так, што чалавек нешта думае, думае, нешта вырашае, а зрабіць апошні крок, прыняць канчатковае рашэнне нібы не адважваецца. І раптам штуршок, можа нават зусім нязначная падзея, і апошні крок зроблены. Рашэнне прынята.

Так было і ў Валодзі. У апошні час ён усё больш і больш пераконваўся, што без Тамары не можа пражыць і аднаго дня, што ён яе кахае. Але ўсё не мог сказаць сабе і ёй тыя апошнія словы, якія б вырашылі іх адносіны. І раптам размова, якую завяла маці. Вера Андрэеўна, сама не ведаючы таго, паскорыла падзеі.

Валодзя і сам не чакаў, што так балюча будзе яму пачуць нядобрыя словы, сказаныя маткаю пра Тамару, што так балюча будзе яму адчуць варожасць да яе з боку родных. Пад час размовы з бацькамі ён асабліва зразумеў, якая дарагая яму Тамара, як шкадуе ён яе, і рашэнне прыйшло само сабою: ажаніцца з Тамарай.

Тое, што маці будзе супраць гэтай жаніцьбы, зусім не бянтэжыла Валодзю. Маці ніколі не згаджалася з тым, што ён збіраўся рабіць. Як пратэст супраць гэтага, у яго часта з'яўлялася жаданне рабіць ёй наперакор. Гэта ішло яшчэ з дзяцінства. Чамусьці маці ўсё жыццё прымушала яго рабіць тое, чаго яму зусім не хацелася рабіць. Яна прымушала сына есці, калі есці ён зусім не хацеў. Яна не пускала яго на вуліцу, калі ён аж ірваўся туды, і выпраўляла пагуляць, калі Валодзя быў заняты нечым і яму добра было і дома. Яна прымушала яго вучыцца іграць на піяніна, і Валодзя вёў з ёю за гэта лютую, зацятую барацьбу. Пераможцамі выходзілі па чарзе — то ён, то маці. Бо хіба заўсёды хопіць у дзіцяці сілы і настойлівасці, каб перамагчы матчыны слёзы, матчыны прычытанні, а то і руку, узброеную папружкай. У выніку пераможцам усё ж аказваўся Валодзя, бо не было ўжо ў маці ніякай сілы змагацца з ім.

Ён любіў выпільваць лобзікам узоры на фанеры, ды гэта, вядома, не сустракала падтрымкі з боку маці. Вера Андрэеўна крычала, што ў сына вельмі дрэнныя схільнасці, што невядома, у каго ён удаўся, чаму яго больш цягне да звычайнай пілы, чым да піяніна.

Так было ў дзяцінстве. Але Валодзя падрастаў, а апека над ім не слабела: маці па-ранейшаму прымушала яго рабіць тое, чаго яму рабіць зусім не хацелася.

Калі Валодзя скончыў дзесяць класаў, ён вельмі хацеў паехаць на цаліну або ў Сібір на якое-небудзь будаўніцтва. Некалькі чалавек з іх класа паехалі на новабудоўлі. Але маці і тут загарадзіла яму дарогу. Яна плакала, казала, што памрэ, што не пражыве гэтага.

Маці пераконвала сына, што жадае яму толькі найлепшага, што ён у яе адзіны і жыве яна толькі для яго, што ён яшчэ дурны і не разумее. не ведае, дзе яго шчасце.

Пакуль маці галасіла над ім, як над нябожчыкам, хлопцы паехалі, а яму прыйшлося астацца.

Валодзя верыў, што маці яго вельмі любіць. Ён нават часам шкадаваў яе, калі яна плакала, бо слёз Валодзя наогул не мог бачыць. Яму тады і самому хацелася плакаць. Але часцей за ўсё гэта матчына апека ўжо раздражняла яго, і з кожным годам усё больш.

Ён не мог дараваць сабе, што яшчэ раз паслухаўся мацеры, калі, не паехаўшы ў Сібір, пайшоў не на завод, а ў кіраўніцтва, дзе бацька знайшоў яму месца праз нейкага знаёмага. Ён працаваў цяпер там у аддзеле забеспячэння і думаў, што больш сумна праводзіць сем гадзін у суткі проста немагчыма. Іх аддзел павінен быў забяспечваць заводы запаснымі часткамі для машын. Нават не часткамі, а паперамі на іх атрыманне.

І маці і бацька пераконвалі Валодзю, што кіраўніцтва для яго на пэўны час самае лепшае месца. І стаж работы расце, і ў інстытут ён можа рыхтавацца.

Але гады ішлі. Стаж у Валодзі ўжо быў, а інстытут яго чамусьці не вабіў. Валодзю хацелася жывой справы, жывой работы, але бацькі ўгаворвалі, не дазвалялі кідаць канторы.

Але хопіць. Валодзя паўтараў і паўтараў сабе, што больш не будзе падпарадкоўвацца бацькоўскай волі, што будзе рабіць так, як лічыць неабходным, так, як гаворыць яму яго сумленне. І цяпер, калі ён вырашыў ажаніцца з Тамараю, то бацькі ўжо не стануць папярок яго дарогі.

Адзін за другім спелі ў Валодзевай галаве планы.

Калі маці будзе супраць яго жаніцьбы, не захоча прыняць Тамару ў сям'ю, ён пойдзе ад іх... Яны з Тамараю знойдуць пакойчык. Альбо не,— мяняў план Валодзя.— Яны наогул паедуць адсюль. Паедуць на якое-небудзь будаўніцтва ці да хлопцаў з іх класа на Краснаярскую ГЭС. Ён нарэшце кіне гэта кіраўніцтва. Будзе працаваць па-сапраўднаму...

Валодзя пачаў хутка апранацца. Яму зараз жа трэба ўбачыць Тамару. Расказаць ёй пра ўсе гэтыя планы.

Валодзя раптам схамянуўся. Смешна, але ён сказаў бацькам, што збіраецца ажаніцца з Тамараю, і яшчэ нічога не сказаў самой Тамары... А што яна?.. Не, не можа быць. Тамара любіць яго. Хіба ён не бачыць, не разумее... Яна ўзрадуецца.

І ён пачаў таропка апранацца. Яму трэба было хутчэй падзяліць сваю радасць з Тамараю.

8

Транспартнае прыстасаванне на лініі, якую наладжвала Галя, працавала кепска. Больш таго, калі запусцілі ў работу загатоўку, зламаліся механічныя рукі. А тэрмін здачы лініі набліжаўся, зрываўся план цэха.

І наладчыкі і Анатоль Кірылавіч, начальнік участка лініі, нерваваліся.

— Ілья! — паклікаў Анатоль Кірылавіч невялічкага рабочага з маленькім, запэцканым у мазут тварам.— Бяжы па інжынера-канструктара, бо я туды нешта не дазванюся.

— Хлопцы,— павярнуўся ён да рабочых з другой лініі,—пераходзьце сюды. Памагчы трэба.

— І дакуль такое будзе... — гаварыла Анатолю Кірылавічу Галя.— Ведаем жа, што гэта транспартнае прыстасаванне кепскае. А вось зноў лінію з ім збіраем. Няўжо нашы канструктары не могуць іншае прыдумаць?

— Каб так лёгка было прыдумваць, як гаварыць,— нездаволена прабурчаў Анатоль Кірылавіч, хоць ведаў, што Галя гаворыць чыстую праўду. Не так даўно здалі лінію з такім самым тыпам транспартнага прыстасавання, і праз два тыдні заказчыкі выклікалі наладчыкаў з завода — даводзіць лінію на месцы.

— Вось убачыце, і з гэтай лініяй прыйдзецца да заказчыкаў ехаць. Зноў чалавекам дзесяці камандзіроўкі будуць выпісваць.

Прыбег Ілья, якога пасылалі па інжынера.

— Ідзе,— паведаміў ён.

Інжынер адчуваў сябе ніякавата, нібы ён сапраўды быў вінаваты, што механічныя рукі зламаліся.

— Скора, скора будзе новае прыстасаванне,— загаварыў ён, папярэджваючы папрокі ў свой адрас.— На роліках. Скора гэтыя рукі выкінем к чорту.

— Пакуль выкінем, дык, вунь, адладзіць трэба,— холадна сказаў Анатоль Кірылавіч.

Наладчыкі, мантажнікі стоўпіліся каля інжынера, пазіралі ў яго чарцяжы. А Ілья хадзіў вакол лініі.

— Значыцца, у гэты месяц лішнюю капейчыну атрымаем,— паціраў ён маленькія чорныя ад мазуту рукі.— За звыштэрміновую работу.

— Малы, а такі ненажэрны,— грэбліва паглядзеў на яго мантажнік, каржакаваты хлопец з амаль квадратнымі далонямі.

— А што, за сваю працу грошы атрымліваем, за залатыя рабочыя рукі.

— Яны ў цябе не залатыя, а чорныя, брудныя.

— Чорныя, бо рабочыя,— глянуў на свае маленькія рукі Ілья.— Мазут — не гразь.

Змена скончылася, але каля Галінай лініі работа не спынялася. Хацелі ўсё ж управіцца з лініяй у тэрмін.



— А ты што тут робіш? — убачыла Галя Тамару, якая стаяла каля лініі з нейкім ясным, прасветленым тварам.— Чаго не ідзеш дахаты?

— Так, Галачка,— невыразна адказала Тамара.— Цікава вельмі... І наогул... — нейкім асаблівым голасам дадала яна.

— Знайшла час захапляцца,— нявесела сказала Галя.

Тамара глядзела, як працавала Галя.

— Можа і я тут што памагу? — спыталася яна.

— Што ты тут паможаш... Ідзі дахаты. Даўно пара.

— Калі ж неяк няёмка. Людзі працуюць, а я дахаты пайду. І наогул...— зноў паўтарыла Тамара.

— Не ўсе ж працуюць. Гэта нам так пашанцавала.

— Дык і я б хацела. Можа б на што спатрэбілася.

Дзяўчына гаварыла так шчыра, што Галя ўсміхнулася ёй, хоць на душы ў самой было нявесела.

— Эй, Малекула! — паклікаў Тамару Ілья.— Падай мне вунь тую цацку.

— Якую? — з гатоўнасцю азірнулася Тамара.

— Вунь тую, што каля панэлі ляжыць.

— Ключ? — спыталася Тамара.

— О, дык ты тэхнічна адукаваная! Давай, давай. Нясі.

Тамара ахвотна выканала Ільёву просьбу. Той узяў з яе рук ключ, адным вокам пазіраў на дзяўчыну, разглядаў яе, нібы бачыў першы раз.

— Можа яшчэ чым памагчы? — спыталася Тамара.

— Добра. Пастой тут. Пачакай. Будзеш маёю памочніцай. Дамовіліся?

9

Каб Галя не была так занята работаю, яна, магчыма, заўважыла б, што Тамара сёння нейкая асаблівая. Вельмі ажыўленая, узбуджаная. Тамара некалькі разоў падыходзіла да Галі, нібы хочучы ёй нешта сказаць, але бачыла, што тая вельмі занятая, і адступала.

І толькі вечарам, калі абедзве яны, стомленыя, вярталіся дахаты, Тамара загаварыла.

— Ведаеш што, Галя,— трохі глухім голасам пачала яна.— Мне адзін чалавек прапанаваў замуж за яго выйсці.

— Праўда? — аж спынілася ад нечаканай навіны Галя.— А хто ён, калі не сакрэт... Я яго ведаю?

— Ты разумееш... Я раней табе пра яго нічога не гаварыла. Сама не ведаю, чаму. Можа, саромелася. Але помніш... Я пыталася ў цябе, ці добры чалавек Рымар...

— То ці не за яго ты замуж сабралася?

— Не, што ты... Гэта яго сын Валодзя.

— Ну, а ты любіш яго?

— Сама не ведаю, Галачка,— гаварыла Тамара, а ў голасе яе была радасць.— Раней я думала, што ён так сабе... Так мы дружым, гуляем. Ён вельмі харошы. Аднойчы мой Яшка быў хворы, дык ён усе аптэкі аббегаў, лекі шукаў. Мне так хораша было дружыць з ім. І я ўсё гаварыла сабе, што ў нас дружба. А цяпер, калі ён сказаў мне замуж за яго ісці, я зразумела, што ўжо даўно, мусіць, была закаханая ў яго. І цяпер так пра яго думаю... Так думаю... Адным словам, хай бы мне абы-як, толькі б яму было добра.

— Дык тады віншую,— абняла Тамару Галя.— Калі ён цябе хоча ўзяць, то, значыцца, любіць. Не на пасаг жа ён твой квапіцца.

— Ды пасаг то ў мяне важны... Яшка... мама... Толькі ведаеш,— і Галі здалося, што радасць прытухла ў Тамарыным голасе,— баюся я, каб не пашкадаваў ён некалі. Пасля таго, што ў мяне было з мужам, я гэтага больш за ўсё баюся...

Яны ішлі па слаба асветленай вуліцы. Было ціха, толькі час ад часу праязджалі аўтобусы, мільгаў зялёны агеньчык таксі. Тамара гаварыла напаўголас, стрымліваючы ўзбуджанасць, хваляванне.

— Слухай, Тамара, я ніколі не пыталася пра гэта, лічыла, што нядобра ў чужую душу лезці, але калі ты сама загаварыла... Скажы, а што ў цябе было з мужам? Чаму вы разышліся?

Тамара колькі хвілін маўчала. Ішла, пазіраючы перад сабою. Цяпер яна была зусім другая: вочы ў яе былі прыжмураныя, твар пахмуры.

— Ат, ведаеш... І расказваць не хочацца,— сказала яна. Пасля, памаўчаўшы, усё ж загаварыла: — Быў адзін мастак. Любіў, каб усё вакол яго было толькі прыгожае. А тут мая мама моцна захварэла. Я яе да нас перавезла. Не мог ён бачыць мыліц, што стаялі ў пакоі... Не мог бачыць лекаў на століку... Маму маю не мог бачыць. Бывала, прыйдзе дахаты, і хоць на вуліцы холад, зіма — акно расчыніць. «У нас,— кажа,— у хаце смярдзіць». А хлусіў жа. Чыста ў нас было. Я ўсё так вышароўвала, так вымывала... Мама разумела, што ўсё гэта праз яе... плакала... А пасля ён сказаў адкрыта: «Адпраўляй маці ў дом інвалідаў... Я не магу ў такіх умовах жыць...»

— Галачка, мілая,— сціснула Галіну руку Тамара.— Ты падумай, каб я сваю маму выгнала, у дом інвалідаў адправіла. Ну як я магла зрабіць такое? Мая ж мама мне ўсё сваё жыццё аддала. Адна мяне выгадавала, бо тата ў вайну загінуў. А гэты раматус, што цяпер яе так скруціў, яна ж таксама праз мяне атрымала... У партызанах, у час блакады. Калі мы восенню праз балота пераходзілі, мама мяне ўвесь час на руках несла. У балоце і ляжала, і стаяла, а мяне ўсё на руках трымала, каб я не прастудзілася... Дык як жа я магу цяпер яе кінуць? Я і сказала тады свайму мастаку,— пацвярдзеў Тамарын голас: — «Забірай свае пэндзалі, і каб мы цябе больш не бачылі!»

— І ён пайшоў? — спыталася Галя.

— Пайшоў, нібы толькі гэтага і чакаў. Яшку аліменты, праўда, прысылае. А сам і не паказваецца. Вось ужо паўтара года сына не бачыў.

Яны стаялі ўжо на скрыжаванні. Галі трэба было зварочваць налева, але яна не ішла.

— Ты добра зрабіла, Тамара, што выгнала яго. З такім чалавекам нельга звязваць жыццё.

Тамара маўчала, зашпіліла гузік у паліто. Павяла плячыма, глыбока ўздыхнула, нібы хацела супакоіцца.

Галя глядзела цяпер на яе іншымі вачыма. Больш не было адчування, што Тамара дзяўчынка, намнога маладзейшая за яе. Не ў кожнай хапіла б адвагі зрабіць так.

— Але ўсё гэта мінула,— ужо другім голасам сказала Тамара.— Цяпер я шчаслівая. У мяне ёсць Яшка. Ёсць работа.

— І Валодзя ў цябе ёсць,— дадала Галя.

— І Валодзя ёсць,— згадзілася Тамара.

— Ты павінна верыць людзям. Не ўсе ж такія, як той мастак. А што ты адказала Валодзю?

— Адказала, што падумаю.

— Ох, Тамара, Тамара,— абняла яе Галя.— Вельмі цяжка даваць парады ў такіх справах, але ты ж ведаеш, як я хачу, каб ты была шчаслівая... Я ўпэўнена, у цябе ўсё будзе добра. Так, як трэба. Бяжы дахаты. Твае даўно цябе зачакаліся.



Яны развіталіся і пайшлі кожная ў свой бок. Крыху адышоўшы, Галя азірнулася. Азірнулася і Тамара. Яны памахалі адна адной рукой.

## 10

Тарасевічаў адрас прывёў Рыгора ў адзін з мікрараёнаў горада. Сярод зусім аднолькавых пяціпавярховых дамоў з рознакаляровымі балкончыкамі Рыгор не без цяжкасці знайшоў патрэбны нумар, падняўся на трэці паверх, пазваніў. Яго сустрэў на парозе высокі, худы мужчына сярэдняга веку, у світары і спартыўных шараварах. Цяпер Рыгор успомніў, што на адным з вучоных саветаў бачыў яго, што гэта і ёсць Тарасевіч.

У руках у Тарасевіча была аўтаручка. Відаць, перад прыходам Рыгора Тарасевіч працаваў.

У пакоі на стале сапраўды ляжаў стос паперы, раскрытыя кнігі, якія Тарасевіч пачаў збіраць, адсоўваць убок.

Рыгор агледзеўся. Тарасевіч займаў аднапакаёвую кватэру. Усюды былі кнігі. Уздоўж сцен аж да столі ўзвышаліся самаробныя стэлажы. Канапа. Пісьмовы стол, таксама завалены кнігамі. Вось і ўсё, што было ў кватэры. Не адчувалася тут і жаночай рукі. «Мусіць, халасцяк»,— падумаў Рыгор.

Сярод кніг, што стосікамі ляжалі на пісьмовым стале, Рыгор пазнаў сваю дысертацыю, пераплеценую ў карычневы ледэрын.

Тарасевіч узяў яе, паклаў на стол перад сабою. Заўважыў, што ўсё яшчэ трымае аўтаручку. Хацеў, па прывычцы, засунуць яе ў кішэню пінжака, але агледзеўся, што ў світары. Паклаў ручку на стол.

Рухі ў Тарасевіча былі таропкія, нібы нечага яму было нялоўка. У Рыгора непрыемна засмактала пад лыжачкай. Ён сядзеў, гатовы слухаць Тарасевіча, не ведаючы, не здагадваючыся, чаго той яго паклікаў, але прадчуваючы ўжо непрыемнае.

А Тарасевіч сашчапіў тонкія белыя пальцы, кашлянуў, нібы адганяючы ад сябе няёмкасць.

— Вось што,— пачаў ён нарэшце.— Размова ў нас з вамі будзе непрыемная. І для вас... І для мяне.

Пад лыжачкаю ў Рыгора засмактала яшчэ больш, але ён маўчаў, чакаў, што скажа Тарасевіч.

— Я буду выступаць супраць вашай дысертацыі... Бо лічу яе апісальнай, неглыбокай. Яна не адпавядае патрабаванням, якія сёння ставяцца да кандыдацкіх дысертацый.

Тарасевіч сказаў гэта і ўстаў, захадзіў па пакоі. А Рыгору здалося, што і пакой з яго стэлажамі, кнігамі таксама захадзіў перад яго вачыма. Перасохла ў горле. Ён не ведаў, як трымаць сябе, што адказаць Тарасевічу.

— Я мог не выклікаць вас для асабістай размовы, мог проста выступіць на абароне і зачытаць свой водзыў... але я падумаў, што так будзе лепш.

Ён выйшаў у калідор, вярнуўся з пачкам «Беламору», узяў папяросу, падаў пачак Рыгору. Рыгор адмоўна пакруціў галавою.

— Сцяпан Раманавіч... Рымар... загадчык сектара хваліў маю работу... Ён таксама мой апанент... Ён паказваў мне свой водзыў... Вельмі станоўчы,— заікаючыся, загаварыў Рыгор.

— Гэта яго справа... Справа яго сумлення,— суха адказаў Тарасевіч.— У мяне іншая думка.

Рыгор глядзеў, як маячыла перад ім доўгая фігура Тарасевіча, і адчуваў, што пачынае злавацца.



— Але... на якой падставе... Чаму... Чым канкрэтна яна дрэнная?..— ледзь прагаварыў ён.

— Давайце пагаворым канкрэтна,— спыніўся перад Рыгорам Тарасевіч.— Вы думаеце, мне цікава вас, так сказаць, рэзаць? Цікава бракаваць вашу дысертацыю? — Ён ва ўпор пазіраў на Рыгора, і Рыгору здалося, што недзе глыбока ў вачах Тарасевіча з'явілася нешта такое, што зрабіла яго твар на момант мяккім і спагадлівым. Але толькі на хвіліну. У наступны момант Тарасевіч зноў холадна і цвёрда зірнуў на Рыгора.

— Скажыце, вы пасля інстытута, ці да яго, працавалі на вытворчасці? — спытаўся ён.

— Не... я атрымаў дыплом з адзнакаю... І пасля інстытута ў аспірантуру...

— Я разумею, што вам было цяжка,— сказаў Тарасевіч, і Рыгору здалося, што ў голасе была іронія.

— Я вывучаў вытворчасць... быў на заводах... — як вучань, які не вывучыў урока, пачаў апраўдвацца Рыгор.

— А рэкамендацыі завод меў ад вас?

— Я... я лічу, што мая дысертацыя і з'яўляецца рэкамендацыяй для прадпрыемстваў.

— Гм,— пакруціў галавою Тарасевіч.— Што ж, давайце паглядзім. Ён сеў на крэсла перад сталом, рашуча падсунуў да сябе Рыгораву дысертацыю, адгарнуў вокладку. Там, паміж вокладкай і тытулам, ляжала некалькі лісткоў, спісаных алоўкам. Рыгор зразумеў, што гэта заўвагі па яго дысертацыі.

— Дык вось, пачнем спачатку,— узяў у рукі лісткі Тарасевіч.— Папершае, навошта ў вашай дысертацыі ўвесь першы раздзел, гэты экскурс у гісторыю? Цэлую трэць дысертацыі вы прысвячаеце аналізу прамысловасці царскай Расіі, пішаце аб тым, што было ў Расіі да 1913 года. Самі па сабе гэтыя лічбы цікавыя, і супраць іх я нічога не маю, але нельга ж ва ўсіх дысертацыях паўтараць адно і тое ж. Палажэнні і лічбы пераходзяць з адной работы ў другую, з адной дысертацыі ў іншую. Навошта гэты шаблон, навошта аддаваць карысную плошчу дысертацыі пад лічбы і факты, якія ёсць у кожным даведніку?

— Гэта традыцыя,— нясмела абараняўся Рыгор.— Так усе пішуць.

— Не ўсе, але вельмі многія. І так пісаць нельга. Але пойдзем далей. Якая асноўная бяда вашай дысертацыі? Апісальнасць. Супраць таго, што напісана вамі, пярэчыць нельга. Усё тут правільна і ўсё бескарысна. Вы не ідзяце наперадзе вытворчасці, не дапамагаеце ёй знаходзіць новыя шляхі, а больш за ўсё тлумачыце прынятыя пастановы з эканамічнага пункту погляду. Вы, асабіста вы, нічога не зрабілі. Няма канкрэтнага аналізу фактаў і канкрэтных вывадаў з іх. А тэма вашай дысертацыі — «Шляхі павышэння прадукцыйнасці працы ў машынабудаванні» — патрабавала ад вас як мага больш рэкамендацый прадпрыемствам, абагульнення фактаў, паказу шляхоў, па якіх павінна ісці вытворчасць.

Рыгор хацеў нешта сказаць, але Тарасевіч не даў яму гаварыць.

— У многіх палажэннях вашай дысертацыі вы карыстаецеся лічбамі трохгадовай даўнасці. Тры гады таму назад былі на прадпрыемстве, збіралі даныя, абагульнялі іх. Цяпер на многіх заводах зусім іншая карціна. Вы збіраецеся абараняць дысертацыю на матэрыяле, які даўно ўстарэў.

— Але калі я буду выкарыстоўваць матэрыялы сённяшняга дня, то пакуль іх апрацую, пакуль абараняю дысертацыю, яны зноў устарэюць,— запярэчыў нарэшце Рыгор.

— Правільна. Устарэюць. Бо вытворчасць не стаіць на месцы. І ў

задачу дысертанта не ўваходзіць бегаць з ёю навыперадкі. Абагульненне фактаў і вывады з іх — вось кандыдацкая дысертацыя эканаміста.

Тарасевіч зноў узяў папяросу. Зноў падаў пачак Рыгору. Непаслухмянымі пальцамі выцягнуў Рыгор адну «беламорыну», прыкурыў ад запалкі, якую падаў яму Тарасевіч.

— Паслухайце,— памаўчаўшы, загаварыў Рыгор.— Я прачытаў не адну дысертацыю на тэмы, блізкія да маёй. І я ведаю, што мая дысертацыя не горшая за іншыя, за тыя, што паспяхова абараняліся.

— Што ж,— зацягнуўся дымам Тарасевіч.— На жаль, вы кажаце праўду. Магчыма, нават горшыя за вашу абараняліся. У вас хоць са стылем усё ў парадку... Але ў тым і бяда, што не адна ваша дысертацыя такая. Таму я і кажу пра ўсё так рэзка. Трэба ж некалі даць бой непатрэбшчыне.

— Дык чаму вы іменна мяне выбралі? Самі кажаце, што мая дысертацыя не самая горшая.

— Чаму вас? — на хвіліну задумаўся Тарасевіч.— Бо, можа, у вас я крыху больш веру, чым у іншых. Ёсць у вашай дысертацыі мясціна, якая сведчыць, што вы можаце думаць самастойна і што вы ў некаторай ступені смелы чалавек.

— Дык што вы мне раіце? — панура спытаў Рыгор.

Тарасевіч доўга тушыў папяросу ў попельніцы. Пасля падняў галаву, зноў глянуў Рыгору проста ў вочы.

— Раю вам цяпер не абараняць дысертацыі. Гэтай. Вывучайце прадпрыемствы. Бо калі гэта дысертацыя будзе абараняцца,— Тарасевіч паказаў вачыма на стол, дзе ляжала Рыгорава работа,— я, як афіцыйны апанент, скажу вучонаму савету ўсё, што сказаў цяпер вам. І нават больш рэзка скажу. Каб гэта не было для вас нечаканасцю, я і запрасіў вас.

— Ну, што ж... і за гэта дзякуй,— устаў Рыгор. Ён не мог схаваць раздражнення.— Бывайце здаровы,— пайшоў ён да выхаду.

— Пачакайце,— паклаў яму на пляччо руку Тарасевіч.— Сядзьце, калі ласка... Пачакайце хвілінку... Я хачу, каб вы правільна мяне зразумелі,— загаварыў ён, і Рыгор адчуў у голасе Тарасевіча новыя ноткі, якіх не было пад час усёй размовы. Гэтыя ноткі нагадвалі яму позірк, які на хвіліну засвяціўся спагадаю... Тады. Яшчэ ў пачатку размовы.— Я сам, асабіста, зусім нічога да вас не маю,— гаварыў ён.— Я ведаю, што такое дысертацыя для маладога вучонага. Гэта розныя матэрыяльныя даброты... аўтарытэт. Я не хачу вам асабіста зрабіць ніякай крыўды. Але ў нас няма іншага выхаду. Ёсць пытанні больш важныя, чым тое, абараніць Сідараў, Пятроў ці Іваноў дысертацыю. Так што зразумейце мяне правільна. Станьце вышэй за асабістую крыўду.

— Што мне на вас крыўдаваць,— суха адказаў Рыгор.— У кожнага свой розум...— Ён хацеў дадаць яшчэ нешта, але махнуў рукою. У калідоры таропка апрануў паліто, не трапляючы рукамі ў рукавы. Адварочваў ад Тарасевіча твар, бо яму здалося, што на вочы набеглі слёзы. Кіўнуў на развітанне і, не падаўшы рукі, выйшаў за дзверы.

## 11

Рыгор ішоў па вуліцы, не ведаючы, куды ідзе. Ён адчуваў сябе прыніжаным, зняважаным. Здавалася, што ён адразу стаў меншы ростам, што паліто нязграбна вісіць на ім, што ў яго нязграбная паходка, а капялюш на яго галаве выглядае недарэчным, смешным. Не верылася, што дзве гадзіны назад ён быў зусім іншым чалавекам. Нібы стаяў ён на высокай гары, адкуль было відаць так далёка. І сам ён на гэтай гары адчуваў сябе значнаю асобаю. І раптам ён быў нізрынуты ў бездань, у прорву.

«Няўжо мая дысертацыя сапраўды нікуды не варта? — думаў Рыгор.— Дык чаму тады яна Рымару падабаецца, чаму сектар прыняў яе да абароны? І няўжо ўсё прапала? Няўжо дысертацыя праваліцца?»

Не, гэтаму Рыгор не мог даць веры, не мог гэтага нават дапусціць. Ён стараўся ўспомніць, ці не было ў яго калі з Тарасевічам сутыкненняў, ці не зрабіў ён яму чаго-небудзь нядобрага, сам таго не ведаючы, і ці не помста гэта Тарасевіча. Але нічога такога не мог прыдумаць, і сам саромеўся такіх падазрэнняў. Недзе глыбока ў душы ён верыў, што Тарасевіч шчыры ў сваіх перакананнях, што, магчыма, ён у тым-сім мае рацыю.

Рыгор раптам успомніў адзін з заводскіх складаў, у якім ляжала абсталяванне. Дарагія замежныя станкі, прыгожыя, як лялькі, некалькі гадоў ляжалі без карысці, іржавелі. Іх прывезлі для абсталявання новага цэха, які планавалася збудаваць на заводзе. Пасля ад будаўніцтва новага цэха адмовіліся, а станкі так і асталіся ляжаць на складзе. Іх нікуды не адпраўлялі, іх ніхто не патрабаваў. А недзе ж яны былі вельмі патрэбныя. Пра гэта Рыгор даведаўся, калі яшчэ хадзіў на завод. Калі ж гэта было? Гады два таму назад. Ён тады на момант абурыўся такою безгаспадарчасцю. Падзівіўся, як можна так ставіцца да дзяржаўнага дабра, да народных грошай, але сам нічога не зрабіў, каб навесці тут нейкі парадак. Гэта не тычылася тэмы яго дысертацыі. Гэта было справаю дырэкцыі, і ён палічыў нетактоўным умешвацца ў яе.

І хоць цяпер гэта зноў не мела ніякіх адносін да яго дысертацыі, хоць гэта вельмі мала вязалася з тым, што цяпер яго больш за ўсё хвалявала, ён адчуў дакоры сумлення.

Рыгор адчуваў сябе вельмі адзінокім і бездапаможным. Захацелася да некага пайсці, пагаварыць аб усім шчыра і адкрыта. Але з кім? Як дрэнна, што кіраўнік яго далёка. Лічы, што і няма яго. Амаль без кіраўніка пісаў Рыгор дысертацыю.

Навуковы кіраўнік Рыгора дацэнт Іван Васільевіч Патапаў жыў і працаваў у Маскве, і кіраўніцтва яго Рыгоравай дысертацыяй было чыста фармальным. Рыгор перапісваўся з ім, разы два пад'язджаў да яго ў Маскву. Але часта ж туды не наездзішся...

Кіраўнік у асноўным ухваляў тое, што рабіў Рыгор. «Так, так, давайце, давайце,— казаў ён.— Думайце. Самы лепшы кіраўнік, гэта той, які не перашкаджае дысертанту працаваць, не перашкаджае быць самастойным».

І Рыгор быў самастойны. Чытаў іншыя дысертацыі, стараўся, каб яго работа была «не горшай, як у людзей». І быў упэўнены, што яна «на ўзроўні», як кажуць. Тым больш, што Рымар так яго абнадзейваў. І вось...

А можа... можа ён яшчэ рана пачаў спяваць адыходную? Зрэшты. Рымар жа ад сваёй думкі не адмовіўся... Можа, яшчэ паваюем. Яшчэ паглядзім, хто каго.

Ён і сам не заўважыў, як апынуўся перад домам Рымара. Так... Толькі да яго. Толькі яму расказаць усё. Адзін ён дапаможа.

Адчыніла дзверы Вера Андрэеўна, у тым жа шыкоўным халаце, з тою ж прыемнаю ўсмешкаю.

— Рыгор Данілавіч! Калі ласка,— гасцінна прывітала яна.— Сцяпан Раманавіч! — гукнула яна ў пакоі.

Рымар выйшаў у калідор. Ён быў у піжаме, у хатніх пантофлях — крыху незнаёмы Рыгору.

— Заходзьце, заходзьце. Толькі прабачце, я па-хатняму,— паказаў ён на піжаму.— Ну, што ў вас новенькае? — спытаўся ён, сеўшы ў крэсла.— Можа, напісалі ўжо рэцэнзію на Кавалеўскага? Прачыталі вы ўжо гэту кнігу?

— Прачытаў, але, ведаеце... Я да вас па другой справе.

— У вас што-небудзь здарылася? Па вас бачу, не з дабром вы прыйшлі,— насцярожыўся Рымар.

Рыгор расказаў яму ўсё.

Рымар хадзіў па мяккім дыване, нахмурыўшыся, заклаўшы рукі за спіну.

— Так і сказаў: «Яшчэ больш рэзка выступлю?» — перапытаў ён Рыгора, калі той скончыў.

— Так і сказаў.

— Гм,— пакруціў галавою Рымар.

— Вы разумееце, гэта мне было, як снег на галаву, так мяне ашаламіла. Я не магу апамятацца,— прызнаўся Рыгор.

— Ну, нічога, нічога... Галоўнае, не хваляваціа, як той казаў,— супакойваў Рымар, а сам хадзіў узад-уперад, думаў.— Трэба забраць у яго дысертацыю.... Трэба знайсці іншага апанента,— раптам спыніўся ён перад Рыгорам.

— А хіба так можна? — шчыра здзівіўся Рыгор.

— Усё можна, мой мілы, усё можна,— шматзначна сказаў Рымар.

Рыгор маўчаў. Тое, што прапанаваў Рымар, было падобна на спробу зрабіць нейкую махінацыю, а Рыгор гэтага не хацеў. Чаму Рымар нічога не кажа па сутнасці, не аспрэчвае довадаў Тарасевіча.

— Скажыце, Сцяпан Раманавіч... Толькі шчыра... Можа, сапраўды мая дысертацыя слабая... Непатрэбная... Можа, вы... па дабраце...

— Ваша дысертацыя не лепшая і не горшая за тыя, што абараняліся,— упэўнена сказаў Рымар.

«Мне і Тарасевіч так сказаў», — падумаў Рыгор, але змоўчаў.

— Ну вось што, малады чалавек. Не падайце духам. Усё будзе добра. Вам пашанцавала, што я займеў дачыненне да вашай дысертацыі, так сказаць. А я чалавек настойлівы. Прыдумаем што-небудзь. Дык не падайце духам,— паляпаў на развітанне Рыгора па плячы Рымар.— Усё будзе добра.

## 12

Вера Андрэеўна заўсёды была ў курсе ўсіх спраў мужа. Яе мала турбавалі праблемы творчыя, ды ў іх яна і не разбіралася, затое што датычыла дзелавых кантактаў у вучоным свеце, тут яна праяўляла жывую цікавасць, часта раіла мужу, як павінен ён паводзіць сябе ў той ці іншай сітуацыі. Таму праз пяць хвілін пасля таго, як Рыгор зачыніў дзверы іх кватэры, яна ўжо ведала ўсё аб размове, якая тут нядаўна адбылася.

— А хто-небудзь ведае, што ты напісаў добры водзыў на гэту дысертацыю?— спыталася яна.

— У інстытуце ўсе ведаюць, што я станоўча ацаніў работу, — з незадавальненнем адказаў Сцяпан Раманавіч.

— А навошта табе гэта было? Навошта вылазіў? Што табе да гэтага хлопца?



— Калі рабіў так, значыць, трэба было,— буркнуў Рымар. Ён сядзеў, схіліўшы галаву на грудзі, думаў.

— Самае лепшае было б забраць у Тарасевіча дысертацыю. Знайсці іншага апанента,— уголас разважаў ён.

— Глядзі, каб не было непрыемнасцей,— папярэдзіла жонка.

— А так пакінуць яшчэ горш. Што ж выходзіць... Ці я не разумею нічога і хвалю дрэнную работу, ці, разумеючы, што яна дрэнная, з нейкімі сваімі, карыслівымі мэтамі яе абараняю. І так, і так дрэнна.

— Але ж не адзін ты яе прымаў. Увесь сектар адобрыў.

— Тым горш... Значыцца, сектар, якім я кірую, рэкамендуе да абароны слабыя дысертацыі.

Вера Андрэеўна, адчуўшы, што тут яна наўрад ці можа чым памагчы, занялася сваімі справамі.

А Рымар сур'ёзна задумаўся. Пасмачка валасоў, заўсёды акуратна зачэсаная на лысіну, спаўзла і адкрывала яе — ружовую, бездапаможную. Каб цяпер Рыгор убачыў Рымара, ён не пазнаў бы ў ім дабрадушнага, упэўненага ў сабе загадчыка сектара.

Дысертацыю Рымар абараніў у 1948 годзе. Чатырнаццаць гадоў, якія прайшлі з таго часу, праляцелі для яго, як адзін дзень, спакойны, роўны. Ён быў у сяброўскіх адносінах з дырэктарам інстытута. Супрацоўнікі ставіліся да яго някепска, бо ён не вельмі многа патрабаваў ад іх. Рымар кіраваўся прынцыпам — жыві і іншым жыць давай. Ён ахвотна мог зрабіць чалавеку паслугу, асабліва, калі сам на гэтым нічога не траціў. Любіў сам сабе паўтараць прымаўку — «Кінеш за сабою, знойдзеш перад сабою». Любіў напускаць на сябе выгляд дабрадушнага дзядзькі.

Ён паціху працаваў над доктарскай дысертацыяй. Сам збіраў матэрыял, малодшыя навуковыя супрацоўнікі прыносілі яму лічбы, справаздачы аб рабоце прадпрыемстваў.

З году ў год у планах інстытута значылася, што Рымар Сцяпан Раманавіч, загадчык сектара, працуе над доктарскай дысертацыяй.

Але ў апошні час у плынь яго спакойнага жыцця пачалі трапляць камяні. Не так даўно ў газеце з'явіўся артыкул, які абвінавачваў сектар у адрыве ад жыцця, у тым, што вучоныя інстытута вельмі мала памагаюць вытворчасці, варацца ў сваім саку.

Ад самога Сцяпана Раманавіча пачалі патрабаваць навуковага даследавання, бо колькі гадоў як ён кандыдат, а не мае ніводнай друкаванай працы. Пагаворваюць, што ў наступным годзе будзе конкурс на зняшчэнне яго пасады.

І наогул, у апошні час Рымар бачыць, што ўсё ў інстытуце мяняецца. Дырэктар інстытута, з якім Рымар быў у сяброўскіх адносінах, раптам пайшоў на пенсію. На яго месца прыслалі новага. З Масквы. Кожны дзень навіны: то некага пазбавілі ступені кандыдата, то артыкул у газеце, які ўзнімае зусім нечаканыя пытанні.

Не хаваецца ад вачэй Рымара і тое, што апошні час падначаленыя не вельмі цягнуцца да яго. Не раз сустракаў ён дзёрзкі позірк Новікава. Не падабаецца Рымару ягоная крытыка работы сектара.



Цяпер Рымар дакараў сябе, што дасюль не вельмі спяшаўся з абаронай доктарскай дысертацыі. Трэба было выкарыстаць усе магчымасці, якія былі ў яго пры старым дырэктары. Але хто ведаў, што ўсё так павернецца... Рымар і дапусціць не мог, што ў інстытуце магло нешта змяніцца. Ці мог ён прадбачыць, што пачнецца барацьба з культам.

А цяпер кусай сабе локці. Каб у яго была доктарская ступень, хто ведае, можа б яго прызначылі дырэктарам замест старога... Калі ён можа выконваць абавязкі дырэктара, то маглі б і на пасадзе зацвердзіць. Бо цяпер, пакуль новы дырэктар яшчэ не цалкам увайшоў у работу, пакуль не разлічыўся са старою пасадаю, яго, Рымара, не раз прызначаюць выконваючым абавязкі.

Можа гэта ідзе яшчэ па інерцыі, па традыцыі, якую ўвёў стары дырэктар... Бо той апіраўся на Рымара. Як-ніяк, а загадчык аднаго з вядучых сектараў.

Але аб дырэктаравым партфелі і думаць цяпер нечага. Трэба неяк утрымацца на сваім месцы. Не страціць таго, што мае.

Перш-наперш трэба было надрукаваць работу. Яна ў яго была амаль напісана. Лічбы і дадзеныя былі сістэматызаваны і пракаменціраваны. Так што работу можна было здаваць у выдавецтва. Але Рымар сам не ведаў, ці тое гэта, што выдавецтву трэба. У апошні час ён адчуваў, што проста не можа думаць. Не ведае, ці добра выкарыстаў той матэрыял, што ляжаў у яго тоўстай папцы.

Пасля доўгіх разважанняў вырашыў паслаць рукапіс у кіеўскае выдавецтва. Пасля даведаўся, што рукапіс на рэцэнзіі ў Кавалеўскага. Пастараўся з ім сустрэцца.

Кавалеўскі адразу зразумеў, чаго хоча ад яго Рымар. Зразумеў і Рымар намёк Кавалеўскага: «І ў мяне вось кніжка выйшла... На матэрыяле вашай рэспубліцы напісана... Рэцэнзіі пакуль яшчэ не было...»

Яны разышліся, разумеючы адзін аднаго.

Рымар рэкамендаваў дысертацыю Сіліцкага таксама не без пэўнай мэты. Рымар шукаў людзей, якія, калі гэта спатрэбіцца, пайшлі б за яго і ў агонь і ў ваду. Рымар быў упэўнены, што калі паможа Рыгору пры абароне дысертацыі, той будзе ўдзячны яму ўсё жыццё. Тым больш, што дысертацыю Сіліцкага Рымар сапраўды лічыў не горшаю, чым другія. Іменна Рыгора выбраў Рымар таму, што Рыгор здаваўся яму ціплым, мяккім чалавекам. Мела значэнне і тое, што Рыгор, будучы тры гады аспірантам, мала ведаў пра жыццё інстытута, пра яго падводныя плыні.

Рыгор спатрэбіўся Рымару раней, чым сам Рымар мог разлічваць. І ўсё было б добра, каб не гэты Тарасевіч... А так у самога хлопца цяпер непрыемнасці. Ды гэта ўжо не толькі ў хлопца. Тут ужо і ён, Рымар, замешаны. Трэба прымаць нейкія захады.

І Рымар ужо сам не ведае, каго ён збіраецца ратаваць — ці сябе, ці дысертанта.

— Сцёпачка, а хто з тваіх знаёмых паедзе ў Чэхаславакію? — перабіла думкі Сцяпана Раманавіча жонка.— Я хачу даць заказ.

— Яшчэ група не ўкамплектавана, — буркнуў Рымар. Сказаў і сам насцярожыўся, прыслухоўваючыся да думкі, якая раптам прыйшла да яго.

Пайшоў у кабінет. Пакорпаўся ў паперах, знайшоў лісток, надрукаваны на машынцы.

«Спецыялізаваная група... Паездка ў Чэхаславакію... Тэрмін — чатырнаццаць дзён. З дванаццатага па дваццаць шостага снежня...»

Ён успомніў, як на вучоным савеце перакінуўся некалькімі словамі з Тарасевічам, як той гаварыў, што з ахвотаю паехаў бы ў такую камандзіроўку...

Тады Рымар і не падумаў прапанаваць Тарасевічу прыняць удзел у паездцы. І без Тарасевіча ахвотнікаў хапала. А цяпер... Чаму б не выкарыстаць такой магчымасці. Тым больш, што дырэктар, які сам не вельмі яшчэ ведае тут людзей, папрасіў яго, Рымара, намеціць кандыдатуры.

Абарона назначана на дваццаць сёмае снежня, а паездка па дваццаць шостага,— разважаў Рымар. Тарасевіч можа падумаць, што яшчэ вернецца да абароны, а на вучоным савеце трэба будзе падняць пытанне: «у сувязі з тым, што апанент адсутнічае, просім прызначыць новага...» А наконт новага Рымар ужо сам пастараўся б.

Праўда, калі нешта спецыяльна робіш, можа здарыцца і нечаканасць. Раптам партбюро не падтрымае кандыдатуры ці сам Тарасевіч перадумае... Але трэба паспрабаваць.

Рымару здавалася, што ён знайшоў нейкі выхад, але спакой да яго ўсё роўна не прыходзіў.

## 13

На свеце быў чалавек, ад якога Рыгор не таіў нічога. Да яго ён спяшаўся з радасцю. Яму расказваў аб сваіх сумненнях і трывогах. Калі здаралася непрыемнасць, таксама шчыра прызнаваўся ва ўсім, стараючыся высветліць, ці вялікай была і яго віна, бо ведаў, што пачуе шчыры адказ. Гэтым чалавекам была жонка, Галя.

Рыгор ішоў дахаты, ведаючы, што і цяпер ёй раскажа ўсё. Ён яе, вядома, не ўзрадуе. Галя вельмі блізка да сэрца прымае ўсе яго перажыванні, але яна скажа нешта такое, ад чаго Рыгору адразу ўсё стане ясней. Галя гэта ўмее. Яна, вядома, будзе яго супакойваць, як супакойваў толькі што Рымар. Але Рымар гаварыў нешта не тое... Рыгор разумее, што цяпер Рымар будзе бараніць не столькі яго, Рыгора, колькі сябе, сваю рэпутацыю. А Рыгору цяпер трэба нешта большае.

Галя падавала абед. Яна адразу зразумела, што ў мужа нешта здарылася. Яшчэ з парога, як толькі Рыгор увайшоў у хату, здагадалася, што ў яго непрыемнасці: яна добра навучылася адгадваць настрой мужа, але не хацела адразу прыставаць з пытаннямі. Ведала, што і сам раскажа.

Яна старалася яго развесяліць.

— А ў нас на заводзе ваш вучоны працуе. Сёння да нас у цэх прыходзіў. Сімпатычны такі. Узяўся за вырашэнне аднаго важнага пытання. У нас, напрыклад, на год план, — начыркала Галя відэльцам на цыраце лічбу.— Вось і даюцца ва ўсе цэхі заказы — зрабіць вузлы і дэталі да гэтых станкоў. Адзін цэх зробіць сваю норму, нават перавыканае, а другі цэх не ўправіцца. І хоць адных вузлоў аж занадта, на зборцы рабіць няма чаго, бо другіх вузлоў не хапае. Дык ваш вучоны ўнёс прапанову — даваць заказы цэхам партыямі. Па дваццаць, па дзесяць вузлоў,— зноў начыркала Галя на цыраце лічбы.— Проста, як усё геніяльнае,— падняла яна ўгору відэлец.

— Як яго прозвішча... Хто ён? — спытаўся Рыгор даволі абыякава.

— Новікаў. Я спецыяльна спыталася, каб табе сказаць.

— Новікаў? — перапытаў Рыгор. Яму было непрыемна, што жонка з такой сімпатыяй гаворыць пра Новікава. І нешта накшталт зайздрасці да Новікава варухнулася ў ім. Было крыўдна, што не ён, а Новікаў пайшоў на завод, дзе працуе яго жонка, не ён, а Новікаў стараецца нешта зрабіць для гэтага завода.

— Ты разумееш... Адна наша лінія каштуе сто тысяч рублёў,— гаварыла Галя.— За гэтыя грошы можна пабудаваць дом на шэсцьдзесят кватэр. І каб лінія толькі акупіла сябе, трэба, каб яна больш чым год бездакорна працавала. А ў нас што атрымліваецца? Адзін станок выйдзе са строю, і ўся лінія стаіць. Разумееш, якая крыўда заводу... Ты не слухаеш мяне?.. — спыталася яна раптам, убачыўшы, што Рыгор зусім паклаў лыжку і сядзіць, апусціўшы галаву.— Скажы мне, што здарылася? — панізіўшы голас, спыталася яна.

— У мяне, Галя, вялікія непрыемнасці,— сказаў ён, не паднімаючы галавы.

— Ты паела, дачушка? — нахілілася Галя да дачкі.— Бяжы да цёці Стэфы, пагуляй,— ссадзіла яна з крэсла Алёнку.

Алёнка ахвотна выбегла ў калідор.

Галя, падпёршы шчаку, напружана слухала, што расказваў Рыгор. Твар яе хмурнеў. Яна разумела, што ўсё, аб чым гаварыў муж, было вельмі сур'ёзным. Можа ніхто, як яна, не ведаў, колькі працаваў Рыгор над дысертацыяй, колькі ўложана ў яе яго старання. Але ёй нялёгка было разабрацца ў тым, хто тут мае рацыю. Цяжка было і быць аб'ектыўнай. Калі адзін апанент хваліць работу, а другі ганіць, то хочацца верыць таму, хто хваліць.

— Рыгорка, любы,— сказала яна нарэшце.— Ты толькі не перажывай так. Не трэба. І, як мне здаецца, я вось падумала, бяды ніякай пакуль не здарылася. Ну, адзін водзыў станоўчы, другі адмоўны. Калі ты ўпэўнены, што дысертацыя твая добрая — будзеш выступаць, абараняцца. На тое ж і называецца — «абарона дысертацыі».

— Ах, Галачка, наіўна ты разважаеш,— уздыхнуў Рыгор.— У нас звычайна на абароне павінны толькі хваліць дысертацыю. І так, для блізіру, заўвагі...

— Ну, а твая абарона будзе інакш выглядаць,— не здавалася Галя.

— Як ты не разумееш, што пры такой думцы афіцыйнага апанента яе проста праваляць...

Галя задумалася. Маўчаў і Рыгор.

— І ўсё ж такі забіраць у таго Тарасевіча дысертацыю, шукаць іншага апанента... Нешта тут нядобра. Гэта ўжо нібы махінацыя...

— Не я яе раблю. Рымар. А ён лепш ведае. Ён загадчык сектара.

— А можа дысертацыю паправіць можна?.. Што-небудзь дапрацаваць? — шукала іншага выхаду Галя.

— Часу ж няма... Абарона на носе.

— А чаму няма часу? Чаго спяшацца абараняць?

— Начальства лепш ведае... У яго свае планы,— пацісну́ў плячыма Рыгор.— Паставілі ў гэтым годзе.

— Мусіць, у вас робіцца тое самае, што на некаторых заводах. Там станкі штампуюць — каб больш, а ў вас кандыдатаў... Каб план перавыканаць...

Рыгор змоўчаў.

— Слухай, Рыгорка, ты на мяне не крыўдуй,— падышла да яго Галя.— Я разумею, што табе цяжка... Але давай пастараемся паглядзець праўдзе ў вочы. Ты мне расказаў, што гаварыў пра тваю дысертацыю Тарасевіч. Мне, канечне, цяжка разабрацца і хочацца верыць Рымару. Але можа і Тарасевіча варта паслухаць? Я вось працую на заводзе. У нас многа пытанняў, якія павінны вырашаць эканамісты. Акрамя ж Новікава ніхто з вашых вучоных да нас не прыходзіў. Я разумею, ты на іншых заводах працаваў, але, можа... Адным словам, падумай...



— А я што, не думаю... Галава пухне,— шчыра прызнаўся Рыгор.

— Дай яшчэ каму-небудзь прачытаць тваю дысертацыю. Таму ж Новікаву. Што ён скажа?

— Новікаў чытаў,— панура адазваўся Рыгор.— Ён не прыхільнік маёй дысертацыі... І наогул... ён мне не сябар...

— Тады дай я прачытаю,— адчайна сказала Галя.— Я ж усё-такі ў інстытуце вучуся... І вытворчасць ведаю...

Рыгор усміхнуўся.

— Яшчэ адзін апанент знайшоўся...— даволі іранічна сказаў ён.

— А ты не смейся,— не пакрыўдзілася Галя.— Апанент я буду прынцыповы.

«Харошая Галя,— думаў Рыгор.— З ёю добра. Яна сапраўдны таварыш. Яна менш за ўсё думае пра кандыдацкі аклад, пра кватэру...»

А Рыгор крыху баяўся, як паглядзіць Галя на ўсё гэта... Значыць, ён як след не ведаў сваёй жонкі... «Дзякуй табе, Галка, за тое, што ты такая»,— думае Рыгор і яму робіцца лягчэй.

## 14

Рымар сядзеў у сваім кабінеце, трымаў у руках лісток, на якім было напісана пяць прозвішчаў. Апошнім стаяла прозвішча Тарасевіча. Гэта былі кандыдатуры, якія намеціў Рымар, каб пасля ўзгадніць з дырэктарам, з партыйнай арганізацыяй.

Не, ніхто не мог западозрыць Рымара ў неаб'ектыўным падборы кандыдатур. Усё гэта былі прозвішчы паважаных людзей, якія карысталіся аўтарытэтам, удзел якіх у паездцы прынясе карысць справе. А што і Тарасевіч паміж імі, то што ж... Тарасевіч таленавіты вучоны. Нядаўна ў газеце быў яго артыкул аб выкарыстанні вылічальных машын у эканоміцы. Гэтым пытаннем цікавіцца. Ім займаецца. Каму ж, як не яму, і прыняць удзел у паездцы?..

І ўсё ж не без хвалявання падышоў Рымар да дзвярэй кабінета новага дырэктара.

— Добры дзень! — даволі незалежна павітаўся ён з дырэктарам.

Дырэктар устаў з-за стала, прайшоў насустрач Рымару, падаў яму руку.

— Дзень добры. Сядайце,— паказаў ён Рымару на крэсла.

Рымар сеў.

— Ну як, прывыкаеце да нашага горада, да нашага інстытута? — пытаўся ён у дырэктара па-сяброўску і разам з тым кідаў на яго позіркі. Вывучаў. Немалады мужчына. Мусіць, ужо за пяцьдзесят. Высокі лоб. Рысы твару даволі буйныя. На левай шчацэ, пад скураю, сіняя пляма. Такія бываюць толькі ад пораху. Мусіць, быў на фронце. Ваяваў. Шкада, што Рымар не можа пагаварыць з ім аб баявых справах. Сам ён, студэнт апошняга курса інстытута, быў адазваны з арміі яшчэ ў 1941 годзе. А пасля карыстаўся льготамі, як аспірант.

— Патроху ўваходжу ў курс,— гаварыў дырэктар. Голас у яго быў нізкі, крыху хрыплаваты.

— Нічога, асвоіцеся хутка. Народ у нас харошы. Добры народ,— вёў гутарку Рымар.

— Ды вось, знаёмлюся,— узлакаціўся на стол дырэктар.

Ён глянуў на Рымара вясёлымі вачыма, і Рымару на нейкую хвіліну здалося, што дырэктаравы вочы бачаць яго наскрозь. Што вочы гэтыя не столькі вясёлыя, колькі іранічныя, пранізлівыя.

Але Рымар тут жа адагнаў ад сябе нядобрае адчуванне, павёў гутарку далей.

— Вы можаце папрасіць вучонага сакратара, ён вам прынясе анкеты ўсіх супрацоўнікаў... Для першага знаёмства, так сказаць.

— Ну, хіба ж па анкетах пазнаёмішся з людзьмі,— павёў плячом дырэктар.— Будзем разам працаваць, тады і пазнаёмімся. Працэс, можа, даўжэйшы, але затое больш пэўны.

Зразумеўшы, што не зусім патрапіў у цэль, Рымар перавёў гутарку на другое.

— Ну, а як вам наш горад? Інстытут наш?

— З горадам гэтым я, можна сказаць, звязаны кроўна,— дакрануўся да абпаленай шчакі дырэктар.— Некалі ўдзельнічаў у яго вызваленні.

— О! — прыўзняўся на крэсле Рымар.

— Я памятаю горад, які́м ён быў у 1944 годзе. Адны руіны. Дзе ні станеш, куды ні глянеш — каменныя каробкі, чорныя груды. А цяпер... Такі прыгажун. Ведаеце, мне апошні час даводзілася не раз выязджаць за мяжу. У творчыя камандзіроўкі. Я пабачыў шмат гарадоў Еўропы. І скажу вам, нават пасля еўрапейскіх прыгажуноў з задавальненнем хаджу па гэтым горадзе. Гэта вельмі харошы, вельмі наш, вельмі рабочы горад.

— Так, так,— падтакваў Рымар.

— А якая ў яго будучыня! Тут жа такая прамысловасць! Проста цуд, колькі набудавалі! А які рабочы клас! Я з задавальненнем буду жыць і працаваць тут.

— Так, так,— ківаў галавою Рымар.— Дарэчы, я таксама наконт творчай паездкі зайшоў да вас. Вось, калі ласка, папярэдні спіс кандыдатур,— падаў свой спісачак Рымар.— Я гаварыў з гэтымі людзьмі. Яны выказалі ахвоту паехаць.

Дырэктар узяў з рук Рымара паперку, прабег па ёй вачыма.

— Добра. Дзякую. Мы гэтыя кандыдатуры заўтра разам абмяркуем. На партбюро.— Ён адкрыў шуфлядку стала, паклаў у стол паперку.

Рымар сачыў за рухамі дырэктара і адчуваў, як непрыемны халадок залазіць яму за каўнер. Ход зроблены. Як далей будзе... Ну, ды пакуль усё ідзе гладка...

— Ведаеце,— паволі зачыняў шуфлядку дырэктар.— Мне хутка зноў прыйдзецца выехаць у Маскву. Дзён на дзесяць, напэўна. Вам, відаць, зноў прыйдзецца мяне замяніць. Але гэта ўжо, здаецца, апошні мой выезд.

— Калі ласка,— адказаў Рымар,— хоць у мяне ў апошні час і работы вельмі многа,— дадаў ён тонам, за якім павінна было адчувацца, што ён не вельмі рвецца да ўлады, што яна для яго, хутчэй, цяжар.

— Ну, калі вы будзеце вельмі занятыя, то я магу каго іншага папрасіць,— сказаў дырэктар.

— Не, дык я ж не адмаўляюся, я згодны,— жыва запярэчыў Рымар. Ён спалохаўся, што дырэктар і сапраўды можа прызначыць каго іншага, а гэта яму было б абразай.— Я проста так сказаў аб рабоце... Яе заўсёды многа. Але калі трэба, то трэба,— зрабіў ён выгляд самаахвярнага падначаленага.

— І яшчэ вось што,— ужо ў дзвярах запыніў Рымара дырэктар.— Пазнаёмце мяне, калі ласка, з планамі вашага сектара. З тэматыкаю даследаванняў... З праблемамі, якія вырашаюцца вамі.

— Добра, добра, з задавальненнем,— адказаў Рымар і выйшаў з кабінета.

У калідоры ён некалькі хвілін стаяў на месцы, нібы стараючыся разабрацца ў сваіх адчуваннях, ва ўражаннях ад размовы. Пасля пайшоў у свой кабінет. Сеў за стол, забарабаніў пальцамі па шкле.

«Чаму дырэктар так лёгка згаджаўся пакінуць замест сябе не абавязкова яго, Рымара... І гэты позірк... Нібы бачыць цябе наскрозь. Ці ўжо нервы ў мяне... падазронасць».

«Глупства, усё ідзе вельмі добра,— перастаў барабаніць пальцамі па шкле Рымар.— І тое, што дырэктар зноў едзе, таксама добра. Без яго будзе праходзіць абарона дысертацыі Сіліцкага. Трэба хутчэй з гэтым канчаць. А пасля ён будзе больш асцярожны».

## 15

— Вось дзе смешная... Ідзі, ідзі, не бойся... прывыкай... Ты ж тут скора гаспадыняй будзеш,— цягнуў Валодзя Тамару за руку.

— Я тваіх бацькоў вельмі саромеюся... Ну, як яны... Ты ж ім сказаў, што мы збіраемся пажаніцца?

— Дзіва што сказаў... Яны так узрадаваліся. Асабліва мама.

— Праўда? Ты мне не хлусіш?.. Ведаеш, я іх буду вельмі любіць... І тваю маму, і твайго бацьку.

— Як сабе хочаш... Ну, хадзем.

Яны падніма́ліся па лесвіцы, спыняючыся на кожнай пляцоўцы. Сэрца ў Тамары вельмі моцна стукала. Як сустрэнуць яе там?.. Што скажуць? Яна хацела, каб Валодзя сказаў бацькам, што сёння яны занеслі ў загс заяву.

Валодзя адамкнуў дзверы, абабітыя карычневым дэрмацінам. Прапусціў наперад Тамару.

Напэўна, пачуўшы, што адчыніліся дзверы, Вера Андрэеўна выйшла з пакоя, стала ў дзвярах, каб паглядзець, хто прыйшоў. Убачыўшы сына з Тамараю, застыла.

— Добры дзень,— прывіталася з ёю Тамара.

Вера Андрэеўна ў адказ на прывітанне ледзь паварушыла губамі.

— Хадзем,— узяў Валодзя Тамару за руку, павёў у свой пакой. У яго быў бесклапотны і вясёлы голас.

— Па-мойму, Веры Андрэеўне не падабаецца, што я прыйшла,— не распранаючыся, сказала Тамара.

— Глупства. Чаму гэта не падабаецца? Не звяртай увагі,— расшпіляў ён Тамарына паліто, памагаў ёй распранацца.

— Ты ж казаў, што яна ўзрадавалася...— не вельмі ахвотна скідала паліто Тамара.

— Канечне, узрадавалася. Гэта яна так радасць праяўляе. Зрэшты, гэта не іх, старых, справа. Я чалавек дарослы, самастойны. Ну, што ты спахмурнела? — абняў ён Тамару.— Зараз жа ўсміхніся. Ну!

Тамара ўсміхнулася, і Валодзя пацалаваў яе ў шчаку. Пасадзіў на крэсла.

Непрыемнае адчуванне ў Тамары праходзіла. А можа ёй толькі здалося, што Валодзева маці не ўзрадавалася яе прыходу? — думала Тамара.

— Вось тут мы паставім новую канапу. Сюды купім яшчэ адно крэсла і таршэр. Пісьмовы стол мой замяніць трэба, бо гэты ўжо абшарпаны, чарнілам заліты.

Тамара нібы нечага чакала, не адважваючыся пра гэта напомніць. Валодзя заўважыў яе позірк, схамянуўся:

— А Яшку!.. Дзе ж мы Яшкаў ложак паставім?

Тамарыны вочы пасвятлелі.

— Вось тут,— паказаў Валодзя на самае светлае месца ў пакоі.

— Я гаварыла з мамаю, з цёцяй. Яны кажуць, што там астанецца,— нібы саромеючыся нечага, сказала Тамара.

— Ну, як хочуць, але калі што, то тваю маму і сюды можна. У нас кватэра вялікая.

— Дзякуй табе, — ціха сказала Тамара, і Валодзю здалося, што вочы ў Тамары зрабіліся вільготныя.— За добрае слова дзякуй,— амаль прашаптала яна.

Пасля яны смяяліся, успаміналі, як пазнаёміліся, гаварылі аб тым, як будуць спраўляць вяселле, каго з сяброў паклічуць.

Каб цяпер Вера Андрэеўна глянула на сына, яна б не пазнала свайго панурага, калючага «вожыка». Гэта быў лагодны, харошы хлопец. І вельмі шчаслівы.

— Пецька Капусцін будзе нашым першым госцем,— гаварыў Валодзя,— бо каб не ён, мы б з табою не пазнаёміліся.

— Ага,— згаджалася Тамара.

— А я цябе раўнаваў да Пецькі, думаў, што ты яго кахаеш...

— А пасля даведаўся, што гэта мой стрыечны брат...

— І ніяк не хацеў паверыць, казаў: ведаем мы гэтых стрыечных братоў.

— Пеця мне не толькі стрыечны брат, але і сябар, таварыш,— сур'ёзна сказала Тамара.

— Мне ён таксама сябар. Мы з ім разам хочам уцячы з нашай работы. Хочам куды-небудзь на завод, ці на будоўлю.

— Праўда, Валодзечка? А хай бы на наш завод...

— Пагляджу... можа і да вас... яшчэ не ведаю.

— А я ж таксама хачу на іншую работу. Толькі не думай... на нашым жа заводзе,—спалохалася Тамара, каб Валодзя не падумаў, што яна хоча завод кінуць.— Хачу ў цэх... На вузлы... Там так цікава. На першым часе, праўда, буду крыху менш зарабляць... Хачу быць наладчыцай. Як Галя. Ты яе не ведаеш? О, я цябе з ёю пазнаёмлю.

Тамара хадзіла па пакоі і гаварыла, часам паварочваючыся да Валодзі, які сядзеў у крэсле.

— Ты ведаеш, Валодзечка, я вось устаю рана, павярну выключальнік — і запальваецца электрычнасць. Адкручу кран — і бяжыць вада. Паднясу запалку да пліты — і газ загараецца. Батарэі грэюць. Жыву я ў вялікім новым доме, хоць і адзін там пакойчык займаем, але пабудавалі ж мне яго людзі. І я часта думаю — як многа зрабілі для мяне людзі... Як падумаю, то мяне проста сумленне мучыць, што я ў свет прыйшла на ўсё гатовае. Я, вядома, працую... І Яшка ў мяне расце... Але ж гэта так мала... Хацелася б нешта такое зрабіць, каб і мая праца асталася. Каб ведаць, што і я не дарэмна жыла.

— Смешная ты... Смешная і харошая,— узяў Валодзя Тамару за руку, прыцягнуў да сябе, пацалаваў далонь. Пасля апусціў руку і, не выпускаючы са сваёй, трымаў і пра нешта думаў.

Тамара заўважыла гэтую перамену ў настроі. Таксама прыціхла. Правяла далоняй па Валодзевых валасах.

— Але ж трэба сказаць тваім бацькам... Пакліч маму... Давай скажам,— напомніла яна Валодзю.

— А можа... можа пакуль не трэба?.. Можа пасля?.. Паставім іх перад фактам...— няўпэўнена сказаў ён.

Тамара памаўчала.

— Навошта ж так рабіць? Яны пасля будуць на нас крыўдзіцца...

— Ну што ж, давай... Няхай будзе па-твойму. Ад гэтага ўсё роўна нікуды не дзенешся.— Валодзя падышоў да дзвярэй.— Мама! — паклікаў ён.

Сэрца ў Тамары зноў моцна затахкала, як тады, калі яшчэ толькі



падніmаліся па лесвіцы. Яна адышла да акна, абапёрлася на Валодзеў стол.

Тамара чула шоргат ног па дыване, чула, як таропка ішла да іх Вера Андрэеўна.

— Што табе трэба? — убачыла Тамара ў дзвярах яе твар. Ён быў пахмурны, жорсткі.

— Зайдзі, калі ласка, нам з табою трэба пагаварыць,— сказаў ёй Валодзя.

— Гм,— павяла плячыма Вера Андрэеўна.— Чаго мне да цябе заходзіць... Чаго я тут не бачыла?

Тамара пачынала разумець, што яна не памылілася з самага пачатку. Веры Андрэеўне не да спадобы яе прыход. Гэта было вельмі непрыемна, але Тамара пастаралася зрабіць выгляд, што не заўважае яе настрою. Ёй хацелася сустрэцца позіркам з Верай Андрэеўнай, хацелася сказаць ёй нешта харошае, каб яна не злавалася, каб зразумела, што Тамара не вораг ні ёй, ні яе сыну.

Але Вера Андрэеўна наўмысна не заўважала Тамары, наўмысна падкрэслівала, што гаворыць толькі з сынам, што да дзяўчыны, якая тут, ёй няма ніякай справы, што яна для яе — пустое месца.

Валодзя, нібы не заўважаючы настрою маці, пачаў лагодным голасам:

— Мы з Тамараю,— паказаў ён рукою на Тамару,— хочам сказаць табе навіну. Мы толькі што з загса. Пакінулі там заяву. Так што праз тыдні тры будзем мужам і жонкаю.

Сказаў і змоўк, чакаючы, што адкажа маці.

А тая раптам пачала павольна апускацца на крэсла. Твар яе тарганууся, яна заплакала.

— Што вы, Вера Андрэеўна?..— кінулася да яе Тамара.— Не трэба плакаць... Што вы...— яна апусцілася на калені перад крэслам, у якім сядзела Вера Андрэеўна, узяла Валодзеву маці за руку. Яна хацела сказаць ёй, што будзе вельмі любіць Валодзю, што будзе вельмі любіць яе.

Але Вера Андрэеўна з сілаю вырвала ў Тамары руку.

— Не дакранайцеся да мяне,— крыкнула Вера Андрэеўна.— Я не хачу вас бачыць!

Тамара асталася стаяць перад крэслам. Да яе не адразу дайшоў сэнс таго, што сказала Вера Андрэеўна.

— Мама! — крыкнуў Валодзя.— Што ты гаворыш! Як табе не сорамна!

— Яшчэ мне сорамна?!. Ён яшчэ мяне сароміць! Не будзе гэтага! Не будзе! Чуеш? Я не дазволю!

Тамара нарэшце падхапілася, адбегла ад Веры Андрэеўны. Яна стаяла пасярод пакоя белая, як сцяна, знямелая. Валодзя падбег да яе, узяў за руку.

— Вы старэйшая за яго, як вам не сорамна! — крычала Вера Андрэеўна Тамары.— У вас ужо быў муж... У вас дзіця! Вяртайцеся да свайго мужа! Не вяжыцеся да хлопцаў!

— Сціхні! — крыкнуў маце ры Валодзя.— Перастань!

Але Вера Андрэеўна лемантавала. Тамара вырвала ў Валодзі руку, схапіла паліто, шапку і кінулася ў дзверы.

Валодзя пабег за ёю. Ён адбіраў у яе паліто.

— Нікуды ты не пойдзеш... Я не пушчу цябе,— гаварыў ён.

Але Тамара не слухалася яго.

— Не трэба, Валодзечка, не трэба, пусці мяне,— гаварыла яна. Дрыготкімі рукамі націскала яна на замок, імкнучыся адчыніць дзверы.

— О-ой! — пачуўся раптам у пакоі крык Веры Андрэеўны.
Валодзя кінуўся ў пакой. Вера Андрэеўна ляжала на канапе з шырока расплюшчанымі вачыма і лавіла ротам паветра.
— Мама, мама!.. — трос Валодзя яе за плечы.
Ён пачуў, як бразнулі дзверы. Гэта Тамара выбегла з кватэры. Валодзя хацеў кінуцца за ёю, але Вера Андрэеўна зноў застагнала.
— Дуня! Дуня! — паклікаў Валодзя.
— Што тут? — з'явілася Дуня.
— Вось паглядзі,— паказаў ёй Валодзя на маці.— Вады прынясі ёй.
А сам кінуўся ў дзверы, пабег уніз па лесвіцы. Калі ён выскачыў з дому, Тамара ўжо бегла цераз вуліцу проста пад аўтобус, які нёсся ёй насустрач.
Валодзя кінуўся за ёю, але паток машын перагарадзіў яму дарогу. Тамара раптам знікла. Напэўна, села ў тралейбус, які толькі што адышоў з таго боку вуліцы.
Некалькі хвілін Валодзя, без паліто, без шапкі, стаяў на вуліцы, пазіраючы ўслед тралейбусу. Пасля павярнуўся і паволі пайшоў дахаты.

## 16

Рыгор амаль на памяць ведаў сваю дысертацыю, бо некалькі разоў перапісваў яе і перачытваў. Работа выглядала салідная: усё ў ёй было пераканаўчае і па-навуковаму важкае.
Цяпер, пасля размовы з Тарасевічам, Рыгор узяў дысертацыю, каб перачытаць яе яшчэ раз. І дзіўна. Цяпер чытанне не прыносіла яму аніякага задавальнення. Ён гартаў старонкі і крывіўся, моршчыўся, як ад зубнога болю. Чытаў некаторыя абзацы і з прыкрасцю круціў галавою. Як жа раней ён гэтага не бачыў, не адчуваў?
Рыгор сядзеў над разгорнутай дысертацыяй і з прыкрасцю глядзеў на акуратна перадрукаваную старонку.
Яму пазванілі з друкарні, каб прыйшоў па гранкі рэферата. І наогул там ёсць да яго нейкія пытанні.
Кола круцілася. Дзень абароны дысертацыі набліжаўся, нягледзячы ні на што.
Рыгор пайшоў у друкарню. У вытворчым аддзеле, за даволі абшарпанымі, пачарнелымі і ад часу і ад друкарскай фарбы столікамі, сядзела некалькі жанчын. Ён падышоў да бялявай, з сівізной, з сінімі нарукаўнікамі на жоўтай вязанай кофце. Ёй ён здаваў рукапіс рэферата.
Жанчына адразу пазнала яго, усміхнулася, паспяшалася закончыць размову з нейкім заказчыкам — поўным мужчынам у доўгім драпавым паліто.
Заказчык нарэшце пайшоў.
— Пасядзіце, калі ласка, хвіліначку,— папрасіла жанчына Рыгора.— Я збегаю ў цэх, прынясу вашы гранкі.
Ад уважлівасці, з якой сустрэла яго жанчына, ад таго, як таропка пабегла яна па яго рэферат, Рыгору зрабілася няёмка. Ён сядзеў, адчуваючы на сабе цікаўныя позіркі жанчын. Як-ніяк, для іх ён быў прадстаўніком іншага свету, вучоным, амаль кандыдатам навук. І Рыгору здавалася, што ён нечым гэтых жанчын ашуквае.
Ён чуў, як за фанернаю перагародкаю стукалі машыны. Ён думаў, што недзе там, у цэху, і яго рэферат. Яго набіралі наборшчыкі, пасля будуць друкаваць друкары. І ад гэтага Рыгору таксама рабілася няёмка.
З цэха вярнулася жанчына і прынесла яго рэферат. З ёй прыйшоў сівы рабочы з глыбокімі зморшчынамі на твары, у чорным халаце. У руках ён трымаў гранкі.
— Я да вас. У мяне тут пытанне,— сказаў ён Рыгору.— Спачатку сам хацеў зрабіць, а пасля падумаў, што, можа, вам гэта важна... Вось, паглядзіце,— расклаў ён на стале гранкі.— Як раздзелы будзем даваць, у падбор ці са спуска?
Ён гартаў гранкі чорнымі ад друкарскай фарбы, прыпухлымі на суставах пальцамі, стаяў, пазіраючы то на гранкі, то на Рыгора, чакаючы яго адказу.
— Усё роўна... Усё роўна,—махнуў рукою Рыгор.
— Дык можна ў падбор?— перапытаў вярстальшчык.
— Можна.
— А можа лепш усё-такі са спуска? Прыгажэй будзе,— разважаў рабочы.
— Як хочаце... Як вам лепш...
Жанчына падала Рыгору другі экземпляр гранак.
— Прачытайце, калі ласка,— сказала яна.— Толькі вельмі не затрымлівайце. Ды гэта і ў вашых інтарэсах,— па-змоўніцку дадала яна.
Рыгор запхнуў гранкі рэферата ў кішэню паліто. Выйшаў на вуліцу.
Прахожых было мала, і яго крокі гулка аддаваліся вакол. Чаравікі моцна стукалі па настылым асфальце. Церусіў дробны снег, але вецер не даваў яму ўлегчыся, змятаў на абочыны вуліц, зганяў з тратуараў.
Не так даўно Рыгор вельмі чакаў, калі аўтарэферат надрукуюць. Гэта ж была б амаль кніжачка з яго прозвішчам на вокладцы. Рыгор памятае, як радаваўся, калі надрукаваў у часопісе невялічкі раздзел са сваёй дысертацыі. Ён купіў тады некалькі экземпляраў часопіса і часта адгортваў яго на той старонцы, дзе быў артыкул.
А цяпер радасці няма зусім.
Ён выйшаў на другую вуліцу — людную, шумную. На скрыжаванні доўга стаяў, прапускаючы паток машын. Двое хлапчукоў са школьнымі сумкамі перабягалі вуліцу, лавіруючы паміж аўтобусаў, тралейбусаў, легкавых машын. А на тратуары ўжо стаяў высокі міліцыянер з рыжымі вусамі і чакаў, пакуль хлопчыкі перабягуць вуліцу, каб зрабіць ім вымову.
— Бягуць... спяшаюцца... часу ім няма...— бурчала жанчына ў шэрай хустцы, якая стаяла каля Рыгора, чакаючы, пакуль пройдуць машыны.
Рыгор перасек вуліцу. Ішоў паўз высокія светлыя будынкі з вялікімі шклянымі вітрынамі, у якіх ужо стаялі прыбраныя навагоднія ёлкі. А насустрач яму спяшаўся шумны людскі паток.
«У чым праўда Тарасевіча, дык гэта ў тым, што не жыццё кіравала маёй дысертацыяй,—думаў Рыгор.— Я не вывучаў завода, не шукаў таго, да чаго магу прыкласці рукі. На завод я глядзеў як на месца, дзе магу сабраць матэрыял для сваёй дысертацыі. Я вывучаў дакументы і думаў: вось гэта для маёй дысертацыі падыходзіць, а гэта — не. А тое, што не падыходзіла, я адкідаў».
Зноў запозненым дакорам прыплыў успамін аб станках на складзе завода.
«Але знайшоў ён у маёй дысертацыі і патрэбную крупінку... Зацікаўленасць прадпрыемства ў якасці прадукцыі, якую яно выпускае... Праблема плана любой цаною...»
Вядома, з сабекоштам, з планаваннем у нас яшчэ многа супярэчнасцей. Паляпшае, напрыклад, завод якасць машын — кошт новай прадукцыі ўзрастае на адзін, на два працэнты. А згодна сучасных планавых паказчыкаў гэта — адзнака кепскай работы прадпрыемства. А завод жа павялічвае рэсурс машыны. Яна лепш і даўжэй будзе служыць. Хіба не

гэта самае галоўнае? У нашай краіне штогод на рамонт машын ідзе каля чатырнаццаці мільярдаў рублёў. На рамонт кожнай машыны часам траціцца ў пяць, шэсць, а то і ў дваццаць разоў больш, чым яна каштуе.

Вось і прыходзіць у супярэчнасць сабекошт прадукцыі і яе рэсурс, перад заводам устае праблема — ці сабекошт прадукцыі зніжаць, ці рэсурс павялічваць.

План па колькасці прадукцыі, гэта не той паказчык, які вызначае сапраўдную дзейнасць прадпрыемства. Колькасць яшчэ трэба множыць на рэсурс. На якасць машыны.

Вядома, на нашых заводах эканамістам вельмі шмат работы, і тут Тарасевіч мае рацыю. Трэба нешта рабіць, каб спыніць цякучасць кадраў. Гэта таксама вораг нашай прамысловасці. Тут з зарплатаю трэба нешта памазгаваць. І, вядома, эксперыментаваць. Без эксперыментаў нічога не зробіш.

Рыгор заўважыў сам сабе, што раней ён так не думаў. Яго скоўвала тэма дысертацыі.

«А гэта хіба не да тэмы?—пытаўся ён цяпер сам у сябе.— Хіба ўсё гэта не шляхі павышэння прадукцыйнасці працы?» Але чаму раней мне так не думалася? Здавалася, што ўсё гэта хутчэй тэмы для артыкулаў, для фельетонаў, а не для кандыдацкай дысертацыі.

О, каб цяпер яму пачынаць работу, а не тры гады таму назад! Каб такі Тарасевіч яму тры гады таму назад трапіўся... Каб ён быў яго кіраўніком. Але нічога. Цяпер ён многія пытанні зможа падняць у планавай рабоце інстытута. Яму трэба сур'ёзна заняцца матэматыкай. Увайсці ў кантакт з тэхнолагамі, з інжынерамі. Цяпер эканоміка без гэтага рухацца не можа.

Рыгору захацелася на завод. Сам не заўважыў, як паскорыў крок. Даўно не быў там. Матэрыялы ён збіраў на некалькіх заводах, але бліжэй за ўсё яму быў адзін з машынабудаўнічых. Ён там амаль пасябраваў з загадчыкам планавага аддзела Паўлам Кірылавічам Лобанам, пажылым ужо чалавекам.

У Паўла Кірылавіча, з яго гладка паголенаю і круглаю, як гарбуз, галавою, з добрымі вачыма пад амаль бязбровым ілбом, было нешта ад вялікага дзіцяці. Ён захапляўся ўсім новым, што з'яўлялася ў тэхніцы. Шкадаваў, што не можа праводзіць сваіх падлікаў на вылічальных машынах. Марыў аб прымяненні кібернетыкі ў эканоміцы. У яго было многа планаў, якія, яму здавалася, каб здзейсніліся, зрабілі б пераварот у вытворчасці. Але да яго планаў дырэкцыя ставілася даволі скептычна. Ад Лобана патрабавалі розныя даведкі, дакладныя запіскі, справаздачы. Цякучка заядала яго. Ён бегаў па заводзе з папкамі ў руках то да дырэктара, то ў канструктарскае бюро, то ў бухгалтэрыю. Пасля, зашыўшыся ў паперы, лічыў, пералічваў, круціў ручку арыфмометра.

У кароткіх перапынках пытаўся ў Рыгора:

— Што казаў Ленін, ведаеце?

Рыгор паціскаў плячыма, не ведаючы, якое выказванне Леніна ўспомніў цяпер Лобан.

— Ленін казаў: вучыцеся лічыць! Во! — узнімаў Лобан указальны палец.

— А што сказаў Маякоўскі? Таксама не ведаеце?— праз некаторы час зноў пытаўся ён.— Маякоўскі сказаў:

Сжимай экономией каждый пятак.
Траты учись стричь —
Так хозяйничать звал
Ильич! —



А вы кажаце — эканоміка,— шматзначна канчаў ён і зноў пачынаў круціць ручку арыфмометра.

Лобан вельмі прыхільна ставіўся да Рыгора, раскрываў перад ім усю сваю гаспадарку.

Рыгор ужо быў каля корпуса, дзе знаходзілася бюро пропускоў. А вось і знаёмы пакой з акенцам, як у касе кінатэатра, з тэлефонам каля акенца. Рыгор чакаў, пакуль пазвоніць дзяўчына ў зялёным фетравым капялюшыку. Яна набірала нумар. Нумар быў заняты, і дзяўчына вешала трубку, чакала якую хвіліну і зноў круціла тэлефонны дыск.

Нарэшце павесіла трубку, адышла ад тэлефона. Рыгор набраў патрэбны нумар.

— Павел Кірылавіч!— пазнаў ён голас Лобана.— Добры дзень. Прайсці да вас хачу... Закажыце мне, калі ласка, пропуск.

Лобан не адразу пазнаў Рыгора, і прыйшлося назваць прозвішча. Адчуў, як адразу пацяплеў Лобанаў голас.

— Калі ласка, калі ласка. Рад бачыць вас. Прыходзьце,— гаварыў ён.

І вось Рыгор з пропускам у руках ідзе па тэрыторыі завода. Ішоў зборачным цэхам, дзе пахла металам, машынным маслам. Чытаў плакаты: «Наша будучыня — камунізм. Кожны з нас з'яўляецца яго будаўніком!». «Датэрмінова выканаем план года!»

Спыніўся каля насценнай газеты. Пад карыкатурай, на якой быў намаляваны дзябёлы хлопец і каля яго малы, худзенькі юнак, стаяў подпіс: «Адгукнуўся на заклік». Малы юнак пытаўся ў вялікага:

— Чаму ўчора не быў на рабоце?

— Эканоміў энергію,— адказваў дзябёлы хлопец.

А вось гэты зварот яўна да эканамістаў завода. Мясцовы паэт пісаў:

Норма, выпрацоўка, планы
Пад ахову вам аддадзены.
Вы памылкі заўважайце
Ды бязлітасна знішчайце,
Лягчэй будзе працаваць,
Вас мы будзем услаўляць.

Рыгор усміхнуўся. Пайшоў. А вось і знаёмыя дзверы з надпісам: «Планавы аддзел».

Лобан устаў яму насустрач з-за свайго стала.

— Рады, вельмі рады вас бачыць,—ляпаў ён Рыгора па плячы.— Ну, як справы? Яшчэ не абаранілі дысертацыі? А я думаў, што вы ўжо кандыдат. Ну, ды нічога. Мусіць, абарона ўжо не за гарамі. Сядайце, дарагі, сядайце,— падстаўляў ён Рыгору крэсла.

Рыгора нават расчуліў такі прыём Лобана. Ён азіраў пакойчык, дзе некалі сам праседзеў некалькі дзён. Нічога тут не змянілася, усё, як і было. Дзяўчаты-планавікі за столікамі, з арыфмометрамі і лічыльнікамі пад рукамі. І сам Павел Кірылавіч такі самы — з пачырванелымі павекамі, са стомленым тварам, у сваім сінім касцюме з чорнымі нарукаўнікамі. Толькі і касцюм і лысіна сталі, здаецца, трохі больш блішчаць.

— Ну, расказвайце, як жывяце, працуеце?—пазіраў Павел Кірылавіч на Рыгора добрымі вачыма.

Рыгору не вельмі хацелася расказваць пра сябе.

— А ў вас што... Што новенькае?—спытаў ён у Лобана.

— У мяне?.. Ды шмат чаго новага, пра ўсё адразу не раскажаш. Але пакуль запароўся з адным пытаннем. Зніжэння сабекошту прадукцыі дабіваемся, а тут раптам выявілася, што фактычны сабекошт тоны ліцця ў нас з году ў год павышаецца. Разумееце, якая недарэчнасць?.. Гэта ўсё,

канечне, за кошт дапаможных матэрыялаў, ад замены адных матэрыялаў другімі, больш дарагімі. Дык вось, трэба ўсё прааналізаваць ды прымаць меры. Задача перад усім аддзелам...

Рыгор пазіраў на стос папер, якія ляжалі на Лобанавым стале. Узяў адну папку.

— Гэта не ліцейны цэх, — махнуў рукою Лобан. — Гэта матэрыялы для справаздачы. Чыстапісання, як і раней, вельмі многа. Вунь, справаздачу зноў на дзвесце старонак скласці трэба. Падумаць няма калі. А цяпер так шмат важных пытанняў узнімаецца. Сочыце за перыёдыкай? Цікава, праўда? Нарэшце за эканоміку ўзяліся. Даўно пара. Памятаеце, што гаварыў Ленін? Не памятаеце? Ленін гаварыў, што нават пры пераходзе ад капіталізму да сацыялізма палітычныя ідэі займаюць падпарадкаванае месца ў адносінах да задач эканамічных. Калі гэта тады было так, то што казаць пра сённяшні дзень, калі ідзём да камунізма.

Павел Кірылавіч пачаў выкладаць Рыгору свае думкі, свае меркаванні.

Ён згаджаўся і спрачаўся з артыкуламі, якія апошні час з'явіліся ў друку, развіваў свае планы. Рыгор не заўважыў, як і сам уцягнуўся ў гэту размову. Адчуваў, што загараецца ад некаторых думак, што яны цягнуць за сабою іншыя, раскрываюць перад ім нейкія гарызонты. Сам не заўважыў, як узброіўся самапіскаю, і разам з Паўлам Кірылавічам яны лічылі, множылі і дзялілі, браліся за ручку арыфмометра.

— Вось, бачыце, што выходзіць,— паказваў Павел Кірылавіч на доўгую, шматзначную лічбу.— Гэта эканомія ад аўтаматызацыі толькі аднаго працэсу. Але ажыццявіць яго складана. Сродкі вялікія патрэбны.

Яны і не заўважылі, як прыйшоў канец рабочага дня. Убачылі толькі, што дзяўчаты апранаюцца, збіраюцца дахаты.

— Затрымаў я вас,— вінавата сказаў Павел Кірылавіч.

— Не, што вы, я вельмі рады, што зайшоў,— Рыгор паціснўў на развітанне руку Лобану.— Я цяпер зноў буду сюды прыходзіць,— дадаў ён.— У мяне ж планавая работа.

І ўжо развітаўшыся, спыніўся ў дзвярах, спытаў у Лобана:

— Скажыце, а што з тымі станкамі?.. Памятаеце, на складзе ляжалі. Адправілі іх куды ўжо?

— Ох, і не пытайцеся,—махнуў Лобан рукою.— Вялікія непрыемнасці ў нас былі. Дырэктару далі вымову... Станкі забралі... Але так яму і трэба,— загарэўся стары.— Навошта трымаў абсталяванне? Я яму колькі разоў казаў, што трэба здаць. Дык не. Вочы завідушчыя.

Рыгор ішоў дахаты ўзбуджаны, хоць, здаецца, не здарылася нічога такога, што магло б палепшыць яго настрой. І ўсё ж такі яму здавалася, што сённяшні дзень ён пражыў не дарма, што ён, гэты сённяшні дзень, быў вельмі яму патрэбны.

## 17

— Ну, віншую вас, віншую. Вы нарадзіліся ў сарочцы,— гаварыў Рыгору Рымар. Ён узяў Рыгора пад руку, павёў да акна, што было ў канцы калідора.— Ваш Тарасевіч паехаў у камандзіроўку за мяжу. Вам прызначылі новага апанента. Прыходзьце сёння вечарам да мяне. Я вас з ім пазнаёмлю.

Рымар сказаў гэта скоранька, напаўголас і паспяшаўся ў свой кабінет, на хаду кінуўшы Рыгору:

— Дык зайдзіце сёння вечарам.



Рыгор астаўся стаяць каля акна. Яго ногі нібы прыраслі да падлогі. Думкі ліхаманкава закруціліся ў галаве.

«Чаму ж так нечакана паехаў Тарасевіч, і хто будзе новым апанентам?— думаў Рыгор.— Можа, Тарасевіч сам адумаўся, што з маёй дысертацыяй перагнуў палку, і з'ехаў. Наўмысля... А якая думка новага апанента?.. Чаму ён прыйдзе да Рымара?.. Няўжо гэта Рымар усё падстроіў?»

Рыгор не ведаў, радавацца яму ці не. Прыліву радасці ён пакуль не адчуваў.

«Ты ж нядаўна сам быў згодзен з Тарасевічам, што твая дысертацыя не такая, як трэба»,— гаварыў ён сам сабе.

Рыгор са злосцю кінуў папяросу. Павярнуўся тварам да акна.

Насупраць пачыналі ўзводзіць новы будынак. Аж сюды далятала вуркатанне экскаватара. На плошчы, абгароджанай плотам са свежых жоўтых дошак, ішла работа. Адна за другой пад'язджалі машыны, вывозілі зямлю. Другія машыны падвозілі блокі. Рабочыя адсюль выглядалі маленькімі, і не верылася, што гэта якраз на тым месцы, дзе цяпер пакуль адна разварочаная зямля, пабудуюць вялікі і прыгожы будынак, як тыя, што ўжо стаяць вакол інстытута, і, здаецца, заўсёды там і былі.

Рыгор пазайздросціў рабочым. Яны ведаюць, што робяць, і адразу ў іх відаць, што добра, а што дрэнна. А яму думай цяпер, ці не дарэмна ён паверыў Тарасевічу. Калі Рымар так змагаецца за яго, то, можа, у гэтай дысертацыі і ёсць што-небудзь карыснае. Сам ён ужо, здаецца, не мог адрозніць, дзе чорнае і дзе белае.

Ён вярнуўся ў свой кабінет. Новікава не было. Валя Івашына чытала газету.

— Здорава ён яго,— сказала яна Рыгору.— Вы чыталі?— паказала Валя Рыгору падвал у газеце.

— Не, а што там?

— Вось, пачытайце.

Рыгор узяў газету.

«У палоне навуковасці» — прачытаў ён набраны тлустым шрыфтам загаловак падвальнага артыкула. Унізе стаяў подпіс: «Б. Новікаў, малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута эканомікі».

З першых радкоў Рыгор зразумеў, што гэта рэцэнзія на кнігу Кавалеўскага. Рэцэнзія была цалкам адмоўная. Кніга Кавалеўскага называлася бездапаможнаю, рэцэнзент кідаў папрок выдавецтву, што такая кніга магла з'явіцца на свет.

Рыгор прачытаў рэцэнзію раз. Другі раз.

— Ну як, здорава, праўда? — спыталася Валя. Па ёй было відаць, што сама яна ў захапленні ад артыкула Новікава.

— Я згодны з Новікавым,— адказаў Рыгор.

Сапраўды, ён быў не толькі згодны, але і ўдзячны Новікаву. Цікава, ці чытаў ужо артыкул Рымар? Больш ён не будзе насядаць на Рыгора з рэцэнзіяй. А Рымар настойлівы, пры кожнай сустрэчы напамінаў Рыгору пра гэту кнігу. З'яўленне артыкула Новікава давала Рыгору магчымасць лёгка, без асаблівых тлумачэнняў, адмовіцца ад напісання рэцэнзіі і больш не вяртацца да гэтага пытання. Дарэчы, калі ён сёння пойдзе да Рымара, то возьме з сабою кнігу. Аддасць яе.

У Рыгора на сённяшні дзень былі свае планы. Ён збіраўся паехаць да Лобана, на завод. Але пасля таго, што сказаў Рымар, зразумеў, што на некаторы час прыйдзецца адкласці паходы на завод. Трэба брацца за падрыхтоўку да абароны. Пісаць уступнае слова. Апошні час у яго не было настрою, і ён нават не дакрануўся да гэтай работы.

Рыгор дастаў экземпляр дысертацыі, паклаў перад сабою. Адчуў, як

непрыемна засмактала пад лыжачкай — гэта толькі ад таго, што глянуў на дысертацыю.

Адгарнуў першую старонку. Прачытаў першы сказ з экскурсу ў гісторыю, з вызначэння ўзроўню, на якім была гаспадарка Расіі да 1913 года. Зморшчыўся. Успомніў, як крытыкаваў гэты раздзел Тарасевіч. Паклаў ручку. Не, ніяк не хацелася брацца за ўступнае слова.

«А Лобан недзе будзе чакаць... Я ж абяцаў яму сёння прыехаць...».

Рыгор не раз заўважаў, што калі не хоча рабіць якой-небудзь работы, то ў яго абавязкова знойдзецца прычына, каб-такі адкласці яе. Знойдзе некалькі довадаў для таго, каб пачаць тую работу, якую рабіць хочацца.

«Не, няёмка,— думаў Рыгор.—Чалавек чакаць будзе. Паеду на завод. А з гэтым уступным словам — паспею. У крайнім выпадку, можна аўтарэферат прачытаць».

І ён паехаў да Лобана.

18

Кароткія дні ў канцы снежня. Гадзіннік на гарадской вежы паказвае толькі палову сёмай, а на вуліцы даўно цёмна. Над магазінамі, кафэ гараць featureзнакаляровыя надпісы. На даху пяціпавярховага будынка вялікімі чырвонымі літарамі выведзена: «Падпісвайцеся на газеты і часопісы». З другога боку вуліцы на такім самым доме чытаецца: «Карыстайцеся паслугамі Аэрафлоту! Суткі цягніком — гадзіна самалётам!»

Рознакаляровымі агнямі свеціцца фасад кінатэатра. Каля яго многа людзей. На праспекце, ужо крыху пабеленым снегам, таксама мнагалюдна. Заходзяць і выходзяць з магазінаў людзі. Спяшаецца на танцы, на канцэрты моладзь. Дзяўчаты з загорнутымі ў паперу туфлямі на высокіх абцасах. Не пойдзеш жа ў такіх па снезе.

Рыгор ішоў сярод вячэрняга гарадскога натоўпу і думаў, што вось і ён з Галяю так даўно не быў у тэатры. Ды што ў тэатры? У кіно не памятае, калі апошні раз хадзілі. Усё работа. Усё занятыя. І ён і яна. Кепска гэта. Трэба знаходзіць час і для адпачынку. Але нічога. Хай міне абарона. Тады Рыгор адразу пачне новае жыццё. Сур'ёзна возьмецца за планавую тэму. Галя пакуль кіне работу. Будзе толькі вучыцца. Можа, дадуць кватэру. Тады ён прывёз бы з вёскі маці. Яна крыху памагала б Галі ў гаспадарцы. Глядзела б Алёнку. Усё ж такі гэты быт... Гэты звычайны быт ой як многа значыць! Для работы. Для настрою.

А можа, усё будзе добра з яго дысертацыяй. Цяпер Рыгор быў упэўнены, што Тарасевіч пагарачыўся, што такія работы, як яго, таксама патрэбны. Як аванс... Як апора на будучае. Інакш не займеў бы ён яшчэ аднаго прыхільніка сваёй дысертацыі. А так знайшоў жа Рымар яшчэ аднаго апанента.

З гэтымі думкамі Рыгор пазваніў у дзверы Рымаравай кватэры. Адчыніў сам гаспадар. Крыху ўзбуджаны, нібы прыход Рыгора перабіў яго ў час цікавай гаворкі.

— Люпус ін фабуліс, так сказаць,— усміхаўся яму Рымар.— А мы толькі што пра вас гаварылі.

Ён таропка пайшоў наперад, запрашаючы за сабой Рыгора.

Рыгор увайшоў у знаёмы ўжо яму пакой. Тут ярка гарэла электрычнасць. Зверху праменіла святло вялікая крыштальная люстра. Каля крэсла гарэў таршэр з зялёным абажурам. Ярка свяціўся экран тэлевізара. Паказвалася нейкая пастаноўка. Але яе ніхто не глядзеў. Толькі на ўсю кватэру гучалі галасы акцёраў. На стале стаялі графіны з віном, з гарэлкаю, закуска.



— Відаць, я не ў час трапіў,— сказаў Рыгор, кідаючы позірк на мажнога чалавека, які сядзеў за сталом і бразгаў відэльцам па сваёй талерцы.

— Наадварот. Вельмі ў час... Мы тут, праўда, крышку прыкладаліся, але можам усё пачаць спачатку.

Вера Андрэеўна ў сваім шаўковым халаце і з шаўковаю ўсмешкаю ўжо ставіла на стол чыстую талерку, клала каля яе нож і відэлец.

— Вось, знаёмцеся,— паказаў Рымар на мажнога чалавека.

Мужчына перастаў барабаніць відэльцам па талерцы, устаў. Ён быў высокі і тоўсты. Кучаравыя чорныя валасы на скронях былі крануты сівізною. Ён выйшаў з-за стала, падаў вялікую, як рыдлёўка, руку Рыгору.

— Кавалеўскі,— сказаў ён нізкім, як з бочкі, галасам.

Рыгор сумеўся і нават сам адчуў, як тарганулася яго рука ў руцэ Кавалеўскага. Ён здзіўлена пазіраў на мужчыну, не адважваючыся спытаць, ці той самы гэта Кавалеўскі, ці, можа, які другі?

— Іван Дзям'янавіч,— бачачы Рыгораву збянтэжанасць і адказваючы на яго нямое запытанне, дадаў Кавалеўскі.

Рыгор успомніў ініцыялы на кніжцы. Гэта быў той самы Кавалеўскі.

«Нічога сабе — малады вучоны...» — прыгадаў Рыгор, як некалі рэкамендаваў яму Кавалеўскага Рымар.

А Кавалеўскі зверху, з вышыні свайго росту, нібы прыглядаўся да Рыгора, прыкідваў, чаго ён варты.

— Вось, Іван Дзям'янавіч будзе вашым апанентам,— сказаў Рымар.— Хоць ён і заняты вельмі і праездам тут, але згадзіўся, з добрых пачуццяў да мяне.

— Кха, кха...— кашлянуў Кавалеўскі, нібы пацвярджаючы словы Рымара.

А Рыгор падумаў пра кніжку Кавалеўскага, якая асталася ў прыхожай у яго паліто і якую ён збіраўся аддаць сёння Рымару.

— Дык, калі ласка, за стол,— запрасіў Рымар.

Насцярожаны, Рыгор сеў.

Рымар наліў чаркі.

— Дык за будучага кандыдата!— прапанаваў ён.

Рыгор бачыў, як перакуліў у рот чарку Кавалеўскі. У яго руцэ чарка выглядала, як напарстак.

— Іван Дзям'янавіч прачытаў ужо вашу дысертацыю,— сказаў Рымар, тыцкаючы відэльцам у агурок.

Рыгор глянуў на Кавалеўскага, але той жаваў, закусваў.

— Ну і як? Якое ваша ўражанне?— не вытрываў, спытаўся Рыгор.

— Абаронім,— не перастаючы жаваць, адказаў Кавалеўскі.

Рымар наліў яшчэ ў чаркі.

Рыгору не хацелася ні піць, ні есці. Ён толькі прыгубіў гарэлку. Рабіў выгляд, што закусваў, і непрыкметна разглядаў Кавалеўскага.

Рымар загаварыў з Кавалеўскім пра нейкіх знаёмых. Хто як жыве, дзе працуе. Кавалеўскі еў і адказваў, часам смяяўся.

Рыгор глядзеў на Кавалеўскага і дзівіўся. Яму здавалася, што чалавек, на кніжку якога напісалі такую рэцэнзію, як тая, што была ў сённяшняй газеце, павінен ляжаць хворы. Ён павінен пакутаваць, мучыцца. Яму б не павінен палезці кавалак у горла. А Кавалеўскі п'е, есць, смяецца. Нібы нічога не здарылася. Ці яны газеты не чыталі? — дзівіўся Рыгор.

— Стальмашонак у нас цяпер ого-го! Доктарскую дысертацыю абараніў. На ўласнай «Волзе» раз'язджае,— гаварыў Кавалеўскі.

— І калі ўжо ты абароніш доктарскую дысертацыю? — какетліва павярнулася Вера Андрэеўна да мужа.— Ці ў цябе пораху не хапае?

— У нас не так лёгка доктарскую дысертацыю абараніць,— шматзначна сказаў Рымар.— Наогул не ведаеш, з якога боку хто цябе падкусіць.

— Што праўда, то праўда,— згадзіўся Кавалеўскі.— Пісак у вас многа. Каб самім што зрабіць, дык не. А іншых крытыкуюць.

Ён перакуліў яшчэ чарку. Хрумстаў агурок. Закусваў.

Рыгор зразумеў, што за сталом, нарэшце, дакрануліся да балючай тэмы. Намякаюць на рэцэнзію ў сённяшняй газеце. Значыць, чыталі.

— Калі казаць праўду, то тут і наш калега крыху вінаваты,— кіўнуў на Рыгора Рымар.— Калі яшчэ даў яму тваю кніжку. Мог да гэтага часу напісаць рэцэнзію. Апярэдзіў бы Новікава.

На некалькі хвілін усе змоўклі. Толькі чуваць было, як хрумстаў агурком Кавалеўскі.

У Рымаравых словах быў яўны папрок. Мы, маўляў, да цябе вунь як, а ты не мог зрабіць такой дробязі...

Адчуўшы няёмкасць, нібы ён і сапраўды быў у нечым вінаваты, Рыгор пачаў апраўдвацца:

— Вы ж ведаеце... я быў заняты... І гэтыя непрыемнасці з дысертацыяй...

Ён ведаў, што гаворыць няпраўду, што не таму ён не напісаў рэцэнзіі, але нешта звязвала яго, не дазваляла сказаць таго, што думаў. Можа, ён спадзяваўся, што на гэтым размова аб рэцэнзіі скончыцца.

— Разумею, разумею,— спачувальна сказаў Рымар.— Але нічога. Яшчэ не позна ўсё паправіць. Асабліва цяпер, калі з дысертацыяй ужо ўсё ў парадку.

Намёк Рымара быў зусім недвухсэнсоўны, і Рыгору здалося, што ён адчуў, проста ўбачыў побач з сабою пастку.

Кавалеўскі хрумстаў агуркі, нібы размова за сталом яго не датычылася.

— Трэба як мага хутчэй даць на кнігу Івана Дзям'янавіча станоўчую рэцэнзію. Трэба з Новікавым у палеміку ўступіць. У яго, маўляў, свая думка, у вас — свая,— гаварыў Рымар.

Рыгор адчуваў, што пастка набліжаецца да яго. Што яму трэба ўстаць і пайсці адсюль, інакш будзе позна, але ён не мог скрануцца з месца.

— Але... ці зручна гэта будзе... Іван Дзям'янавіч мой апанент, а я буду выступаць з рэцэнзіяй на яго кнігу,— гаварыў Рыгор.

— Глупства. Пра тое, што Кавалеўскі ваш апанент, будзе ведаць вельмі малое кола людзей. Ва ўсякім разе, чытачам газеты гэта будзе невядома, так сказаць...

Рыгор пачынаў адчуваць, як у яго закіпае злосць. «Злавілі,— думаў ён.— Цяпер я ва ўсім ад іх залежу».

— Несправядліва,— загаварыў, нарэшце, як у бочку, Кавалеўскі.— Адны працуюць, а іншыя аплёўваюць тое, што нехта робіць. Пляваць, вядома, лягчэй.— У тоне Кавалеўскага пачуліся жаласныя ноткі.

— Нічога, не хвалюйцеся,— супакойваў Кавалеўскага Рымар.— Усё будзе добра.

Ён зноў наліў чарку Кавалеўскага.

Рыгор быў вельмі злосны на сябе. Які ён, аказваецца, дурны, наіўны. Адганяў ад сябе падазрэнні, не хацеў верыць, што Рымар нездарма даў яму кніжку Кавалеўскага. Канечне, Рымар нечым звязаны з Кавалеўскім, а цяпер хоча звязаць і яго. Тарасевіч не адмаўляўся ад сваёй думкі пра дысертацыю. Новага апанента, як і абяцаў, знайшоў Рымар.





— Колькі я дабра зрабіў людзям. Колькі дысертацый паабаранялі. Ратаваў, можна сказаць. Выводзіў з безнадзейнага стану... Паабаранялі б яны без мяне... без маёй дапамогі. А вось каб мне хто зрабіў дабро, дык ого!.. Дачакаешся...— жаліўся Кавалеўскі. І вельмі не пасавала да яго мажной фігуры гэтая жаласлівасць, гэтая крыўда.

Рыгор раптам заўважыў, што Кавалеўскі п'яны. Кучаравая пасма ўпала на мокры лоб і прыклеілася да яго. І ўвесь твар у Кавалеўскага быў мокры, тлусты. Рыгор адвёў ад Кавалеўскага вочы. Ён быў яму агідны.

Хоць Рыгор і зусім мала выпіў, яму здавалася, што ён таксама п'яны. У галаве ў яго шумела, крыху нудзіла.

— Чаго ты не п'еш? — нахіліўся да яго Рымар. Ён ужо казаў Рыгору «ты». Дзіва!.. Свой хлопец. Ён наліваў у Рыгораву чарку, падсоўваў бліжэй да яго закуску.

— Не, дзякуй... Я не хачу... Дзякуй,— хрыплым голасам гаварыў Рыгор. Яму хацелася ўстаць, пайсці ў прыхожую, узяць кніжку Кавалеўскага, кінуць яму ў твар і сказаць: «Не хачу! Не буду! Не хачу так у кандыдаты прабівацца!» — але ён сядзеў, як прыкуты да крэсла.

Раптам дзверы ў пакой з шумам адчыніліся. Усе азірнуліся. У дзвярах стаяў Валодзя. Ён быў без пінжака. Бледны. Вочы яго са злосцю ўзіраліся ў твар маці.

— Дзе мой пашпарт? — ледзь стрымліваючы сябе, спытаў Валодзя.

— Які пашпарт? — робячы вялікія вочы, спытала Вера Андрэеўна, але Рыгор заўважыў, што і яна збялела.

— Мой пашпарт. Мой... Што, схавалі? — ужо не стрымліваючы сябе, узняў голас Валодзя.

Ён зрабіў некалькі шырокіх крокаў да серванта. З шумам адчыніў шуфлядку, пачаў перакідаць усё, што ў ёй ляжала, выцягнуў газету, якой было засцелена дно. Пасля адчыніў другую шуфлядку, трэцюю. На падлогу паляцелі насавыя хустачкі, кашулі.

— Дзе мой пашпарт? — прыгаворваў Валодзя.— Я перавярну ўсю хату, але знайду яго.

— Што ты робіш,— кінулася да яго нарэшце Вера Андрэеўна.— Як табе не сорамна! Пры чужых людзях!

— Мне не сорамна! Хай будзе сорамна вам,— кіпеў Валодзя.

— Няма тут твайго пашпарта... Няма...— падбірала Вера Андрэеўна з падлогі рэчы, якія параскідаў Валодзя, клала іх назад у шуфлядку, адпіхала Валодзю ад серванта.— Нехта яго пашпарт браў... Каму ён трэба... Сам згубіў недзе,— прыгаворвала яна.

Але Валодзя не слухаўся яе. Ён падбег да століка, на якім стаяў тэлевізар. Адчыніў дзверцы тумбачкі. Заміргаў, заскакаў экран, скрыўшы на міг твары акцёраў.

— Ты што гэта робіш! — устаў з-за стала Рымар.— Ён падышоў да сына, схапіў яго за руку.— А ну, зараз жа выйдзі адсюль.— Твар у Рымара быў чырвоны. Нават шыя і вушы пачырванелі. Ён тузаў Валодзю за руку, але не мог скрануць яго з месца.— Бач ты, жаніх, разышоўся. Нікому не патрэбен твой пашпарт. Дзе згубіў, там і шукай... Ты ўжо не толькі пашпарт, але і галаву згубіў...

Рыгор зразумеў усё. Яму Галя расказвала, што бацькі не дазваляюць Валодзю жаніцца з Тамарай.

А Валодзя не сунімаўся. На падлогу паляцелі нейкія вышыўкі, узоры. Рыгор бездапаможна азірнуўся. Убачыў, што Кавалеўскі з п'янаю ўсмешкаю пазірае, як валтузяцца каля тэлевізара з Валодзем бацькі. Глядзеў, нібы на спектакль, нібы ўсё гэта адбывалася не ў хаце, а на экране.

«Пайсці адсюль... зараз жа...» — вырашыў Рыгор.

— Прабачце, я пайду,— устаў ён з крэсла.

Рымар заўважыў, што Рыгор падняўся, падбег да яго.

— Нічога, нічога, пасядзіце. Мы яго зараз уціхамірым,— піхаў ён Рыгора назад у крэсла.

— Не, я пайду,— важка сказаў Рыгор і пайшоў да дзвярэй.

Рымар паспяшаўся за ім.

Рыгор таропка апранаўся.

«Хутчэй... хутчэй адсюль... Каб толькі выскачыць з кватэры»,— думаў ён.

— Паслухайце,— азірнуўся раптам Рымар, пацягнуўся да Рыгорага вуха.— Вазьміце, вазьміце. Прашу вас... Вынесіце з хаты... Бо ён усё пераверне, але знойдзе... А пасля аддасцё... Праз некалькі дзён,— і ён піхаў, піхаў нешта Рыгору ў руку. Рыгор глянуў і адхапіў руку, як ад распаленага жалеза. Пашпарт! Дык вось дзе ён! Рымар піхаў яго Рыгору ў рукі. Напэўна, Валодзеў пашпарт...

— Што вы! — хаваў рукі Рыгор... Што вы... Не!

Ён паімкнуўся да дзвярэй. Схапіўся за замок. Круціў яго, але не ведаў, як адчыніць.

— Я прашу вас, вазьміце,— тыцкаў Рымар яму пашпарт.

— Не! Не!

Нарэшце замок адчыніўся. Рыгор выбег на лесвіцу. Заўважыў, як матлянулася за ім і постаць Рымара. Рыгор азірнуўся, не ведаў, чаго падаўся за ім Рымар. А той калупаўся каля паштовай скрынкі. Рыгор убачыў, як запіхаў у яе Рымар Валодзеў пашпарт.

Цераз прыступку пабег Рыгор з лесвіцы. Хацелася хутчэй пайсці адсюль, з гэтага дома.

І яшчэ было адчуванне, што ён павінен нешта зрабіць. Нешта зрабіць абавязкова.

Павольна падаў снег, укрываў усё вакол белым чыстым покрывам. Ад яго свяжэла паветра і дыхалася лягчэй. Але цяжар не спадаў з Рыгоравых грудзей. У памяці ўсплываў тлусты, п'яны твар Кавалеўскага. «Колькі людзям памагаў... Ратаваў дысертацыі з безнадзейнага стану...» «І мяне ён лічыць такім самым падапечным. І мяне можа выратаваць».

«Можна ўступіць у палеміку з Новікавым», «у яго свая думка, у вас — свая»,— праносіліся ў памяці абрыўкі з таго, што гаварылася за сталом.

«Яны не саромеліся мяне. Гаварылі адкрыта. Дзіва. А чаго ж ім мяне саромецца? І я ж такі самы... На ўсё гатовы, абы яны выцягнулі маю дысертацыю...»

Зноў адчуванне, што ён павінен нешта зрабіць, занепакоіла Рыгора. Насустрач яму, смеючыся, прабеглі дзяўчаты. Трымаючыся за рукі, прайшлі юнак і дзяўчына. Ён — у шапцы-аблавушцы, у куртачцы з шалевым каўнярам. Яна — у кароткім сінім палітончыку, у калматай шапцы. Ішлі і, здавалася, нічога і нікога перад сабою не бачылі.

Рыгора абагнаў хлапчук гадоў дванаццаці ў даўгаватым, навырост, палітончыку, са спартыўным чамаданчыкам у руцэ. Ён падкатваўся на слізкім тратуары, напяваючы:

А у нас во дворе
Есть девчонка одна...
Тра-та-та...

У зашклёнай тэлефоннай будцы стаялі дзве дзяўчынкі і нешта крычалі ў трубку.

Рыгор раптам спыніўся.

Ага... ён успомніў, ён ведае, што яму трэба зрабіць.

Палез у кішэню. Шукаў двухкапеечную манету. Не знайшоў. Азірнуўся. Ён стаяў каля ярка асветленай вітрыны гастранома. Зайшоў. Папрасіў у касіршы, каб разменяла грыўню. Зноў выйшаў на вуліцу. Тэлефонная будка была ўжо свабодная. Зайшоў. Шчыльна зачыніў за сабою дзверы. Набіраў нумар і чуў, як тахкала, нібы малаток, у грудзях сэрца.

— Гэта кватэра Рымара? — спытаўся ён, калі ў трубцы пачулася нецярплівае «ало».— Пазавіце, калі ласка, Валодзю.

У трубцы памаўчалі, пасля незадаволена кінулі:

— Зараз.

Далёка ў кватэры чуўся шум.

«Яшчэ ваююць»,— падумаў Рыгор.

Валодзя доўга не падыходзіў да тэлефона. Пасля пачуўся яго ўзбуджаны голас:

— Слухаю.

— Дык слухай, хлопец,— выразна вымаўляючы кожнае слова, пачаў гаварыць Рыгор.— Твой пашпарт ляжыць у паштовай скрынцы. На вашых дзвярах... Калі бацька не перахаваў да гэтага часу...

На тым канцы дрота не адказвалі. Ці зразумеў яго Валодзя? Нарэшце пачулася:

— Дзякуй... Вялікі дзякуй.

Рыгор павесіў трубку. Выйшаў з будкі тэлефона-аўтамата. Пастаяў хвіліну, удыхаючы свежае ад снегу паветра. Ён адчуў, што яму зрабілася крыху лягчэй. Не спяшаючыся, пайшоў дахаты.

## 19

Назаўтра Рымар спыніў Рыгора ў калідоры інстытута. Узяў пад локаць, загаварыў па-сяброўску, з ноткамі перапрашэння ў голасе.

— Учора трохі кепска атрымалася. Прымусіў вас быць сведкаю сямейнай баталіі. Але, як той казаў, «няма той хаткі, дзе б не было звадкі».

Ён гаварыў тонам, які павінен быў азначаць, што сам Рымар не надае вялікага значэння таму, што ўчора адбылося. Але па вачах, якія бегалі, уцякалі ад Рыгоравага позірку, Рыгор адчуў, што ў Рымара затаілася нешта накшталт трывогі. Рыгор не ведаў, ці здагадаўся Рымар, што гэта ён званіў учора па тэлефоне, не ведаў, выдаў яго Валодзя ці не. Ды, зрэшты, гэта было яму цяпер усё роўна, тым больш, што калі Рымар і ведаў пра тэлефонны званок, то рабіў выгляд, што нічога не ведае. Цяпер Рыгор, убачыўшы Рымара, адчуў, як закіпела ў ім варожасць, варухнуўся гнеў да гэтага чалавека, і ён ужо ведаў, што больш не будзе маўчаць. Ён не спаў усю ноч. Вечар, праведзены ў Рымара, дзе больш з ім не гулялі ў хованкі, цынізм Кавалеўскага, ды і Рымара, гісторыя з Валодзевым пашпартам, якая, здаецца, і не мела простых адносін да таго, чым жыў Рыгор апошнія дні, усё гэта, тым не менш, скаланула душу Рыгора. І цяпер ён адчуў, як усярэдзіне ў яго ўсё загараецца, пачынае бунтавацца.

Асцярожна павёўшы плечуком, Рыгор выслабаніў свой локаць з рукі Рымара.

— Ведаеце што... Давайце зойдзем у ваш кабінет... Там нікога няма, а я хачу сказаць вам...— загаварыў ён.

Рыгор не пазіраў на Рымара, але адчуў, што той насцярожыўся.

— Што ж, прашу вас,— пасля некаторай замінкі сказаў ён і пайшоў да свайго кабінета, на хаду прыгладжваючы пасмачку.

Рыгор ішоў за ім, і здавалася яму, што ідзе ён у нешта невядомае. І калі дзверы за ім зачыніліся, зразумеў, што дарогі назад няма, што цяпер ён будзе гаварыць Рымару ўсё, што думае, чым бы гэта ні скончылася для яго.

— Прашу вас, сядайце,— паказаў Рымар на мяккае крэсла, што стаяла каля яго стала.

Але Рыгор не сеў. Узяў з вазачкі, што стаяла на стале, чырвоны аловак. Пакруціў яго ў руках. Рымар таксама не садзіўся. Ён пераклаў на стале нейкія паперкі, прыціснуў іх прэс-пап'е.

— У вашы сямейныя справы, мне, магчыма, і не варта было ўмешвацца, хоць і на гэта я маю сваю думку. Тым больш, што вы самі ўчора



хацелі зрабіць мяне сваім саўдзельнікам,— круціў Рыгор у руках аловак.— Але пра гэта пакінем. А вось пра другое я мушу сказаць. Каб гэта не было пасля нечаканасцю... Ні для вас, ні для таварыша Кавалеўскага. Я не хачу вас ашукваць... Адным словам, рэцэнзію на кніжку Кавалеўскага я пісаць не буду.— І ён паставіў аловак у вазачку.

Рымар пачырванеў. Калі ён загаварыў, Рыгор не ведаў, чаго больш у яго голасе — разгубленасці ці гневу.

— Не чакаў я ад вас такога... Не чакаў,— зрабіў ён некалькі крокаў па кабінеце.

— Чаго вы не чакалі?

— Дык вось, што вы можаце мяне так зняважыць,— спыніўся ён.— Нібыта я за рэцэнзію, ці яшчэ што...

— Я не хацеў вас зняважыць, я толькі хацеў сказаць усё адкрыта... Вы ж са мною ўчора таксама адкрытыя былі.

Рыгор сапраўды стрымліваў сябе, стараўся менш абразіць Рымара. Недзе глыбока ў ім яшчэ нешта захоўвалася ад таго пачуцця, калі ён бязмежна верыў Рымару і быў яму ўдзячны. Мела значэнне і розніца ва ўзросце. І ўсё ж сэнс размовы не пакідаў месца для памяркоўнасці.

— Наконт рэцэнзіі — гэта ваша справа. Ваша асабістая справа. Ніхто вас не збіраецца прымушаць,— зноў ні то разгублена, ні то гнеўна сказаў Рымар.

— Кніга Кавалеўскага слабая, дрэнная. Я згодны з рэцэнзіяй Новікава,— гаварыў Рыгор.

— Слабая? Дрэнная? — пацвярдзеў голас Рымара. Нарэшце гнеў перамог у ім разгубленасць.— А ваша дысертацыя выдатная!?.. Адкрыццё новых эканамічных законаў пры сацыялізме! А для вас жа людзі стараюцца! Выцягваюць вас, можна сказаць, з балота!..

Рыгор адчуваў, як ледзянела ў яго ўсё ў сярэдзіне, а кроў моцна стукала ў скроні.

— Дык якому мне водзыву верыць? Таму, што вы напісалі, ці таму, што цяпер далі? — хрыплым голасам спытаўся ён.

Яны стаялі за сталом, адзін насупраць другога: Рымар там, дзе было яго крэсла, Рыгор — з другога боку. Ён не адзін раз бываў у гэтым кабінеце раней. І ўсё тут здавалася Рыгору значным, вартым павагі. І стол з вялікім прыладкам для чарніла, і сам гаспадар.

Цяпер Рыгору здалося, што з учарашняга дня тут усё здрабнела,— і каменны, пад мармур, прыладак, і лямпа на стале, і сам гаспадар.

— Вы няўдзячны малады чалавек,— гаварыў Рымар.— З вамі абышліся па-людску, а вы!.. Прыйшлі мне вымову рабіць...

— Я не так разумею чалавечую ўдзячнасць, Сцяпан Раманавіч. Тое, на што вы намякаеце, гэта, выбачайце, не ўдзячнасць, а гандаль. Вось цяпер я, нарэшце, сапраўды вам удзячны... Калі вы мне сказалі праўду. Я і сам ужо ведаў, адчуваў, што мая дысертацыя напісана не так, як трэба. Асабліва пасля размовы з Тарасевічам. Але мяне бянтэжыла ваша заступніцтва. Я хапаўся за яго, як тапелец за саломіну. Ашукваў сам сябе. А можа, думаў, і такія дысертацыі, як мая, патрэбны...

Рыгор на хвіліну змоўк. Атрымалася невялікая паўза. Рымар пастараўся выкарыстаць яе.

— Вы маеце яшчэ мне сказаць што-небудзь? — спытаўся ён тонам, які паказваў, што ён больш не жадае гаварыць.

— Маю! — не прыняў яго прапановы Рыгор.— Я маю вам сказаць, што не буду абараняць дысертацыі. Цяпер... Гэтай... Я хачу працаваць. Хачу перарабіць усю работу...

Рымар усміхнуўся. Сеў за стол. Падсунуў да сябе паперы.

— Таксама ваша справа. Калі ласка. Толькі падумайце. Такія пытанні не рашаюцца з ходу,— не хаваючы іроніі, сказаў ён.— Раю падумаць!— кінуў ён наўздагон Рыгору.

## 20

— Ты разумееш, Галя, ён так і сказаў: «А ваша дысертацыя добрая? А для вас жа стараюцца, выцягваюць вас, можна сказаць, з балота...»

Галя сядзела на канапцы, склаўшы на каленях свае велікаватыя для тонкіх запясцяў рукі. Яна глядзела на Рыгора, які расказваў ёй аб размове з Рымарам, слухала яго, і на твары яе адбівалася недаўменне.

— Ты ведаеш, мне ўвесь час здавалася, што ў вас у інстытуце толькі выключныя людзі. Як жа інакш можна... Там жа вучоныя...

— Яно так і ёсць, Галачка... Але зашываюцца і вось такія. Залазяць у самыя святыя месцы. Заўсёды там, дзе бескарыслівыя, побач і гэтыя... І ў мяне, як бачыш, была праблема,— крыва ўсміхнуўся ён,— ці папоўніць атрад прыстасаванцаў, зрабіцца такім, якіх я сам ненавіджу, ці...

— Хіба для цябе гэта была праблема? — ціха прамовіла Галя.

— Не, Галя. Не праблема. Каб было праблемай, то не палез бы я на ражон, не гаварыў бы так з Рымарам. Ты павінна ведаць мяне. Такою цаною я не хачу...

— Значыцца, ты ўжо прыняў рашэнне? — асцярожна спытала Галя.

— Канечне, прыняў. Я ж сказаў Рымару. Заявіў яму.

— Правільна, Рыгорка,— падышла да яго Галя, абняла за плечы. Загаварыла ціха, але цвёрда.— Хоць ты і не пытаеш маёй думкі пра тваю дысертацыю, але я табе скажу... Я згодна з Тарасевічам... Праўда, без яго я, можа, не дадумалася б, не прыйшла б да такога вываду... А так вось чытала і думала: Тарасевіч праўду казаў.

— Ведаеш прымаўку? «Каб я быў такі разумны тады, як мая жонка цяпер»,— з горыччу пажартаваў Рыгор.

— Адкажу і табе прымаўкаю: «Век жыві, век вучыся»,— сказала Галя. Яна ўсё абнімала Рыгора за плечы, нібы хацела нечым змякчыць удары ад тых слоў, якія вымушана была яму гаварыць.— Ну, ды добра, давай кладзіся спаць. Алёнка, мусіць, трэці сон бачыць.

Галя падышла да канапы, пачала слаць яе нанач.

— А яшчэ хваліў свайго Рымара,— гаварыла яна.— Ён мне адразу не спадабаўся, яшчэ тады, як ты расказваў пра райскія яблычкі... Серванты, дываны... За чые гэта грошы... За рабочыя... А рабочым ён што дае? Дармаед ён, твой Рымар. Не хапала яшчэ, каб і ты сумленне на кватэру памяняў... На кандыдацкую стаўку. Век бы табе не даравала. Ды і сам бы ты сабе не дараваў... Хопіць нам і тых грошай, што цяпер удваіх зарабляем,— памаўчаўшы, дадала яна.— А кватэра... па чарзе ў райвыканкоме дачакаемся.

Рыгор слухаў Галю. Яна сварылася на яго, а Рыгору было радасна. Ён адчуваў, як любіць Галю, якая яна яму дарагая.

Ён не адразу заснуў. Думаў. Думаў, што ён вінаваты перад Галяй. Не таму, што не прынясе ёй кандыдацкай зарплаты, не таму, што, як муж, не можа забяспечыць добрай кватэрай. Не ўсё яго Галя прыме. А іншае. Ён ні разу не быў на яе заводзе. А Галя ж расказвала, што



ў іх і з арганізацыяй працы не ўсё добра, і цякучасць кадраў вялікая.

Цяпер трэба будзе ўвайсці і ў работу гэтага завода. Там працуе ўжо Новікаў. Што ж. Вельмі добра. Ён, Рыгор, калі на тое пайшло, першы падасць руку Новікаву, прапануе яму сяброўства. Будуць працаваць разам. Работы хопіць на ўсіх.

Ён адчуваў, што і Галя яшчэ не спіць. І яна пра нешта думае. Шкадуе яго ці, можа, ужо менш любіць?

— Ты не думай,— сказаў Рыгор жонцы,— што я здаюся. Не. Я буду працаваць... І дысертацыю напішу... Толькі такую, каб мне за яе не было сорамна, каб ніхто не мог мяне ўпікнуць, што толькі ступень атрымаць імкнуся.

## 21

Нарэшце аўтаматычная лінія была наладжана і адпраўлена заказчыку на Валгаградскі трактарны завод. На плошчы, з якой яна была знята, пачынаўся мантаж новай лініі.

Галя вельмі любіла ўвесь працэс наладкі лініі — ад мантажу станкоў да наладкі інструменту на дэталі. І кожны раз нанова пачынала захапляцца, калі ўсе дзесяць альбо пятнаццаць станкоў, выстраеныя па шагу, разам пачыналі працаваць, калі дэталь пачынала пераходзіць з аднаго станка на другі. І вось ужо якіх-небудзь пятнаццаць дэталей разам, у адзін час, фрэзеруюцца, абточваюцца, у іх прасвідроўваюцца патрэбныя адтуліны, і дэталь за дэталлю сыходзяць з лініі, гатовыя заняць сваё месца ў трактары альбо аўтамашыне, гатовыя служыць. А для некаторых дэталей хутка будуць манціраваць лініі на трыццаць пяць, на сорак станкоў.

І калі лінія адладжана, калі ўсе станкі бездакорна выконваюць сваю работу, тады забываецца, колькі працы было патрачана на іх наладку, колькі нерваў каштавала кожная няспраўнасць, кожны недагляд.

І не адна Галя, выціраючы чорнай анучкай рукі, з задавальненнем глядзіць на доўгі рад станкоў, якія ў суладным рытме робяць кожны сваю работу. Тады і іншыя рабочыя, з іншых участкаў, падыходзяць да гатовай лініі і кожны па некалькі хвілін стаіць і пазірае, і ў вачах у кожнага задавальненне, гонар. Так глядзіць бацька на сына, калі ўпершыню бачыць у ім нейкія новыя рысы — сталасць, самастойнасць. Гэта ж частка яго самога, яго кроў, а вось аддзялілася ад яго гэта частка і ўжо жыве самастойна і — вунь на што здатная.

Так і з лініяй. Вось, аказваецца, на што здатныя рабочыя рукі. І нават Ілья, які звычайна на кожны станок глядзіць, прыкідваючы, а колькі з яго за змену рублёў выціснуць можна,— нават Ілья робіцца нейкі не такі. Стаіць перад новай лініяй, глядзіць і паўтарае:

— Усё аддаць, і то мала!..

Тамара падае кранам вузлы. Каля яе стаіць невялічкая дзяўчынка гадоў васемнаццаці, з белымі, каротка падрэзанымі валасамі. Гэта Іра. Яна ў Тамары праходзіць практыку. Мусіць, будзе працаваць замест Тамары, бо Тамара просіцца на вузлы.

Галя знізу махае Тамары рукою, паказвае, куды апускаць вузел. Тамара пільна сочыць за яе рукою. Асцярожна паводзіць кранам — узад, уперад, уверх, уніз. Іра нават крыху адкрыла рот, нібы пераносіць цяжкі вузел не Тамара, а яна, хоць кантролеры кіравання ў Тамарыных руках.

Галя знізу кіруе.

— Так... яшчэ крышку... Крышку ўбок... Апускай!

Ну вось, вельмі добра. Вузел лёг на патрэбнае месца. Тамара малайчына. У яе вока добрае.

Тамара зверху, са свайго «верталёта», як яна называе кран, аглядае цэх. Зверху людзі здаюцца маленькія і смешныя. Шапкі на галовах у хлопцаў, як плешкі ў цвікоў. І цвічкі гэтыя ходзяць і бегаюць, размахваюць рукамі. А яна, Тамара, нібы пад самым небам. Здаецца, каб не было ў цэху столі, яна б рукой дастала воблакі. Вунь тыя, маленькія, кучаравыя, што стоўпіліся на небе, цiснуцца, адно праз адно, каб зазірнуць да іх у цэх. Што б яна з імі рабіла? Мусіць, кожнаму чалавеку хацелася б мець кавалачак воблака — лёгкага і празрыстага, як песня. Каб Тамара магла дастаць з неба тыя воблакі, яна раздала б іх людзям. Яна дала б кавалачак Галі, кавалачак Валодзю, прынесла б кавалачак воблака Яшку, і маме, і цётцы. І Іры дала б кавалачак воблака — хай радуецца! І ўсім добрым людзям, што жывуць на свеце. Хай радуюцца, хай ім усім будзе добра.

Але харошых людзей так многа. Не хопіць воблакаў, каб усіх надарыць. Ну і няхай! Няхай сабе воблакі плаваюць па небе, Тамара не будзе іх здымаць. А харошыя людзі хай ходзяць па зямлі і глядзяць на воблакі.

Тамара думае пра воблакі, але не забывае глядзець і ўніз. Можа, зноў трэба падаць што? Але пакуль ад яе нічога не патрабуюць. Галя манціруе той вузел, які яна падала. Шкода, што зверху не відаць, як працуе Галя. А Тамары так хацелася б глядзець, як і што Галя робіць.

— Цябе клічуць. Вунь, бачыш? — штурхнула яе ў бок Іра.— Вунь, нейкі хлопец...

Тамара глянула туды, куды паказвала Іра.

«Валодзя!»

Ён стаяў, у куртцы, у шапцы-вушанцы, і пазіраў уверх, на Тамару. Убачыўшы, што яна заўважыла яго, махнуў рукою.

— Пачакай тут. Пастой,— папрасіла Тамара Іру. І сама ўжо спускалася ўніз. Жалезная лесвіца з выцертымі да бляску парэнчамі здалася асабліва доўгай. Не ішла, а бегла праз цэх.

— Што ты тут робіш? Як цябе прапусцілі? — пыталася Тамара, а вочы блішчалі. Здавалася, у іх яшчэ адбіваецца неба, на якое нядаўна глядзела Тамара.

— Ды так... У аддзел кадраў заходзіў.

— Да нас? Працаваць у нас будзеш?

Валодзя кіўнуў галавою.

— От добра! А ў які цэх? Куды?

— На вузлы. Вучнем.

— Дык і я ж туды пераходжу. Разам будзем.

Яны сталі збоку, каб не замінаць рабочым, якія тут хадзілі.

У цэху стаяў гул. Працавалі станкі. Шумела вентыляцыя. Стукала жалеза. Чуліся галасы рабочых.

У Тамары з Валодзем было шмат аб чым пагаварыць, але не тут жа, не цяпер.

— Я пачакаю цябе,— сказаў Валодзя.

— Яшчэ ж больш чым гадзіна да канца змены...— глянула Тамара на гадзіннік.

— Нічога. Я пачакаю.

У гэту хвіліну Тамара пачула, што загуў кран.

Яна глянула ўверх. Кран, яе «верталёт», паволі рухаўся, плыў над цэхам, з кабіны толькі ледзь віднеўся бялявы віхор.

— Звар'яцела! — ледзь варухнула вуснамі Тамара і кінулася да лесвіцы. Уміг узлязела яна пад столь цэха. Збялелая, чакала, пакуль прыплыла кабіна.

— Ты што! — крыкнула яна на дзяўчыну.

А тая аж свяцілася ад радасці.

— Я магу!.. Магу, Тамарачка... Паглядзі,— паказвала яна ўніз.

— От дзяўчо неразумнае,— аж калацілася Тамара.— Мала што магло здарыцца. Яшчэ прыціснула б каго.

— Ну што ты, хіба я маленькая... ты толькі паглядзі... паглядзі, які я вузел перанесла! І так добра падала!

Дзяўчына не пераставала радавацца, і Тамара, убачыўшы, што нічога страшнага не здарылася, паспакайнела. Але ўсё ж узяла кантролеры ў свае рукі.

— Без мяне пакуль не трэба. Я табе дам наступны вузел.

Іра з нецярпеннем чакала новага вузла. Здаецца, каб ёй дазволілі, яна б, трэба ці не трэба, перанесла б з месца на месца ўсё, што было ў цэху. Але ніхто не даваў ёй работы, і яна паволі супакойвалася. Глядзела, як Тамара знакамі перагаворвалася з хлопцам, які быў яе паклікаў.

— Хто гэта? — спыталася яна ў Тамары.

— Гэта? — перапытала Тамара. Яна на хвілінку нібы сумелася, пасля адказала, крыху нават з гонарам:

— Гэта мой муж.

— А-а! — шматзначна сказала Іра.

— Эй! На кране! — пачулася знізу.— Давай сюды!..

Пасярод цэха стаяў Вася Мох, тонкі, доўгі, і махаў рукамі.

Тамара ўзялася за кантролеры.

— Я, Тамарачка...— умольна паглядзела на яе Іра.

— Ну, давай.

Тонкія пальчыкі дзяўчыны ўпіліся ў колцы кантролераў. Уся яна як бы навастрылася.

Кабіна паволі паплыла над цэхам. Пасля спынілася. Вялізны чорны кручок загойдаўся, падхапіў вузел. Вузел важыў не адну тону, але кран нёс яго, як былінку. Паслухмяны маленькай дзявочай руцэ, ён плыў туды, куды яна яму загадвала. І мякка, плаўна апусціўся ў патрэбным месцы. Вялізны махіна-кран слухаўся Іру.

Пасля яны зноў стаялі на сваім месцы і, абняўшыся, глядзелі ўніз, на работу цэха. І Тамары было крышачку сумна, што яна больш не будзе працаваць на кране. Усё ж такі прывыкла. Але думка аб тым, што яна сама, сваімі рукамі пачне збіраць вузлы, што яны пасля будуць складацца ў гэтыя лініі, што, можа, некалі і яна сама будзе наладчыцай,— гэта думка поўніла душу такою радасцю, што Тамары не цярпелася хутчэй туды — на новае месца.

— Ты тут глядзі... Будзь акуратнаю,— папярэджвала яна Іру.— Тэхніку бяспекі выконвай.

— Добра, добра,— абяцала Іра.

— А ты што... пасля дзесяцігодкі сюды?—распытвала яна дзяўчыну.

— Ага. Але я і ў інстытуце вучуся. На вячэрнім аддзяленні.

— Праўда? — перапытала Тамара, і адчула, як нешта накшталт зайздрасці кальнула яе. «Глядзі, такая малая, а ўжо ў інстытуце,— падумала Тамара.— І Галя вучыцца»...

Унізе яе цярпліва чакаў Валодзя.

«Трэба і нам у інстытут... З Валодзем. У вячэрні,— думала Тамара.— Угавару яго... Будзем разам вучыцца... І працаваць разам... Цяпер усё разам. Назаўсёды».

А ў вялікае акно цэха пазіралі белыя, кучаравыя воблакі.

## 22

Абдумаўшы ўсё, Рыгор вырашыў, што павінен пайсці да дырэктара інстытута і сказаць яму пра сваё рашэнне. Рашэнне гэта было канчатковае, адступаць ён не збіраўся.

Але як ён здзівіўся, калі, адчыніўшы дзверы дырэктаравага кабінета, за дырэктаравым сталом убачыў Рымара.

Абкладзены з двух бакоў кіпамі паперы, Рымар сядзеў і пісаў. Ён падняў галаву, глянуў на Рыгора. З хвіліну яны моўчкі пазіралі адзін на аднаго.

— Вы да мяне?— нарэшце спытаў Рымар і паклаў ручку, паказваючы, што гатовы прыняць Рыгора, гатовы яго слухаць.

— Мне патрэбен дырэктар,— не крануўся з месца Рыгор.

— Дык я за яго. Калі ласка...

Рыгор ведаў, што новы дырэктар яшчэ не ўвайшоў як трэба ў работу інстытута, што часта выязджае ў камандзіроўкі. Але ўвесь апошні час ён быў тут. Яшчэ ўчора Рыгор бачыў яго ў інстытуце.

— Дырэктар у камандзіроўцы. Я за яго,— сказаў Рымар.

— І надоўга?

— Дзён на дзесяць... Так што давайце... Вырашайце пытанні са мною.

Рыгор не ведаў, як сябе паводзіць. Ён падрыхтаваўся да размовы з дырэктарам. Прадумаў усё, што яму скажа. А цяпер?

— Я вас слухаю,— крыху афіцыйна сказаў Рымар.

Рыгор падышоў да стала.

— Сядайце,— паказаў на крэсла Рымар.

Рыгор сеў.

— Тады я да вас. Як да дырэктара...— пачаў Рыгор, не гледзячы аднак у твар Рымару, гледзячы на пластмасавы чарнільны прыладак, які стаяў на дырэктаравым стале.— Хачу афіцыйна заявіць, што дысертацыі я абараняць не буду. Хачу яшчэ працаваць над тэмаю... Перарабіць работу.

Рымар круціў у руках ручку. Маўчаў. Рыгор кінуў на яго позірк і ўбачыў, што вусны ў Рымара моцна сцятыя. З шыі на твар папаўзла чырвань.

— Што ж... я вам адкажу... Як дырэктар,— суха, афіцыйна пачаў Рымар.— Інстытут перавёў друкарні грошы за ваш аўтарэферат. У газеце надрукавана аб'ява аб вашай абароне. Да вучонага савета падрыхтаваны ўсе дакументы. Вы разумееце, што ўсё гэта азначае? Ці, як легкадумны хлапчук, вы, акрамя сваіх эмоцый, нічога ведаць не хочаце?— суха гаварыў Рымар. Рыгору здалося, што тут, за гэтым сталом, у Рымара нават асанка змянілася. І голас падужэў, памацнеў. У ім былі строгія, камандныя ноткі.

Але афіцыйнасць Рымара толькі падхлеснула Рыгора.

— На свеце ёсць пытанні больш важныя, чым аб'ява ў газеце, чым грошы, якія заплацілі друкарні. Чаму вы не хочаце зразумець мяне?

— Паслухайце, Сіліцкі,— перамяніў тон Рымар. Ён устаў, захадзіў па кабінеце і гаварыў ужо, як і раней, як заўсёды.— Кіньце вы гэтыя свае штукі. Я ж не адмаўляюся ад свайго водзыву. Кавалеўскі таксама. Для нас прынцып важней за ўсё. Мы не надаем значэння таму, што вы пасварыліся з намі... Калі дысертацыя вартая, дык вартая... І не надавайце значэння словам, якія я сказаў згарача... Дык што вам трэба? — спыніўся ён за Рыгоравай спіною.— Хочаце на непрыемнасць напароцца?.. Каб вас з работы звольнілі, як чалавека, які не спраўдзіў надзей?



— Не палохайце мяне,— павярнуўся да яго Рыгор.— А вам я больш, выбачайце, не веру. Я не буду абараняць гэтай дысертацыі.

Рымар пастаяў. Памаўчаў. І сказаў, зноў суха, афіцыйна:

— Я не магу адмяніць абароны. Яна пастаўлена вучоным саветам. Толькі вучоны савет і можа адмяніць яе. А наступны савет адбудзецца дваццаць сёмага снежня. У дзень абароны вашай дысертацыі.

Ён пайшоў за стол, сеў на сваё крэсла, падсунуў да сябе паперу, паглыбіўся ў яе. Рыгору нічога не аставалася, як выйсці з кабінета.

Як толькі Рымар застаўся адзін, ён усхапіўся з свайго крэсла, зноў захадзіў па кабінеце, нервова паціраючы рукі.

— Нягоднік...— шаптаў Рымар.— Ах ты... Ну, паглядзім!..

Рымар лаяў Рыгора, лаяў і сябе. Ён не мог дараваць сабе, што ўлез у гэтую справу, што даў добрае заключэнне на гэту работу. Каб ён ведаў, што за хлопец гэты Сіліцкі, ён не пакінуў бы каменя на камені ад яго дысертацыі. Ён падтрымаў бы Новікава, і дысертацыю забракавалі б з самага пачатку.

Рымар сказаў праўду Рыгору, што адмяніць яго абарону можа толькі вучоны савет. Ён ужо і сам быў памкнуўся, карыстаючыся правам выконваючага абавязкі дырэктара, каб затрымаць Рыгораву дысертацыю. Але напароўся на сцяну, якую збудаваў сам. Ён не мог цяпер сказаць вучонаму савету, што дысертацыя Сіліцкага не адпавядае патрабаванням, бо сам на вучоным савеце гаварыў іншае. Ён жа дабіваўся Рыгору і новага апанента, замест Тарасевіча. Смешна было б пасля ўсяго гэтага патрабаваць у вучонага савета адхіліць дысертацыю Сіліцкага.

І цяпер ён, Рымар, мусіць цягнуць гэтага хлопца за вушы, угаворваць.

«А можа... можа... ну так, хутчэй за ўсё... Гэты Сіліцкі толькі прыкінуўся, што не ведае, дзе цяпер дырэктар. Ён добра ведаў, што я яго замяшчаю... Прыйшоў у разведку... Баяўся, што пасля спрэчкі з ім я сваю думку перамяню... І наогул баіцца, каб дысертацыю цяпер не правалілі... Ну, канечне... Хіба ён сур'ёзна хоча адмовіцца ад абароны дысертацыі? Не такі ён дурны. Ды ліха з ім... Абы хутчэй усё гэта скончылася».

Рымар уявіў, як на абароне дысертацыі ён будзе зачытваць свой водзыў, і ледзь не застагнаў ад злосці.

## 23

У інстытут прывезлі надрукаваны Рыгораў аўтарэферат. Рыгор атрымаў свае дзесяць аўтарскіх экземпляраў, кінуў на паліцу, зверху заваліў часопісамі і больш да іх не дакранаўся. Рыхтаваць уступнае слова таксама не браўся. Не ляжала душа ні да чога. Толькі на заводзе крыху яснеў галавою. Работа паглынала яго, і на некаторы час ён забываўся пра тое, што яго чакала наперадзе.

Галя паехала ў камандзіроўку, і яму больш не было з кім шчыра пагаварыць. Але таіць усё ў сабе было так цяжка, што Рыгор аднойчы не вытрымаў і, калі Валі Івашынай не было ў кабінеце, расказаў пра ўсё Новікаву.

Новікаў уважліва слухаў яго, глядзеў на Рыгора, не хаваючы здзіўлення. Пасля пакруціў галавою.

— Гэта шкода, што дырэктара няма,— сказаў ён.— З дырэктарам лягчэй было б што-небудзь вырашыць... Але баюся, што і ён не памог

бы вам. Далёка зайшло ўсё. Цяпер сапраўды зняць дысертацыю з абароны можа толькі вучоны савет.

— Ну, а як вы ставіцеся да такога майго намеру... Ці правільна я раблю? Ці не смешна, наогул, усё гэта выглядае.

Новікаў дастаў папяросу. Прыкурыў.

— Смешнага тут нічога няма,— вельмі сур'ёзна сказаў ён.— А наогул гэта, канечне, ваша справа. Справа вашага сумлення.

І хоць Новікаў нічога пэўнага не сказаў Рыгору, Рыгор заўважыў, што пасля гэтай размовы Новікаў змяніўся да яго. Рыгор цяпер часта сустракаў яго прыязны позірк. Новікаў пачаў па-сяброўску гаварыць з ім.

І вось дзень, аб якім некалі так марыў Рыгор і якога апошні час баяўся, прыйшоў. Гэта быў адзін з апошніх дзён снежня. Адзін з самых кароткіх. У палове дзевятай раніцы яшчэ было цёмна. У вокнах дамоў гарэлі агні. Падаў густы снег. Ён кружыўся каля ліхтароў, і часам здавалася, што ён не падае на зямлю, а ляціць угору.

На прыпынку тралейбуса стаяла многа людзей. Яны хуталіся ў каўняры, станавіліся спіною да ветру. А Рыгору не было холадна. Ён не заўважаў, як снег падаў на яго твар, раставаў на ім.

Перад уваходам у інстытут доўга атрасаў снег з паліто. У кабінеце павольна распрануўся, павесіў паліто на вешалку. Калі азірнуўся, сустрэў прыязны позірк Валі Івашынай. Валя сядзела за сталом у сваёй чырвонай кофтачцы. Каля яе ўжо ляжала работа, але глядзела яна не на рукапіс, а на Рыгора. Глядзела і нібы нешта хацела сказаць, запытацца. «Можа, яна ўсё ведае? Можа, Новікаў ёй расказаў?»— падумаў Рыгор.

— Зіма, Рыгор Данілавіч,— весела сказала Валя.— На лыжах хутка пойдзем. У лес.

— Хто ў лес, а хто па дровы,— не вельмі ўдала пажартаваў Рыгор.

Прыйшоў Новікаў. Ружовы ад холаду, дужы, энергічны.

— Ну, як справы, стары? — спытаўся ў Рыгора.

Раней Новікаў так ніколі да яго не звяртаўся. Так па-таварыску, са спагадаю. І гэта сяброўскае «стары»...

Рыгору зрабілася цяплей.

Ён сеў за свой стол, адкінуўся на спінку крэсла. Пазіраў у акно, за якім густа падаў снег. Ён падаў вялікімі кавалкамі, прыклейваўся да шыбы, мільгацеў у сіняватым ранішнім святле. Нарэшце дзень прабіўся праз густую засланку снегу, і вось ужо цьмяным здалося святло электрычнай лямпачкі.

Гадзін каля дванаццаці ў калідорах інстытута стала ажыўлена. Зачыняліся і адчыняліся дзверы. Чуліся галасы. Рыгор ведаў, што канферэнцзала ўжо недзе падрыхтавана. Што на вокнах там стаяць кветкі. Стол засланы чырвоным абрусам. На ім — графін з вадою і шклянка. На сцяне развешаны дыяграмы і схемы. Ён бачыў усё гэта, не выходзячы са свайго пакоя, бо не раз быў на абаронах дысертацый і ведаў, як гэта робіцца.

У аддзел заходзілі супрацоўнікі. Падкрэслена ўважліва віталіся з Рыгорам.

— Наш імяніннік,— падміргвалі адны.

— Жадаем удачы,— казалі другія.

Рыгор ці нічога не адказваў ці жартаваў. Часам яму здавалася, што і супрацоўнікі нешта ведаюць. Магчыма, да іх і сапраўды дайшлі нейкія чуткі. Бо нічога няма таемнага, што б ні стала яўным. Але адкрыта яму ніхто нічога не гаварыў, і сам Рыгор пакуль маўчаў, не ведаў, як сябе паводзіць.

Рыгор хваляваўся ўсё больш і больш. Вось ён ужо не можа ўседзець на месцы. Выйшаў у калідор. Там было людна. Праходжваліся і стаялі групкамі вучоныя. Дактары навук, кандыдаты, прафесары, дацэнты. Абарона дысертацыі заўсёды прыцягвала ўвагу многіх людзей. Некаторых з іх Рыгор ведаў. З ім віталіся. І ён вітаўся. Але адбывалася гэта, як у сне. Нібы не ён хадзіў па калідоры. Не ён размаўляў.



Вучоны сакратар інстытута Падсечка, немалады рудаваты мужчына, з вялікаю папкаю паперы пад пахаю, завярнуў у кабінет дырэктара. Праходзячы паўз гэтыя дзверы, Рыгор чуў, як за імі гучна размаўляў з кімсьці, смяяўся Рымар.

Падсечка скора выйшаў з кабінета.

— Таварышы... Прашу вас,— звярнуўся ён да людзей, што стаялі ў калідоры.— Будзем пачынаць.

Ён падыходзіў да адной, да другой групкі людзей, якія так ажыўлена гаварылі паміж сабою, што не чулі запрашэння, і паўтараў: «Будзем пачынаць. Заходзьце»,— і паказваў на расчыненыя дзверы канферэнцзалы.

— А ты што стаіш?— падышоў ён да Рыгора, абняў яго за плечы і, лёгенька падштурхнуўшы, павёў перад сабою.— Ці ў цябе ад хвалявання ногі адняліся? Я тваю дысертацыю першай паставіў, каб табе скарэй страх адбыць,—шаптаў ён у вуха Рыгору, але Рыгор не чуў, што яму казаў Падсечка.

Падсечка амаль упхнуў яго ў залу, пасадзіў на крэсла.

Рыгор глядзеў, як напаўнялася зала. Вучоныя заходзілі, займалі месцы, перагаворваліся паміж сабою.

Цяжка ступаючы, прайшоў Кавалеўскі, сеў у першым радзе, паклаў на калені нейкія паперы. Можа, рэцэнзію на Рыгораву дысертацыю? «Мы ад сваіх водзываў не адмаўляемся»,— успомніў Рымаравы словы Рыгор. А вось і сам Рымар.

Ён ішоў да стала, на хаду прыгладжваючы сваю акуратную пасмачку, зачэсаную на лысіну. І ў яго ў руках паперы. Таксама, напэўна, рэцэнзія. І таксама станоўчая. «Дык чаго ж ты, хлопец, хочаш?— раптам падумаў Рыгор.— Два афіцыйныя апаненты даюць станоўчыя ацэнкі тваёй рабоце. Гадзіна страху, і ты кандыдат. Хочаш, каб цябе сапраўды звольнілі з работы? Рымар жа папярэджваў. А гэты ўжо, калі што, то не даруе. І больш ніколі не абараніць табе дысертацыі. Пойдзеш шукаць работы. Усе знаёмыя будуць спачуваць табе. «Вось, маўляў, не пашанцавала хлопцу. З дысертацыяй нічога не атрымалася. З інстытута звольнілі». Дык чаго ты яшчэ думаеш? Выступай, абараняйся.

Вось за стол прэзідыума зайшоў вучоны сакратар Падсечка. Рымар дае яму слова. Па традыцыі, Падсечка зачытвае анкетныя даныя дысертанта.

— Сіліцкі Рыгор Данілавіч, 1935 года нараджэння.

«Гэта я Сіліцкі. Я Рыгор Данілавіч. Я 1935 года нараджэння... Колькі ж гэта мне гадоў... Дваццаць сем... Малады я ці стары?..»

— Бацька загінуў на фронце,—чытае вучоны сакратар.

«Так, бацька загінуў на фронце... Колькі яму тады было?.. Здаецца, так, як цяпер мне... Таксама дваццаць сем, ці дваццаць восем...»

«Ты зрабіў усё, што мог. Ты заявіў Рымару, што не хочаш абараняць дысертацыі. Але ён цябе прымушае. А рэцэнзію ж ты не напісаў, так што сумленне ў цябе чыстае...»

Адкуль у яго гэтыя думкі... У апошнюю хвіліну...

— Скончыў інстытут, затым аспірантуру. Актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці,— далятае да Рыгора.

Анкета гладкая. Чыстая. Чаму б уладальніку гэтай анкеты не быць кандыдатам навук...

— Слова мае Рыгор Данілавіч Сіліцкі.

Гэта ўжо гаворыць Рымар. Падсечка сядзіць ужо за сталом і крыху задумліва пазірае перад сабою.

Яму даюць слова. Ён павінен пайсці і сказаць яго. Ён павінен. Але Рыгор не можа ўстаць з крэсла. Не можа падняцца.

— Слова мае Рыгор Данілавіч Сіліцкі,— паўтарае Рымар.

— Ідзі... Што ж ты?..— Ён чуе, як ззаду нехта дакранаецца да яго пляча. Ён не ведае, хто гэта, але ўстае. Ідзе. Ногі цяжкія, нібы на іх вісяць пудовыя гіры. Ён паволі цераз залу ідзе да трыбуны.

Мусіць, заўважылі, што ў руках яго нічога няма. Нехта, здагадлівы, дае яму ў рукі аўтарэферат.

Механічна ўзяўшы яго, Рыгор ідзе з аўтарэфератам да трыбуны. Ён не падрыхтаваў уступнага слова, але ён можа прачытаць яго па аўтарэферату. Гэта амаль адно і тое ж.

І вось ён на трыбуне. Перад ім поўная зала людзей. Ён выразна не бачыць нікога. Усе твары — светлыя плямы. «Мусіць, так бачыць залу артыст са сцэны»,— чамусьці думае Рыгор.

Рыгор маўчыць. І зала маўчыць. Усе пазіраюць на яго. Чакаюць. Магчыма, калі ён пачне гаварыць сваё ўступнае слова, цікавасць залы прападзе. Прысутныя будуць перашэптвацца, і ніхто ўжо не будзе яго слухаць. Так часта бывае на абаронах. Але пакуль усе чакаюць.

— Паважаныя таварышы члены вучонага савета... Паважаныя таварышы прысутныя,— пачынае Рыгор.

Так заўсёды пачынаюць дысертанты. Гэты зварот традыцыйны.

— Паважаныя таварышы члены вучонага савета. Паважаныя таварышы прысутныя,— паўтарае Рыгор.

У яго яшчэ ёсць час. Вось гэта адна секунда павінна вырашыць усё. І раптам Рыгор адчувае знаёмы прыліў узбуджанасці. Як тады, калі ён гаварыў з Рымарам. І першы раз, і другі. Гэта пратэст. Пратэст супраць таго ж Рымара, супраць Кавалеўскага. Калі ён не хоча быць з імі, то ён павінен быць супраць іх. Абараняць гэту дысертацыю, значыць, патураць ім. Не... ён будзе абараняць сваю чалавечую годнасць... Ён ведае, што тут трэба гаварыць.

— Я прасіў бы паважаны вучоны савет... Прасіў бы... Дазволіць мне зняць маю дысертацыю з абароны...

Гэта было, як выбух. Твары людзей пацягнуліся да яго. Што гэта значыць?.. Такога яшчэ не было ў гісторыі вучонага савета...

Рыгор бачыў многа вачэй. Яны строгія. Яны пытаюцца.... Патрабуюць.

Ён разумеў, што павінен гаварыць далей. І адчуваў, як паступова прыходзіў да яго спакой. Мусіць, самае цяжкае—сказаць першыя словы.

— Я прыйшоў да пераканання, што работа мая... у такім выглядзе, як цяпер, нічога не можа даць нашай прамысловасці, нашаму машынабудаванню.

Як спакойна ён ужо гаворыць! Нібы не пра сябе.

— Працуючы над дысертацыяй, я слаба вывучаў практыку нашых прадпрыемстваў... Не вырашаў жыццёвых, канкрэтных праблем... Аддаваў перавагу ўжо надрукаваным матэрыялам...

У зале пачуўся шумок. Ён рос.

— Што гэта значыць?

— Навошта склікалі савет?

— Хто кіраўнік?— пачуліся галасы.

Рымар паволі ўстаў з-за стала. Ён цяпер быў падобны на чалавека, на якога раптам, знянацку, перакулілі вядро гарачай вады. Здавалася, ад яго нават ішла пара. Пасмачка валасоў з'ехала на бок, адкрываючы бездапаможную ружовую лысінку.



Рымар быў старшынёю. Яму трэба было весці вучоны савет. Але было відаць, як цяжка яму цяпер гэта рабіць — навесці тут парадак, адказаць на пытанні.

— Я... я ў вельмі цяжкім становішчы,— пачаў Рымар.— Дырэктар у камандзіроўцы. Я, так сказаць, выконваючы абавязкі...

Ён гаварыў гэта для таго, каб адцягнуць час, каб абдумаць, як павярнуць справу.

Як толькі даляцелі да яго першыя словы Рыгора, як толькі зразумеў ён іх сэнс, ён больш за ўсё пачаў баяцца, каб Рыгор адсюль, з трыбуны, не загаварыў аб тым, што яны з Кавалеўскім прасілі яго напісаць рэцэнзію. Пасля таго, што сказаў тут Рыгор, ён мог чакаць ад яго і гэтага. І ён не ведаў, як спыніць Рыгора, як прымусіць пакінуць трыбуну. Выхад быў адзін — гаварыць павінен ён, а не Сіліцкі.

— Самакрытыка таварыша Сіліцкага пахвальная, тут нічога не скажаш,— гаварыў Рымар, стараючыся надаць голасу ўпэўненасць.— Хоць я думаю, што таварыш Сіліцкі перабольшвае недахопы сваёй работы... Яго дысертацыя, так сказаць, на ўзроўні.

Рымар перадыхнуў, прыгладзіў пасмачку, загаварыў амаль спакойна, хоць гэты спакой і каштаваў яму вялікіх намаганняў. Каб Рымар мог, ён змяшаў бы Сіліцкага з граззю, ён знішчыў бы і яго і яго работу. Але напалоханы, не ведаючы, што яшчэ можа сказаць Рыгор, ён гаварыў, імкнучыся супакоіць і залу, і Рыгора.

— Праўда, у дысертацыі Сіліцкага няма вялікіх адкрыццяў. Але, ведаеце, адкрыцці ў навуцы наогул, так сказаць, бываюць вельмі рэдка. І мы вырастаюць на шэрагу даследаванняў, якія не адкрываюць, а толькі абагульняюць з'явы... Але калі таварыш Сіліцкі незадаволены, так сказаць, вынікамі сваёй работы, калі ён адчувае ў сабе, так сказаць, сілу, упэўненасць, што можа зрабіць больш, я думаю, мы зможам задаволіць яго просьбу, зняць, так сказаць, яго дысертацыю з абароны. Вы хочаце яшчэ што-небудзь дадаць?— спытаўся ён у Рыгора тонам, які гаварыў, што і так усё ясна, больш няма чаго гаварыць.

Рыгор махнуў рукою.

— Не, я, што хацеў, тое сказаў.

Рымар уздыхнуў з палёгкаю.

Але ў зале зноў загаманілі:

— Не ўсё ясна!

— А наступны дысертант таксама адмовіцца?

Рымар стаяў за сталом, стукаў алоўкам па графіне.

— Я прашу слова,— пачулася раптам з залы, і да трыбуны ўжо ішоў высокі мужчына.

«Тарасевіч! Дык і ён тут быў... А я яго не бачыў...» — пранеслася ў галаве Рыгора.

А Тарасевіч ужо стаяў на трыбуне.

— Я адзін з апанентаў Сіліцкага,— сказаў ён і ўзяўся рукамі за трыбуну, нібы для таго, каб мацней стаяць на ёй.— Праўда, апанент у адстаўцы, але гэта не мяняе справы.— Ён крышку пастаяў, падумаў.— Тое, што я мог сказаць аб дысертацыі Сіліцкага, сказаў сам дысертант. І сказаў вычарпальна, хоць у двух словах. Я не разумею таварыша Рымара, які гаворыць аб адкрыццях і не адкрыццях у дысертацыях. Ад дысертацыі эканаміста мы павінны патрабаваць адказаў на пытанні, якія ставіць жыццё, практыка нашых прадпрыемстваў,— павярнуўся да Рымара Тарасевіч.— А як пішуцца некаторыя нашы дысертацыі? —гаварыў

Тарасевіч зноў да залы.— На аснове гадавых справаздач прадпрыемстваў, на аснове архіўных матэрыялаў.

— Традыцыя! Лёс эканаміста! — пачулася рэпліка з залы.

— Традыцыя... Лёс эканаміста... — паўтарыў Тарасевіч.— Дык трэба ламаць гэтую традыцыю. Трэба перайначваць лёс. Наша задача ўсё ж такі думаць, а не збіраць цытаты на корм мышам. Як патрэбна нашай прамысловасці разумная, удумлівая парада вучонага-эканаміста, талковая рэкамендацыя. Узяць хаця б тое ж машынабудаванне, якому прысвечана дысертацыя Сіліцкага. Для адных і тых жа тэхналагічных працэсаў на розных прадпрыемствах, для адных і тых жа вырабаў яшчэ існуюць розныя нормы. А колькі фактаў, калі планавыя нормы вышэй за ўзровень фактычных расходаў. А пытанне з цэнамі? Тут жа для эканаміста непачаты край работы, патрэбнай, як паветра, як хлеб.

Вучоны сакратар Падсечка наліў у шклянку вады, паставіў на трыбуну каля Тарасевіча. Але Тарасевіч, здавалася, нават не заўважыў шклянкі. Ён гаварыў далей:

— А што датычыць таварыша Сіліцкага асабіста, то я б прасіў вучоны савет даць яму магчымасць працаваць над дысертацыяй далей. Сённяшні факт сведчыць аб прынцыповасці дысертанта, аб тым, што ён адчувае сваю асабістую, грамадзянскую адказнасць перад сённяшнім днём, што ён канкрэтнымі справамі хоча паслужыць нашай народнай гаспадарцы.

Тарасевіч сышоў з трыбуны. Яго праводзілі дружнымі воплескамі. Пляскалі настойліва, доўга.

Рымар стаяў за сталом, чакаючы, пакуль супакоіцца зала, і бегаў вачыма па прысутных, нібы шукаючы некага, хто падтрымаў бы яго, сказаў бы тое, што яму патрэбна. Яго позірк спыніўся на Кавалеўскім. Акурат у гэты час і сам Кавалеўскі падняў руку, просячы слова.

— Прашу вас,— з гатоўнасцю сказаў Рымар.

Але Кавалеўскі прайшоў на трыбуну, нават не глянуўшы ў яго бок. Кавалеўскі стаў за трыбунай. Адкашляўся.

— Гм, я таксама апанент Сіліцкага,— пачаў ён. — І мушу прызнацца, што мая думка аб дысертацыі Сіліцкага не разыходзіцца з думкаю самога аўтара. Гм... Мы тут з ім аднадумцы, гм...

Пасля апошніх слоў ён зрабіў паўзу, відаць, даючы магчымасць адчуць гумар у сваіх словах. Але ніхто не ўсміхнуўся, і ён казаў далей, гмыкаючы амаль пасля кожнага слова:

— Магчыма, пасля заявы самога дысертанта мне не варта было і браць слова, але выступленне таварыша Тарасевіча прымусіла і мяне загаварыць.

Кавалеўскі ўзяў шклянку, адпіў глыток вады, паставіў шклянку на месца.

— Таварыш Тарасевіч вельмі своечасова падняў надзвычай важнае пытанне. Наша краіна шпаркімі тэмпамі ідзе да камунізма. Яго светлае будучае ўжо відаць. І калі гаварыць вобразна, і калі нашу краіну ўявіць караблём, які плыве ў светлае заўтра, то мы, вучоныя-эканамісты, штурманы на гэтым караблі. Я хачу сказаць, што наша роля ў жыцці краіны вельмі адказная.

Кавалеўскі зноў узяў шклянку. Зноў адпіў вады.

— І згаджаючыся амаль з усім, што гаварыў тут таварыш Тарасевіч, я хачу толькі дадаць. Мы павінны куды больш строга ставіцца да аспірантаў, да нашых маладых кадраў, да нашай будучыні. Не ўсе, хто таго хоча, можа займацца навуковай дзейнасцю. І калі яшчэ на першым курсе аспірантуры выяўляецца, што аспірант няздольны, што вучонага з яго не атрымаецца, дык трэба казаць яму праўду ў вочы. І можа тава-



рыш Сіліцкі, які набраўся адвагі і шчыра прызнаў сваю работу нездавальняючай, таксама прынцыпова паставіцца і да сваёй асобы. Хай узважыць, ці здолее ён займацца навуковай дзейнасцю... А мы паможам яму разабрацца ў гэтым. Бо я не згодны з таварышам Тарасевічам, калі ён звяртаецца да вучонага савета з просьбаю — даць магчымасць таварышу Сіліцкаму працаваць і далей. На мой погляд, паводзіны Сіліцкага вызначаюцца не прынцыповасцю, а лёгкадумствам. Гм... Паставіць дысертацыю на абарону, а пасля публічна адмовіцца ад яе... Гэта пагарда да вучонага савета. Гэта, калі хочаце, абраза для ўсіх прысутных. Я скончыў, — і ён, цяжка ступаючы, накіраваўся ў залу.

Некалькі чалавек запляскала. Але хутка і яны змоўклі.

— Дазвольце мне! — зноў пачулася з залы.

Рымар глянуў на таго, хто прасіў слова. Новікаў... Рымар устаў.

— Я думаю, таварышы, што справа ясная,— сказаў ён, пазбягаючы глядзець у бок Новікава.— Не будзем траціць часу. Калі дысертант просіць, каб яго дысертацыю знялі, так сказаць, з абароны, думаю, што вучоны савет можа задаволіць яго просьбу. Праўда, тут з'явілася два процілеглыя меркаванні. Ці дазволіць Сіліцкаму працаваць над дысертацыяй далей, ці не. Гэта, так сказаць, трэба паставіць на галасаванне.

— Я прашу слова,— зноў паўтарыў Новікаў, але Рымар зноў не звярнуў увагі на яго просьбу.

— Хай гаворыць!

— Даць слова,— загаварылі з залы.

І, пацiснуўшы плячыма, нібы гаворачы: «Што ж, хочаце, дык слухайце»,— Рымар даў слова Новікаву.

Новікаў энергічна ўзышоў на трыбуну, а Рымар апусціўся ў крэсла. Садзіўся асцярожна, нібы ў крэсле былі цвікі і ён баяўся на іх напароцца.

— Сёння вельмі незвычайнае пасяджэнне вучонага савета,— загаварыў Новікаў. — І мне асабіста... ды не толькі мне, а вельмі многім, сёння радасна. Радасна, што нарэшце ўголас загаварылі аб тым, што набалела. Маю на ўвазе каэфіцыент карыснага дзеяння нашага інстытута, тую аддачу, якой патрабуе ад нас дзяржава ў абмен на сродкі, што выдаткоўвае на падрыхтоўку і на ўтрыманне такога вялікага атраду вучоных.

Пасля Кавалеўскага асабліва прыемна было бачыць зграбную постаць Новікава.

— У нашым інстытуце, мне здаецца, усё яшчэ зачыняюць вокны ад свежага ветру,— гаварыў Новікаў.— Быў у газеце артыкул, у якім наш сектар крытыкаваўся за адрыў ад жыцця, крытыкаваліся тэмы нашых дысертацый. Але загадчык сектара таварыш Рымар зрабіў выгляд, нібы нічога не здарылася. Павінен сказаць, што і ў выпадку з таварышам Сіліцкім вялікая віна загадчыка сектара. Таварыш Рымар захвальваў работу Сіліцкага, прыспешваў яго з абаронай.

Пры апошніх словах Новікава Рымар узняўся і зноў сеў, нібы ў крэсле-такі сапраўды былі цвікі. Ён нібы хацеў нешта сказаць, але махнуў рукою.

— Я згодны з заўвагаю таварыша Кавалеўскага, што трэба павысіць патрабаванні да людзей, якія прыймаюцца ў аспірантуру. Але трэба павысіць патрабаванні і да тых, хто кіруе аспірантамі. Нашы аспіранты часта самі вынаходзяць порах. Яны часта б'юцца над пытаннем, якое пры добрай парадзе старэйшага таварыша, кіраўніка было б вырашана імгненна. Нашы аспіранты адарваны адзін ад другога, варацца ў сваім саку. Тэмы дысертацый плануюцца так, што кожны з іх павінен працаваць асобна, асобна складаць дзвесце пяць-

дзесят старонак машынапіснага тэксту, каб пасля пакласці гэты тоўсты том на стол для абароны. І вядома, што ў гэтай тоўстай дысертацыі будзе шмат непатрэбнага, спісанага з іншых работ, з друкаваных выданняў. А наша вытворчасць, наша тэхніка пайшлі так далёка, што ўжо цяжка вучонаму, нават і вельмі таленавітаму, аднаму вырашыць тое ці іншае пытанне. Цяпер патрэбны калектыўны розум вучоных. Трэба, каб вучоныя разам, не баючыся, што не падзеляць славы, браліся за вырашэнне тых ці іншых праблем. Толькі тады яны змогуць прыносіць карысць нашай прамысловасці, рухаць наперад нашу эканамічную навуку.

Пры апошніх словах Новікава зала дружна запляскала яму, згаджаючыся, падтрымліваючы гэтую яго думку. Але Новікаў яшчэ не скончыў.

— А што датычыць таварыша Сіліцкага,— гаварыў ён далей,— то калі маё слова будзе тут нешта значыць, то я хацеў бы выказаць згоду з таварышам Тарасевічам. Я ведаю, што цяпер таварыш Сіліцкі працуе над вельмі важнаю праблемаю — над праблемаю зніжэння сабекошту ліцця на адным з машынабудаўнічых заводаў. Калі праблема будзе вырашана, то вопыт можна будзе пашырыць на іншыя машынабудаўнічыя заводы, і гэта дасць тысячы рублёў эканоміі. Так што я далучаю свой голас да тых, хто за тое, каб дазволіць Сіліцкаму працаваць над дысертацыяй.



«Вось як атрымліваецца ў жыцці,— думае Рыгор. — Мяне абараняе Новікаў». А ён жа лічыў Новікава ледзь не сваім ворагам. «А Рымар? Што кажа Рымар?»

— Вядома, у рабоце нашага сектара ёсць недахопы... І да таварыша Сіліцкага мы паставіліся, магчыма, вельмі ліберальна. Напэўна, меў рацыю таварыш Кавалеўскі, калі гаварыў, што мы павінны быць больш строгія, так сказаць, да адбору аспірантаў. Але таварышы... давайце, таварышы... Нам што... нам, уласна, трэба вырашыць адно толькі пытанне. Ці дазволіць таварышу Сіліцкаму, так сказаць, працаваць далей над дысертацыяй ці пазбавіць яго такога права... Прыняць да ўвагі заяву дысертанта, што са сваёй работай ён не справіўся. Як старшыня сходу, я прапаную паставіць гэта пытанне на галасаванне...

— Пачакайце,— узняўся з першага рада невысокі каранасты чалавек з сівою галавою і белымі, таксама сівымі, бровамі. Ён пастаяў крыху каля свайго крэсла, схіліўшы трохі на бок галаву, пасля ўскінуў бровы...— Я хачу сказаць,— жыва прамовіў ён і тут жа, не дачакаўшыся дазволу старшыні, пайшоў да трыбуны.

Гэта быў Мікалай Ігнатавіч Парамонаў, доктар эканамічных навук, прафесар, аўтар многіх работ па эканоміцы, на якіх вучылася не адно пакаленне эканамістаў. Да яго голасу, да яго слова заўсёды вельмі ўважліва прыслухоўваліся, бо ведалі, што ён заўсёды гаворыць разумна і аб'ектыўна.



Цяпер, калі прафесар Парамонаў пайшоў да трыбуны, зала на хвілінку ажывілася і заціхла ў чаканні таго, што скажа прафесар.

— Як я зразумеў нашага паважанага старшыню,— не спяшаючыся, павольна пачаў прафесар Парамонаў,— то задача нашага сённяшняга вучонага савета — вырашыць лёс дысертанта Сіліцкага. Ці задаволіць, ці зрабіць адпаведныя вывады з яго сённяшняй заявы. На гэта ўвесь час напірае старшыня.

Прафесар крыху памаўчаў, пазіраючы ўніз, на трыбуну, нібы нешта на ёй разглядаючы, пасля рэзка падняў свае сівыя бровы. Пад імі молада бліснулі вочы.

— А я інакш уяўляю задачу сённяшняга вучонага савета,— пацягнуўся ён усім целам да залы і ўжо гаварыў горача, не спыняючыся, толькі зрэдку жэстыкулюючы рукой, каб падкрэсліць патрэбнае слова. — Сённяшні вучоны савет павінен зрабіць глыбокія вывады з выступлення дысертанта. З выступлення таварыша Тарасевіча. З выступлення таварыша Новікава. Звярніце ўвагу — таварыш Новікаў гаварыў шмат цікавага... У першую чаргу, я маю на ўвазе яго думку аб неабходнасці цяпер калектыўнага розуму вучоных,— паказаў прафесар Парамонаў у бок Новікава.— Сёння на пасяджэнне нашага вучонага савета ўварвалася само жыццё. Яно згасіла наш метад работы і патрабуе новага. І зусім заканамерна. І зусім законна. Задача сённяшняга вучонага савета — перагледзець нашы меркі, з якімі мы дасюль падыходзілі да кандыдацкіх дысертацый. Пакласці ў іх аснову каэфіцыент карыснага дзеяння. Работа сектара эканомікі інстытута ў многім залежыць ад кіраўніка сектара. І мне здаецца, што таварыш Рымар, мякка кажучы, вельмі мала робіць для таго, каб ажывіць яго работу, звязаць з жыццём. І сам таварыш Рымар, я магу гэта сказаць з усёй адказнасцю, ад яго адарваны. Калі вынік шматгадовай дзейнасці таварыша Рымара — рукапіс, які ён паслаў у выдавецтва і з якім я нядаўна пазнаёміўся, то вельмі сумна. У гэтай кнізе фігуруе многа матэрыялу, але матэрыял гэты не прааналізаваны, з яго не зроблена ніякіх вывадаў. І наогул, у гэтай рабоце аніводнай самастойнай аўтарскай думкі...

— Вядзі сход, — падаў Рымар аловак, якім раней стукаў па графіне, вучонаму сакратару. Сам ён адсунуўся на край стала.

Далей вёў сход Падсечка.

Адзін за другім выступалі члены вучонага савета. Усе яны горача падтрымлівалі выступленне прафесара Парамонава. Падтрымлівалі Тарасевіча, Новікава. Гаварылі, што наспела пара змяніць патрабаванні да кандыдацкіх дысертацый. Што крытэрыем для іх ацэнкі можа быць толькі адно — што канкрэтна зроблена дысертантам па тэме, якую ён абраў для распрацоўкі, як ажыцця-



віў сваю задуму, як прымяніў яе на практыцы.

У адносінах да Сіліцкага вырашылі амаль аднагалосна: дазволіць яму працаваць над тэмаю і далей. Так і запісалі ў рашэнні вучонага савета. Супраць быў Кавалеўскі. Устрымаўся Рымар...

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Мяч, ярка-аранжавы, як вялізны апельсін, узлятаў над палянаю. Яго падбівалі маладыя дужыя рукі, і — было тут гоману і смеху. Калі мяч падаў далёка ў траву, за ім, навыперадкі, беглі Тамарын Яшка і Рыгорава Алёнка. Калі Яшка першы падбягаў да мяча, то хапаў яго, прыціскаў да грузей і нёсся да тых, што гулялі. «Дзядзя Валодзя! Вам!» — крычаў ён. І, баючыся, каб мяч не падхапіў хто другі, даваў яго Валодзю проста ў рукі.

Тамара, здаецца, не заўважала гэта, але па тым, якая яна радасная і шчаслівая, было відаць, што яна ўсё бачыць, усё разумее і ёй вельмі прыемна, што сын так падружыўся з Валодзем.

Алёнка, як трохі старэйшая за Яшку, разумела, што ў гульні трэба быць роўнаю да ўсіх, і калі мяч хапала яна, то падавала ўсім па чарзе: маці, бацьку, дзядзю Новікаву, цёці Валі, дзядзю Тарасевічу.

Зіма ў гэтым годзе была суровая, марозная і доўга не хацела саступаць вясне. Аж да канца красавіка людзі хадзілі ў цёплых паліто. І раптам шуганула сонца. Яно было гарачае, як летам. Усё адразу зазелянела — зямля, дрэвы. Нават у горадзе стаяў пах свежай травы, сакавітага ліста.

Па нядзелях усе ехалі за горад. Раніцаю да кас прыгарадных цягнікоў выстройвалася вялікая чарга. А вечарам са станцыі ішлі і ішлі людзі — загарэлыя, з букетамі чаромхі, палявых кветак.

У адзін з такіх гарачых вясновых дзён выехалі на маёўкі і нашы сябры. Пасля вучонага савета, на якім Рыгор адмовіўся ад абароны сваёй дысертацыі, яны ўсе неяк зблізіліся, а пасля і пасябравалі. У вечар таго памятнага Рыгору дня Новікаў і Валя Івашына прыйшлі да яго дахаты. Яны пра многае гаварылі, і высветлілася, што ў іх шмат агульнага і ў думках і ў імкненнях. А пасля да іх далучыўся і Тарасевіч. Яго прызначылі загадчыкам сектара замест Рымара, якому прапанавалі іншую работу. Цяпер ён кіруе адным з гурткоў па вывучэнню канкрэтнай эканомікі, якія ўтвораны на прадпрыемствах горада.

Тарасевіч з прыемнасцю пасябраваў са сваімі маладымі калегамі. Яго наогул цягне да моладзі. Вось і сёння ён стараецца не адстаць, стараецца лаўчэй падбіваць мяч, хоць гэта і не заўсёды яму ўдаецца. Часцей за ўсіх іменна ён дае работу Яшку і Алёнцы.

А вунь як спрытна, лоўка гуляе Новікаў! То адбяжыць, то прысядзе, ад яго ўдару мяч плаўна вяртаецца ў круг.

Прыгожая ў гульні і Тамара. Яе з Валодзем запрасіла ў кампанію Галя, і круг іх стаў шырэйшы, весялейшы.

— Загадчык сектара, лавіце! — крычыць Валя, падаючы мяч Тарасевічу.— О, кіруеце вы намі лепш, чым гуляеце.

— Нічога, пад канец лета навучуся,— адказвае Тарасевіч.

— А можа мы нейкую чаргу ўстановім? Вось мы пагулялі, а цяпер хай дзеці. А то яны толькі нам служаць,— сказаў Валодзя.

Яго ахвотна падтрымалі, і вось ужо мяч перайшоў да Яшкі з Алёнкай. Яны ганяюць яго па мураве, падбіваюць нагамі.

Рыгор, прыемна стомлены, разгарачаны гульнёю, прылёг на траву.



Ён глядзеў на неба, па якім плылі клубы белых, нібы з ваты, аблокаў. Слухаў, як рассыпала трэлі берасцянка. Да яго даляталі галасы і смех сяброў, і ўсё гэта аддавалася ў грудзях такім харошым адчуваннем, што хацелася вось так ляжаць і ляжаць, слухаць і глядзець на тое, што было вакол.

Паўз яго прайшла групка дзяўчат з кнігамі, сшыткамі пад пахамі.

— А вы «Анты-Дзюрынга» прачыталі? — узбуджана пыталася высокая дзяўчына, нахіляючыся да сваіх сяброўак.

«Студэнткі»,— падумаў Рыгор.

Ён правёў іх вачыма. Дзяўчаты прыселі не вельмі далёка ад іх. Расклалі свае кніжкі, сшыткі.

Рыгор успомніў, як ён, калі быў студэнтам, таксама з хлопцамі прыходзіў у парк рыхтавацца да экзаменаў. І яны вось так хваляваліся, ці ўсё прачыталі, ці ўсё ведаюць. Кожны экзамен, да якога рыхтаваліся, здаваўся самым страшным, самым складаным. І наогул здавалася, што самае галоўнае ў жыцці — здаць усе экзамены, скончыць інстытут. А іх, гэтых экзаменаў, наперадзе, аказваецца, вунь колькі... Можна скончыць усе інстытуты і ўсе аспірантуры, а ад экзаменаў нікуды не дзенешся. І самы галоўны, самы важны гэта — экзамен на чалавека. Калі яго трэба здаваць? Мусіць, на працягу ўсяго жыцця. Бо можна добра, сумленна пражыць год, два, дзесяць год, а пасля не ўстояць перад нейкаю спакусаю, не вытрымаць нейкага выпрабавання і зрабіць такое, што ўжо ўсім жыццём не паправіш.

Недалёка ад Рыгора сядзелі Новікаў, Тарасевіч і Валя. Рыгор чуў, аб чым яны гаварылі.

— Трэба больш спецыялізаваць і каапераваць вытворчасць,— гаварыў Новікаў.— Трэба для заводаў машынабудавання стварыць спецыялізаваныя інструментальныя і ліцейныя заводы.— Тэма яго дысертацыі была — «Спецыялізацыя і кааперыраванне вытворчасці ў машынабудаванні», і ён гаварыў аб тым, што яго хвалявала.

— У нас яшчэ кепска наладжаны абмен вопытам паміж заводамі,— адказваў яму Тарасевіч.— На адным штосьці добрае зробяць — хаця б з тэхнічным абгрунтаваннем нормы, а другі, той, што побач працуе, пра гэта не ведае. За вопытам на Волгу едзе.

Рыгор, вядома, не мог улежаць, калі ішлі такія размовы. Ён устаў, падышоў да сяброў.

— Эксперыментаваць,— вось што цяпер для нас самае важнае. Да нас, вучоных, на прадпрыемствах пакуль яшчэ ставяцца з недаверам. Не вельмі дазваляюць эксперыментаваць. Рызыкаваць баяцца. Вось мы і павінны даказаць, што можам многае зрабіць, памагчы ў многім...

Да іх падбегла Галя. Яна была ў сінім купальніку. Яе рукі і плечы ўжо крыху пафарбаваў загар.

— Кіньце вы гаварыць аб сваёй рабоце, хоць сёння адпачніце,— абняла яна за плечы Рыгора.

— Для вас жа стараюцца, няўдзячная,— з робленым дакорам сказала Валя.

— Цябе Тамара кліча,— шапнула Галя на вуха Рыгору.— Хоча нешта сказаць табе.

Рыгор азірнуўся. Тамара і Валодзя сядзелі крыху ўбаку. Па іх тварах было відаць, што гаварылі яны пра нешта важнае.

Рыгор падышоў да іх.

— Паслухайце, Рыгор Данілавіч,— адразу загаварыла да яго Тамара. Твар яе крыху паружавеў.— Валодзя вас вельмі паважае... Скажыце вы яму... Можа ён вас лепш паслухае... Хай ён памірыцца з бацькамі.

Валодзя кусаў травінку і глядзеў убок. Твар у яго быў упарты.

Такая просьба была для Рыгора нечаканая, і ён не ведаў, што сказаць.

— А вы хіба яшчэ не памірыліся?— спытаў ён.

— Не магу я ім дараваць жорсткасці, хлусні,— адкінуў Валодзя ўбок травінку, але тут жа вырваў новую.

— Ну, але яны ж самі хочуць, каб мы да іх пераехалі,— яшчэ больш пачырванела Тамара.

— Праўда? — глянуў на Валодзю Рыгор.

— Раней і слухаць не хацелі, а цяпер ужо бацька кажа: «Прыводзь сваю жонку дахаты... жывіце ў нас»,— падрабіў Валодзя бацькаву інтанацыю.

— Я не хачу, каб праз мяне ты з імі сварыўся,— прыклала Тамара руку да грудзей.

Валодзя маўчаў.

— Не трэба быць такім зацятым,— асцярожна ўставіла Галя.

— Добра,— устаў Валодзя.— Там будзе відаць. Бач, апрацоўваць мяне ўзяліся, — усміхнуўся ён. — А самі вучаць, каб не было ніякіх кампрамісаў.

— Галя! — пачуўся звонкі Валін голас.— Ідзіце сюды. Пара абедаць. І Валодзя ўжо, вунь, траву пачаў есці,— паказала яна на Валодзю, які зноў жаваў травінку.

Усе сабраліся разам. Пачалі вымаць з сумкі кілбасу, хлеб, вараныя яйкі. Паселі вакол посцілкі, на якой стаяла яда.

— Нішто сабе сямейка!..— жартавала Валя.

— Сям'я добрая. Цудоўная сям'я,— падтрымаў яе Новікаў.

— А дзе ж нашы дзеці? — у тон ім спытаўся Тарасевіч.— Ды гэта ўжо вашы дзеці, а мае ўжо, мусіць, унукі,— з усмешкаю дадаў ён.

— Дзеці!

— Яшка!

— Алёнка! — закрычалі ўсе.

А тыя ўсё яшчэ ганялі па лузе мяч. Калі пачулі, што іх клічуць, пабеглі да дарослых. Яны беглі па зялёнай траве, сярод кветак, беглі і смяяліся. А над імі было чыстае сіняе неба і яркае сонца. Валя раскінула насустрач ім рукі.

— Сюды, дзеці, да мяне,— крычала яна.

Дзеці са смехам беглі да яе.





Пятро СУШКО

★



Баразну вядуць
рукі чорныя,
рукі чыстыя,
бездакорныя.
Вымалочваюць,
загарэлыя,
з каласоў цяжкіх
зерне спелае.
Самазваламі
возяць поўнымі,
ператрушчваюць,
перамолваюць
Між далонямі
агрубелымі
так,
што робяцца
самі белымі.
Іх распальвае
праца дбайная —
выпякаецца
каравай на іх.
Падаюць яны
на шырокі стол
свайго плёну дар,
свайго поту соль.
І цалуюць іх
промні ясныя
сонца яркага,
непагаснага.

★



Непаседлівыя,
Гарачыя
З незлічонымі добрымі рысамі,
Не хіліце галоў,

Няўдачнікі!
Не гасіце
Сваю няўрымслівасць.
Хай туга
Не гняце вас шэрая,
Хай вас мара наперад клікае,
Верце так,
Як заўсёды верылі,
У сапраўднае,
У вялікае.
Калі моцна ў яго
Паверыцца,
Калі доўга яно
Чакаецца,
То вялікае
Не адвернецца,
То сапраўднае
Адшукаецца.



Міхась СТРАЛЬЦОЎ

# ТРЫПЦІХ

Мал. Р. Віткоўскага.

## ТРЫВОЖНА КРЫЧЫЦЬ ПТУШКА

У канцы ліпеня колькі дзён запар ішлі цёплыя дажджы. Жанчыны, што хадзілі ў лес па чарніцы, прынеслі ў фартухах першыя сыраежкі і лісічкі.

Была субота. На лагу за вуліцай лянівы дымок чапляўся за сцены лазні, загінаўся, ападаў на мокрую і парную траву: у цёплым, напэўна асмужаным небе слаба чулася сонца. Галасіста і радасна крычаў недзе певень.

Пастаяў я на двары, падумаў, паслухаў ваколіцу, насцярожліва-чуйную, нібы прытаптаная трава, і нечакана павесялеў ад думкі сабрацца, схадзіць у лес па грыбы.

Тыдзень таму прыехаў я з горада ў вёску. Было прыемна цяпер скі-

нуць цесныя чарвікі, абкруціць нагу сухой і шурпатай анучкай, надзець шырокі і ўвесь у латках гумовы бот: боты стаялі ў сенцах, халадпаватыя, церпка-пахучыя, з пабялелымі плямкамі прысохлай зямлі на іх і прыліплымі травінкамі. Узяў кошык, акраец хлеба і жаўтлявы, мяккаваты шматок сала, вышчарблены братаў складанчык на шнурку і — пайшоў, трохі баючыся, каб не трапіць каму вельмі на вочы: у вёсцы не любяць гнацца за жураўлём у небе, калі сініца ў руцэ. Вёска хадзіла цяпер па ягады, а на грыбы яна накінецца пазней, калі баравікі пойдуць — хоць касою касі. Тады будзе рана, вельмі рана засынаць вёска, будзе рана ўзыходзіць над лесам чырвоны, халодны месяц, будзе трывожна, прыглушана шалясцець таполя — уся ў цьмяным месячным мроіве, а на вуліцы — не па-летняму глухая цішыня і цёмны, не вельмі моцны вецер. І будуць гарэць за ракою кастры начлежнікаў.

Так будзе потым... А якія ж грыбы цяпер?

І ўсё ж я пайшоў у лес.

Агародамі выйшаў я на сценку, а па ёй на вузкую дарогу, па адзін бок якой буялі кукурузныя кіяхі, а па другі густа стаяла вільготнае жыта. Пад нагу то тут, то там траплялі раструшчаныя кукурузныя пачаткі, і я ўспомніў, як нядаўна казала маці, што дзеці ядуць іх няспелыя, а потым, блазнюкі, жаляцца на жывот... Ну, і няхай ядуць, блазнюкі, ну, і няхай жаляцца... Так ішоў я, ішоў зялёнай каляіністай дарогай і зусім не думаў, што сустрэнуся з зайцам. А ён вялікі, таўставаты, з рудымі бакамі, сядзеў сабе на дарозе і спакойна глядзеў на мяне — хоць ты вазьмі ды і стань. І я, можа, і стаў бы, каб ён раптам не валюхнуўся з месца і не пабег, пацыху і як бы кульгаючы. І тут я не вытрываў — свіснуў. І ён тады ўжо секануў, порстка, дарогай паўз жыта, і адразу стаў нейкі даўжэйшы, і былі відны ў яго, як бег, адны толькі ногі ды вушы...

Навошта я спудзіў яго? Але шкадаваў я нядоўга. Я падумаў, што як цяпер грыбы, зімою заяц, можа, прывядзе мяне ў лес, і хоць мне не вельмі трэба будзе гэты заяц, як цяпер грыбы, я ўсё ж прыйду — і гэта добра.

А лес, цяперашні лес, быў і знаёмы нейкі, і незнаёмы. Ён пачаўся, як толькі прывяла да яго дарога, з невялічкага балотца, парослага хмызамі, а потым ужо быў малады сасоннік. І завіляла, то спадаючы ў хмызовыя нізінкі, то ўзлазячы на верасовыя палянкі, ужо не такая зялёная, як у полі, дарога. І маўчаў лес. Толькі аднекуль зверху, з шараватага і цёплага неба, плыў суцішаны, мяккі шоргат: такі яшчэ бывае вясной, калі ў тумане растае снег. Хораша пахла з каляін вільготным сасновым карэннем, а з дробных хмызоў — свежай лістотай, а потым неяк нечакана і саладкава-густа патыхнула водарам ад зламанага куста крушыны.

Дарога выводзіла мяне на дзялянку. Гонка і высока стаялі на ёй адзінокія сосны, цвіркалі недзе на маладых бярозках, садзіліся на зарослыя травой лаўжы разамлелыя зямлянкі. То падаючы ледзь не да зямлі, то сігаючы ўгору, праляцела чорная жаўна. Быў тут нейкі тужлівы прастор, як на старым, забытым дворышчы, і ўсё тут было, як бывае ў чалавечым жыцці.

Мінуўшы дзялянку, пайшоў я торнай дарогай — волакам і збочыў там на патаемны, свой тут, у лесе, грудок — залубелы, лішаісты, з купкай маленькіх сасоначак і крывой бярозкай. Прыгнуўшыся, абышоў я і сасоначкі, і бярозку, і рудыя бароды рэдкага верасу: не аднойчы браў тут тугія, смуглявыя, аж чорныя, баравікі. Але ўдача любіць сваю пару, і знайшоў я ўсяго сыраежку — засохлую, з белымі плямамі, але без ніводнай чарвінкі...



Ну і няхай, ну і далей у лес, вось на той доўгі ўзгорачак пад высокімі соснамі, з вывернутай ветрам бярозай — там павінны, абавязкова павінны быць лісічкі! І пайшоў я, і хораша мне было ісці па ім і пазнаваць усё наўкол: вунь там, куды павяла ад волака дарога,— печышча: некалі гналі каланіцу, за ім — урочышча з вольхамі, асінамі ды ёлкамі, а бліжэй да мяне, пад узгорак, цеглавіна з ягаднікам, і вунь нейкая жанчына, разагнуўшыся, глядзіць на мяне, і пагляд у яе затуманены, не тутэйшы нейкі, і сама яна здаецца нетутэйшай — аднекуль адтуль, можа, з часу якіх крывічоў ці радзімічаў.

І так дайшоў я да напаўзаваленага нейкага бліндажа і нечакана для сябе ўбачыў у яго спадзінцы цэлую плойму жоўтых, як кветкі, і прысадзістых лісічак. Але я не спяшаўся іх браць: было і без таго за што воку зачапіцца тут. Густа і роўна парасла спадзінка бліскучым круглячом, а на ім, ля самай купкі лісічак, ляжала бяроставая кузенька, прашытая лазовым прутком,— зверху белая, у чорных рысачках, а ў дне і па баках жоўтая, і тыя чорныя рысачкі прасвечвалі тут чамусьці чырванню. І яшчэ вырастала са спадзінкі маленькая сасоначка...

Я быў ступіў ужо да бліндажа, як раптам у цяглавіне нешта зашоргалася, затрапяталася, а потым ураз трывожна піснула, палахліва заценькала, забілася нейкая птушка. І як бы хто штурхануў мяне ў грудзі — я падаўся назад, лес хіснуўся, і я чуў ужо адно толькі неба: яно кружылася і адтуль плыў і плыў на мяне трывожлівы бясконцы шоргат. І вось ужо нібыта я ляжаў на зямлі: не было ўжо ні выбуху, ні мяне, і змяркалася, і тарахцела па дарозе падвода, і галасіла, галасіла ў лесе мая маці...

Яшчэ раз ценькнула нейкая птушка — ага, сініца!— і я страпянуўся. Было ціха ў лесе, і чуваць было, як там, у цеглавінцы яшчэ нешта шоргалася, але гэта, мусіць, з патрывожанага дрэва падалі кроплі і выпросталіся галіны. І як бы нанава глянуў я на ўзгорачак, чысты, светлы, абсыпаны шыгаллем, праз якое прасвечвала сіваватая зямля, і можа ад таго ўзгорачак быў не то фіялетаваты, не то нейкі бэзавы. І мне было ўжо ніякавата за нядаўні спалох, і ўжо недзе далёка быў успамін аб тым, як сем гадоў назад падарваўся ў гэтым лесе на міне мой аднагодак хлопец, наш вясковец...

І я пацыху зрэзаў лісічкі і пайшоў адсюль па рудым шыгаллі, вока маё па дарозе прыкмячала многа чаго, і ўсё наўкол было нейкае сцішанае і светлае: яно як бы лашчылася да мяне і прасіла сябе пакратаць. І зноў папаліся лісічкі — раз, другі, а потым у бярэзніку на ўзболатку знайшоў я абабак і брылястыя чырвоныя сыраежкі, а потым былі зноў лісічкі.

Нечакана азвалася сонца, коса сыпнула ружовыя мяккія промні на ствалы дрэў, на верас, і закурылася пара, а ў небе, відно было, сплывалі і радзелі, як туман, кудзелістыя хмаркі. Зноў мне трапілася дарога і павяла ва ўрочышча: я перайшоў ручай па залітых вадою жэрдках і выбіўся на гальную высокую мясціну з рэдкімі каржакаватымі соснамі. І тут быў пень, пацямнелы, шырокі, а на ім нехта, мусіць, часаў сасновы кол, бо ля пня валяліся акроечкі кары, рудой і падсохлай. Была вялікая спакуса сесці, і я сеў і пасля ўжо, агледзеўшыся, убачыў непадалёк яшчэ адзін бліндаж, а можа і зямлянку: відзён мне быў нейкі равок, парослы травою. А, можа, гэта і не зямлянка была, можа, гэта была нара: яе раскапалі некалі дзеці, а потым яна абвалілася, зарасла травой, а мне цяпер здалася зямлянкай.

Як там сапраўды было, мне чамусьці не хацелася думаць.

Ружова і роўна свяціла сонца, было цёпла і парна, а за арэшнікам

шумеў і булькаў ручай. І раптам адтуль, ад ручая, пачулася птушыная песня, такая порсткая, як сонечны прамень, і звонкая, вясёлая, як ручаіна. І, здалося, усё,— і лес, і цішыня, і ружовая парнасць,— усё было для яе і ўсё нібыта ёй памагала.

І я сядзеў на шырокім, пацямнелым пні і слухаў бульканне ручая і гэту песню, такую порсткую, як сонечны прамень, і звонкую, вясёлую, як ручаіна.

Хораша спявала ў прыціхлым лесе нейкая птушка!

## ЖУРАЎЛІНАЯ ПЕСНЯ

**В. Куцэнку**

У радасці свая вясна, і калі стане вясновай душа — народзіцца радасць.

І не абавязкова ёй прыходзіць да чалавека вясной: ёсць яшчэ лета і зіма, ёсць восень, і ёсць яшчэ дзень і ноч, усход і заход сонца. Зімою трашчыць уночы на рэках лёд, і гул ідзе высока, аж да неба, а раніцай ляжаць снягі, ружовыя і чыстыя, як радасць. А ў жытнёвае лета вісіць над зямлёю яблык, пераспелы і светлы, як даўняя журба; ён упадзе — і надыдзе восень, а восенню хлапчукі пякуць на полі бульбу, і ўвосень прыходзяць да чалавека ўспаміны пра маленства.



Але толькі вясною высока ў небе клічуць радасць журавы, і калі яна запазнілася да цябе, зімой ці летам, удзень ці ўночы, дык абавязкова прыйдзе з гэтаю песняй, і ты, можа, спазнаеш тады і трывогу, і шкадаванне, і журбу, але ўсё адно гэта ўжо будзе радасцю.

У сакавіку, здараецца, ноччу ідзе дождж, і ў вадасцёчнай трубе грыміць, як гром, абвальваецца намерзлы лёд.

У сакавіку першым дажджом і вільготным пругкім ветрам грукае ў акно ранняя вясна. І потым ужо будуць трубіць журавы, а яшчэ потым ралля ў полі стане шэрая, як жураўлінае крыло.

Неяк ноччу мне здалося, што я чуў, як трубілі, летучы над горадам, журавы.

Стаяў маладзічок у купцы тоненькіх воблачкаў, стаіўшыся, як рыбіна ў траве. Была ноч, была падшэрхлая і гулкая зямля і недзе далёка і высока гуў самалёт, і, здавалася, ад гэтага далёкага, суцішнага гуду трапяталася месячнае святло, і здалося, што разам з гэтым трапятаннем ідзе да зямлі жураўліная песня.

Стаяла ноч.

Ехалі ў адзінокіх трамваях і тралейбусах запозненыя пасажыры. У гарадскім парку валтузіліся ў сасновых шатах і лянiва крычалі галкі — стаяла ноч. Ішоў па вуліцы хлопец з дзяўчынай, і пяшчотна граў у ягонай руцэ кішэнны радыёпрыёмнік. Стаяла ноч. І нехта стаяў пад ліхтаром ля тралейбуснага прыпынку і чытаў газету. І недзе спаў у нечай кватэры хлапчук, і яму снілася, што ён вялікі, бо стаяла ноч. І не спаў на будоўлі вартаўнік. Ён быў стары, апрануты ў кажух, тупаў ля штабеля ўжо непатрэбных дошак і ціха шкадаваў, што іх трэба аддаваць на дровы. А з дошак добрыя выйшлі б плот ці весніцы. Стаяла ноч, і вартаўніку ўспаміналася вёска яго маленства.

Стаяла ноч, і ляцелі ноччу над горадам журавы.

Стаяла ноч, і я стаяў пад высокай ноччу на вясновай зямлі.

О, ляціце, журавы, ляціце сваёй Млечнай дарогай, вясёлай і шумнай, бы крыгаход! І вясновую радасць трубіце над цёмнай вясновай зямлёй. Не пытаюся, у якім краі пакінулі вы мае леты, ведаю, колькі было іх, і не пытаюся, колькі будзе.

Стаіць ноч, і я стаю пад высокай ноччу на вясновай зямлі.

Цякуць рэкі ў моры, і вырастаюць у неба дрэвы. Цякуць, як рэкі, дарогі па зямлі, і на сініх лугах маленства вырастаюць надзеі. І вырастае радасць, і Млечны Шлях сплывае ў вечнасць, і ляцяць, ляцяць сваёй Млечнай дарогай над цёмнай вясновай зямлёю журавы.

## ПАДАРОЖЖА ЗА ГОРАД

Вясна даўно прыйшла ў горад, але ў горадзе самая лепшая вясна, калі яна яшчэ нясмелая і маладая, калі нанач замярзаюць на тратуары лужынкі, калі доўга ружавее ўвечары неба і калі стаіць над вуліцамі сіні туман, а чырвоныя агеньчыкі машын ірдзеюць ярка, нібы гронкі калінавых ягад.

Быў пачатак мая, і я пайшоў паглядзець на вясну за горад.

Дзьмуў свежы вецер, на падсохлым асфальце ўжо курыўся пыл, і гулка ляскалі ў пад'ездах дзверы.

Вясною заўсёды бывае прасторна ў горадзе: і шум машын, і вясёлае татахканне поезда, і перазвон трамваяў чуваць далёка, бо вясною бывае, можа, самае маладое рэха.

Вясною гучна стукае на сажалцы пранік, і ад гэтага таксама бывае рэха, і той, хто жыў калі-небудзь у вёсцы, пачуе яго, не ўтрывае і пойдзе за горад. Так здарылася і са мной, але ў гэтым не было нічога благога для горада, як няма нічога благога ў тым, калі сталы, далёкі ад вёскі чалавек у нейкі ласкавы і шчыры да яго дзень нечакана ўзрадуецца, разуе чаравікі і пойдзе басанож лугавою сцяжынаю. Бо ўся, можа, вялікая ці зусім малая мудрасць у тым, каб упару адчуць, калі да цябе будзе ласкавы і шчыры той дзень, а ўжо здагадаешся пра гэта, калі чакаеш яго і калі верыш, што такі дзень табе недзе адпушчаны.

І вось была і мне цяпер лугавая сцежка, ды толькі рана было яшчэ ісці басанож па ёй.

Канчалася вуліца, і далей вяла праз лугавіну сцежка, яшчэ нявытаптаная, размытая веснавой вадой, з падсохлай ужо дзе-нідзе і патрэсканай гразёю. А за лугавінай відны былі маленькія домікі рабочага пасёлка, і адтуль вецер даносіў гуллівую і як бы раскудлачаную музыку.

Але што за слаўная мясцінка была тут летам! І вытаптаная, гулкая сцежка была, і трава, як на лузе, і балоцвінкі, і пасвіўся на куп'істай дзяцеліне, вышэй туды, да пасялковых агародаў, некім пушчаны на волю конь. І колькі разоў я прыходзіў сюды з кніжкаю, калі самая пара была касіць, калі і сапраўды на лугавіне паяўляўся касец — не раніцаю ці надвячоркам, як у вёсцы, а нават і ў поўдзень — высокі, з загарэлай да чарнаты шыяй, у парыжэлых ялавых ботах і ў кепцы, але без кашулі. Я ляжаў, курыў, чытаў, утаропіўшыся ў цьмяную ад сонца старонку кніжкі, а ён усё шоргаў і шоргаў касою, аж пакуль не пачынала падсыхаць і невыказна хораша пахнуць трава. А назаўтра ўжо я перабіраўся бліжэй да пракосаў, набіраў сабе колькі трэба травы і зноў лажыўся і чытаў, а потым прыходзіла нейкая жанчына з граблямі, таксама загарэлая, як той дзядзька. Яшчэ на другі дзень на лугавіне вырастаў стажок, а ў жанчыны на загарэлых руках відны былі белыя драпіны ад сухога шорсткага сена.

І колькі разоў пасля таго браў я зімой у рукі кніжку і незнарок знаходзіў паміж старонак сухую травінку, і тады ўспаміналіся і шоргат касы, і пах завялай травы ў пракосах, і белыя драпіны на руках у жанчыны, і тое, як чытаючы на лугавіне, знайшоў я аднойчы ў Мапасана зусім нечаканую для сябе навелу. У той навеле была лодачка, слаўная лодачка, уся белая, з сіняй аздобкай уздоўж борта, і яна ціхаціха плыла па спакойным дрымотным моры, глыбокім і сінім. З берага глядзелі на мора прыгожыя вілы, чыста бялеючы ў садах, дзе раслі пальмы, алоэ ў вечнай згодзе з сонцам. А лодка ўсё плыла і плыла, і нейкі Поль сказаў свайму сябру:

— А ў Парыжы ўвесь час ідзе снег. Ноччу шэсць градусаў марозу.

А той, другі, нічога не адказаў яму, толькі ўдыхнуў на ўсе грудзі цёплае блакітнае паветра, глянуў на вілы, якія былі ўжо далёка, і ўбачыў высока над імі вялізныя белыя горы, што ўсё раслі і раслі, і, здавалася, ніколі не было пад імі ні вінаграднікаў, ні пальмаў, ні алоэ.

А лодачка ўсё плыла і плыла, і тыя, што сядзелі ў ёй, успаміналі зімовы Парыж, нейкага Жуля, што ў адзін вечар скарыў сэрца багемнай прыгажуні Сільвіі Рамон, і ноччу, калі ўжо разыходзіліся ад яе госці, басанож кружыў па аснежаным двары, мыючы ногі. Вялікі дзівак і вялікае дзіця быў той Жуль!



А лодачка ўсё плыла і плыла, сінела чыстае і спякотнае неба, усё раслі і раслі на гарызонце белыя горы, і нейкі Поль вычытваў з газеты пра снежныя абвалы ў горных вёсках з дзіўнымі назвамі Пірале, Дамонтэ, К'ябрана, Вальпрата.

А потым лодачка павярнула назад, і ўсё бліжэў, і бліжэў бераг, і не было ўжо відно высокіх белых гор, і неўзабаве не было ўжо нічога, акрамя горада і сіняга мора, і ўсё плыла, плыла па дрымотнай вадзе лодачка, слаўная лодачка з сіняй аздобкай уздоўж борта.

Дзіўныя рэчы бываюць у класікаў, а яшчэ, можа, больш дзіўна тое, што ты вось ніколі не быў ні на Міжземным моры, ні ў Парыжы, але чамусьці ведаеш іх, нібы там некалі жыў.

А спякотны дзень на лугавіне, сена ў пракосах, кніжка Мапасана,— усё гэта было са мной і, можа, было яшчэ і з кім-небудзь другім, але таму, другому, не абавязкова чытаць гэтыя старонкі. Важна, каб з ім было, а свае старонкі ён сам напіша. І, можа, ён, як і я, аднойчы ўвесну таксама надумае ды і пойдзе на сваю даўнюю лугавіну, бо няма нічога благога ў тым, калі чалавек ступае на адну і тую ж сцежку двойчы і калі на яго ад гэтага находзяць успаміны.

Бо яшчэ вось так чалавек заўсёды знаходзіць сабе сябра ў падарожжа за горад.



**Аўгіння КАВАЛЮК**

## ЛЮБІЦЕ



юдзі, не сейце варожасць
па свеце,
Кветкамі лепей поле засейце...
Хай хрызантэмы аж
з Хірасімы
Вырасцяць людзі цудоўнага Крыма,
Хай беларускія нашы гваздзікі
Сеюць на горных вяршынях таджыкі,
Хай усміхаюцца ружам
рыжане
І англічане, і парыжане.
Кветкамі хай зарастаюць акопы,
Кветкі на месцы плацдармаў Еўропы
Густа садзіце,
каханым дарыце.
Любіце...
Жывіце...

## АПАВЯДАННЕ МАРАКА



сць у кожнага мора, мой мілы,
Свой характар, свой нораў
і сілы,
Там любую убачыш карціну—
То разгорне шырокую спіну,
То балюча і злосна закруціць,
Хвалі ўсе ўзбаламуціць,
Часам стане спакойным,
лагодным,
А тады калі хмурае —
шкодным.
Хоць нялёгка на хвалях
гарбатых
Нашаму брату,
Толькі кожны марак
любіць мора
І яго няўстойлівы нораў.

*СЯРГЕЮ ГРАХОЎСКАМУ*
*ПЯЦЬДЗЕСЯТ ГАДОЎ*



**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

## ДВАЦЦАТЫ ГОД



се мы бачым, як піжон
Часамі лезе на ражон,
Як з нейкай модніцай у пары,
Яны шліфуюць тратуары,
Як сноўдаюцца у абдымках,
Нібы на галівудскіх здымках,
Ад вечара і да світання,
Даўно не верачы ў каханне.

Нібыта аплявухай звонкай,
Мы ахрысцілі іх — «падонкі»
І адхрысціліся ад іх,
Хоць шум на вуліцы не сціх,
Хоць пазнаём мы іх здалёку —
Яны, нібы бяльмо на воку,

Што засланіць ужо гатова
І ясны дзень, і ранак новы.

Ды сонца нельга засланіць —
Яно палае і звініць,
Яно ў рабочыя кварталы
Плыве расплаўленым металам,
І па шырокім тратуары
Гуляюць закаханых пары,
І хлопцы крочаць на завод,
І кожнаму — дваццаты год.

Ідуць шафёры і шахцёры,
Геолагі свідруюць горы,
Гідролагі брыдуць ўброд —
І кожнаму па дваццаць год.
А нашы дочкі і сыны
Нам пішуць пісьмы з цаліны,
Частуюць самым смачным хлебам
І ўсё часцей глядзяць у неба...

Саджаюць кветкі, быццам дома,
Дзяўчаты каля касмадрома.
І дзень у дзень ідуць упарта
Ад баракамеры да старта
Вясёлыя зямныя зоры,
Чыесьці слаўныя дублёры,
Даўно гатовыя ў палёт,
І кожнай з іх — па дваццаць год.

А ў дождж, у спёку, ў навальніцу
Каля дзяржаўнае граніцы,
Ад Брэста і да Сахаліна
Не спяць бязвусыя мужчыны,
І ў акіяне маракі
Глядзяць удалеч з-пад рукі,
У першы ідучы паход,
І кожнаму — па дваццаць год.

Такія нашыя сыны.
На нас падобныя яны,
Патрэбна толькі сёння ўбачыць,
Што кожны будзе заўтра значыць.

## ВЯСНА



ябе палохае і кліча
Зялёны красавіцкі дым,
І незнаёмае аблічча,
І бэз над берагам крутым.



Цябе трывожыць і гукае
Іскрысты шумны крыгаход
І той хлапчук, што сустракае
Цябе ўжо не першы год,

Бярэзнік у ліловым чадзе
І рэчка ў ранішняй смузе,
І салаўі, што ў цёмным садзе
Пяюць аб шчасці і тузе.

Усё цябе кудысьці цягне,
Заснуць да рання не дае:
То хтось вядзе па топкай багне
І сцежкі блытае твае,

То пралятаеш над ракою,
То зноў пытаешся сама,
Чаму ранейшага спакою
Ні днём, ні вечарам няма.

Здаецца, побач навальніцы
Грымяць і б'юць за сіні лес,
А гэта ж бліскаюць зарніцы
І ціха лопаецца бэз,

Мінаюць першыя трывогі —
І вось ты бачыш з-пад рукі,
Як разбягаюцца дарогі
Ва ўсе кірункі і бакі.





раверыць можна нервы, склад крыві,
Убачыць мозг і сэрца на рэнтгене,
А па якіх зубцах або крывых
Праверыць можна чысціню сумлення?

Як зазірнуць у глыбіню душы
І як узважыць шчодрасць чалавека?
Якія тут рацэпты не пішы,
Ніякая не выручыць аптэка.

А я дайсці да ісціны хачу,
Хоць, можа, гэта ісціна старая:
З маленства я заўжды па Ільічу
Уласнае сумленне правяраю.



*Мінула больш за сорак гадоў з тае пары, як у друку ўпершыню паявілася імя Йёжафа Лендзьела. У 1919 годзе, у часе Венгерскай Савецкай Рэспублікі, ён выступіў перад грамадскасцю як супрацоўнік «Чырвонай газеты». Пасля звяржэння пралетарскай дыктатуры быў вымушаны эмігрыраваць у Савецкі Саюз. Тут і паявілася ўпершыню большасць яго раманаў.*

*Апавяданні Йёжаф Лендзьел пісаў яшчэ будучы журналістам. Пазалетась у Венгрыі выйшаў з друку том яго навел, напісаных за сорак гадоў. Імя Йёжафа Лендзьела можна часта сустрэць у газетах і часопісах, яго матэрыялы становяцца ўсё больш папулярныя ва ўсіх кутках Венгерскай Народнай Рэспублікі. І старэйшае пакаленне, і моладзь любяць яго навелы і раманы.*

*У 1963 годзе венгерскі ўрад удастоіў Йёжафа Лендзьела прэміі імя Кошута.*

**ЙЁЖАФ ЛЕНДЗЬЕЛ**

# КНІГА, САД І ДЗІЦЯ

Мал. Дзьюлы Сені.

**Апавяданне**

1

Калісьці даўно, сто гадоў таму назад, жыў у сталіцы Бухары слаўны чалавек па імені Хідмек, які сам быў мудры і паважаў мудрых. Цаной шматгадовай працы гэты слаўны чалавек напісаў вялікую і тоўстую кнігу, у якой апісаў усю гісторыю сваёй радзімы ў павучанне суайчыннікам. Яму было пяцьдзесят год, калі ён закончыў кнігу. І тады ён сказаў:



— Мудры быў той, хто сказаў: «Недарэмна жыў той, хто выхаваў сваё дзіця сапраўдным чалавекам, пасадзіў сто пладовых дрэў або напісаў кнігу». Я не садзіў дрэў. Сын мой толькі пазней дакажа, якім чалавекам я выхаваў яго. Але кніга мая гатова: я не жыў дарэмна. У спакоі і міры я хачу пражыць рэшту дзён сваіх.

Але здарылася не так, як жадаў слаўны Хідмек. Прайшло ўсяго некалькі дзён пасля выдання кнігі, як бухарскі трон заняў новы эмір, фанабэрысты і жорсткі чалавек, які паслухаўся слоў дрэнных дарадчыкаў.

— Хідмек напісаў,— нашэптваў эміру адзін з яго саветнікаў,— што твае продкі былі казінымі пастухамі. А паданне ж кажа, што ты паходзіш з драконаў.

Другі саветнік сказаў так:

— Ён напісаў аб Сейфуліне, што той хацеў народу дабра, а ўсім жа вядома, што Сейфулін пазбавіў твайго бацьку трона.

Гэтага новаму эміру было дастаткова. Прыгавор не прымусіў сябе чакаць. Арыштаваць Хідмека, сына яго аддаць у салдаты, ды ў штрафную часць!

2

Хідмеку ўдалося выратавацца. Ён перабег у суседнюю краіну, Афганістан, дзе жылі сваякі яго нябожчыцы-жонкі. Сваякі не былі багацеямі, але далі яму шалаш і кавалак неапрацаванай зямлі.

Так пачаў новае жыццё Хідмек, і хоць спіна яго сагнулася ад часу, лапатай і матыкай ён зрабіў зямлю ўрадлівай. Палавіну яе ён засеяў бульбай, капустай, морквай і макам, абсадзіў градкі з краю вінаграднай лазой. На другой палавіне ўчастка ён пасадзіў саджанцы арэхавага дрэва.

— Тое, што ты пасеяў бульбу, моркву, мак,— сказалі яму сваякі і новыя знаёмыя,— разумная справа. Праз некалькі месяцаў ты атрымаеш асалоду ад плёну сваёй працы. Апрацоўка вінаграднай лазы была цяжкая для тваіх старых касцей. Ну, нічога, калі ты пражывеш яшчэ чатыры-пяць год, ты адчуеш смак вінаграду. Але навошта ты пасадзіў арэхавыя дрэвы? Яны ж пачнуць па-сапраўднаму прыносіць плады толькі праз дваццаць год. Ці ты думаеш пражыць яшчэ дваццаць год?

— Не, я не думаю, што пражыву яшчэ дваццаць год. Клопаты і няшчасці не прыбаўляюць веку. Але, можа, вы чулі, што я напісаў калісь-



ці кнігу. Я думаў тады, што кніга мая застанецца і паслужыць на карысць людзям, ніколі ж не шкодзіць ведаць, што было ў старыя часы. Кніга мая загінула, яе спалілі на кастры... Быў у мяне сын. Я думаў, што ён прадоўжыць тое, што пачаў я. Яго ўзялі ў салдаты, паслалі ў бой, і нядаўна я даведаўся, што ён загінуў пры першай жа сутычцы з ворагам... І вы яшчэ пытаецеся, навошта я пасадзіў сто арэхавых дрэў?

— Але, пытаемся! — адказалі сваякі.

— Таму, што мы не разумеем... — падхапілі знаёмыя.

— Я ведаю, што мне не давядзецца пакаштаваць арэхі. Але ж хтонебудзь пакаштуе іх. Ці ж не так? Магчыма, дзеці па дарозе ў школу сарвуць іх, каб з'есці потым з хлебам. У каго няма арэхаў, той знойдзе іх тут і падсалодзіць мёдам. Я ўжо стары, у мяне не можа быць сына. Кніг я больш не магу пісаць. Гэтыя дрэвы я пасадзіў для таго, каб не пражыць дарэмна свой век.

3

Прайшло дзесяць год, а Хідмек воляю лёсу ўсё яшчэ жыў. Спіна яго была ўжо зусім сагнута, але ён усё яшчэ працаваў у садзе. Алеі саду ператварыліся ўжо да таго часу ў абвітыя вінаградам альтанкі.

Прайшло яшчэ дзесяць год. Хідмек з ласкі лёсу не страціў ні святла вачэй, ні сілы духу, але жыццё ў ім ужо ледзь цеплілася.

Аднойчы асеннім днём ён сядзеў у садзе і глядзеў на арэхавыя дрэвы, якія ў гэтым годзе прынеслі свой першы багаты ўраджай. Дастаткова было лёгка пастукаць па дрэве ці дыхнуць ветру, каб з адкрытых зялёных каробачак на зямлю ручаямі пацяклі арэхі, але Хідмек толькі сядзеў перад сваёй юртай, таму што быў стомлены.

Так ён сядзеў, задумаўшыся, пакуль перад ім не паявіўся дужы барадаты мужчына з тварам, абпаленым сонцам, і пачціва схіліўся перад ім.

Хідмек адказаў на прывітанне незнаёмага, запрасіў яго сесці, спытаўся, ці патрэбен прытулак на ноч. Калі ж ён адчуў са слоў прышэльца, што той — разумны і добразычлівы чалавек, то расказаў яму гісторыю ўсяго свайго жыцця, закончыўшы яе наступнымі словамі:

— Бачыце, арэхавыя дрэвы даюць ужо мне пяцьдзесят мяхоў пладоў,—нявызнаны шляхі божыя! — на што я ўжо не спадзяваўся. Але я вельмі стары. Я не магу падняць кій, каб збіць арэхі. А калі вецер асыпае іх, адкуль жа мне ўзяць сілы нагнуць маю хворую спіну, сабраць іх і ўнесці ў дом?

— Хіба ў цябе няма сына, варты павагі чалавек? — спытаўся прышэлец.— Сына, які памог бы табе?

— Ты так слухаў маё апавяданне? Я ж сказаў, што мой адзіны сын загінуў у першым баі.

Тады прышэлец апусціўся перад старым на калені і сказаў:

— Не, не загінуў твой сын ні ў першым, ні ў другім баі. Ты, Хідмек, якога я шукаю ўжо некалькі год, таму што я павінен быў прынесці табе гэтую вестку.

Стары глянуў на прышэльца. Ён глядзеў, глядзеў на яго і нават пакратаў яго сваёй дрыжачай рукой. На барадатым, абпаленым сонцам твары ён убачыў спачатку рысы сваёй даўно памёршай жонкі, потым і свае ўласныя.

Ён расставіў рукі для абдымкаў.

— Сын мой!



— Так, я твой сын. Шмат дарог я выхадзіў, пакуль знайшоў цябе. Вось я прыйшоў і памагу сабраць табе ўраджай. Я прынёс тваю кнігу, якую не мог спапяліць агонь кастра.

— Кнігу? — здзівіўся стары. — Але ж святло кастра, раскладзенага з маіх кніг, суправаджала мяне ў жудасную ноч, калі я ўцякаў!

— Так, але адзін экземпляр перад гэтым нехта купіў. Пазней ён адвёз яго ў Індыю. Тут пачалося новае жыццё тваёй кнігі. У Індыі яе зноў выдалі. Ты не атрымаў весткі пра гэта? А тваю ж кнігу чыталі тысячы і тысячы людзей, чытаюць яе і цяпер, у кожную хвіліну дня ва ўсіх канцах свету...

Так і жыў слаўны стары Хідмек — не адзін раз, а тройчы, у дрэвах, у кнізе, у сыне. І нават не тройчы жыў ён не дарэмна, а сто разоў. Таму што ад арэхавых дрэў выраслі іншыя дрэвы, добрая кніга дала пачатак многім добрым кнігам, ад яго добрага сына нарадзілася шмат добрых дзяцей.



*Гэта адзін з найбольш таленавітых сучасных венгерскіх пісьменнікаў, кіраўнік выдавецтва мастацкай літаратуры.*

*У трыццатыя гады Ілеш ужо быў прызнаным крытыкам і належаў да перадавой гвардыі вядучага ў той час часопіса «Захад». Венгерскае выдавецтва выпусціла ў свет многія яго працы, крытычныя артыкулы. Яго па праву лічаць лепшым перакладчыкам на венгерскую мову Стэндаля і Мапасана.*

*У сваіх апавяданнях, напісаных да вызвалення, Ілеш узнімае самыя надзённыя праблемы, малюе жыццё так званага сярэдняга саслоўя.*

*Прэм'еры яго драм заўсёды з'яўляюцца значнай падзеяй у тэатральным жыцці Венгрыі.*

*Летась Эндрэ Ілешу споўнілася шэсцьдзесят год. За пісьменніцкую і перакладчыцкую дзейнасць венгерскі ўрад у 1963 годзе прысудзіў Эндрэ Ілешу прэмію імя Кошута.*

*Ніжэй друкуецца апавяданне Ілеша са зборніка «Шуляры».*

**Эндрэ ІЛЕШ**

# УРОК АНГЛІЙСКАЙ МОВЫ

Мал. Лайяша Вінцэ.

Містэр Спейнер быў раўнамерна цыбаты і цёмна-скуры, як вугор. І маўчаў ён, як вугор. На людзей глядзеў раўнадушна і абыякава, як на падсмажаныя грэнкі. Жыццёвыя інтарэсы яго заўсёды былі паніжанага

тонусу, але пашыраліся абсалютна на ўсё. Містэр Спейнер не класіфікаваў з'яў, нічому не аддаваў перавагі: усё гучнае і хвалюючае было яму чужое. Ён моўчкі прымаў да ведама свет, увесь свет. Ён быў спакойны, як мішэнь, нішто не магло парушыць яго загартаванага, браніраванага спакою. Калі іншы раз яму ўсё-такі прыходзілася гаварыць, ён па магчымасці выказваў свае думкі аднаскладовымі словамі; тое, што ён вымаўляў у выпадках крайняй неабходнасці, ён разбаўляў доўгімі паўзамі. Я параўнаў містэра Спейнера з вугром? Брытанскіх джэнтльменаў не прынята ставіць на адну дошку з рыбамі ніжэйшага парадку, якія любяць нават прэсную ваду. Але містэр Спейнер не быў англійскім джэнтльменам, ён быў настаўнікам англійскай мовы.

Што датычыць другога майго героя, пана адваката, медная дошчачка на яго дзвярах вельмі проста абвяшчала пра яго: Сілашы. Малады пан адвакат пра ўсіх ведаў, хто што сабой уяўляе. Не толькі ён сам, але і яго скура, локці, усе яго мускулы яскрава адчувалі, што за чалавек перад ім. У залежнасці ад гэтага ён то перапыняў субяседніка або пазяхаў, калі той гаварыў, то быў ласкавы, то сумаваў, то быў нахабна-нядбайны, але кожным сваім рухам ён вывучаў, узважваў таго, з кім яму прыходзілася сутыкнуцца. Сам ён быў хутчэй сібарытам і спрытным гультаём, але сілу паважаў настолькі сур'ёзна, глыбока і таленавіта, што гэтае старанне пастаянства загартавала яго. Малюск у шчыльным панцыры, які здабыў грозную зброю.

Такім чынам, малады пан адвакат ведаў, што містэр Спейнер — настаўнік англійскай мовы. А з настаўнікам англійскай мовы трэба абыходзіцца адпаведна яго становішчу. Пан адвакат упершыню ў жыцці апынуўся ў кампаніі настаўніка: ён хацеў вывучаць англійскую мову. Да таго ж містэр Спейнер цікавіў яго. Нахабства яго выяўлялася толькі ў той цікаўнасці, з якой Сілашы паглядаў з вышыні сваіх трыццаці двух год на шасцідзесяцігадовага містэра Спейнера. Ён разглядаў яго так уважліва і бессаромна, як быццам перад ім была дзіўная, незвычайная жывёліна. Разглядаў так, як ён разглядаў бы ў заапарку янота або ліса. Ён нават ахвотна кінуў бы яму рыбінку ці кавалак цукру.

Пан адвакат прыняў містэра Спейнера ў сваім сталовым пакоі. Галандская мэбля была дарагая, цяжкая і зусім новая, як і ўсё ў віле Сілашы. Не якая-небудзь крыклівая, танная або несімпатычная — яшчэ цёплая ад дотыку рубанка, якая пахне фарбай. Малады пан адвакат паходзіў з добрай сям'і, але ўся абстаноўка ў доме паказвала, што багацце тут яшчэ свежае, якое не мае карэнняў. Адвакат зарабіў шмат грошай за кароткі час. Тут нішто не мела мінулага, у гэтых пакоях усё пачалося пазаўчора: прадметы народнага мастацтва, прыёмная, адзенне, лікёры, лакей. Тое, што мелі раней жыхары дома, прыйшлося выкінуць або раздаць: бо ўсё гэта недастаткова паказвала сілу, не было аўтарытэтным і салідным.



Сярэдзіну галандскай сталовай займае вялікі бліскучы ненакрыты стол. На яго гладкай паверхні як сэнс усяго і крыніца святла ляжыць цяжкая біблія ў скураной вокладцы і з зашчапкамі. Пан адвакат акунаецца локцем у цёмна-карычневае ззянне стала, за акном пырскае вясновая раніца, як малады распушчаны фантан, а ў сярэдзіне пакоя пан адвакат ляніва, зручна размясціўся за сталом... Бяздоннае цёмна-карычневае люстэрка стала мігае загадкава, як цёмнае лясное возера. Містэр Спейнер без усялякага выразу глядзіць на пана адваката, праз пяць хвілін — на стол і біблію, праз дзесяць хвілін — на абавязковы галандскі калаўрот у кутку. Ён таксама цяжкі, як матыў Вагнера. На акне — заслона ў дробную чырвоную і белую клетку, карніз, як увішны лакей, працягвае да святла цюльпаны, якія толькі яшчэ распускаюцца. Святло нястрымна льецца ў акно, чырвона-белая заслона ашчадна працэджвае гэтае шчодрае веснавое асвятленне. Містэр Спейнер не толькі маўчыць, ён як быццам нават і не слухае пана адваката. А гэта ж якраз цяпер размова ідзе пра плату за вучобу, пра працягласць урокаў... Але ён толькі ківае іншы раз. Ён і пана адваката Сілашы не ўдастойвае большага, чым свае аднаскладовыя словы.

Першы ўрок праводзіцца ў галандскай сталовай. Тут містэр Спейнер з вартым павагі нешматслоўем растлумачвае тайны артыкля. Уся сталовая расчулена заціхла, як быццам нават калаўрот у кутку і той вучыцца англійскай. Старанна вучыцца і пан адвакат: калі чаго не ведае, дык зручна размяшчаецца локцямі на стале — гаспадар галандскай сталовай усё-такі ён... У гэтым першым забегу спаборніцтва перавага як быццам на баку містэра Спейнера. Ён нешматслоўны, вельмі худы і яшчэ — даволі нязграбны. Але пан адвакат пакідае галандскую сталовую: у яго шмат спраў, да таго ж ён лянівы і прывык да зручнасцей. Містэр Спейнер нават не заўважае, што пяты ўрок ён дае ўжо ў ванным пакоі.

Містэр Спейнер, як яму і належыць, прыходзіць раніцай, пан адвакат у цёмна-сіняй піжаме стаіць перад люстрам, твар яго пакрыты лёгкімі пышнымі воблакамі пены — ён голіцца. Містэр Спейнер старанна растлумачвае дапаможныя дзеясловы ці то спіне пана адваката, ці то азызламу твару фаўна ў люстры. Пан адвакат — дзіця прыроды, і таму цнотнасць — паняцце яму невядомае. Пасля галення ён мыецца, фыркаючы і палошчучы горла, стараецца адгадаць, што ж адбываецца, калі пасля двух прыметнікаў стаіць адзін і той жа назоўнік. Містэру Спейнеру, хоць і кароткімі словамі, але тры разы даводзіцца тлумачыць, што адзначанае слова ставіцца побач з першым прыметнікам, а другі прыметнік вымушаны задавальняцца замест назоўніка прыстаўкай...

Некалькі тыдняў яны так і займаюцца ў ванным пакоі. Ні барадзе пана адваката, ні англійскай мове гэта не дакучае. І тая і другая калючыя і ўпартыя, з абедзвюма трэба важдацца. Містэр Спейнер старанна абыходзіцца з пытаннямі адносна прыналежнай канструкцыі.

— Містэр Спейнер, што азначае ваша імя? — пытаецца аднойчы ра-

ніцай пан адвакат, намыльваючы твар і працягваючы руку па брытву.— Яно ж мабыць што-небудзь азначае, ці ж не праўда?

— Выпрамляльнік,— раўнадушна адказвае містэр Спейнер.

Пытанне пана адваката не было ні арыгінальным, ні дасціпным. Містэр Спейнер прывык ужо, што яго вучняў рана ці позна асяняе: ён жа таксама належыць да англійскага слоўнікавага запасу.

Потым настала лета, а разам з ім і час паравых ваннаў... Але ў гэтае лета, лета 1938 года, у пана адваката сабралася куча спраў: ён стаў членам праўлення ў шматлікіх месцах банкавага квартала, яго бесперапынку клікалі да тэлефона, запрашалі на перагаворы, дагаворы, канферэнцыі, пасяджэнні — імі быў спісаны ўвесь календар пана адваката. Вечарамі ён стаў позна вяртацца дадому — і аднойчы раніцай містэр Спейнер апынуўся разам са сваім вучнем і лабірынтамі лічэбнікаў у халодным басейне паравой купальні. Так, пан адвакат не начаваў дома, абрыкосавая гарэлка проста-такі спальвала яго знутры, а пот — знадворку. Нельга ж у такім выглядзе ісці дадому! Раней, чым нырнуць пад коўдру, ці не лепей зайсці спачатку ў паравую купальню? Так, але што ж рабіць з містэрам Спейнерам? Хай ён таксама ідзе парыцца!

Містэр Спейнер цяпер прыходзіў проста да касы купальні. Білет для яго быў заказаны, пан адвакат сядзеў каля краю басейна з халоднай вадой. Што было рабіць містэру Спейнеру? Ён таксама распранаўся і лез у ваду да свайго вучня. Бо пана адваката пасля начной гулянкі і начнога віскі цягнула чамусьці ў халодную ваду, у якой ён прахалоджваў сябе роўна тры чвэрці гадзіны. За кампанію халадзелі і тонкія косці містэра Спейнера.

— Так яшчэ і рэўматызм схопіш! — трывожыўся ён вечарам дома.

Але да гэтага не дайшло.

Якраз мянялі каляндар. Новы каляндар паказваў 1939 год.

І пан адвакат Сілашы палічыў за лепшае займацца размоўнымі ўрокамі нямецкай мовы, а не ўрокамі англійскай.

Містэра Спейнера ён зноў шукаў ужо толькі ў 1944 годзе. Але старога настаўніка ўжо не было ў горадзе.

## На арбіту камунізма

# ФАБРЫЧНАЯ ДЗЯЎЧЫНА

**Нарыс**

Мусіць, цяпер ніхто і не памятае, як упершыню на Баранавіцкай трыкатажнай фабрыцы паявілася гэтая невысокая, бялявая, з іскрынкамі ў вачах і вострым падбародкам дзяўчына. Колькі іх вось гэтак, пасля дзесяцігодкі, прыходзіла сюды, каб «зарабіць стаж», а потым падацца куды-небудзь у інстытут!.. Валя Куніца ў прахадной сціпла падавала пропуск і гублялася ў патоку работніц, што спяшаліся ў цэхі.

Думалася тады Валі, што няхітрая гэта справа — вязальная вытворчасць. У яе ўжо была за плячыма практыка на фабрыцы ды залаты медаль, які яна атрымала з атэстатам аб сярэдняй адукацыі.

— Месяц-два вучаніцай і самастойна стану да станка,— запэўняла яна сястру Майю, якая ўжо даўно працавала вязальшчыцай.

— Так ужо і месяц!.. — перапыніла Майя самаўпэўненую сястру.

Дзіўная гэтая пара — юнацтва! Здаец-



Валянціна Куніца за работай.

Фота М. Белюка.

ца, абняў бы ўвесь свет... Сёння ты ў думках — мастак, заўтра — інжынер. Свет вакол цябе — вялізны, толькі захапляйся.

У семнаццаць гадоў Валя пачала сур'ёзна задумвацца над жыццём. Яе ўсё больш непакоіла, чаму ўсё тое, што іншым даецца лёгка, ёй дастаецца цаной вялікіх намаганняў.

Думкі апаноўвалі яе часта вечарамі, калі яна вярталася з работы. Ва ўсім целе — стома. Спіны не разагнуць. Значыць, яшчэ не прывыкла. А можа, яна так і не стане вязальшчыцай? Можа, яна памылілася?.. Можа, Майя праўду гаварыла?

...Заўтра рана — на змену.

Ужо месяц, як Валя ходзіць на фабрыку. Тут нараджаецца яе прафесія, тут нараджаецца і яна, Валянціна Куніца. Рабочы чалавек, як гаворыць бацька. Нялёгка гэта. Але ідуць дні, тыдні, і ўсё ясней адчуваецца — пакінуць фабрыку ёй цяпер было б не толькі шкада, але проста немагчыма.



**Валянціна Куніца, Аляксандра Клаўдзянкова і Марыя Жарко — усе яны прыйшлі ў цэх пасля дзесяцігодкі.**

Паявіліся новыя сябры, якія палюбілі Валю, а яна — іх.

Вось так, разважаючы сама з сабой, дзяўчына пачала разумець, што праца на грамаду — галоўнае ў жыцці.

Аднойчы Наталля Іванаўна, майстар, паклікала Валю да сябе. Сказала коратка:

— Валя, прыходзь вечарам.

— Куды?

— На кваліфікацыйную камісію.

Дзяўчына трывожна паглядзела на майстра.

Потым сяброўкі віншавалі яе. А Валя, ідучы са змены дамоў, успомніла чамусьці Марыю Майсюк, сваю настаўніцу, што вучыла яе працаваць на станку. Якая яна шчырая і сумленная...

Хораша Валі, што побач з ёю Марыя. Валя на ўсё жыццё запомніць яе ўрокі. А заўтра яна сама будзе за станком. Самастойная работа... Хіба не пра гэта марыла дзяўчына? Цяпер і яе праца будзе ў агульным поспеху цэха.

Неяк неспадзявана Валю перавялі ў брыгаду Лілі Хітрык. Дзяўчаты гэтай брыгады вырашылі, каб у іх была самая высокая прадукцыйнасць працы на фабрыцы. Яны адмовіліся ад планава-папярэдніх рамонтаў абсталявання, першыя перайшлі на многастаночнае абслугоўванне фангавых паўаўтаматаў. Разумныя машыны цяпер дазвалялі ў паўтара раза даваць больш прадукцыі. Але хіба гэта мяжа!

Неяк па ініцыятыве камуністаў на фабрыцы было прапанавана кожную зону зрабіць брыгадай, каб павысілася адказнасць кожнай работніцы за даручаную справу. Ідэя спадабалася. І цяпер у калектыве ішло яе абмеркаванне. Спрачаліся і ў брыгадзе Лілі Хітрык.

— Нічога не выйдзе,— казалі адны.

— Гэта ж колькі брыгад будзе. А дзе грошай узяць?— разважалі другія.

— А на што грошы,—сказала Алена Дрозд, пажылая работніца.— Выберам лепшых брыгадзіраў. І няхай кіруюць вытворчасцю на грамадскіх асновах. Мы ж ідзём да камуністычнай працы!..

Нехта скептычна хмыкнуў, нехта абыякава дадаў: «Нічога не выйдзе з гэтага».

Але агульная думка ўсіх была адна: прымаем. А потым на сходзе брыгада хорам галасавала за свайго выбранніка — Валю Куніцу. Больш за ўсіх, вядома, хвалявалася і радавалася Ліля. Яна, наогул, не майстар на прыгожыя прамовы, але падышла да Валі і, пасяброўску, абняўшы яе, сказала:

— Не хвалюйся, дзяўчына, справішся.

У працы, у давер'і сяброў ствараўся новы калектыў, мужнелі характары. І новыя клопаты, і цяжкасці адольваліся разам, усёй брыгадай. Неўзабаве быў выбраны савет брыгады, потым — камсорг, прафорг. Справы, быццам, ішлі на лад, але з планам новая брыгада не спраўлялася. Калі, скажам, шукаць аб'ектыўныя прычыны, то можна было б знайсці апраўданне: у брыгадзе шэсць вучаніц. Валя ведала, што сённяшнія вучаніцы — заўтрашнія вязальшчыцы. Але як быць з тымі, хто не выконвае нормы сёння? А такіх было сямёра.

На савеце вырашылі ўзяцца за іх. Праводзілі штодзённыя планёркі-сходы, падводзілі вынікі. «Дойдзе»,— думала Валя. І часта ўшчувала іх.

— Нешта ты дужа шумлівая стала,— папракнулі сяброўкі Валю.

— А як жа не будзеш шумець?

— Ты спачатку разбярыся, зразумей, што на душы ў чалавека.



Соня Амбражэй вышэй за семдзесят працэнтаў нормы не давала. Крычыш на яе, а яна маўчыць. Валя знайшла зручны момант і вырашыла пагаварыць з дзяўчынай.

— Не клеіцца ў цябе нешта, Соня,— пачала яна.

— Не ўмею, значыць,— апусціўшы вочы, неяк сумна адказала Соня.

— А ты вучыся.

— Гаварыць усе вы ўмееце, а як паказаць, дык няма каму,— сказала Соня.— Кожны глядзіць толькі каб сабе.

— Як табе не сорамна! — папракнула Валя.

— А што, хіба не праўда?—горача гаварыла Соня. Можа не праўда, што наладчык Патоцкі і глядзець у мой бок не хоча, калі ў машыне не ладзіцца. Усе гэта бачаць. А хто сказаў хоць слова?..

Валя слухала, і для яе адкрывалася невядомае. Значыць, яна многае яшчэ не разумее ў жыцці брыгады.

— Добра, — сказала Валя, — сёння разбярэмся, — і накіравалася да Марыі Паўлені.

— Даручэнне табе, Маша, ёсць, — адразу загаварыла Валя. — Трэба памагчы Соні...

Цяпер пасля змены дзяўчаты не спяшаліся дамоў.

Часта можна было бачыць, як дзве вязальшчыцы схіляліся над машынамі.

— У мяне, Соня, таксама не ўсё адразу клеілася, — гаварыла Марыя. — Вось прабелы на расфарбоўцы. Чаму? Бачыш, рычаг няправільна ўстаноўлены. Глядзі, як трэба... А цяпер сама... Ну, вось і выходзіць...

Шмат было такіх урокаў, і яны давалі свой добры плён. Неўзабаве пачала няспынна расці прадукцыйнасць працы ў брыгадзе. На камсамольска-маладзёжную брыгаду хутка звярнулі ўвагу ўсе трыкатажнікі: вельмі ўжо хутка ішла яна ўперад.

Галоўнае, што адсюль, з брыгады Валянціны Куніцы, якой да гэтага часу ўжо было прысвоена ганаровае званне камуністычнай, сапраўды ішла баявая разведка будучыні. Імкненне да новага, заўсёдныя пошукі сталі зместам жыцця кожнага члена гэтага дружнага калектыву.

... Сёлетняй вясной па ўсёй рэспубліцы стала вядома аб пачыне перадавой ткачыхі Мінскага тонкасуконнага камбіната Алены Лазарэнка, якая прапанавала, не зніжаючы прадукцыйнасці працы, у самыя сціслыя тэрміны асвойваць новыя віды вырабаў, даваць больш прадукцыі на тых жа станках.

Гэты пачын прыйшоўся па душы і дзяўчатам з брыгады Валянціны Куніцы. Параілася Валя з дзяўчатамі, з галоўным інжынерам фабрыкі, сакратаром партыйнай арганізацыі. Узнік у брыгадзе своеасаблівы інстытут грамадскіх



**На фангавай машыне практыкуюцца школьніцы. І Валянціна** (справа) **ахвотна раскрывае ім свае вытворчыя сакрэты.**

тэхнолагаў. Неўзабаве такія грамадскія тэхнолагі паявіліся на ўсёй фабрыцы. Яны ўзначалілі барацьбу за эканомію, за высокую якасць прадукцыі.

Валя і яе сяброўкі клапаціліся не толькі пра сваю брыгаду. Калі яны ў брыгадзе здолелі дабіцца рэкорднай выпрацоўкі — 48—53 вырабаў за змену пры плане 35, то чаму б іншым работніцам фабрыкі не паспрабаваць зрабіць тое ж самае? Адна брыгада — трыццаць дзяўчат — здолее за год даць звыш трох тысяч адзінак прадукцыі. А калі кожная брыгада столькі дасць? Колькі трыкатажу будзе ў нас!

Дзяўчаты вязальнага ўчастка парашылі выступіць з новай ініцыятывай — перайсці, як раіў тэкстыльшчыкам М. С. Хрушчоў, на 40-гадзінны рабочы тыдзень. І ўжо ёсць першыя вынікі. Нядрэнныя яны. У дзяўчат больш стала вольнага часу, а прадукцыйнасць працы ўзнялася.

... Валя не дае спакою ні тым, з кім працуе, ні сабе. Справы ў брыгадзе наладзіліся, ідуць добра. Цяпер час успомніць пра галоўную запаведзь маладога камуніста: вучыцца, вучыцца і вучыцца. Валя ўжо ўсё абдумала і выра-

шыла паступіць на завочнае аддзяленне тэхналагічнага інстытута. Маці, даведаўшыся пра гэта, спагадліва зазірнула ў вочы дачкі і, гатовае было сарвацца з языка слова «цяжка», так і не прамовіла. А бацька? Ён, як заўсёды, коратка сказаў:

— Правільнай дарогай, дачушка, ідзеш. Цяжка? Ну дык што ж, без гэтага шчасця не бывае.

г. Баранавічы.

**Віктар МАЙСТРОЎ,**
**Георгі ПРАВАЛОВІЧ.**

# КАЛІ ВЫ Ў ПОЕЗДЗЕ

**Рэпартаж**



**Брыгадзір Віктар Міхайлавіч Ходаш.**

Фота **С. Чырэшкіна.**

Мінскі вакзал. За будынкам—блішчаць ніткі сталёвых рэек. Рознакаляровымі агеньчыкамі мігцяць светафоры, сірэнамі пераклікаюцца цеплавозы і паравозы. З розных напрамкаў прыбываюць і адпраўляюцца адсюль пасажырскія паязды. І якія толькі назвы гарадоў не прачытаеш на вагонах. Жыццё на буйнейшым чыгуначным вузле рэспублікі не прыпыняецца ні ўдзень, ні ўначы...

Са станцыйнага парку да перона плаўна падышоў вішнёвы прыгажун — экспрэс Мінск — Масква. Пройдзем па яго вагонах перад тым, як месцы займуць пасажыры.

Усюды чысціня. Усё — ад нікеляваных ручак да вентылятараў на столі—зіхаціць. Снежнай белізной пераліваюцца прасціны і навалачкі на пасцелі, праходы засланы дывановымі дарожкамі.

Экспрэс Мінск — Масква абслугоўвае камсамольска-маладзёжная брыгада праваднікоў, якую ўзначальвае камуніст Віктар Міхайлавіч Ходаш. Ужо не адзін год Віктар Міхайлавіч правёў у дарозе, адлічаны мільёны кіламетраў... Ён такі чалавек, што ў гэтых заўсёдных вандроўках адчувае задавальненне. Сумна яму без перастуку колаў.

Члены брыгады Ходаша, бадай, першымі ў мінскім рэзерве праваднікоў вывучылі эксплуатацыю цэльнаметалічных вагонаў і іх складанае абсталяванне. А калі брыгадзір добра ведае давераную тэхніку, калі ён і яго таварышы—праваднікі ўмеюць зрабіць у дарозе патрэбны дробны рамонт абсталявання і ходавай часткі вагонаў,—хіба нельга ў такім разе абысціся без паязнога вагоннага майстра і электрамеханіка? Так і зрабілі. І ўжо некалькі год абыходзяцца без паязных вагонных майстроў і электрамеханікаў. І між іншым, ніводнага выпадку адчэпкі вагонаў ад паяздоў у дарозе.

Пасля таго як брыгадзе Віктара Міхайлавіча Ходаша было прысвоена званне калектыву камуністычнай працы, праваднікі часта гаварылі:

— Званне нам прысвоена самае высокае, але жыццё не стаіць на месцы. Што ж далей?

— А далей,— адказваў камуніст сваім маладым сябрам,—трэба тое добрае, што ёсць у нашай брыгадзе, несці ў іншыя калектывы. І, зразумела, самім нястомна вучыцца, пераймаць усё лепшае, карыснае. Справай адказаць на ўказанне Мікіты Сяргеевіча Хрушчова аб тым, каб паездка ў поездзе была для людзей свайго роду адпачынкам, каб чалавек выходзіў з поезда з добрым настроем.

Поезд гатовы да адпраўкі ў рэйс.

— Грамадзяне пасажыры, аб'яўляецца пасадка на поезд Мінск — Масква! — пачуўся па радыё голас дыктара.

Расчыніліся дзверы, і на перон, да вагонаў, хлынулі нецярплівыя пасажыры.

— Спакойна, таварышы, вашы месцы ніхто не зойме,—цёпла ўсміхаецца дзяўчына ў цёмным кіцелі. Гэта правадніца Валянціна Саргавец. Акінуўшы позіркам сваіх новых «жыхароў», што стаялі ля вагона, яна звяртаецца да жанчыны з дзіцем на руках:

— Заходзьце вы першая.

Валянціна бярэ яе рэчы, памагае падняцца ў вагон.

— Цяпер прапусцім вось гэту жанчыну з хлопчыкамі. Падымайся, герой, першы,—і падхапіла хлопчыка, паставіла яго ў тамбур. Другога падсадзіў наступны пасажыр.

Падышла старая жанчына з вузельчыкам. Гаспадыня вагона заглянула ў запісную кніжку і спахмурнела. Тры свабодныя месцы і ўсе—верхнія.

— Месца для вас, бабуля, не тое выдалі,—сказала правадніца, паглядзеўшы на яе білет.



**Сакратар камсамольскай арганізацыі брыгады Валянціна Саргавец.**



**Састаў экспрэса Мінск — Масква пададзен. Праваднікі, што складаюць брыгаду камуністычнай працы, гатовы сустракаць пасажыраў. Праўда, гэта толькі частка брыгады — Раіса Дузь, Валя Белаглазка, Зоя Куланова, Таіса Адуцкевіч, Ліля Вярбіцкая. З імі брыгадзір-механік Уладзімір Семіжон.**

— Няўжо білет няправільны? — сумелася старэнькая.

— Не, не хвалюйцеся, білет у парадку. Пачакайце крыху, што-небудзь прыдумаем...

У адным купэ ніжняе месца займаў малады чалавек.

— Вы мне прабачце,—звярнулася да яго правадніца,—у суседнім купэ едзе старэнькая жанчына, а месца ў яе верхняе...

— Магу памяняцца,—адразу ж сказаў ён, усміхаючыся,—уступлю, калі ласка!..

— Вось і добра, дамовіліся,—з такой жа мяккай усмешкай на твары адказала дзяўчына і правяла пасажырку на новае месца.

Поезд крануўся. Неўзабаве данёсся плач дзіцяці. І правадніца спяшае ў купэ да жанчыны з грудным дзіцем.

— Малака не хапіла для маленькага...

— Не хвалюйцеся,—супакойвае яна засмучаную маці,—малако хутка будзе.

І па правадах панеслася тэлеграма: «У поездзе грудное дзіця. Дастаўце малако з дзіцячай кухні». На наступнай станцыі людзі ў чыгуначнай форме даставілі ў вагон малако.

Праходзячы па калідоры, гаспадыня вагона ўбачыла ля акна таго хлопца, што ўступіў месца старой жанчыне.

— У нашым вагоне сумаваць не будзеце,—сказала яму Валянціна.—Шашкі, шахматы, даміно? Калі ласка. Усё ў нас ёсць. Ды і кніжак хапае.

Малады пасажыр ажывіўся, ён выбраў сабе па густу цікавы занятак.

У дарозе здараецца рознае. Якія толькі ў пасажыраў не ўзнікаюць клопаты! Адзін з пасажыраў не паспеў прывесці ў парадак касцюм.

— Бяда невялікая,—суцяшае пасажыра праваднiца.—Паможам. У аддзеле бытавога абслугоўвання ёсць усё неабходнае, можна нават зрабіць дробны рамонт...

У крайнім купэ пасажыры ажыўлена паміж сабой гутарылі.

— Аб чым гэта?—зацікавілася Валянціна.

Аказваецца, аднаму з іх прадстаяла доўгае падарожжа, трэба было некалькі разоў перасесці з поезда на поезд. Але дзе і як?

— Навошта ж гадаць,—заўважыла праваднiца.—У поездзе ёсць стол даведак, неабходныя даведнікі, расклад руху паяздоў.

Спрэчкі спыніліся, пасажыр хутка атрымаў дакладную даведку.

... Глыбокая ноч. Спяць пасажыры ў «гасцініцы на колах». Не спяць толькі праваднікі ды брыгадзір поезда. Выдаўся вольны час, каб па душах пагутарыць, як лепш падрыхтавацца да рэйсу назад, скласці план выпуску чарговага нумару «баявога лістка».

Потым брыгадзір дастае са стала тоўстую кнігу, перагортвае старонкі, цікавіцца, якія запісы ў ёй зрабілі пасажыры за апошні рэйс. Іх многа—шчырых запісаў-падзяк. Пішуць пасажыры з усіх канцоў нашай неабсяжнай краіны. Людзі розных прафесій, узростаў, характараў. Людзі дзякуюць ад усяго сэрца з той цеплынёй, на якую не скупіцца чалавек, калі яму зрабілі прыемнае.

Вось пісьмо з Чалябінска:

«Вялікі вам дзякуй, таварышы з брыгады камуністычнай працы. Пакуль я ехаў ад Мінска да Масквы, я добра адпачыў, выходжу з вагона у цудоўным настроі. Такі настрой стварылі праваднiцы Раіса Дваранінава і Раіса Дузь ідэальным парадкам у вагоне, сваімі ветлівымі і клапатлівымі адносінамі да чалавека».

А гэтыя радкі ў кнізе пакінуў пасажыр з Горкага: «Аднойчы ў вагоне, дзе гаспадыняй была Таіса Адуцкевіч, ехаў удзельнік Айчыннай вайны, цяпер пенсіянер. Дала сябе адчуць старая хвароба, а лекаў пры сабе не было. Шчыры клопат Таіса праявіла аб хворым чалавеку. Яна прайшлася па вагонах, адшукала ўрача, які аказаў першую медыцынскую дапамогу. Знайшлося і неабходнае лякарства ў медыцынскім пункце поезда. Праваднiца ўсю дарогу не пакідала хворага без увагі, усё рабіла, каб стварыць яму ўтульнасць і пакой. Вось яна — душэўная цеплыня, якая дзейнічае на чалавека не горш лекаў».

«Неяк давялося мне ехаць у Мінск па службовых абавязках,—піша пасажырка-масквічка.—Праз два дні я абавязкова павінна была зноў вяртацца. Хвалявалася — а ці набуду білет? Лета ж, пасажыраў многа. Мае хваляванні развеяў праваднік Леанід Скуратовіч, які запэўніў, што абавязкова выеду. Леанід разам з брыгадзірам тут жа ў вагоне афармілі дакумент на выезд. Калі я прыйшла ў дзень ад'езду на вакзал, на маё імя ўжо быў падрыхтаваны білет. Як жа ад усёй душы не падзякаваць нашым сябрам-чыгуначнікам».

Старанна, сумленна працуюць маладыя патрыёты-чыгуначнікі, не па інструкцыі, а па загаду сэрца, выконваючы патрабаванне маральнага кодэксу будаўніка камунізма аб тым, што чалавек чалавеку сябар, таварыш і брат.

У камуністычным калектыве праваднiкоў усё грунтуецца на давер'і. Перад паездкай на століках у купэ раскладваюцца кандытарскія вырабы. Тут і пячэнне, і сухары, і цукар... Прыходзіць пасажыр—і перакуска гатова.

І кніжкі ў калідоры на тумбачцы ці ў службовым купэ на ніжняй паліцы: калі ласка, таварышы пасажыры, бярыце, якая спадабаецца.

Дзяўчаты распаўсюдзілі на многія тысячы рублёў разнастайнай літаратуры. А грошы, якія яны павінны былі атрымаць у парадку працэнтных адлічэнняў, аднадушна ўнеслі ў «камсамольскую скарбонку».

Улетку колькасць дальніх і прыгарадных паяздоў значна павялічваецца. На кожны дадатковы састаў патрэбны вопытныя праваднікі. Навучыць іх—справа не простая. Рэзерв затрачвае на гэта вялікія сродкі.

Параіліся паміж сабой праваднікі з брыгады Віктара Міхайлавіча і парашылі: на працягу месяца навучыць чатырохпяцярых навічкоў. Зрабілі гэта на грамадскіх асновах і такім чынам памаглі рэзерву падрыхтаваць людзей да масавых пасажырскіх перавозак.

Сказалі—зрабілі. У вольны ад работы час яны выязджалі з паяздамі, падказвалі навічкам, перадавалі свой вопыт абслугоўвання пасажыраў. Калектыў хутка папоўніўся кваліфікаванымі праваднікамі, і яны выказваюць гарачую ўдзячнасць сваім калегам.

«Гэта людзі, якія працуюць і жывуць з агеньчыкам».

Так сказаў пра членаў брыгады адзін з пасажыраў. Няхай такі ж творчы агеньчык гарыць для ўсіх, саграваe сваёй цеплынёй пасажыраў у кожным поездзе, што ідуць па сталёвых магістралях краіны.

**Язэп КАЎРОЎ.**



Пра тое, каб не было сумна ў дарозе, клапоцяцца Ганна Журко і Раіса Дваранінава. У іх заўсёды знойдзеш самую новую, самую цікавую кнігу.



— Будзем піць чай? — гэтае звычайнае пытанне Ліля Вярбіцкая задае так, што ніяк не адмовішся.

## Гары, камсамольскі агеньчык!

# ПРАЖЭКТАР СВЕЦІЦЬ ЗАЎСЁДЫ

На дзіва пунктуальны народ у штабе «камсамольскага пражэктара». Васіль Варона прыйшоў да прахадной адзін з першых. Стрэлкі велізарнага гадзінніка ўздрыгнулі і на нейкае імгненне застылі. Аднекуль данесліся ўдары маскоўскіх курантаў. Васіль агледзеўся. З тралейбуса, быццам згаварыўшыся, адзін за адным, гуртам выйшлі ўсе пражэктарысты.

На прахадной «брыгаду» сустрэлі вясёлым воклічам:



Соф'я Літвінка, Васіль Варона і Соф'я Кушнер рыхтуюць чарговы нумар «камсамольскага пражэктара».

Фота С. Чырэшкіна.

— Ну, дастанецца некаторым!.. Ноччу без здарэнняў не бывае...

Васіль і Грэта абмінулі фабрычную клумбу. Няма калі любавацца кветкамі. Васіль выняў з кішэні блакнот, алоўак. У начной змене на камбінаце не ўсё добра. Раніцай — іншы рытм.

— Хто ж спазніўся?

На гэта пытанне не вельмі цяжка адказаць. Васіль і Грэта пайшлі ў снавальны цэх.

— Каго шукаеце?— пытаецца нехта са снавальшчыц.

Васіль ведае многіх людзей з цэха, ведае, хто павінен выйсці на змену. У блакноце паяўляецца запіс: «Прастой на чатырох агрэгатах...» Але высвятляецца і іншае... Два агрэгаты запушчаны, а працуюць на халастым ходу... Чаму? Ах, вось яно што: тых, хто спазняецца, парашылі «выручыць» сябры. Калі станок пушчаны, не прычэпішся... А рабочы, маўляў, недзе адышоўся. Хітрая дыпламатыя...

— Цікава,— зазначае Васіль. Ён на камбінаце не навічок, яго не ашукаеш... І Грэту таксама. Камбінат будаваўся на яе вачах. Яшчэ калі была вучаніцай, прыходзіла памагаць будаваць гэты самы снавальны цэх.

Пакуль Васіль гутарыў з рабочымі, Грэта пабывала ў складзе, зазірнула ў рабочыя шафкі, падсобныя памяшканні.

Членаў «камсамольскага пражэктара» абкружылі рабочыя начной змены. Пасыпаліся пытанні:

— Чаму вентыляцыя «замёрла»?

— Удзень у нас у кожным цэху газіраваная вада, працуюць сатуратары, а ноччу нават вадаправод без вады... Перакрываюць краны...

— Ґаворым: эканомце электраэнергію. А ў канторы пакінулі гарэць лямпы дзённага асвятлення. Пайшлі і зачынілі дзверы. Што рабіць? — хвалюецца дзяжурны манцёр.

— Зайдзіце абавязкова ў бытоўкі... Брудна там. Ноччу, кажуць, ніхто не бачыць...

На складзе гатовай роўніцы пражэктарысты знайшлі залежы прадукцыі. Стоп! Трэба сур'ёзна разабрацца ў гэтым пытанні. Калі роўніца залежваецца на складзе, значыць, парушаецца тэмп вытворчасці. На мове эканамістаў такая з'ява называецца проста: замарожваннем капіталу. І гэтай роўніцы аказалася на дванаццаць з лішнім тысяч рублёў. Колькі б можна было выпусціць каштоўнай тканіны! Васіль з Грэтай падлічваюць тут жа, стоячы каля кіп з роўніцай...

— Абавязкова раскрытыкуйце вінаватых! — падказваюць рабочыя з цэха і вядуць пражэктарыстаў за сабой: — Паглядзіце вентыляцыю... Вокны нельга адчыніць — вецер паб'е шыбы. А ў цэху горача, душна. У свой час у цэху ўстанавілі выцяжную вентыляцыю, але яна не працуе. Рэзкая перамена тэмпературы, а ў выніку — насмарк, грып... бальнічны лісток. Дзяржава нясе страты. Далёка за прыкладам ісці не трэба... Вось і сёння ў начной змене прастойваюць агрэгаты: людзі не выйшлі, хварэюць...

Васіль і Грэта, закончыўшы рэйд, заглянулі ў падрыхтоўча-ткацкі цэх. Там праводзілі праверку Вольга Матуз і Саша Кажурын. Іх цікавіла загружанасць станкоў.

— Раніцай,— сказаў Саша, убачыўшы сваіх калег па «пражэктару»,— адразу ж у наступленне!

— Ага! Збіраемся за трыццаць мінут да пачатку змены... — згадзіўся Васіль.

Дзейснасць — вось галоўная зброя пражэктарыстаў. У блакнотах удзельнікаў начнога рэйду многа запісаў. Нельга марудзіць. Нездарма ж Саша Кажурын гаварыў: «Трэба наступаць...»

Многае, што ўбачылі ў начным рэйдзе, зазнялі на плёнку. У пражэктарыстаў ёсць выдатны спадарожнік — фотаапарат. І вось, сабраўшыся на аператыўную лятучку, хлопцы занялiся выпускам фотагазеты. Пакуль Васіль праяўляў плёнку, Віталь разам з мастаком рыхтавалі тэкст. Як заўсёды, ён кароткі, б'е ў цэль.

Здымкі ўдаліся. Бадай, лепшых і не зробіш у начных умовах. Пра што яны расказваюць? Пра бескультур'е ў рабоце, пра неахайнасць асобных рабочых, пра страчаныя гадзіны рабочага часу.



Член рэйдавай брыгады Галіна Красоўская цікавіцца, як прайшла змена ў роўнічніцы Нэлы Гурынчук.

Пражэктарыст не назіральнік і не пасіўны рэгістратар фактаў. Фотагазета называе канкрэтных вінаўнікаў дрэннай арганізацыі работы ў начных зменах.

Штаб «камсамольскага пражэктара» цесна звязаны з фабрычным камітэтам камсамола. Яны працуюць у поўным узаемадзеянні.

Васіль Варона, Саша Кажурын і Грэта Субоціна распрацавалі прапановы, як лепш арганізаваць работу ў вячэрняй і начной зменах. Паслухаць іх сабраліся не толькі члены камітэта, але і камсамольскі актыў. Запрасілі рабочых снавальнага і падрыхтоўча-ткацкага цэхаў. Тое, што знайшлі пражэктарысты, датычыць не толькі кіраўнікоў цэхаў...

— Пражэктарысты, — сказаў Васіль, — хутка зноў пабываюць у начных зменах. Трэба думаць, што ўсе, каго мы сёння крытыкуем, будуць працаваць, закасаўшы рукавы... Задача ясная: дабіцца арганізаванай, бездакорнай работы ў вячэрні і начны час.

Аб гэтым жа ішла размова і на аператыўнай лятучцы ў дырэктара камбіната. Дакладвалі начальнікі цэхаў... Галоўным чынам пра тое, што зроблена пасля рэйду.

— Наладжана асвятленне...

— Рамантуецца вентыляцыя...

— У цэхах ёсць газіроўка і ноччу...

— У бытоўках устаноўлены дзяжурствы...

Яркія прамені «камсамольскага пражэктара» памагаюць выпраўляць недахопы.

Мінскі камвольны камбінат.

**М. САВІЧ.**



# АДРАЗУ СТУПЕНЬ ДОКТАРА

Ідзе пасяджэнне аб'яднанага вучонага савета інстытутаў фізікі і матэматыкі і аддзела фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў Акадэміі навук Беларускай ССР. На трыбуне— дысертант, навуковы супрацоўнік Інстытута фізікі Барыс Барысавіч Бойка. У зале напружаная цішыня. Прысутныя ўважліва слухаюць дысертанта, бо цікавая і важная праблема вырашана тонка і арыгінальна, тэарэтычныя вывады дакладна супадаюць з вынікамі, атрыманымі доследным шляхам.

Пачынаецца абмеркаванне дысертацыі. Выступае вядомы савецкі фізік акадэмік І. В. Абрэімаў (Масква). Ён успамінае пра двух вучоных—нашага суайчынніка вядомага фізіка Д. С. Раждзественскага і англічаніна Хэл-Шоу, якія ў свой час здзівілі вучоны свет сваімі дасканалымі работамі.

— І вось цяпер, — гаворыць І. В. Абрэімаў, — я трэці раз у сваім жыцці сустракаюся з такім жа ювелірна выкананым эксперыментам... Зусім ясна, што дысертацыя Барыса Бойкі — гэта работа майстра, які дакладна валодае сваім прадметам.

Усе, афіцыйныя і неафіцыйныя апаненты, былі адзінадушныя ў ацэнцы дысертацыі маладога вучонага. «Рэдкі ўзор гарманічнага спалучэння высокай тэорыі з тонкім эксперыментам». «Дысертанту ўдалося стварыць свой уласны, важны і вельмі перспектыўны навуковы напрамак». «Работа ўяўляе сабой фундаментальную навуковую працу, якая вызначаецца шырынёй, арыгінальнасцю, строгасцю і шэрагам буйных і прынцыпова новых навуковых вынікаў». Гэтыя словы гучалі ў выступленнях акадэміка Б. І. Сцяпанава, прафесара А. В. Іванова, члена-карэспандэнта АН БССР Ф. І. Фёдарава і многіх іншых.

Аб'яўляюцца вынікі тайнага галасавання. Вучоны савет аднагалосна прысуджае Б. Б. Бойку вучоную ступень кандыдата фізіка-матэматычных навук і адначасова прадстаўляе яго да зацвярджэння ў вучонай ступені доктара фізіка-матэматычных навук.

У зале раздаюцца дружныя воплескі. Яшчэ б! У Савецкім Саюзе некалькі тысяч дактароў навук, але ж мала хто з іх атрымаў вышэйшую вучоную ступень адразу пры абароне кандыдацкай дысертацыі. У гісторыі ж беларускай навукі такое здараецца ўпершыню.

І вось Барыс Барысавіч прымае гарачыя віншаванні з гэтым поспехам на сваім творчым шляху. А шлях у навуку быў для яго нялёгкі. Калі пачалася вайна, хлопцу, які толькі што закончыў школу, не было яшчэ васемнаццаці гадоў. Але на сёмы дзень вайны ён быў ужо ў лётнай школе, а потым лётчык-знішчальнік Бойка прымаў удзел у баях. У верасні 1946 года ён стаў студэнтам фізіка-матэматычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Цяжкія пасляваенныя гады. Не хапае самага неабходнага — падручнікаў, сшыткаў. А галоўнае — пяцігадовы перапынак у вучобе. Цяжка. Але ўпартасць, настойлівасць, велізарная прага да ведаў і цудоўныя здольнасці Барыса Бойкі бяруць сваё. Ён — сярод лепшых студэнтаў універсітэта.

Я добра памятаю заняткі, якія гадоў дванаццаць назад праходзілі ў нас, студэнтаў другога курса, у лабараторыі электрафізікі. У маленькім пакойчыку, побач з лабараторыяй — памяшканняў яшчэ не хапала—я заўсёды бачыў Барыса. Ён нешта «варажыў» над мудрагелістым перапляценнем правадоў нейкай устаноўкі.

Закончан універсітэт. Б. Бойка — у Фізіка-тэхнічным інстытуце Акадэміі навук БССР. Тут пад кіраўніцтвам акадэміка С. І. Губкіна даследаваліся фізічныя працэсы, звязаныя з апрацоўкай металаў ціскам. Ведаць іх надзвычай важна. Без гэтага нельга стварыць правільную тэхналогію апрацоўкі металаў. Між тым, працэсы гэтыя вельмі складаныя, пра іх амаль нічога невядома, а тыя метады даследавання, што існуюць цяпер, не дасканалыя. Трэба шукаць новыя шляхі. Такую задачу паставіў акадэмік Губкін перад Бойкам і маладым фізікам Дабравольскім. Важнасць задачы захапіла даследчыкаў. Пачаліся дні настойлівых пошукаў, часовых няўдач і расчараванняў і, вядома, шчаслівых знаходак.

Нарэшце, падведзены першыя вынікі пяцігадовай працы. У 1957 годзе Губкін, Дабравольскі і Бойка апублікавалі кнігу «Фотапластычнасць», у якой гаварылася пра асновы новага метаду.

Маладога вучонага Барыса Бойку не пакідала пачуццё незадаволенасці. Ён разумеў, што новы метад трэба ўсебакова абгрунтаваць і да канца раскрыць яго вялікія магчымасці. І Бойка пачаў складаныя матэматычныя разлікі, ставіў усё новыя і новыя доследы. Вядома, не ўсё ішло гладка. Успамінаецца такі выпадак. Сабрана ўстаноўка, уключаны прыборы. Першы дослед—і... няўдача. Гляджу на Барыса. Ён зусім спакойны. Гаворыць жартаўліва: «Нічога іншага я і не чакаў. З першага разу рэдка калі атрымліваецца». І пачаў разбіраць устаноўку, каб знайсці прычыну няўдачы. Праз некалькі дзён я даведаўся — атрымалася. Але Барыс незадаволены. Зноў у каторы ўжо раз—разабрана ўстаноўка. І зноў — роздум над тым, як палепшыць яе асобныя вузлы.

І вось, нарэшце, дасягнута тое надзвычайнае адзінства доследу і тэорыі, якое так здзівіла ўсіх прысутных на абароне дысертацыі. Новы метад атрымаў пуцёўку ў жыццё.

Што ж ён сабой уяўляе, гэты метад, і чаму атрымаў такую высокую ацэнку?

Цячэнне вадкасці або газу—з'ява, з якой нам даводзіцца сустракацца літаральна на кожным кроку. Але не ўсе ведаюць, што пры пэўных умовах цячы могуць любыя целы, нават тыя, што звычайна лічацца цвёрдымі. Напрыклад, рух леднікоў —не што іншае, як цячэнне ільду. У геалагічных працэсах назіраецца марудкае цячэнне цвёрдых горных парод. Нават дэфармацыю грунту пад фундаментамі будынкаў і збудаванняў можна разглядаць як цячэнне. Што ж датычыць такіх відаў вытворчасці, як

прасаванне, штампоўка, пракатка металаў і апрацоўка пластмас, то тут з'ява цячэння ляжыць у самай аснове тэхналагічнага працэсу. Веданне гэтага працэсу і яго заканамернасцей неабходна для вырашэння многіх навуковых і тэхнічных задач.

Вывучыць працэс цячэння — гэта значыць вызначыць скорасці і напружанні (унутраныя сілы) па ўсім аб'ёме рэчыва, якое цячэ. Як жа атрымаць гэтыя звесткі? Прасцей за ўсё ўвесці ў асяроддзе якое-небудзь прыстасаванне, каб вымяраць скорасць або напружанне ў пэўных месцах. Так звычайна і робяць. У матэрыял, які трэба даследаваць, уводзяць спецыяльныя прыборы — так званыя датчыкі — і здымаюць іх паказанні. Аднак такі метад мае і шмат недахопаў.

Напрыклад, датчыкі не заўсёды можна ўвесці ў рэчыва — паспрабуйце зрабіць гэта, вывучаючы, скажам, цячэнне металу. Каб ведаць скорасці і напружанні не ў адным месцы, а па ўсім аб'ёме матэрыялу, трэба ўводзіць некалькі датчыкаў або перамяшчаць адзін і той жа датчык. Гэта даволі складана. Галоўная ж бяда ў тым, што датчык — іншароднае цела. Яго прысутнасць мяняе ўмовы цячэння матэрыялу і яго ўласцівасці. У выніку атрымліваецца так, што вымяраюцца зусім не тыя скорасці і напружанні, што існавалі да ўвядзення датчыкаў. Таму звесткі, атрыманыя такім шляхам, не зусім дакладныя. Але як жа тады быць? Ці можна знайсці такі інструмент, які вымяраў бы патрэбныя велічыні і ў той жа час не рабіў ніякага ўплыву на ход працэсу? Аказваецца, можна! І Барысу Барысавічу ўдалося гэта зрабіць. Ён прапанаваў выкарыстоўваць для гэтай мэты... прамень святла.

Справа ў тым, што ў працэсе вязкага цячэння многія рэчывы мяняюць свае аптычныя ўласцівасці. Гэтыя змены можна вельмі дакладна вымяраць або фіксіраваць на фотапласцінцы. Трэба толькі прапусціць асобым спосабам «апрацаванае» святло праз асяроддзе, якое цячэ, і атрымаецца фатаграфія, на якой «запісаны» звесткі аб размеркаванні скорасцей і напружанняў, прычым не ў некалькіх месцах, а па ўсім аб'ёме рэчыва адначасова! Праўда, звесткі гэтыя, калі можна так сказаць, «зашыфраваны», і ключ да разгадкі шыфру знайсці не так проста. Для гэтага Барысу Барысавічу давялося прайсці скрозь гушчары складанейшых матэматычных разлікаў. Але ён выдатна рашыў гэтую задачу. Таямнічая мова фатаграфій стала зразумелай.

Аптычны метад даследавання вязкага цячэння, створаны Б. Б. Бойкам, мае шэраг пераваг. Перш за ўсё, прамень святла — вельмі тонкі інструмент і яго выкарыстанне практычна не ўплывае на працэс цячэння. Таму звесткі аб размеркаванні скорасцей і напружанняў, якія ён «паведамляе» даследавальніку, зусім дакладныя і надзейныя.

Часта трэба ведаць, як мяняюцца напружанні ў матэрыяле ў кожны момант. Звычайныя метады тут не памогуць — датчык патрабуе даволі вялікага часу на «раскачку». Аптычны метад здольны без цяжкасці рашаць такія задачы. На самой справе, на фатаграфаванне ідуць сотыя, тысячныя, нават дзесяцітысячныя долі секунды. Таму, выкарыстоўваючы, напрыклад, скарасную фатаграфію, можна вельмі дакладна сачыць за тым, як мяняюцца скорасці і напружанні ў рэчыве.

Аптычны метад вызначаецца выключнай нагляднасцю. Трэба сказаць, што вывучаць цячэнне можна і тэарэтычна — шляхам рашэння тых ураўненняў, якія апісваюць гэты працэс. Але ўраўненні гэтыя вельмі складаныя, і рашаць іх могуць толькі электронна-лічыльныя машыны. А гэта звязана з даволі вялікімі затратамі часу і сродкаў. Але галоўнае ў тым, што мова, на якой «размаўляе» машына, — гэта мова лічбаў. Адказы на пастаўленыя перад ёю пытанні яна дае ў выглядзе доўгіх калонак лічбаў. Каб зрабіць адказы машыны нагляднымі, неабходна на падставе гэтых лічбаў пабудаваць графікі, якія дазваляюць «убачыць» размеркаванне скорасцей і напружанняў. Пры выкарыстанні ж аптычнага метаду гэтыя лініі атрымліваюцца непасрэдна на фатаграфіі.

Калі дадаць, што Барысу Барысавічу ўдалося даследаваць працэсы вязкай дэфармацыі рэчываў пры скорасцях, што ў шэсцьдзесят разоў перавышаюць тыя, якія былі дасягнуты іншымі даследавальнікамі, то стануць зусім яснымі вялікія магчымасці новага метаду.

Можа ўзнікнуць пытанне: аптычны метад звязаны з прапусканнем святла скрозь рэчывы, а большасць практычна важных матэрыялаў непразрыстая. Ці можна прымяніць для вывучэння такіх рэчываў новы метад? Так, можна.

Агульныя законы вязкага цячэння аднолькавыя для любых асяроддзяў — як празрыстых, так і непразрыстых. Таму, падбіраючы падыходзячыя празрыстыя матэрыялы і належныя ўмовы доследу, можна ўзнавіць размеркаванне скорасцей і напружанняў у матэрыялах непразрыстых. Больш таго, выкарыстоўваючы адно-адзінае празрыстае асяроддзе і мяняючы толькі ўмовы доследу, можна стварыць мадэль цячэння любога матэрыялу, незалежна ад таго, празрысты ён ці не. Гэтая цікавая акалічнасць робіць аптычны метад, па сутнасці, універсальным.

Яго ўдалося паспяхова прымяніць пры вывучэнні працэсаў штампоўкі і пракаткі металаў, пры даследаванні руху грунту пад фундаментамі будынкаў і пры эксплуатацыі шахт. Ён выкарыстоўваецца таксама пры вырашэнні некаторых спецыяльных навуковых тэхнічных праблем.

Барыс Бойка стаў прызнаным аўтарытэтам у новай галіне навукі. Кніга «Фотапластычнасць», напісаная пры яго ўдзеле, перакладзена на румынскую і кітайскую мовы, а цяпер выдаецца на англійскай. У сучасны момант рыхтуецца новае, пашыранае выданне гэтай кнігі, і Барыс Барысавіч піша для яе новыя раздзелы.

Нярэдка ў яго лабараторыі можна ўбачыць людзей, што прыязджаюць да яго кансультавацца з Масквы, Ленінграда, Краматорска, Днепрапятроўска. Адных цікавіць прымяненне новага метаду да вывучэння працэсу пракаткі сталі, другіх — каб даследаваць перамяшчэнні грунту, якія ўзнікаюць у час праходкі шахт. Трэціх хвалюе праблема ўмацавання чыгуначных насыпаў у сувязі з рухам скорасных вялікагрузных саставаў. І на ўсе пытанні даецца грунтоўны і пераканаўчы адказ.

Успамінаецца адзін пацешны, але вельмі характэрны выпадак. У пісьме з Днепрапятроўскага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту, якое атрымаў Барыс Барысавіч яшчэ летась, было напісана, што да яго на кансультацыю накіроўваецца супрацоўнік лабараторыі механікі грунтаў. Самае цікавае тое, што пісьмо было адрасавана прафесару Бойку. Тады ж яшчэ Барыс Барысавіч наогул не меў ніякай вучонай ступені або звання! Між тым, работы яго настолькі важныя і цікавыя, што спецыялісты, якія пазнаёміліся з імі, зусім справядліва лічылі: іх аўтар павінен мець вучоны ранг ніяк не ніжэй прафесарскага.

Цяпер Барыс Бойка поўны новых творчых планаў. Разам з групай су-



## ПЕРШЫЯ ТВОРЫ

**«Бітумшчыкі» — так называецца дыпломная работа выпускніка Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута Алега Казака.**

**Нарадзіўся ён у Мінску ў 1935 годзе. Да паступлення ў інстытут вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы. Алег Казак — камсамолец.**

## ПЕРШЫЯ ТВОРЫ

**Яўген Кулік нарадзіўся ў 1937 годзе. Ён мінчанін. Закончыў мінскае мастацкае вучылішча і ў 1957 годзе паступіў у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут.**

**Сваю дыпломную работу «1920-ы» Яўген Кулік прысвяціў гераічным справам камсамольцаў дваццатых гадоў.**



працоўнікаў ён займаецца вывучэннем уласцівасцей матэрыялаў, важных у вытворчасці пластмас. Малады вучоны не замыкаецца ў вузкім кругу сваёй спецыяльнасці. Для яго характэрна шырыня творчага дыяпазону. Вечны пошук, імкненне да новага — вось характэрныя рысы Барыса Барысавіча Бойкі, вучонага, чыімі работамі, як справядліва адзначыў адзін са старэйшых беларускіх фізікаў І. Г. Некрашэвіч, можа ганарыцца савецкая навука.

**Леў ТАМІЛЬЧЫК.**

# ЛЮДЗІ ШУКАЮЦЬ ПРЫГОЖАЕ



Вось так ідуць застольныя рэпетыцыі ў Слонімскім народным тэатры.

Калі пасля вайны аднаўляліся на Слонімшчыне калгасы, райком партыі паслаў у сяло Касцяні разам з упаўнаважанымі і самадзейных артыстаў з райцэнтра. Уважліва слухалі гаспадары-аднаасобнікі прамовы ўпаўнаважаных, але выказваць свае думкі наконт калгаса не спяшаліся.

Тады ім паказалі спектакль «Шляхі-дарогі». Пасля дружных воплескаў на сцэну паднялася пажылая жанчына. Яна па-сялянску абняла артыстку В. Кондру, якая выконвала ролю старшыні калгаса Настассі Пятроўны, і сказала:

— Таварышы! Вось які старшыня нам патрэбен! Ідзіце да нас старшынёй, і мы ўсе пойдзем за вамі! Будзе ў нас калгас!

Людзі падняліся з месцаў, запладыравалі, загаварылі, заўсміхаліся. Па дарозе ў Слонім адзін з упаўнаважаных сказаў артыстам:

— А вы нас выручылі!

Расказваюць і пра такі выпадак. У калгасе імя Суворава ставілі спектакль «Нячыстая сіла». У антракце да артысткі Ф. Ракевіч падышло некалькі вясковых хлапчукоў.

— Цётачка, а я вас ведаю і раней бачыў, — пахваліўся адзін з іх.

— Дзе ж ты мяне бачыў?

— Вы ў тую нядзелю сядзелі каля сельмага і на картах варажылі.

Артысты ад душы засмяяліся.

— Не, хлопчыкі, то была, напэўна, другая варажбітка. А я — настаўніца.

— Няўжо?.. — здзівіліся тыя і адышлі ў бок. Не паверылі яны і яшчэ доўга спрачаліся паміж сабой.

Гэта было ў 1958 годзе, калі за плячыма ў самадзейных артыстаў ужо меўся дзесяцігадовы вопыт і свой уласны рэпертуар. Вось тады слонімцы і паверылі цвёрда ў свае сілы, самі парашылі стварыць п'есу, даць ёй сцэнічнае жыццё.

Сваю задуму яны здзейснілі.

Асновай для спектакля паслужыў першы твор маладых аўтараў А. Прэабражэнскага і М. Барана «Палкоўнік неспакойнай службы». Самадзейных энтузіястаў не спалохаў той факт, што гэта яшчэ «неапрабаваная» п'еса. Яны працавалі з поўнай аддачай сіл, і вынік атрымаўся выдатны. Аўтарам і выканаўцам было радасна, што іхні твор набыў сцэнічнае жыццё.

Жана Данілевіч палюбіла Слонімскі самадзейны калектыў яшчэ калі вучылася ў Гродзенскім культасветвучылішчы. Упершыню яго спектакль «Квадратура круга» яна ўбачыла ў 1957 годзе на абласным фестывалі моладзі і студэнтаў. Усхваляваная, не ўтрымалася яна і прыбегла за кулісы. Так нарадзілася жаданне працаваць у гэтым калектыве. Жана скончыла вучобу і стала мастацкім кіраўніком слонімскага раённага Дома культуры. Акрамя ролі Ганны ў спектаклі «Палкоўнік неспакойнай службы» Жана выступіла ў ролях Насці («Нячыстая сіла»), Марусі («Юнацтва бацькоў»), Нілы Сніжко («Барабаншчыца»).

Удалым партнёрам Жаны ў спектаклі «Палкоўнік неспакойнай службы» выступіў самадзейны артыст Віктар Тарасевіч. Яшчэ большы поспех выпаў на долю піянерважатай Рымы Халмагоравай, якая ўдала ўвасобіла вобраз хлопчыка Лёні Стральцова.

Іх сёння 48 чалавек пажылых, маладых і зусім юных у калектыве Слонімскага народнага тэатра. За плячыма ў кожнага — свая жыццёвая і творчая біяграфія.

Дзмітры Філіпавіч Кудашоў працуе намеснікам старшыні калгаса «Бальшавік». Энтузіяст, аматар, здольны самадзейны артыст, ён стварыў вобраз камісара Кошкіна ў спектаклі «Любоў Яравая». Звычайна вечарамі на рэпетыцыю разам з Дзмітрыем Філіпавічам прыходзяць яго сын Віктар і дачка Галіна. Сцэнічныя «лаўры» сям'я дзеліць пароўну. Не горш за бацьку Віктар выканаў ролю матроса Швандзі, а Галіна дабілася добрага поспеху ў вобразах Ганкі («Мараль пані Дульскай»), Лёні («Вяртанне»), Галі («У добры час»).

Тэатральная сям'я і ў старэйшага ветэрана народнай сцэны Івана Касьянавіча Андрыеўскага. Разам з бацькам у спектаклях удзельнічае і яго сын Мікалай.



Сцэна са спектакля «Кухарка» па п'есе А. Сафронава. Пчолка — Э. Кірыленка, Казанец — В. Тарасевіч.

А вось Еўдакія Дзям'янаўна Анафрыюк — бухгалтар электрастанцыі. Ёй ужо за шэсцьдзесят. Маленькая, сівенькая. А тут яшчэ рэпетыцыі, хваляванні.

— Іншы раз думаю, — гаворыць яна, — кіну, не магу так больш... А як пачнуць размяркоўваць ролі ў новай п'есе, так і чакаю, хвалююся — паклічуць ці не.

На самадзейнай сцэне Еўдакія Дзям'янаўна сыграла каля 20 роляў, найбольш удалыя сярод іх мадам Абломак («Юнацтва бацькоў»), Кармена («Жаніцьба Бялугіна»), Гарнастаева (Любоў Яравая»), дырэктар дзіцячага дома

(«Палкоўнік неспакойнай службы»).

Творчая біяграфія аднаго з прадстаўнікоў маладога пакалення Слонімскага народнага тэатра Віктара Тарасевіча, відаць, найбольш характэрная і тыповая для ўсіх удзельнікаў самадзейных калектываў рэспублікі.

Калі ў калектыве рыхтавалася п'еса К. Трэнёва «Любоў Яравая», сталяр з мэблевай фабрыкі Віктар нясмела зайшоў у рэпетыцыйны пакой і папрасіў дазволу прысутнічаць. Ён уважліва за ўсім назіраў. Прыйшоў і назаўтра, і ў наступныя дні. Праз некаторы час яму даручылі невялікую ролю Гарнастаева. Убачыўшы шчырае жаданне і вялікую настойлівасць хлопца, рэжысёр М. Фрыдман пачаў займацца з ім пасля рэпетыцый.

І вынік неўзабаве аказаўся бліскучым. Маленькая роля Гарнастаева стала не толькі для Віктара, але і для тэатра мастацкай з'явай. Хутка Тарасевіч перайшоў да больш складаных вобразаў і ўвасобіў іх з няменшым поспехам. Гэта — Клаўдзій Прастакваша («Капітан у адстаўцы»), Радцаў («У бэзавым садзе»), Аляксей («У добры час»), Антон («Юнацтва бацькоў»). На здольнага акцёра звярнулі ўвагу не толькі гледачы, але і тэатр імя Я. Купалы, які прапанаваў яму перайсці на прафесіянальную сцэну. Віктар доўга думаў над такой зманлівай прапановай і ўрэшце ўсё ж адмовіўся, збаяўся.



Сцэна са спектакля «Барабаншчыца» па п'есе А. Салынскага. Ніла — Ж. Даніленіч, Фёдар — Б. Чамярэўскі, Марыя Пятроўна — Е. Анафрыюк.

Але саліднасць прапановы не прайшла бясследна. Хлопец, як кажуць, пачаў «псавацца», не слухаў заўваг рэжысёра і тавырышаў, усё рабіў па-свойму. Спрэчкі разгараліся ўсё часцей. Нарэшце Віктар пакрыўдзіўся і пакінуў тэатр.

— Калі любіш сваю справу — вернешся, — сказаў рэжысёр.

І Віктар вярнуўся. Ён даказаў сваю любоў да мастацтва такімі ўдалымі работамі, як Фёдар («Барабаншчыца»), Сцяпан Казанец («Кухарка» і «Кухарка замужам»), Фёдар Курганаў («Веснавыя пакуты»).

Цяпер Віктар Тарасевіч працуе дырэктарам Дома культуры, па-ранейшаму аддае ўвесь свой вольны час народнаму тэатру.

Шмат цікавага можна расказаць пра самадзейных артыстаў Антаніну Іванаўну Глінскую, Багуслава Іосіфавіча Чамярэўскага, Віктара Усавіка, Барыса Гарабца, Віктара Лесцева — гэтых таленавітых людзей Слонімскага народнага. Аднак хочацца пагаварыць пра іншае — пра тое, што сёння перашкаджае энтузіястам павышаць сваё сцэнічнае майстэрства, авалодваць нялёгкай прафесіяй акцёра.

Першае — гэта адсутнасць рабочага памяшкання. У трох рэпетыцыйных пакоях, нягледзячы на дакладны і жорсткі графік, для ўсіх самадзейных гурткоў не хапае месца і часу. А гурткі ўсе надзвычай масавыя, шумлівыя. Танцавальны, аркестр народных інструментаў, аркестр духавы і г. д. Дзесяткі, сотні людзей збіраюцца сюды кожны дзень. Усім трэба стварыць умовы для заняткаў.

У Віктара Тарасевіча нават цяпер відзён жах у вачах, калі ён успамінае дні падрыхтоўкі да дэкады самадзейнага мастацтва. Старэнькі Дом культуры дзень і ноч гудзеў, ледзь не развальваўся ад песень, музыкі і тупату танцораў. Прыйшлося шукаць памяшканні ў горадзе. Колькі гэта каштавала сіл, нерваў...

Спачуваючы Віктару Тарасевічу, якога можна суцешыць толькі тым, што ў яго хоць старэнькі дом, але ёсць, а вось дырэктарам брэсцкага і баранавіцкага Дамоў культуры куды больш клопату — тут Дамы культуры наогул без памяшкання. Вядома, гэта сумны жарт, але справа даволі сур'ёзная.

Сапраўды, тыпавыя клубы, што пабудаваны ў раённых цэнтрах, даўно ўстарэлі і не адпавядаюць патрэбам культурна-масавай работы. Цяпер ужо глядзельнай залы, сцэны і невялічкага пакойчыка за кулісамі недастаткова. Трэба будаваць такія клубы, дзе не было б цесна гледачам і тым, хто самааддана працуе для гледачоў.

Існуюць і іншыя перашкоды, ад якіх можна пазбавіцца ўжо сёння, калі ўважліва і памяркоўна падысці да справы. Не так даўно Міністэрства культуры вынесла спецыяльнае рашэнне аб пераводзе ўсіх удзельнікаў народных тэатраў па месцу іх работы ў адну рабочую змену, аб стварэнні для іх умоў для нармальнай творчай працы. На жаль, гэтае пытанне засталося нявырашаным. Дарэчы сказаць, залежыць яно цалкам ад мясцовага кіраўніцтва. Вось у Пінску здолелі дзеля агульнай карысці вырашыць гэтую складаную справу.

Не скажам, што Слонімскі народны тэатр не любяць у сваім горадзе. Наадварот, ім ганарацца, паважаюць яго. Калі ж патрэбна падмяніць на якую гадзіну таго ці іншага чалавека, дружба парушаецца: кіраўнікі прадпрыемстваў адказваюць: «Не можам».

Гэта пытанне вельмі складанае і ў той жа час вырашальнае. У тым і сутнасць народнага тэатра, што твораць у ім пасля працоўнага дня, у свой вольны час, а не за кошт працы на вытворчасці. У адпаведнасці з гэтым і плануецца работа народных тэатраў, у большасці — па вечарах. Але няма правіл без выключэнняў: на вячэрніх зменах фабрык і заводаў працуе шмат самадзейных выканаўцаў. Усяго наперад не прадбачыш. У такіх выпадках кіраўнікам прадпрыемстваў варта ісці насустрач, бо народны тэатр таксама справа важная і калектыўная. І крыўдна калі пятнаццаць-дваццаць чалавек чакаюць аднаго і не могуць пачаць спектакль, на які сабраліся сотні гледачоў.



Сцэна са спектакля «Глыбокая плынь» па раману І. Шамякіна. Карп Маеўскі — І. Андрыеўскі, Таня — Е. Ляпецкая.

Бывае і так. Ала Калугіна — здольная артыстка народнага тэатра — працуе дзіцячым урачом у мясцовай бальніцы. Аднак яе захапленне сцэнай сяму-таму не падабаецца. На агульным сходзе медыцынскіх работнікаў раённай бальніцы ёй з папрокам сказалі: «Вы працуеце ў нас, можаце і тут вершыкі чытаць... Калі вам хочацца іграць, стварыце самадзейнасць у нашым калектыве, а не, дык мы не дазволім вам наведваць народны тэатр!» Гэта ж самае паўтарылі і медсястры Тамары Галуднёвай на прафсаюзным сходзе: «Што вы там знайшлі добрага? Арганізуйце самадзейнасць у нас...»

Можна зразумець непакой мясцовага кіраўніцтва за культурна-масавую работу ў сваім калектыве. Але ж не кожны мае арганізатарскія здольнасці, каб стварыць самастойны калектыў. Ды і ці трэба гэта рабіць, ці варта патрафляць месніцкім густам — хоць благое ды сваё.

Ёсць і больш сумныя прыклады. Дырэктар Слонімскай кардоннай фабрыкі «Беларусь», дзе працуюць самадзейныя артысты І. Андрыеўскі і К. Ярашчук, выконвае рашэнне Міністэрства культуры аб пераводзе ўдзельнікаў самадзейнасці ў адну змену па-свойму: паніжае пры гэтым ім аклад.

Некаторыя кіраўнікі часта гавораць: «Забірайце сваіх артыстаў да сябе, давайце ім зарплату, няхай працуюць у вас!» І народны тэатр часам ідзе на гэта, калі хоча захаваць здольных удзельнікаў. Але ўсіх не забярэш, ды гэта і не выхад. Рашэнні чэрвеньскага Пленума ЦК КПСС абавязваюць партыйныя і камсамольскія арганізацыі, кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў перагледзець свае адносіны да развіцця мастацкай самадзейнай творчасці.

Нядаўна слонімцы завяршылі работу над спектаклем «Апошнія» М. Горкага. Гэты твор рыхтаваўся з улікам вопыту Маскоўскага мастацкага тэатра. Слонімцы прысвяцілі яго стагоддзю з дня нараджэння К. С. Станіслаўскага.

І яшчэ адно. Сёлета самадзейныя артысты адсвяткавалі пятнаццацігадовы юбілей свайго тэатра. Адсвяткавалі паказам спектакляў аб нашых сучасніках, аб сабе. Наперадзе — новыя. Глядач чакае іх.

**Сяргей ПЯТРОВІЧ.**

# ЧАРАЎНІК ГУКАЎ

...Аднойчы, гадоў з пяць назад, выпадковасць прывяла мяне на невялікую чыгуначную станцыю Залессе, якая знаходзіцца на палавіне дарогі паміж Маладзечнам і Смаргонню. Цягнік пазніўся, і пасажыры стоўпіліся вакол танклявага юнака з партатыўным радыёпрыёмнікам у руках. Перадавалі абавязковыя ў кожным канцэрце па заяўках частушкі... І раптам загучаў элегічны паланез Агінскага. Усе, хто быў на пероне — студэнты і чыгуначнікі, служачыя і калгаснікі, бы зачараваныя, слухалі гэтую празрыстую мелодыю, у якой зліты ў адно непаўторнае цэлае і горыч паражэння, і сум расставання з усім бясконца блізкім і родным, і адначасова — фанфарны заклік ісці ўперад, да перамогі...

Скончыўся канцэрт. Усе доўга маўчалі.

Першы парушыў цішыню пажылы дзядзька:

— Кажуць, — уздыхнуў ён, — што гэты Агінскі застрэліўся. Закахаўся ў арыстакратку — і пакончыў жыццё самагубствам. Каля яго знайшлі лісток паперы, спісаны нотамі...

— А я чуў, — перапыніў дзядзьку чалавек пенсійнага ўзросту, — што за рэвалюцыйную дзейнасць цар загадаў пасадзіць Агінскага ў каземат. У ноч перад расстрэлам вязень развярэдзіў сабе палец і крывёю напісаў на сцяне паланез. Таму і называецца ён — «Развітанне з радзімай»...

Нехта з жанчын успомніў вядомую маскоўскую радыёперадачу, у якой расказвалася пра тое, што Агінскі ў час паўстання 1794 года безнадзейна закахаўся ў панну Ядвігу, якая памагла яму ўцячы за мяжу і такім чынам выратавала яго ад расправы царскіх улад. Нехта прыгадаў канал імя Агінскага... І ніхто з прысутных не звяртаў увагі на старога калгасніка, які ўвесь час імкнуўся нешта сказаць. Толькі тады, калі прыйшоў цягнік і ўсе кінуліся да вагонаў, ён звярнуўся да мяне:

— Людзі баюць, што калісьці ў Залессі жыў пан па прозвішчу Агінскі. Добры, справядлівы быў чалавек. Любіў слухаць вясковых музыкаў. Вунь той парк, тыя прысады, што цягнуцца да Віллі, усё гэта — сляды яго бытнасці!

У цягніку я доўга думаў пра словы старога. Справа ў тым, што перад гэтым мне прыйшлося пабыць у адным з вільнюскіх архіваў. Там у рукі трапіўся пажоўклы дакумент, пад якім стаяў подпіс: «Міхаіл Клеафас Агінскі. 14 мая 1820 года, Залессе». Міжволі з'явілася здагадка: а што, калі гэта — адзін і той жа Агінскі і адно і тое ж Залессе?!

Усхваляваны, я вярнуўся дамоў і пачаў гартаць энцыклапедыю, а пасля кнігу Ігара Бэлзы «Гісторыя польскай музычнай культуры». З іх старонак дапытлівым, праніклівым позіркам на мяне глядзеў чалавек з вытанчанымі рысамі твару, у модным тады парыку. Апрануты ён быў у касцюм афіцэра шляхецкай Рэчы Паспалітай. Дык вось ты які, аўтар славутага паланеза!

З энцыклапедыі і даследавання Ігара Бэлзы я даведаўся, што Міхал Клеафас Агінскі нарадзіўся 25 верасня 1765 года ў маёнтку Гузава (непадалёку ад Варшавы). Яго бацька — трокскі ваявода, а пазней літоўскі мечнік — быў вялікі аматар літаратуры і мастацтва. Дзяцінства будучага кампазітара праходзіла пераважна ў Слоніме, у доме дзядзькі — літоўскага гетмана Міхала Казіміра Агінскага, па загаду якога, дарэчы, і быў пракапаны вядомы канал. У той час Слонім з'яўляўся ваяводскім горадам. З прыгонных гетман арганізаваў тут сімфанічны аркестр і тэатральную трупу, якая ставіла драмы, оперы і балеты. Будучага кампазітара ў Слоніме вучыў музыцы Юзаф Казлоўскі. Пад яго кіраўніцтвам Агінскі напісаў некалькі фартэп'янных п'ес. Юнак пачаў марыць пра тое, каб стаць кампазітарам.

Аднак цяжкі для краіны час патрабаваў ад Агінскага іншага. Падзеі прымусілі яго стаць дыпламатам, дзяржаўным дзеячам. У 22 гады юнака накіроўваюць з важным даручэннем спачатку ў Галандыю, а потым у Англію. У 25 год ён ужо быў паслом. Даведаўшыся пра раздзел Польшчы, Агінскі вярнуўся на радзіму, прыняў удзел у паўстанні 1794 года пад кіраўніцтвам Касцюшкі.

Ні энцыклапедыі, ні кніга Бэлзы не давалі адказу на тыя пытанні, якія мяне хвалявалі. Ці меў Агінскі якое-небудзь дачыненне да Залесся? Дзе быў напісаны славуты паланез «Развітанне з радзімай»?

Пачаліся пошукі. У бібліятэцы Вільнюскага ўніверсітэта ўдалося натрапіць на дзённікі Агінскага, у якіх расказвалася пра падзеі з 1788 да 1815 года. Упершыню гэтыя дзённікі былі выдадзены ў 1827 годзе на французскай мове ў Парыжы. У пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя іх пераклалі на польскую мову і выдалі ў Пазнані.

У першым томе дзённіка Агінскі падрабязна расказвае пра свой удзел у паўстанні 1794 года. Аказваецца, вестка аб паўстанні застала кампазітара ў Навагрудку.



У апошнія гады жыцця.

Агінскі адразу ж сабраў 40 тысяч дукатаў і рашыў падацца ў Прусію, каб набыць зброю. Адначасова ён адправіў у Варшаву пісьмо сваёй жонцы, каб тая таксама прыехала ў Прусію. Аднак на граніцы кампазітара затрымалі і прымусілі вярнуцца ў Вільню. Такім чынам, аказваецца беспадстаўнай версія аб тым, што ў час паўстання юны Агінскі безнадзейна закахаўся ў панну Ядвігу і тая быццам бы памагла яму ўцячы за граніцу. Па-першае, у 1794 годзе Агінскі быў ужо жанаты з Ізабелай Лясоцкай. Па-другое, Агінскаму ў дні паўстання так і не ўдалося перабрацца праз граніцу.

Трэба сказаць, што Агінскі быў буйным магнатам. Толькі ў Беларусі яму належалі дзесяткі маёнткаў, у тым ліку Ракаў, Іўе, Бялынічы, Гаўе. Але як адукаваны і передавы чалавек свайго часу, Агінскі стаў адным з удзельнікаў народнага руху, накіраванага супраць царскага самадзяржаўя. У Вільні ён зблізіўся з аднадумцам Касцюшкі Ясінскім, за свае грошы ўзброіў атрад у 480 чалавек і па патрабаванню гаражан узначаліў яго. Тады ж Агінскі выступіў перад жыхарамі Вільні з палымянай прамовай, якая заканчвалася словамі: «Няхай жыве свабода, няхай жыве Радзіма, няхай загінуць здраднікі!»

Цікавай для нас з'яўляецца тая акалічнасць, што атрад Агінскага дзейнічаў пераважна на тэрыторыі Беларусі. Першае баявое хрышчэнне ён прыняў у баях каля Солаў і Ашмян. Адсюль Агінскі хацеў падацца да Мінска. У сваіх мемуарах ён піша: «Калі б мне ўдалося бесперашкодна дабрацца туды, я наважыўся б глыбей уварвацца на Белую Русь, каб там узняць на паўстанне 12 тысяч сялян, якія знаходзіліся ва ўладаннях маёй сям'і, і даць ім свабоду».

Свае намеры Агінскі ажыццявіў толькі часткова. Разам з атрадам, абыходзячы варожыя групоўкі Цыцянава і Кнорынга, ён рушыў праз Вішнева на Валожын. Здабыўшы амаль без бою гарадок, паўстанцы знайшлі там багатыя трафеі, якія часткова былі раздадзены мясцоваму насельніцтву. З Валожына Агінскі накіраваўся ў Івянец. Але там паўстанцы даведаліся, што Мінск добра ўмацаваны, і рашылі павярнуць назад. Сяляне, якія якраз з'ехаліся ў Івянец на кірмаш, далі Агінскаму фурманкі, каб перавезці трафеі.

І вось атрад, за якім цягнуўся вялікі абоз, пачаў адступаць у кірунку да сяла Бакшты. Дарога была кепская. Каля вёскі Сакаўшчына паўстанцаў акружылі царскія войскі. Каб спыніць пагоню, Агінскі загадаў спаліць мост цераз Заходнюю Беразіну, аднак казакі фарсіравалі раку ўброд і дагналі паўстанцаў ля Вішнева. Як успамінае ў сваіх мемуарах Агінскі, варожая куля прабіла яму капялюш. У жорсткай сутычцы зніклі каса паўстанцаў і асабістыя паперы кампазітара. З-пад Вішнева Агінскі адступіў праз Крэва ў Ашмяны, дзе з'яднаўся з асноўнай арміяй Ясінскага.

Пасля гэтага Агінскі пачаў камандаваць усімі літоўска-беларускімі паўстанцкімі войскамі. Як спецыяльны кур'ер, ён ездзіў у Варшаву да кіраўніка паўстанцаў, нацыянальнага польскага героя Тадэуша Касцюшкі. Вярнуўшыся ў Літву, Агінскі ўзначаліў некалькі паходаў да берагоў Дзвіны, на Браслаўшчыну. За галаву кампазітара царскія ўлады ўстанавілі вялікую грашовую ўзнагароду. І калі паўстанне пацярпела паражэнне, Агінскі мусіў пакінуць радзіму. Разам з корпусам Дамбpoўскага ён перайшоў прускую граніцу. Пачалося васьмігадовае блуканне па чужыне: Парыж, Венецыя, Канстанцінопаль... Царскія ўлады наклалі на маёнткі Агінскага секвестр.

Вядомым кампазітарам Агінскі стаў яшчэ да паўстання 1794 года. Яго паланез фа-мажор, які меў назву «Падзел Польшчы», з'явіўся цэлай падзеяй у гісторыі польскай музыкі. Яго ігралі ў Варшаве і Пецярбургу. Варта заўважыць, што да гэтага паланез быў толькі вялікасвецкім танцам. Агінскі ж надаў яму жанравую завершанасць, увёў чаргаванне дзвюх тэм — мінорнай і мажорнай. У творчасці кампазітара ўзнікаюць новыя, рэвалюцыйныя матывы. Ён піша паўстанцкія песні і маршы. У сваёй кнізе Ігар Бэлза выказвае здагадку, што Агінскаму належыць таксама вядомая «Мазурка Дамбpoўскага», якая пачынаецца са слоў: «Яшчэ Польшча не загінула». Гэтая здагадка пацвярджаецца тым месцам з мемуараў Агінскага, дзе ён успамінае, што пісаў маршы для легіянераў Дамбpoўскага.

Агінскі здолеў вярнуцца на радзіму толькі 5 лютага 1802 года. Ён прыехаў у Пецярбург. Яму вярнулі ўсе маёнткі, якія, праўда, былі ў вялікіх даўгах. І тут на дапамогу прыйшоў састарэлы маладзечанскі граф Францішак Ксавэры Агінскі. Ён падараваў свайму пляменніку яшчэ адзін маёнтак — Залессе. У трэцім томе сваіх успамінаў аўтар элегічнага паланеза ўдакладніў, дзе знаходзілася тое Залессе: у 14 мілях ад Вільні, па дарозе на Мінск, непадалёку ад Маладзечна. Значыць, не памыляўся стары калгаснік, які казаў, што Залессе калісьці належала Агінскаму...

Калі не лічыць кароткіх паездак у Пецярбург, Вільню і за граніцу, Агінскі пражыў у Залессі каля 20 год. Аднак гаворыць ён пра гэтыя гады ў сваіх мемуарах вельмі скупа. Апрача таго, у іх нічога не сказана, дзе быў напісаны паланез «Развітанне з радзімай». Агінскі глядзеў на сваё захапленне музыкай як на пабочны занятак і таму пра сваю кампазітарскую творчасць амаль нічога не пісаў.

Пачаліся новыя пошукі, але яны доўгі час не давалі ніякага плёну. Прыйшлося пасылаць запытанне ў Нацыянальную бібліятэку ў Варшаве. Неўзабаве адтуль прыйшоў адказ, што залескі перыяд жыцця кампазітара асветлены ў другім томе манаграфіі Часлава Янкоўскага «Ашмянскі павет».

З даследавання Янкоўскага, які ў многім ішоў услед за вядомым этнографам Тышкевічам, відаць, што, стаўшы гаспадаром Залесся, Агінскіператварыў яго ў культурны цэнтр. На музычна-літаратурныя вечары сюды з'язджалася дваранская інтэлігенцыя. На гэтых вечарах у аркестры Агінскі звычайна іграў першую скрыпку, іспанец Эскундэра — другую. Віяланчэль браў у рукі былы настаўнік кампазітара — Юзаф Казлоўскі. Кожны з гасцей знаходзіў занятак па ўласнаму густу. Хто любіў музыку — той слухаў выступленне струннага квартэта або арыі з опер у выкананні італьянскага спевака Паліяні. Хто любіў жывапіс — той разглядаў карціны або альбомы. Аматары палітыкі акружалі спецыяльнага фельд'егера, які курсіраваў паміж Залессем і Пецярбургам, дастаўляючы свежыя навіны. Слава пра Залессе разносілася далёка, і яго неўзабаве сталі называць «паўночнымі Афінамі». Польскі паэт Аляксандр Ходзька напісаў у 1821 годзе паэму «Залессе», у якой праславіў прыгажосць навакольных мясцін і таленавітасць гаспадара маёнтка.

Побач са старым палацам быў збудаваны новы па праекту прафесара архітэктуры Міхала Шульца пад кіраўніцтвам віленскага губернскага архітэктара Іосіфа Пусэ. Быў насаджаны новы, англійскі парк. Воддаль размяшчаліся батанічны сад, звярынец, аранжарэя. Усе дарогі, якія вялі ў Залессе, былі абсаджаны дрэвамі. Прысады вялі праз лес да берагоў Вілліі. Сям-там віднеліся маляўнічыя альтанкі і капліцы, пабудаваныя ў антычным стылі.

Свой дзень Агінскі праводзіў прыкладна так. З раніцы праглядаў газеты, чытаў мастацкую літаратуру, дыктаваў сакратару памфлеты і мемуары. Потым ехаў на шпацыр. Часта заглядваў у вёскі, пад сялянскія стрэхі, і слухаў там народныя песні. Вярнуўшыся дамоў, пісаў музыку. І нічога дзіўнага, што ў творах, напісаных па класічных канонах, часам пачынала гучаць беларуская народная мелодыя. Юзаф Казлоўскі, які доўгі час выкладаў музыку ў Пецярбургу, і пазнаёміў Агінскага са скарбамі рускага меласу. Пад уплывам свайго былога настаўніка Агінскі апрацаваў некалькі рускіх і ўкраінскіх народных песень. Як сведчыць Янкоўскі, менавіта ў Залессі напісана большасць паланезаў Агінскага, у тым ліку і вядомы ўсім нам ля-мінорны — «Развітанне з радзімай». Беларускаму слухачу Агінскі вядомы пакуль што пераважна па гэтаму твору.

У дні Айчыннай вайны 1812 года кампазітар рашуча стаў на бок рускага народа. Па дарозе з Залесся ў Мінск Агінскі запісаў у дзённіку, што Напалеону ніколі не пакарыць Расію, бо ён не ведае яе «патаемных сіл», не ўлічвае «фатальнай любві маскоўскага народа да сваёй радзімы». Напалеон не мог дараваць Агінскаму гэтых слоў. Нядаўна ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Літоўскай ССР мне ўдалося выявіць успаміны Леанарда Ходзькі, асабістага сакратара кампазітара. У іх прыводзіцца такі факт. Пры адступленні, у ноч з 2 на 3 снежня 1812 года, Напалеон спыніўся нанач у маладзечанскім замку, дзе тады дажываў свой век састарэлы дзядзька Агін-

скага, і пачаў папракаць старога за тое, што яго пляменнік аказаўся «здраднікам», перайшоў на бок рускіх. На гэта стары рэзонна заўважыў, што французы прыйшлі і цяпер уцякаюць, народ жа застаецца, застаецца Расія, і таму Міхал Клеафас Агінскі паступіў правільна, як патрыёт, калі ў цяжкую для славянскіх зямель часіну прымкнуў да рускіх сяброў. Раззлаваны імператар ляпнуў дзвярыма, але нічога не пасмеў зрабіць хвораму субяседніку. Вярнуўшыся ў свой пакой, Напалеон дзве гадзіны паліў свае паперы, а потым заснуў на канапе. Князь Калэйнкурт, які аберагаў сон імператара, узяў вугаль і напісаў на каміне: «Напалеон I»...

Трэба ж было здарыцца, што праз суткі ў тым жа пакоі і на той жа канапе адпачываў Кутузаў. Убачыўшы надпіс на каміне, ён дадаў: «et dernier» — «і апошні».

Агінскі назаўсёды пакінуў беларускія землі ў 1822 годзе. У сувязі з гэтым трэба прызнаць фантазіяй сцвярджэнне, якое не так даўно прамільгнула ў друку, што ў Залессі жыве сучаснік Агінскага. У дзяцінстве ён быццам бы іграў на скрыпачцы самому кампазітару, той пахваліў яго, пагладзіў па галоўцы, а вось цяпер яго сын пайшоў у першы клас музычнай школы і хораша іграе на баяне гэты самы паланез...

Узнікае пытанне: колькі ж год павінна быць гэтаму калгасніку?

Агінскі не канчаў жыцця самагубствам. Ён пражыў за граніцай адзінаццаць гадоў і памёр у верасні 1833 года ў італьянскім горадзе Фларэнцыя, дзе і пахаваны. Другая жонка Агінскага — Марыя дэ Неры — засталася з дзецьмі ў Залессі. Але старадаўні маёнтак паволі пусцеў і ў час першай сусветнай вайны быў разбураны.

Сёлета спаўняецца 130 год з дня смерці Міхала Агінскага. У сувязі з гэтым варта было б прысвоіць імя Агінскага Залескай сярэдняй школе ці залескаму Дому культуры. Вялікі чараўнік гукаў і патрыёт заслужыў, каб ушанаваць яго памяць.

**Адам МАЛЬДЗІС.**

# ПАМЯЦЬ СЭРЦА



Віктар Букаты.

## ТАВАРЫШ, ІДЗІ Ў АПАЛЧЭННЕ

Малюнкі, дзённікі, пажоўклыя газетныя выразкі, пісьмы — найдаражэйшыя сямейныя рэліквіі Аляксандра Аляксандравіча і Любові Мацвееўны Букатых. Бацькоўскія сэрцы дагэтуль яшчэ не пакідае вера, што адбудзецца нейкі цуд і вернецца іхні сын Віталь... Мастак, паэт, камсамолец, змагар...

Памяць захавала сляпыя вокны дамоў, горы друзу, печышчы, што тырчаць з пажарышчаў, і ўцалелыя ад бамбёжак сцены, з якіх нібыта жывыя постаці заклікалі:

Товарищ, иди в ополчение,
И дом и завод в цитадель преврати, —
Чтоб подлой фашистской гиене
К востоку отрезать дороги-пути!

Аднагодкі Віталя Букатага памятаюць гэты плакат-малюнак, памятаюць магутную постаць рабочага з кувалдай у моцных руках. Удар па распаленаму металу — і іскры ў выглядзе куль і снарадаў б'юць ворага ў самае сэрца.

Аўтарам плаката быў вучань 4-й Гомельскай чыгуначнай школы Віталь Букаты, юнак, які ў тыя цяжкія дні запісаў у сваім дзённіку:

«25 чэрвеня 1941 г. Першае маё дзяжурства ў райкоме камсамола. Трывожная ноч. Мой любімы Гомель затаіў дыханне. Не спіць. Насцярожаная цішыня. Толькі з Сожа чутны бестурботны гоман жаб.

Раніца... Вокны сумныя-сумныя. А з прыгожай клумбы весела па-



зіраюць апырсканыя расою пунсовыя вяргіні, белыя гладзіолусы. Зрываю кветку і кладу на падаконнік. Бывай Галінка».

...Пра Віталя і тых, з кім ён сябраваў, расказваюць старонкі гэтага дзённіка, напісаныя падчас наіўна, але шчыра, а таксама беглыя накідызамалёўкі, вершы, эскізы яго малюнкаў.

Чытаеш дзённік, і нібы чуеш, як грукоча вайна.

«На рэйках нашы фабрыкі, заводы... Эвакуіруецца Гомсельмаш. Навошта?» — пытаецца ашаломлены страшэннай нечаканасцю юнак.

Пазней ён сам радаваўся і ганарыўся тым, што перамога над ворагам кавалася і там, дзе не грымелі бaі.

«Вось такія «сеялкі» і «веялкі» выпускае «Гомсельмаш», — чытаем мы эпіграф над адным з малюнкаў.— Яны «сеюць» жах і «веюць» смерць сярод нямецка-фашысцкіх акупантаў...» На малюнку бачна, што «сеялкі» з маркай «Гомсельмаш» — гэта бомбы, якія падаюць на галовы фашыстаў.

## ДУЖА КАРОТКАЯ БІЯГРАФІЯ

«Гэта мяне хвалюе і дзень і ноч: якое я маю права стаяць у баку ад вялікай усенароднай барацьбы супраць лютага ворага?»

З дзённіка В. Букатага.



...Над парканам каля ўваходу на цэнтральную алею мастацкія плакаты. На адным з іх тры савецкія волаты — воін, рабочы і селянін. Сімвалізуючы адзінства фронту і тылу, яны душаць фашысцкую гадзіну.

Перад гэтым позняй ноччу ў друкарні «Палесдрук» нарадзіўся, а пад раніцу выйшаў у свет першы нумар сатырычнага беларускага часопіса «Раздавім фашысцкую гадзіну».

Неўзабаве мы пазнаёміліся з аўтарам «Трох волатаў» Віталем Букатым. Хударлявы, у пацёртым пінжачку хлопец расказаў нам сваю біяграфію так: «Камсамолец, перайшоў у 10-клас...»

Размова з Віталем была таксама кароткая:

— Малюеш?

Віталь, стараючыся трымацца незалежна, моўчкі паклаў перад рэдактарам зашмальцаваны альбомчык.

... Лясок, пранізаны промнямі сонца. Бярозкі... Птушкі ў блакітным паднябессі... Хлопчыкі пускаюць папяровых галубоў... Маладзік над паркам. Закаханыя пад дрэвам...

— Адна лірыка!.. Плюс дзіцячая наіўнасць, — уздыхнуў рэдактар.

Цяжка ўздыхнуў і гаспадар альбома.

Гартаем старонкі далей.

Беленькі параходзік з чырвоным пасачкам на трубе. ... Хлопец скача ў ваду. Подпіс: «Вова ідзе на дно»... ... Плыт. На ім жоўценькая хатка. Каля хаткі дзяўчына развешвае бялізну. Наперадзе буксір...

І раптам зусім іншыя малюнкі. Ужо не птушкі ў паднябессі, а фашысцкія бамбардзіроўшчыкі... І плыт і буксір ахоплены полымем... Жахлівыя вочы жанчыны, побач з ёю перапалоханая дзяўчынка, якая прыціскае да сваіх грудзей ляльку...

— Ну, дык чаго ты, хлопча, хочаш?

— Ваяваць супраць фашысцкіх катаў.

— Паваюеш пакуль што тут... Вось табе тэмы, малюй!

З пажоўклых старонак «Раздавім фашысцкую гадзіну» і іншых беларускіх выданняў ваеннага часу, якія цяпер ужо сталі здабыткам музеяў і архіваў, паўстае перад намі, на жаль, яшчэ нікім не напісаная гісторыя аб тым, як побач з доблеснымі воінамі ваявалі беларускія пісьменнікі, мастакі, самы малады сярод іх — Віталь Букаты.

## МОЛАДА — НЕ ЗЕЛЕНА!

«...Не, ён не стараўся бліснуць, вызначыцца... Наадварот. Будучы здольным вучнем, Віталь Букаты больш за ўсё вызначаўся сваёй сціпласцю і, я сказаў бы, сарамлівасцю... Гэта не пустая пахвала, не жаданне, як казаў Маякоўскі, «навести хрестоматийный глянец» на былога майго вучня, хачу толькі падкрэсліць: здольнасці і талент спалучаліся ў ім з высокім пачуццём адказнасці і калектывізму».

З пісьма Майсея Паўлавіча Моўчана — былога дырэктара 4-й Гомельскай чыгуначнай школы.

Чалавек і барацьба супраць чалавеканенавісніцтва — асноўны змест творчасці Віталя Букатага. І не трэба здзіўляцца, што, не маючы спецыяльнай падрыхтоўкі, ён адразу стаў у строй як мастак-баец.



Здольнасці Віталя ацаніў такі патрабавальны майстар, як З. Азгур. І не толькі ён. Пазней знаёміўся з яго творчасцю вядомы мастак-карыкатурыст Л. Брадаты. Спачатку ён праглядаў Віталевы карыкатуры і, здавалася, не выказваў ніякай цікавасці да іх. Але вось здзіўлена ўзняліся яго бровы, ён спыніў увагу на адной, потым на другой, трэцяй карыкатуры...

— Што ж, малады чалавек, ёсць у вас пэўныя здольнасці. Вось, напрыклад, гэты гітлеравец. Роспач і жывёльны страх яго добра перададзены. А гэта? Даволі агідная страхалюдзіна на крывых ножках у вас атрымалася. Сатыра і павінна выклікаць гнеў.

«Вызваліцель Еўропы!» — крычалі брудныя фашысцкія газеткі і лістоўкі пра Гітлера.

І вось на малюнку Віталя Букатага людзі ўбачылі гэтую пачвару з вусікамі зводніка пад носам, з грыўкай крымінальніка на вузкім ілбе, з вачыма разбойніка з вялікай дарогі. Так і чутна з вуснаў пачвары: «Я заваюю ўвесь свет!» А пад карыкатурай подпіс:

Мы на гэта скажам гаду:
— Грозен рак, ды вочы ззаду!

Карыкатуры і малюнкі Віталя Букатага з'яўляліся ўсё часцей. І не толькі ў сатырычным часопісе «Раздавім фашысцкую гадзіну». Яны змяшчаліся і ў газеце «Савецкая Беларусь» і ў «Фронтовой иллюстрации».

Разам з пісьменнікамі, пераважна з паэтам Анатолем Астрэйкам, Віталь удзельнічае ў распрацоўцы тэм, піша тэксты для малюнкаў, ілюструе лістоўкі.

І ўвесь час думае, як бы яму трапіць на фронт або ў тыл праціўніка.

Разглядаючы малюнак Букатага да аднаго з апавяданняў Ігната Булавы з-пад Турава, Кузьма Чорны (ён быў аўтарам гэтых твораў) запытаўся:

— Як табе ваюецца, Віталь?

Хлопец сумеўся.

— Учора зноў хадзіў у ваенкамат...

— Нічога, хлопча, яшчэ паваюеш! А тут, думаеш, не вайна? Трэба біць ворага з усіх відаў і каліброў зброі, у тым ліку і ідэалагічнай.

## У ІМЯ БУДУЧЫНІ

«Сёння Анатоль Астрэйка чытаў нам нізку сваіх вершаў пра Беларусь... Адзін так і называецца «Беларусь». Чытаў ён і лірычныя свае вершы. Успомнілася роднае і блізкае».

З дзённіка В. Букатага.

Яны ваявалі разам — вершы паэта і малюнкі мастака. Цэлую галерэю сатырычных вобразаў заклятых ворагаў чалавецтва стварыў Віталь Букаты. Бязмернай была яго нянавісць да фашысцкіх вылюдкаў. Бязмежнай была яго любоў да людзей, якія апынуліся ў нямецкай няволі, да воінаў Савецкай Арміі і народных мсціўцаў-партызан.

... Напярэдадні 24-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі рыхтаваўся святочны нумар газеты «Раздавім фашысцкую гадзіну». Кожны займаўся сваёй справай. Віталь сядзеў у кутку маленькага пакойчыка і маляваў. Неўзабаве пачаў нешта чытаць:

— «Родная зямля! Радзіма! Ад аднаго гэтага слова пачынае мацней біцца сэрца...»

І зноў шамаціць папера, рыпіць пяро, і зноў, але ўжо грамчэй, загучаў яго голас:

— «... Нашы дзеці бачылі, як тлела ў агні хараство роднай зямлі. Нашых дзяцей расстрэльваў немец з самалётаў, калі яны з маткамі ішлі дарогамі, шукаючы ратунку ад нямецкай навалы. Нашы старэйшыя дзеці неслі на руках меншых, калі падала ад нямецкай кулі маці».

— Што гэта ты чытаеш?

— Кузьму Чорнага. Раблю ілюстрацыю да яго артыкула.

Мы паглядзелі на малюнак і заціхлі.

— Не, вы паслухайце вось гэтае месца: «Сутнасць нямецкай акупацыі відна на муках, на енках кінутага ў агонь дзіцяці і на парыве жывой маці, якая ў гэты момант стаіць над агнём і душа якое папялее на векі вечныя».

У Віталя дрыжаў голас.

— Разумееце, петрыкаўская настаўніца Кустановіч, з рук якой звер у мундзіры нямецкага афіцэра вырваў яе дзіця і кінуў у агонь, так і стаіць перад маімі вачыма, — гаворыць Віталь. — Не малюнкамі, а сапраўднай зброяй трэба змагацца з ворагам. Жлобінскі хлопчык Саша сам загінуў,



але адпомсціў немцам, узарваўшы гранатай штабную машыну з фашыстамі. А я? Што я зрабіў?

— Усе мы яшчэ недаравальна мала зрабілі. І трэба рабіць, а не хныкаць, — адказаў Віталю Кузьма Чорны, які, пачуўшы словы свайго артыкула, падышоў да мастака.

Потым ён узяў свой рукапіс.

— Трэба тое-сёе паправіць.

7-га лістапада 1941 года артыкул Кузьмы Чорнага быў змешчаны ў газеце «Савецкая Беларусь». Называўся ён «У імя будучыні». Малюнак Віталя Букатага як нельга лепш перадаваў пафас пісьменніка.

## БАЧАННЕ МАСТАКА

«Сёння маляваў партрэт партызана З. Успомніў бамбёжку і жанчыну на фурманцы з мізэрным хатнім скарбам, яе нахмураныя бровы і вочы, якія нібыта гараць».

З дзённіка В. Букатага.



Віталь любіў глядзець, як вярстаюць газету, і з нецярпеннем чакаў першых адбіткаў, якія пахлі друкарскай фарбай.

Зняўшы з талера аркуш, ён неяк пажартаваў: «Цікава ўбачыць гатовую прадукцыю як вынік папярэдніх нарыхтовак сыравіны».

Доўга ён вагаўся, пакуль адважыўся паказаць свае «нарыхтоўкі». Гэтыя замалёўкі і эскізы як нельга лепш раскрывалі яго душу, душу камсамольца-патрыёта.

...Пікіроўшчык павіс над чалавекам, які на доўгай і вузкай лодцы вязе траву. Вадзяныя смерчы ўзнімаюцца навокал... Чалавек з апошніх сіл вяслуе да густога чароту...

...Абочына дарогі. Дзіця спіць на матчыных руках, нахмураныя бровы, маленькія, заціснутыя ў кулачкі, ручкі...

...Разбітыя фурманкі... Машыны, прыкрытыя зялёным маскіровачным веццем, вязуць параненых. Наляцеў фашысцкі самалёт, выбухі, варонкі...

Вайна супраць мірных жыхароў!

...З белага аркуша пазірае светлавокая «Дзяўчына маёй мары».

— Гэта эскіз партрэта Н., — з сарамлівай усмешкай кажа Віталь. — Вучыліся разам, дружылі...

І зноў малюнкі, малюнкі...

... Маўклівы абгарэлы гай. Старая цягне вязанку галля. Хлопчык, учапіўшыся за яе спадніцу, палахлівымі вочкамі пазірае на барвовае неба...

... Некалькі параненых байцоў. Мабыць усё, што засталося ад роты, а можа і ад батальёна. У аднаго забінтаваная галава, у другога — заматана анучамі нага; трэці з падвязанай рукою... Яны зусім яшчэ маладыя,

але дужа змучаныя. Дзяўчына поіць іх малаком. «Нічога, мы выдужаем ды яшчэ павоюем!» — гаворыць тэкст пад малюнкам...

... Дзядзька ў саламяным капелюшы сядзіць каля разбітай фурманкі. На скамянелым яго твары слёзы. Пад малюнкам подпіс: «Калі мужчына плача, значыць, гора вялікае. Кожная сляза, як камень»...

## ЛІРЫКІ-САТЫРЫКІ




«...Учора перадавалі сёмую сімфонію Шастаковіча. Яе слухаеш, сціскаючы да болю кулакі, з сэрцам, напоўненым гневам да тых, хто зруйнаваў і топча родныя прасторы маёй рэспублікі, хто асаджае Ленінград. Я ніколі не бачыў гэты цудоўны горад на Няве, але ён стаў мне такі ж родны і блізкі, як мой Гомель...»

З дзённіка В. Букатага.

Ён быў упэўнены, што горад Леніна — воін і герой — разарве блакаду і ператрушчыць нямецка-фашысцкія полчышчы. І ён бязлітасна здзекаваўся з гебельсаўскіх брахуноў, якія ў час блакады Ленінграда раструбілі на ўвесь свет, што не сёння дык заўтра на праспектах Ленінграда будуць маршыраваць гітлераўскія дывізіі.

У адказ на гэта быў надрукаваны зусім не дыпламатычны адказ Віталя Букатага: вялікі кукіш праўрваў катэгарычны загад нямецкага камандавання, і камбінацыя з трох пальцаў паднесена пад самы нос фанабэрыстага фюрэра.

Часам Віталь не толькі маляваў, але і сам рабіў вершаваныя подпісы пад малюнкамі. Так нараджалася з'едлівая сатыра на тых фанабэрыстых гітлераўцаў, што бачылі сябе ўжо на вуліцах Ленінграда.

Віталю Букатаму часта прыходзілася ілюстраваць сатырычныя вершы, фельетоны і памфлеты беларускіх пісьменнікаў. І кожны раз ён вельмі хваляваўся. «Мне хочацца аднаго, каб мае малюнкі, калі ўжо не з такім майстэрствам і талентам, то з такой жа сакрушальнай сілай гневу грамілі людаедаў»,— марыў ён.

«Фашысты захацелі забраць у нас самае дарагое, забраць нашу будучыню — нашых дзяцей. Няхай яны на кожным кроку сустракаюць смерць і бязлітаснае знішчэнне».— Гэтыя радкі напісаны пад малюнкам В. Букатага «Адпомсцім».

Найбольш плённа Віталь Букаты працаваў з Анатолем Астрэйкам. Сатырычныя вершы і вершаваныя подпісы Анатоля Астрэйкі пад малюнкамі Віталя Букатага часцей за ўсё з'яўляліся вынікам непасрэдных сустрэч з партызанамі легендарнага Бацькі Міная. Гэта быў, як пісалася ў «Малой партызанскай энцыклапедыі», «самы мнагадзетны бацька ў Беларусі. Супакоеныя яго «бацькоўскай ласкай», сотні арыйцаў заснулі навечна пад абломкамі сваёй тэхнікі».

Пабудаваныя на канкрэтных фактах, вершы Анатоля Астрэйкі і малюнкі Віталя Букатага былі прасякнуты баявым духам і бадзёрасцю. Гэтым вызначаліся іх творы, якія клікалі народ на барацьбу за перамогу.

## СЭРЦА ПРАГНЕ ПОМСТЫ

«Чуў сёння па радыё музыку з «Лебядзінага возера», і на ўспамін прыйшоў цудоўны гомельскі парк з яго Лебядзіным возерам. Што засталося ад парку, ад дамоў і садоў Гомеля?!»

З дзённіка В. Букатага.

Віталь адну за адной пісаў заявы, каб яго паслалі на фронт або ў тыл ворага. Пісаў ва ўсе інстанцыі. Хваляваўся і з нецярпеннем чакаў адказу.

Чакаў, не склаўшы рукі: маляваў карыкатуры і плакаты.

І раптам самая вышэйшая партызанская інстанцыя тэрмінова выклікала Віталя Букатага. Ён хуценька сабраўся — склаў у рукзак сваю маёмасць, і мы ўжо не пазналі ў ім учарашняга школьніка: узмужнеў, падцягнуўся і, здаецца, стаў дарослы.

— Ну што табе там сказалі? — цікавімся мы, калі ён вярнуўся.

— Сказалі, што атрымалі ўсе мае заявы, што напісана ў іх усё правільна. Потым прадэманстравалі мне партатыўную друкарню — касу шрыфтоў і друкарскі станок з валікам. Усё ў адной скрынцы. «Разумееш, таварыш Букаты,— зусім не па-вайсковаму паклаўшы руку мне на плячо сказаў той начальнік у партызанскім штабе,— карнікі саскрабаюць са сцен гэтыя газеты і лістоўкі. На іх месца паяўляюцца другія, не менш грозныя, як, напрыклад, вось гэтыя: «Кроў за кроў, смерць за смерць!» А ў савецкіх людзей словы не разыходзяцца са справай. Ідзе ўсенароднае змаганне з лютым ворагам! І каб зямля яшчэ больш гарэла ў яго пад на-

**ПЕРШЫЯ ТВОРЫ**



Ірына Іскрынская палюбіла жывапіс з юных год. Спачатку яна вучылася ў Маскоўскім мастацкім вучылішчы, а потым у Кіеўскім мастацкім інстытуце, адкуль перавялася ў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут.

Карціна маладой мастачкі «Дождж» экспанавалася на выстаўцы «40 год ВЛКСМ».

Сёлета Ірына Іскрынская закончыла вышэйшую адукацыю. Яе дыпломная работа—«На пароме».

**ПЕРШЫЯ ТВОРЫ**



Леанід Дударэнка нарадзіўся ў 1930 годзе ў горадзе Маладзечна.

Вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы. З 1956 года пачаў працаваць у мастацкіх майстэрнях Мінска, а праз год паступіў у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, які скончыў сёлета. Дыпломная работа Леаніда Дударэнкі — «Падзел зямлі».




гамі, трэба каб народ ведаў праўду пра наша нястомнае змаганне. Так што, Віталь Аляксандравіч, спярша выканаеш такое баявое заданне: зробіш сатырычныя плакаты да вось гэтых вершаваных тэкстаў нашых беларускіх паэтаў. Улічы: праз пару дзён мы павінны закінуць у партызанскія злучэнні гатовенькія клішэ».

І Віталь зноў маляваў. Малюючы, па-ранейшаму ўголас чытаў подпісы да малюнкаў. Гэта былі вершы Кандрата Крапівы:

...Хутка дождж пакіне ліць
І зіма настане,
Не забудзьце ацяпліць
Фрыцам памяшканне.

...Папраўляйце шлях умела,
Будзьце ў працы шчырымі,
Каб машына аж грымела...
Разам з пасажырамі.

Помста за Савецкую Радзіму, за родную Беларусь — галоўны пафас творчасці Віталя Букатага. І, відаць, з гэтае прычыны камандаванне не спяшалася пасылаць яго на фронт або ў тыл праціўніка. Ён, вядома, перажываў гэта, але з яшчэ большай зацятасцю працаваў у рэдакцыі.

Перагортваем старонкі беларускіх выданняў ваеннага часу — малюнкі, плакаты і карыкатуры Віталя Букатага, і перад намі паўстае вобраз воіна-камсамольца, які бязмежна любіў сваю Радзіму і ўсёй душой ненавідзеў ворагаў. Сваім светлым розумам, шчырым юначым сэрцам і яшчэ няспелым, мусібыць, талентам поплеч са старэйшымі сваімі таварышамі граміў ён ворага.

І не толькі сваімі малюнкамі, але і аўтаматам і дынамітам. Ён, зрэшты, дабіўся свайго: трапіў у школу падрыўнікоў, скончыў яе, быў закінуты ў тыл ворага, стаў грозным народным мсціўцам.

### КАБ ТЫ ВЕЧНА ЦВІЛА

«...Мы з дзедам Міколам не спім. Аніяк не нагаворымся. Чуем зноў, як змяняецца варта: «Хутка на змену ночы прыйдзе дзень». У голасе дзеда чутны надзея і ўпэўненасць. І ў сугучнасці яго настрою чытаю на памяць верш Пімена Панчанкі, які дужа спадабаўся мне:

Асушу твае слёзы,
Залячу твае раны,
Кожны ліст я рукою распраўлю старанна,
Узніму з папялішчаў твае гарады я,
Насаджу каля вёсак сады маладыя,
Каб ты вечна цвіла
І у шчасці расла,
Дарагая мая Беларусь».

З дзённіка В. Букатага.

Гэты запіс зроблены ў кастрычніку 1942 года.

А цяпер восень 1963 года! Дваццаць з лішнім гадоў мінула з таго часу. Колькі гамяльчан за гэтыя гады адсвяткавала наваселле! На плошчы Леніна, як заўсёды, шматлюдна і шумна. Зрэшты, чаму не радавацца цяперашнім будаўнікам камунізма, тым, хто прыняў ад нашых бацькоў эстафету, каб несці яе далей!

Гамяльчане свята шануюць памяць пра сваіх герояў. Вечны агонь





гарыць каля помніка воінам і партызанам Вялікай Айчыннай вайны на плошчы Працы. Вечны агонь любві да Радзімы і нянавісці да ворага гарэў у сэрцах Героя Савецкага Саюза сакратара Гомельскага гаркома КПБ Е. І. Барыкіна, сакратара гаркома камсамола Аляксандра Ісачанкі, слаўных воінаў, падпольшчыкаў і партызан.

...Камсамольскі сквер на беразе Сожа. Помнік народным апалчэнцам Мігаю, Уткіну, Кунцэвічу... Тут пахаваны і бясстрашны падпольшчык Цімох Барадзін, замучаны гітлераўцамі.

Адсюль, з камсамольскага сквера, я зноў іду да бацькоў Віталя Букатага. Перачытваю старонкі яго дзённіка, праглядаю пісьмы, даведкі. Чытаю паведамленне гомельскага гарваенкамата:

«Ваш сын Букаты Віталь Аляксандравіч у баі за сацыялістычную радзіму быў забіты 2 сакавіка 1944 года. Пахавачы ў вёсцы Гамарыя Магілёўскай вобласці».

Чытаю і думаю: а ўсё ж такі ён жыве! Жыве, бо яго малюнкі і цяпер ваююць супраць тых, хто песціць мару прайсціся на Усход дарогамі Гітлера.

Подзвігі савецкіх людзей, камуністаў і камсамольцаў, якія змагаліся за свабоду і незалежнасць Савецкай Радзімы, ніколі не паміраюць. Яны вечна жывуць у нашых сэрцах і служаць прыкладам таго, як трэба жыць і змагацца за шчасце народа, за шчасце нашай цудоўнай савецкай Радзімы.

**Міхаіл ЧАУСКІ.**

# НЕБЯСПЕЧНЫ РЭЙД

У кастрычніку 1942 года 720-ы партызанскі атрад пачаў рэйд па тылах ворага з Чэрыкаўскага раёна праз рэкі Сож, Проня, Дняпро і Друць, праз шасейныя дарогі Варшава — Масква і Ленінград — Кіеў, праз чыгунку Кіеў — Ленінград у Клічаўскія лясы, на так званыя «зімовыя кватэры».

Пасля зацяжных дажджоў пачалося асенняе разводдзе, калі звычайныя раўчукі ператвараюцца ў рэкі, а балоты — у суцэльнае месіва.

2 кастрычніка мы фарсіравалі раку Сож паблізу ад вёскі Аляксандраўка-2, з боем перайшлі праз шашу Варшава — Масква і спыніліся ў Гіжанскім лесе, што ў міжрэччы Сожа



Якаў Курпачэнка.

і Проні. Тут сустрэлі групу Якава Курпачэнкі — 22-х партызан, якія вырваліся з пекла. Усе былі знясілены, сярод іх былі раненыя. Камандаванне нашага атрада прапанавала Якаву Курпачэнку далучыцца на правах «асобнага падраздзялення» або ўліцца ў атрад. Яго прызначылі намеснікам камандзіра, а Пятра Кубышкіна — камандзірам узвода.

Баявая трывога. У Вялікую Смоліцу прыбылі дзве нямецкія бронемашыны-ўсюдыходы. Значыць, праціўнік заўважыў нас.

Затрымлівацца далей у гэтым невялікім лесе не выпадала. Праз дзеньдва чакай карнікаў. Пачалі ладзіць плыты. У зарасніках Дняпра разведчыкі знайшлі тры лодкі, праўда, адна з іх крыху працякала. Сувязны з вёскі Трасна Касьян Лёгкі і яго шаснаццацігадовая дачка камсамолка Аня мелі дзве лодкі. Бацька і дачка сталі нашымі праваднікамі.

Пераправу выбралі паміж вёскамі Старая Трасна і Прыбар. У Прыбары стаяў змешаны нямецка-паліцэйскі гарнізон. Непадалёку ад шашы ў будынку пошты былі гітлераўцы. Выходзіць, вырашылі фарсіраваць Дняпро літаральна пад іх носам.

Размясціўшыся на беразе, партызаны замініравалі падыходы да ракі з боку вёскі Прыбар і будынка пошты. Наладзілі засады. Якаў Курпачэнка з узводам і дыверсійнай групай знаходзіўся ў засадзе на скрыжаванні прасёлачных дарог.

Як мы ні стараліся захоўваць цішыню, праціўнік усё ж заўважыў нашу пераправу. Гарнізон з Прыбара рушыў да пераправы, але наскочыў на партызанскія міны.

Больш як дзве гадзіны баявая ахова стрымлівала націск ворага, і, калі апошняе падраздзяленне адчаліла ад берага, хлопцы кінуліся ў атаку на ворага, каб потым самім пераправіцца праз раку.

Тым, хто застаўся ў ар'ергардзе, было гарачэй за ўсіх. Уперадзе — паўнаводная рака з чатырохкіламетравай поймай, ззаду насядае вораг... Падпусціш яго да берага, значыць — сам не пераправішся. Вось чаму наша баявая ахова пайшла ў атаку, каб выклікаць замяшанне ў яго радах і пасцець пераправіцца самім.

Пра тое, што ў баі могуць забіць і параніць, не думаеш. Ды і няма часу на роздум. У баі думаеш адно: як бы перамагчы ворага. А тут яшчэ гэтая дняпроўская пойма задала нам задачу. Па прамой не пойдзеш — скрозь старыцы і азёры. Арыентавацца ноччу цяжка, а тут яшчэ гітлераўцы і паліцаі абстрэльваюць з усходняга берага. Іх агонь беспарадкавы, беспрыцэльны, шкоды не прыносіць, але ж непрыемна.

Партызаны правальваюцца па пояс, па грудзі, а то і з галавой у халодную ваду. Коні, як і людзі, выбіліся з сіл. Многа патанула ў Дняпры. Паклажу размеркавалі паміж здаравейшымі партызанамі.

Ужо занялася зара, калі мы выйшлі на сухое. Не ўдалося нам за адну ноч фарсіраваць Дняпро і чыгунку. Світанак захапіў нас каля балота Трасцянае, непадалёк ад чыгункі Ленінград — Кіеў. Стома валіла з ног. Аб'явілі прывал. Дзе хто стаяў, там і сеў або лёг. Нават заўзятых курыльшчыкаў змарыў сон: не паспелі скруціць цыгаркі, як вочы самі заплюшчыліся... Толькі разведчыкі, гэтыя нястомныя працаўнікі вайны, не адпачывалі. Браты Пятро і Ціт Храмовічы, Анісім Русакевіч, яго брат Іванёк, камсамольцы Рома Шэбаў, Міша Алесаў, Алёша Пядухаў і шаснаццацігадовы Пецька Канавалаў выклікалі здзіўленне нават у бывалых воінаў. Цяжка сказаць, калі яны спалі і адпачывалі ў час рэйду. Не дзіўна, што іх празвалі двухжыльнымі людзьмі.

* * *

Гэта было паміж Дняпром і чыгункай у невялікім лесе. Разведчыкаў у нас было мала, каб забяспечыць кругавую разведку, і службу разведчыкаў прыходзілася несці дыверсійным групам атрада.



Старшы лейтэнант Якаў Курпачэнка са сваёй старой групай накіраваўся да чыгункі, каб знайсці месца пераходу, вывучыць агнявыя ўмацаванні ворага на «жалезцы». Другая група пад камандаваннем Аляксея Касцяна таксама адправілася да чыгункі з такой жа задачай. Чыгунку трэба было фарсіраваць раніцай і зянацку, але ў нас не хапала сіл, людзі былі стомленыя. Адпачывалі каля балота. Чалавек, здавалася, лёг на сухое месца, а праз хвіліну пад ім хлюпала вада. Камандаванне вылучыла пяць чалавек, каб яны выцягвалі людзей з вады.

Алёша Пядухаў, Міша Алесаў прывялі да штаба нейкага незнаёмага цывільнага чалавека.

— Таварыш камандзір, злавілі шпіёна!..

— Абшукалі? Зброя, дакументы ёсць?

— Абшукалі, зброі і дакументаў няма.

Затрыманы гаворыць, што прыйшоў у лес назбіраць журавін.

— Якія ж тут журавіны, калі ў балоце поўна вады?..

Пры допыце выявілася, што гэта варожы лазутчык з батальёна СС. Ён пацвердзіў звесткі нашых разведчыкаў аб тым, што гітлераўцы стаяць у вёсках Лудчыца, Камарычы, пасёлку Магучы і на бальшаку Новы Быхаў — Стары Быхаў.

На чыгунцы паявіліся ўзмоцненыя патрулі і бронедрызіны. Атрад апынуўся ў пастцы. На наша шчасце, праціўнік зрабіў памылку: не пайшоў з раніцы ў наступленне. Кастрычніцкія дні кароткія. Ноччу вораг у лес не пойдзе. Ноч і лес — надзейныя нашы саюзнікі.

Камандзір атрада, разам з Якавам Курпачэнкам вызначылі месца пераходу праз «жалезку». Па абодва бакі чыгункі, на адлегласці ста метраў, высечаны лес. Паваленыя дрэвы засталіся на месцы. Праз гэтыя завалы не пройдзеш.

На пераездзе блокпаста — бункердзот з узмоцненай вартай. Каля бункера — замаскаваныя кулямёты. Цяжка, але пераходзіць трэба тут. Ды і праціўнік менш за ўсё чакае, што партызаны пойдуць на такое ўмацаванне. Якаў Курпачэнка са сваімі дыверсантамі бярэцца ліквідаваць яго.

Цішыня. Вораг стаіўся і чакае. Толькі яго патрулі, нібы цені, ходзяць па насыпу чыгункі.

Якаў Курпачэнка разам з дыверсантамі па-пластунску папаўзлі да пераезда. Атрад сабраўся, каб кінуцца праз «жалезку». Як толькі на пераездзе завяжацца бой, ён рынецца на палатно чыгункі, мініруе яе і адкрые агонь па варожых патрулях.



Аляксей Салаўёў.

Праходзіць тры, пяць хвілін. Час цягнецца вельмі марудна, і — раптам... Аглушальныя выбухі ў начной цішы. Гэта рвуцца праціўтанкавыя гранаты і лімонкі. На флангах застракаталі кулямёты і аўтаматы. Атрад ру-



Канстанцін Падголін.

шыў на пераезд і пасля моцнага бою перайшоў праз «жалезку», каб узяць напрамак на вёску Дунаёк.

* * *

Лістапад 1942 года. Свой рэйд па тылах ворага мы прысвяцілі 25-й гадавіне Кастрычніка.

Камандаванне атрада вырашыла даць людзям два-тры дні адпачынку перад тым, як рынуцца ў Клічаўскія лясы.

Між іншым, камуністы і камсамольцы ўнеслі папраўкі ў планы камандавання.

— Трэба схадзіць на «жалезку» і кульнуць яшчэ пару эшалончыкаў,— сказаў Якаў Курпачэнка.

— Што ты, Яша! — спрабую адгаварыць яго. — Людзі і так стаміліся. ды праз пару дзён зноў у паход...

А ён хітра ўсміхаецца:

— Гэта праўда, што людзі стаміліся, але яны ж і патрабуюць. Ведаеце, моладзь — неспакойныя людзі, ім усё мала... Вы нас не чакайце, мы дагонім атрад.

— Добра. Толькі бярыце добраахвотнікаў.

— Таварыш камандзір! Няхай уся група ідзе. Усе ж добраахвотнікі!

— Будзьце асцярожныя. Ворагі цяпер, як патрывожаны мурашнік...

— Ёсць быць асцярожнымі!

Дыверсійную групу Якава Курпачэнкі — восем чалавек — праводзілі ўсім атрадам. Ім зайздросцілі, імі захапляліся ўсе партызаны.

Не прайшло і пяці хвілін, як у штаб атрада прыйшлі камсамольцы з дыверсійнай групы Аляксея Касцяна: ім таксама хацелася на «жалезку».

А гэта ж былі юнакі, па сутнасці, падлеткі. На двары мароз, а яны не скардзяцца ні на стому, ні на тое, што недаядаюць і недасыпаюць. Яны ўсім сэрцам ірвуцца ў бой.

— Не, хлопцы, не дазваляю,— адказваю я ім.— А дзе ваш камандзір? Ён згодзен?

Нядоўгая збянтэжанасць, няёмкая паўза.

— Наш камандзір гэтак жа, як і мы, згодзен...

— Чаму ён сам не прыйшоў?

Аляксей Касцян у гэты час стаяў за дрэвам і чуў усю размову.

— Я таксама прашу, таварыш камандзір, дазволіць нам выйсці на «жалезку»!..— падаў ён раптам свой голас.

— Вось што, таварышы, як толькі вернецца група Курпачэнкі, пойдзеце вы. а цяпер адпачывайце, набірайцеся сіл.



Канстанцін Шмідаў.

Хлопцы з паніклымі галовамі пайшлі ад штаба.

* * *

У ноч з 6 на 7 лістапада партызаны замініравалі чыгунку каля раз'езда Залатое Дно. На досвітку паравоз і шэсць вагонаў паляцелі пад адхон.

Дзень 7 лістапада хлопцы правялі ў пасёлку Тартак, на кватэры нашага сувязнога. Калі сцямнела, яны зноў рушылі да чыгункі, каб закласці яшчэ адну міну. На прасёлачнай лясной дарозе сустрэлі жыхароў вёскі Барсукі. Тыя расказалі, што на іх вёску напалі гітлераўцы, рабуюць і расстрэльваюць людзей.

Якаў Курпачэнка прымае рашэнне — напасці на гітлераўцаў, калі яны будуць вяртацца з вёскі. Адразу замініравалі дарогу.

Задума партызан удалася. Аўтамашына-ўсюдыход наскочыла на міну. Партызаны адкрылі агонь. Не многім гітлераўцам удалося тады ўцячы.

Уночы Косця Шмідаў і Якаў Курпачэнка заклалі пад рэйку міну націскнога дзеяння і заляглі ў гушчары, чакаючы выбуху.

Патрулі знайшлі міну. Пусцілі па следу аўчарку. Партызаны, адстрэльваючыся, вымушаны былі адысці. Пад вечар яны дабраліся да вёскі Рогі і, падсілкаваўшыся, ляглі адпачыць.

На досвітку вёска была акружана эсэсаўцамі. Яны напалі на дом, дзе знаходзіліся партызаны. Курпачэнка з хлопцамі выскачылі ў сенцы, адчынілі дзверы і шпурнулі ў эсэсаўцаў гранаты. Потым секанулі з аўтамата, каб расчысціць сабе дарогу на агарод.

— Прарывацца! — загадаў Курпачэнка.

Усе кінуліся на прарыў варожага ланцуга, што акружыў вёску.

Іван Каладзяжны, Алёша Салаўёў, Ваня Сідараў і Церах Падголін прарваліся. Яны заляглі і адкрылі агонь. каб даць магчымасць адысці астатнім. Але выратавацца тым, што засталіся ў вёсцы, не ўдалося. Нікіфар Міткевіч і Косця Падголін былі забіты. Косцю Шмідава жывога схапілі эсэсаўцы. Якаў Курпачэнка быў паранены. Ён залег у глыбокай баразне на агародзе і страляў да апошняга патрона. Потым, калі выйшлі ўсе патроны, эсэсаўцы кінуліся на яго. Тады пачуўся выбух гранаты. Разам з Курпачэнкам загінулі тры эсэсаўцы.

А што сталася з Косцем Шмідавым? Гітлераўцы падлячылі яго, абяцалі захаваць яму жыццё, калі выдасць сваіх таварышаў, пакажа эсэсаўцам партызанскія лагеры. Юнак-камсамолец, бязмежна адданы Радзіме і свайму камсамольскаму абавязку, паводзіў сябе перад смерцю гэтак жа смела і мужна, як і ў баі. Ніякія катаванні не маглі зламаць яго волю. Ён пражыў сваё кароткае жыццё, як герой-патрыёт.



Іван Каладзяжны.

Светлая памяць аб героях-партызанах будзе вечна жыць у сэрцы народа.

**Георгі ХРАМОВІЧ,**
**былы сакратар Чэрыкаўскага падпольнага райкома КПБ.**

Крытыка і бібліяграфія

# ДАСКАНАЛА ВАЛОДАЦЬ ІНСТРУМЕНТАМ

**Заўвагі аб мове**

*О, колькі яшчэ не адкрыта*
*Адценняў у ёй і блакіту,*
*Патрэбных народу, паэтам*
*Каштоўнай руды, самацветаў!*

*МАКСІМ ТАНК.*

Важнейшай крыніцай узбагачэння мовы пісьменніка з'яўляецца народная мова. Мы са школьных гадоў ведаем, што А. С. Пушкін любіў хадзіць на кірмашы, каб падслухаць трапнае народнае слова, ведаем, як умела, па-майстэрску вывучалі і выкарыстоўвалі яго ў сваёй творчасці Я. Купала, Я. Колас, К. Чорны. А хіба ж, скажам, Іван Мележ дасягнуў бы такога поспеху сваім раманам «Людзі на балоце», калі б ён дасканала не ведаў, не вывучыў мову людзей, пра якіх пісаў у рамане?

Пытанні культуры мовы, на жаль, недастаткова яшчэ асвятляюцца ў нашым перыядычным друку — у газетах і часопісах. Рэдка выступаюць з артыкуламі пра мову пісьменнікі, крытыкі, выкладчыкі мовы і літаратуры.

Між тым, як шырока ні павесці гаворку пра мастацкія вартасці таго ці іншага твора, мы будзем зноў і зноў звяртацца да выяўленчых магчымасцей слова, да яго сэнсавай і пластычнай выразнасці.

Слова — будаўнічы матэрыял і інструмент пісьменніка. Гэтая метафара няхай сабе не новая, затое надзвычай трапная. Слова даносіць да нас не толькі сэнс самое думкі, але і найтанчэйшыя адценні гэтага сэнсу: у слове і музыка, і настрой, і зрокавы вобраз...



Натуральна, што карыстанне матэрыялам з такімі далікатнымі ўласцівасцямі патрабуе вялікага ўмення. Адзін са старэйшых эстонскіх пісьменнікаў неяк сказаў: кожны чалавек можа стаць пісьменнікам, гэтаму могуць перашкодзіць толькі дзве акалічнасці — лішак слоў ці іх недахоп. Добраму густу, добрай меры ў карыстанні словам якраз і вучыць народная мова.

Мне і хацелася б падзяліцца сваімі назіраннямі над тым, як у нашай сучаснай літаратурнай мове выкарыстоўваюцца выяўленчыя магчымасці мовы народнай.

### КАНЕЧНЕ

У народнай беларускай мове, асабліва ў цэнтральных і паўднёва-заходніх гаворках, слова *канечне* ўжываецца ў значэнні *абавязкова* — «Не канечне папу яечня: з'есць і дзяк, а поп будзе і так».

У гэтым значэнні слова *канечне* сустракаецца і ў тых пісьменнікаў, якія добра ведаюць народную мову. «Стары мікалаеўскі куток, Дворную вуліцу, не канечне перасяляць»,— піша Якуб Колас ў лісце да Ігнася Міцкевіча («Маладосць», 1962, № 9), «Ці ўсім канечне любіць, выходзячы замуж?.. Каб усе ішлі толькі тыя, што любяць, дак болей за палавіну ў дзеўках век сядзела б!» (І. Мележ «Людзі на балоце»).

Заўважым, што ва ўжыванні слова *канечне* ёсць свае стылістычныя асаблівасці. Па-першае, перад ім часта стаіць адмоўная часціна «не» (у І. Мележа яна лёгка падразумяваецца: не ўсім канечне любіць, выходзячы замуж...); па-другое, слова *канечне* ў значэнні «абавязкова», г. зн. у народным значэнні, ніколі не бывае пабочным, яно з'яўляецца прыслоўем і адказвае на пытанне — як?

У сучаснай літаратурнай мове слова *канечне* ў значэнні *абавязкова* сустракаецца рэдка. Яго пачалі замяняць словамі *вядома, зразумела, безумоўна,* якія маюць крыху іншае сэнсавае адценне.

«У лагер, *канечне,* я не пайшоў» (Б. Сачанка «Барвы ранняй восені»), «*Канечне,* Юра вельмі падобны на маладога Міхаіла Паўлавіча» (Л. Арабей «Мера часу»).

Ва ўсіх гэтых прыкладах *канечне* з'яўляецца пабочным словам. Мы проста забыліся на народнае значэнне слова *канечне,* занядбалі яго і запазычылі новае яго значэнне ў братняй рускай мове. І як тут не ўспомніць Якуба Коласа, які вучыў: «...перад увядзеннем кожнага новага слова трэба добра абшарыць кішэні свае памяці, перагледзець слоўнікавыя і фальклорныя крыніцы, прыслухацца, і знойдзецца якраз тое, што неабходна, што ўжывалася і чамусьці забыта, ці ўжываецца і невядома нам».

### ПРАЯВА, ПРАЯЎЛЕННЕ

Гэтыя два словы ў беларускай мове заўсёды адрозніваліся між сабой семантычна. Слова *праява* мае значэнне *нечаканасць, незвычайнае здарэнне. З* гэтым значэннем падаецца яно ва ўсіх без выключэння слоўніках. А ў «Краёвым слоўніку Чэрвеншчыны» нават даецца наступны прыклад: «Ці чулі вы етакую праяву: у Пудзіцку дзіця радзілася з хвастом».

У літаратурнай мове гэтае слова таксама ўжываецца ў значэнні — *незвычайнае здарэнне, нечаканасць* або блізкім да яго. У Якуба Коласа чытаем: «Што хаваецца за заслонаю сінечы-смугі? Якія праявы, якія людзі сустрэнуцца мне на шляху вандравання?» («На ростанях»).

У гэтым прыкладзе слова *праява* ўжываецца як самастойнае слова, якое азначае пэўнае паняцце. Падкрэслім, што яно ніколі не патрабуе пасля сябе назоўніка ў родным склоне.

Слова ж *праяўленне* з'яўляецца аддзеяслоўным назоўнікам і ўжываецца толькі з якім-небудзь іншым назоўнікам. «Ніколі не страціць для нас цікавасці чалавек, бо праяўленне яго розуму бязмежна» (Якуб Колас «На ростанях»).

Розніца, як бачым, відавочная: гэтыя два розныя, хоць і блізкія па паходжанню, словы маюць свае стылістычныя асаблівасці. Аднак у сучаснай беларускай літаратурнай мове мы знойдзем шмат прыкладаў, у якіх гэтая розніца не падкрэсліваецца.

«У той жа час партыя вяла непрымірымую барацьбу супраць праяў «мясцовага нацыяналізму» (Н. Гілевіч «Акрыленыя рэвалюцыяй»).

«...за ўсякай *праявай* хлапечага *клопату*... шукаюць нямаведама чаго?» ці «...у кожнай *праяве прыроды* жыве той, хто змушае на ўсё глядзець...» (І. Пташнікаў «Чакай у далёкіх Грынях»).

Няўважлівае стаўленне да слова, уніфікацыя паняццяў не садзейнічаюць лексічнаму ўзбагачэнню мовы.

## ПАПРАЎДЗЕ, САПРАЎДЫ

У народнай мове здаўна бытуе слова *папраўдзе*. Яно зафіксавана і ў слоўніку І. Насовіча: «Досыць табе грымаснічаць, а то і папраўдзе рот скрывіць» і ў іншых слоўніках. Шырока вядома яно і ў літаратурнай мове ў гэтым жа значэнні:

Палюбіў я Марусю ўсім сэрцам,
А Марысю яшчэ болей, здаецца.
А **папраўдзе** люблю абадвух,
Аднолькава, ціхенька і ўслых.

(Я. Купала «Для тых, якіх люблю».)

«Якая там стрэльба? Божа ты, злітуйся! Яе, папраўдзе сказаць, смешна і называць стрэльбай» (Я. Колас «Слабода»). «Ты можа і папраўдзе, Паўлюк, хочаш нас пачаставаць» (Я. Скрыган «Першая сустрэча з Кузьмом Чорным»).

Побач са словам *папраўдзе*, шырока вядомым у народзе, існуе слова *сапраўды*. Гэта кніжнае слова, і ўжываецца яно як пабочнае. «І сапраўды, Троцкі набліжаецца да пляцоўкі агнявой і строга, з затоенай да часу пагрозаю пытаецца ў Жаўтых...» (В. Быкаў «Трэцяя ракета»).

*Сапраўды* можа быць і пабочным словам, а слова *папраўдзе* ніколі ім не бывае, а калі і бывае, то толькі ў злучэнні з дзеясловам ці дзеепрыслоўем: *папраўдзе кажучы*, *папраўдзе сказаць* і інш. І калі мы чытаем у Міхася Стральцова: «Расклаўшы перад сабой газетныя выразкі, чалавек завучана пераказваў іх, а Юновіч не перапыняў яго, запісваў, хоць запісваць, папраўдзе, і не было чаго...» («На вакзале чакае аўтобус»), то адразу бачым, што тут пасля слова *папраўдзе* напрошваецца яшчэ слова *кажучы*. Пры чытанні мы адчуваем яго і не можам не адчуваць.

Слову *папраўдзе* адпавядае рускае *в самом деле*, слову *сапраўды* — *действительно*.

У мастацкіх творах мы нярэдка сустракаем прыклады, у якіх не ўлічваецца сэнсавая розніца паміж гэтымі двума словамі.

«...ёй здавалася, што калі Жэня сапраўды пакахаў яе, то ён не павінен хаваць гэтага ад той, невядомай ёй жанчыны» (Л. Арабей «Мера



часу»). «Ён сапраўды «ўгрызаўся» ў навуку» (Я. Ермаловіч «Душу чалавека»). У гэтых выпадках слова *папраўдзе*, відаць, было б больш да месца.

## ДАДЗЕНЫ, ДАНЫ

Дзеепрыметнік *дадзены (-ая, -ае)* утвораны, як вядома, ад дзеяслова *даць*. У гэтым значэнні ён і ўжываецца як у народнай мове, так і ў літаратурнай. Напрыклад: «То не стыд, што дадзена, а то стыд, што ўкрадзена» або «Не было яшчэ ніводнага выпадку, каб ён не стрымаў дадзенага слова» (З газет).

Але вельмі часта дзеепрыметнік *дадзены* ўжываецца ў значэнні, якое не адпавядае яго этымалогіі. «У дадзенай сітуацыі ён, Юры, паступіў правільна» (І. Навуменка «Сасна пры дарозе»). Тут слова *дадзены* не мае нічога агульнага са словам *даць*. Яно ўжыта ў значэнні *гэты*.

Вядома, што беларускія дзеепрыметнікі *дадзены*, *дадзеная*, *дадзенае*, утвораныя ад дзеяслова *даць*, адпавядаюць рускім «кратким страдательным причастиям» — *дан*, *дана*, *дано*, якія таксама звязаны этымалагічна з дзеясловам *дать*. Апрача таго, у рускай мове ёсць «полные причастия» — *данный*, *данная*, *данное*, якія семантычна звязаны са словамі *этот*, *настоящий*. Рускія «причастия» і поўнай і кароткай формы розняцца між сабою толькі ў назоўным склоне, а ва ўсіх астатніх супадаюць, напрыклад: «В данное время все заняты» або «Выполняю данное тобой поручение». Гучанне, форма іх, як бачым, аднолькавая, а змест розны. Магчыма, што такая акалічнасць штурхае некаторых нашых аўтараў атоесамляць гэтыя дзве формы і ў беларускай мове. Але зноў жа паўстае пытанне: ці мэтазгодна такое атоесамленне, ці не збядняе яно нашу мову?

## «ЧАТЫРЫ ТЛУСТЫХ БАРАНЫ...»

Кожнаму, хто вывучаў беларускую мову, вядома, што лічэбнікі *два*, *тры*, *чатыры* ў злучэнні з прыметнікам і назоўнікам дапасуюцца з імі ў ліку і склоне. Напрыклад: «Купіў два новыя сталы», «Прыехалі тры маладыя настаўніцы» і інш.

Аднак у творах некаторых нашых пісьменнікаў мы часам сустракаемся з парушэннем гэтага правіла:

...Авечак восем штук, цялятак трое.
**Чатыры тлустых бараны,**
Зглынулі парася малое,
Укралі нават і казла яны.

(У. Корбан «Мудрае рашэнне».)

Або:

Матылёк на камені сеў,
Раскрыліў крылы:
**Два заспаных лугі ў расе,**
Дзве аблачынкі — крыгі;
**Дзве паляны заснежаных...**

(Р. Барадулін «Цымбалы».)

Законы кожнай мовы — цвёрдыя законы, і паважаць іх — найпершы абавязак.

## ВЫБАЧАЙ МЯНЕ...

У беларускай мове словы *дзякуй*, *выбачай*, *даруй* патрабуюць давальнага склону, а ў рускай *извините*, *простите*, *благодарю* — вінавальнага: *дзякуй вам*, *выбачай яму*, *даруй мне*, але *благодарю вас*, *извини-*

*те меня, простите его.* І хоць усім гэта вядома, тым не менш часта даводзіцца чытаць такое: «Ой, на генеральную рэпетыцыю пазнюся... Ты выбачай *мяне,* калі ласка» (Л. Арабей «Мера часу»). «Не падзякуюць *нас* тыя, да каго яна ад нас трапіць» (там жа). «І яна гатова была дзякаваць лёс, бедная дзяўчына, за выпрабаванне, пасланае ёй» (Ю. Канэ «Дзень сённяшні»).

Нельга падзякаваць некаторым нашым пісьменнікам за такія ўпартыя спрэчкі з граматыкай.

## ПТАХ ЦІ ПТАХА

У народнай беларускай мове слова *птах* заўсёды было мужчынскага роду. Дастаткова ўспомніць народную творчасць: «*Ляцеў* птах, на ваду — бах, вады не *скалаціў* і сам не *паляцеў*» (снег) або «*Ляцеў* птах цераз дах, *сеў* на варотах у чырвоных ботах» (бусел). І ў мастацкай літаратуры слова *птах* ужываецца правільна, г. зн. ў мужчынскім родзе: «Часта застукацелі зяніткі. Хочацца пастаяць, паглядзець: а можа кульнецца зараз і загрыміць касцямі, падаючы з высачыні, *шэры драпежны птах*» (М. Лужанін «Шляхам жыцця»). «Аркадзь быў мо цяпер як птах, што *паранены* ўзляцеў у неба, дзе лечаць сэрца родныя вятры, дзе лёт у высі — усё яго шчасце...» (І. Пташнікаў «Чакай у далёкіх Грынях»).

І вось нечакана навіна — птах стаў жаночага роду: «...над усім гэтым высока ў небе лётаюць буслы. *Дзве* вялізныя *птахі,* распластаўшы крылы, узнімаюцца ў самую высь і кружацца там, бы купаюцца ў сонечнай раздольнай прасторы» (Васіль Быкаў «Трэцяя ракета»).

Мусіць, у наступных выданнях кнігі пісьменніку трэба будзе вярнуць гэтаму слову яго законную прыналежнасць да мужчынскага роду.

## БІБЛІЯТЭКАРКА, САКРАТАРКА, КАНДУКТАРКА

Трэба толькі вітаць, што ў нашай літаратурнай мове паяўляюцца такія словы. Па-першае, яны адлюстроўваюць нашу рэчаіснасць: прафесіі, што раней лічыліся толькі мужчынскімі, цяпер у пераважнай большасці перайшлі да жанчын, а некаторыя сталі выключна жаночымі. Па-другое, так гавораць у народзе, прынамсі, словы *доктарка, бібліятэкарка, сакратарка* можна сустрэць усюды.

«Яму ж экспанат, выдатнейшы і свежы,
На стол **сакратарка**
вось-вось падала...»

(П. Броўка «Начальнік стала».)

«У аўтобусе было цесна, *кандуктарка* аж недзе на пярэдняй пляцоўцы прапаноўвала купіць білеты» (М. Стральцоў «На вакзале чакае аўтобус»).

«Уладзік есці хоча,— сказала ёй дзяўчынка. Сама яна ўжо смачна ўмінала свой зялёны злепак і не надта прыязна паглядвала на незнаёмую *камандзірку* і яе шынель» (А. Кулакоўскі «Сустрэчы на ростанях»).

Побач з гэтай, правільнай формай назоўнікаў, якія набылі разам з мужчынскім і жаночы род, ужываецца і няправільная, старая форма, пры якой парушаецца дапасаванне дзейніка да выказніка: «*Брыгадзір паднялася*, перавязала хустку і сказала задуменна...» (З газет); «Усё добрае, што *зрабіла* новы *бібліятэкар,* заўважылі жыхары Будслава» (З газет); «Па-мойму, табе трэба выклікаць Мурашову: *яна сапернік* сур'ёзны» (Я. Скрыган «Апавяданні»).



Дарэчы адзначыць, што словы *сакратарка, кандуктарка* і іншыя да іх падобныя сустракаюцца не толькі ў жывой народнай мове,— яны «заканадаўча замацаваны» і «Беларуска-рускім слоўнікам» (1962).

## АДДЗЯЧЫЦЬ ЦІ АДДЗЯКАВАЦЬ

У народнай мове шырока бытуе слова *дзякаваць* і вытворныя ад яго *аддзякаваць, падзякаваць.* Яны, натуральна, часта сустракаюцца і ў літаратурнай мове. Аднак некаторыя пісьменнікі замест слова *аддзякаваць* ужываюць штучны наватвор *аддзячыць:*

«Ахрысціць унука трэба,
Нехрысцем унук расце,
Я **аддзячу** ўжо чым-небудзь...»

(Э. Валасевіч «Мілы чалавек».)

«Я табе памалачу, а ты мне *аддзячыш* сваёй ласкай. Падатак збавіш там, ці шчэ што...» (І. Мележ «Людзі на балоце»).

Ужыванне такога слова неправамернае па той прычыне, што ні ў жывой народнай, ні ў літаратурнай мове не існуе слова *дзячыць,* ад якога яно магло б паходзіць, так, як паходзіць слова *аддзякаваць* ад *дзякаваць, адрабіць* ад *рабіць* і г. д.

## РУБАШКА ЦІ САРОЧКА

У пераважнай большасці беларускіх гаворак словы *рубашка* і *сарочка* розняцца між сабой тым, што першая — верхняя адзежына, а другая — ніжняя. У народных прыказках сарочка заўсёды бліжэй да цела, чым рубашка ці іншая вопратка. А вось у Івана Навуменкі сарочка ўжыта ў значэнні рубашкі: «З выпадку свята на Міколе абновы — *сарочка* ў вялікія *клеткі* і сіні фрэнч з тоўстага сукна — прыкметы яго ўзросшага дабрабыту» («Сасна пры дарозе»). Магчыма, у дыялогах і можна дапусціць слова *сарочка* ў значэнні верхняй вопраткі, падкрэсліваючы мясцовы дыялект, але толькі не ў аўтарскай мове.

## «... ПАНЧОХІ Ў КРЭСЛЕ...»

Смешна чытаць такі выраз, хоць ён і вырваны з сярэдзіны сказа. Але хіба можна яго інакш зразумець у наступнай фразе: «Маці цыравала панчохі ў крэсле і не падымала вачэй на сына» (У. Караткевіч «Нельга забыць»). А чаму б не сказаць: «Седзячы ў крэсле, маці цыравала панчохі і не падымала вачэй на сына». І пісьменна, і зразумела.

## ЛАДНЫ

Прыметнік *ладны* ўжываецца, як правіла, да канкрэтных назоўнікаў — людзей, жывёл, пэўных прадметаў: «У ладным аддзенні, а бруд аж блішчыць».

Трымае маці **ладны клунак,**
А сын тры кніжачкі ў руцэ».

(У. Дубоўка «Палеская рапсодыя».)

«Гэтак з'яўлялася
Нашая ванна —
Добрыя, **ладныя**
З дубу **начоўкі».**

(П. Броўка «Начоўкі».)

Але ці правільна будзе ўжываць яго да абстрактных паняццяў, як гэта часам сустракаецца:

«...пычанаюць хадзіць *ладныя чуткі,* што скора-такі канец вайне» (Я. Скрыган «Апавяданні»). «Яна аж войкнула: спалохалася, што хлопец скочыў *з ладнай вышыні»* (Л. Арабей «Мера часу»).

Слова *ладны* таму не ўжываецца з абстрактнымі паняццямі, што яно мае канкрэтнае значэнне *прыстойны*, калі адносіцца да людзей, і *харошы, вялікі*, калі да жывёл ці рэчаў. Таму вельмі трапна ўжыта Янкам Скрыганом слова *ладны* ў такім сказе: «Замахнуўшы шапку на патыліцу, самы ладнаваты цяпер мужчына на сяле, белабілетнік Ігнат Макарчук, яшчэ не стары мужчына, становіцца ў пракос першым...» («Апавяданні»).

## АДСУТНІЧАЦЬ, ПРЫСУТНІЧАЦЬ

Дзеясловы на *-нічаць* узніклі яшчэ ў старажытнарускай мове (з пачатку XII стагоддзя яны ўжо сустракаюцца ў помніках). Вось чаму такія дзеясловы ўжываюцца толькі ў трох усходнеславянскіх мовах — рускай, беларускай і ўкраінскай. Яны ўтварыліся ад назоўнікаў на *-нік* пры дапамозе дзеяслоўнага суфікса *-а* і абазначалі дзеянне асобы чалавека. Дзеясловы ж *адсутнічаць* і *прысутнічаць* утварыліся як сінонімы да дзеясловаў *быць*, *знаходзіцца* і адмоўяў пры іх. Але ўжыванне дзеясловаў *адсутнічаць* і *прысутнічаць*, як і ўтвораных ад іх назоўнікаў *адсутнасць* і *прысутнасць*, звязана толькі з чалавекам, з асобай. Прытым, яны ўказваюць не толькі на прысутнасць ці адсутнасць чалавека, асобы, але маюць і іншае стылістычнае значэнне: указваюць на час і месца прысутнасці ці адсутнасці. Можа іменна таму яны і адносяцца толькі да чалавека, а не да жывёл, да рэчаў і да абстрактных паняццяў. Карацей кажучы, дзеясловы *прысутнічаць* і *адсутнічаць* дзеля таго і ўзніклі, каб адрозніць наяўнасць чалавека ад іншых жывых істот і рэчаў. Таму і ў жывой мове і ў пісьмовай гэтыя дзеясловы ў такім значэнні і ўжываюцца. Напрыклад:

«Колас... хоць і сядзеў сярод нас, а думка лунала недзе далёка, быў з намі і ў той жа час *адсутнічаў*» (М. Лужанін «Колас расказвае пра сябе»), «Настаўніца абвяла вачыма клас. *Прысутнічалі* ўсе» (М. Гамолка «Шлях адкрыты»), «Алесь і каморнік, стоячы каля акна, абодва туманна адчувалі яе (Ганніну) блізкую *прысутнасць* і як бы, бачачы адзін аднаго навылёт, не глядзелі адзін на аднаго» (К. Чорны «Зямля»).

На жаль, сустракаюцца яшчэ выпадкі няправільнага ўжывання і дзеясловаў *адсутнічаць* і *прысутнічаць* і назоўнікаў *адсутнасць* і *прысутнасць*. «Таму нават у весялосці прысутнічаў нейкі сум» (У. Караткевіч «Нельга забыць»).

«Бывае, што той нават і не *прысутнічае* ў творы» (Б. Бур'ян, газета «ЛІМ» 28.IV.62), «Дыягназ: у мужа *адсутнічае сумленне*, у жонкі — *адсутнічае* сэрца» («Вожык» № 2, 1962).

У некаторых выпадках, вядома, гэтыя дзеясловы могуць ужывацца і ў адносінах да жывёл. Тут мы маем характэрны прыклад з аповесці З. Бядулі «Салавей»: «Але спакайней усіх адчуваў ослік, які абавязкова *прысутнічаў* на кожнай рэпетыцыі». У гэтым выпадку ослік не проста ослік, ён тут выконвае ролю чалавека, яму ксёндз Марцэвіч загадвае нават чытаць вершы па-лацінску.



Адкуль ідзе няправільнае ўжыванне дзеясловаў *адсутнічаць* і *прысутнічаць?* Дзе прычына гэтага?

Думаецца, прычына ў тым, што некаторыя аўтары атоесамляюць гэтыя дзеясловы з рускімі *отсутствовать* і *присутствовать.* Мы не збіраемся весці тут размову пра ўжыванне рускіх дзеясловаў з суфіксам *-ствова-*, трэба мець на ўвазе, што беларускі дзеяслоўны суфікс *-ніча-*, як ужо адзначалася, азначае толькі дзеянне канкрэтнай дзеючай асобы — чалавека. У гэтым яго асаблівасць, спецыфічнасць. Памылка многіх аўтараў у тым, што яны міжволі атоесамляюць суфікс *-ствова-* ў рускай мове з суфіксам *-ніча-* ў беларускай.

Гэтая гаворка вялася з адной мэтай, каб мова нашай мастацкай літаратуры была ўзорам для шырокага кола чытачоў, для настаўніцтва, вучняў, для студэнцтва. Кажучы словамі Якуба Коласа, «у літаратурнай рабоце мова з'яўляецца і матэрыялам і інструментам. Вось чаму кожны пісьменнік... павінен дасканала валодаць сваім інструментам і ведаць уласцівасці матэрыялу, пры дапамозе якога ён перадае і рэзкія рухі характару, і танчайшыя адценні пачуцця.

Без гэтага валодання і ведання мы ніколі не будзем майстрамі».

**Мікола ВАСІЛЕЎСКІ.**

# ЁСЦЬ МІКРАХВІЛІ І ГАДЫ...



Чамусьці так павялося, што калі крытык выказвае сваё захапленне вершам маладога або пачынаючага паэта яго засцерагаюць: бачыце, гэта яшчэ не Купала... А чаму ж, сапраўды, мы баімося сказаць маладому паэту, што ён напісаў няхай сабе пакуль што адзін-два вершы, але напісаў так, што іх прыкмеціў бы і пахваліў бы сам Купала! Разумнай пахвалой не сапсуеш сур'ёзнага паэта, а, наадварот, толькі падбадзёрыш яго: і ва ўласнай творчасці яму будзе на што раўняцца і вышэй чаго ўзнімацца.

Менавіта такія думкі прыходзяць на памяць, калі пачынаецца размова аб «Вогненнай камеце»* — першай кнізе вершаў Васіля Макарэвіча.

Ёсць у кнізе Макарэвіча суровай праўды верш — «Бохан хлеба». Паэт расказвае ў ім аб нялёгкім шчасці першых пасляваенных год. Была радасць перамогі, але былі таксама і нястачы спустошанай фашыстамі краіны. Цяжка прыходзілася мацярам-салдаткам гадаваць дзяцей, калі нават чорны хлеб быў вялікай раскошай. Не дзіўна, што з-за буханкі хлеба «трыццаць вёрст, і ў чарзе паўвярсты маці йшла да прылаўка».

Брала маці,
нібыта скарб,

* Васіль Макарэвіч. Вогненная камета. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск, 1963.

хлеба жытняга бохан.
Жаўрукі звінелі званчэй,
маці крочыла памаладзелая
і хоць ведала,
што з-за плячэй
хлеб нікуды не дзенецца,
усё ж спынялася сотню мо раз
і развязвала посцілку...

А прыйшоўшы дадому, маці дзяліла хлеб паміж дзецьмі. Той хлеб ім здаваўся надта салоным. І думалі яны па-дзіцячы высока, светла, з яснай верай у бацькоў:

Каб вярнуліся з фронту бацькі,
мелі б мы караваі.

Многім бацькам не суджана было вярнуцца з вайны. Гадаваліся іхнія дзеці клопатамі матчыных ласкавых рук і клопатамі Маці-Радзімы. Нястрымны час лічыў гады — дзеці выраслі вартыя сваіх бацькоў. І сягоння, калі яны ўспамінаюць салоны прысмак хлеба ў тыя нялёгкія пасляваенныя гады, апякае іх сэрца здагадка болем:

...не ад солі,
ад матчыных слёз
быў салоны той бохан.

Прызнацца, назва верша «Бохан хлеба» — досыць нейтральная. Думалася, — вось яшчэ адна замалёўка пра тое, як трэба берагчы «зароблены ў поце хлеб». На шчасце — прыемная памылка. «Бохан хлеба» — верш аб высокай самаахвярнасці мацярынскай любві, страсны пратэст паэта супраць вайны.

Добрае ўражанне пакідае і верш «Аэрадромы — люстры на зямлі». Паэт успамінае: зіма, аэрадром, мароз такі смаліў, што аж гудрон лопаўся на лётным полі. Трашчаў касцёр, і Вася-лейтэнант гаварыў, што «хутка скончыцца вайна» і што «марозы разам з ёю скончацца». А потым браў у рукі трафейную гітару «ды граў такую светлую мелодыю», што

Сярод зімы
нам уяўляўся край,
як луг, заліты краскамі і сонцам.
Ён быў для нас не край,
а проста рай,
дзе не было ні смерці, ні бяссонніц.

Зачараваныя ігрой, хлапчукі нібы на міг апынуліся ў свеце дзіўнай казкі. Але вайна трывожыла, не давала забыць аб сабе:



Зямля стагнала ад гармат за даллю.
З аэрадрома за звяном звяно
штурмавікі ляцелі на заданне...

Ляцелі... ды не ўсе вярталіся з палётаў.

Не вярнуўся аднойчы і Вася-лейтэнант... Незваротная страта невымерным цяжарам лягла на сэрцы:

... ў той дзень
звяна вядучы
сказаў:
— Твой цёзка больш
не прыляціць, —
сказаў і ўбок пабрыў, як невідушчы.
І я згубіў і казачны той край,
і сонца, і зялёны луг з кустамі.
Перада мной
снягоў сівы экран
на холадзе іскрыўся і хістаўся.

Нікога не пакінуць абыякавым гэтыя вогненныя радкі. Глыбіня перажывання, суровая праўда жыцця перададзены тут надзвычай дакладна. Стрыманы, мускулісты рытм надае вершу эпічнае гучанне. І таму нас уражвае сваёй незвычайнасцю, у якой ужо ёсць штосьці ад легенды ці балады:

А ля палаткі — о, злітуйся, бог! —
са струнамі цяжкімі заінелымі
гітара, як сама туга і боль,
на ветры і рыдала, і звінела.

Вершы «Аэрадромы — люстры на зямлі» і «Бохан хлеба» — гэта, не пабаімся сказаць, высокая паэзія! Гэта менавіта тыя вяршыні, на якія неабходна раўняцца В. Макарэвічу і вышэй за якія яму трэба ўздымацца ў працэсе гартавання паэтычнага таленту.

Жаданне браць вяршыні ў Макарэвіча, вядома, ёсць. Разуменне цяжкасці выбранага шляху таксама ёсць: «кожная пядзя — вярста»! Ці не прытоміць сіл далёкая дарога — пакажа час. А цяпер — шматабяцаючы старт: «Вогненная камета».

Пагаворым жа на старце пра тое, што можа пашкодзіць пачынаючаму паэту ў далёкім палёце да незгасальных паэтычных зор.

Варта адзначыць, што В. Макарэвічу часам здраджвае паэтычнае чуццё. І тады вобраз выклікаецца не ўнутранай неабходнасцю, а ідзе ад нечакана новай рыфмы:

Урачыста,
нібы ў турнэ
ці ў далёкі паход з прываламі,
чалавек у сасновай труне
з дому роднага выпраўляецца.

Гэта пачатак верша. А вядома, што першыя радкі, як і першыя музычныя акорды, настройваюць чытача на пэўны эмацыянальны лад. Якія ж эмоцыі ўзнікаюць у нас, калі мы пачынаем чытаць верш Макарэвіча. Першыя яго радкі напоўнены нейкай радаснабадзёрай інтанацыяй:

Урачыста,
нібы турнэ
ці ў далёкі паход з прываламі...

Што ж, няблага гучыць! І пры другіх абставінах можна было б нават пахваліць гэтыя радкі. Аднак, калі ўслед за імі чытаем:

чалавек у сасновай труне
з дому роднага выпраўляецца, —

то прэтэнцыёзная эфектнасць параўнання «урачыста, нібы ў турнэ» становіцца псіхалагічна зусім неапраўданай, бо рэзка кантрастуе з тым настроем светлага смутку, з якім аўтар гаворыць аб пахаванні вартага шчырай павагі чалавека:

А калі згарэў чалавек,
праз жыццё пранёсся каметаю,
у труне, нібы ў чаўне,
хай плыве
пад маршы светлыя.
. . . . . . . . . . .
Чалавек жа тварыў, мужаў,
быў ён з ціхім і простым воблікам.
Ён згубіўся недзе між нас,
ён растаяў як воблачка
ў воблаках.

Не часта ў маладых паэтаў можна сустрэць такія прачулыя, глыбока чалавечныя інтанацыі.

Проста і дасціпна выказана тут думка аб неўміручасці чалавека і яго спраў.

У В. Макарэвіча — востры слых (звярніце ўвагу на рыфмы: «верным вокам — верхаводка», «вось як мы — восямі», «ўверх і ўверх — феерверк») і добрая назіральнасць («Ды ў спіну марозамі дыхае, як запараны вол, Запаляр'е...»). Гэта, вядома, добра. Але дрэнна тое, што паэт часам не ў меру захапляецца гукапісам верша, і тады мы чытаем наступнае:

Якая трэба для злачынца ка́ра,
каб за злачынства гэткае кара́ць?
Вароны й тыя у трывозе ка́ркалі,
чарнела гнеўна на сасне кара́.



Нас не можа не ўразіць тут гучнасць рыфмаў: кара — каркалі, караць — кара. Аднак за гэтым каскадам гукаў амаль няўлоўнай становіцца думка: музыка заглушае сэнс. Так пагоня за нечакана новай рыфмай прыводзіць аўтара да ненатуральнасці ў выражэнні думкі. Не дзіўна, што ў Макарэвіча можна сустрэць радкі энергічныя, але халодныя, бо ў іх аддадзена перавага элементам фармальным, а эмацыянальная напоўненасць вобраза занядбана:

Да гаража!
Дзверцаў грук.
Дзе чуецца смех,
дзе — лаянка.
Спяшаем.
Занесены снегам груз
Трэба вывозіць з дзялянкі.

Лепшым вершам В. Макарэвіча ўласціва кампазіцыйная цэласнасць, сюжэтная завершанасць. Думка няўхільна рухаецца ад вобраза да вобраза. Натуральная яе плынь выклікае адпаведна і натуральнасць паэтычнай інтанацыі. Аднак мы паграшылі б супраць праўды, калі б прайшлі міма тых вершаў, дзе прыватны жыццёвы факт пад пяром паэта не ператварыўся ў паэтычную ідэю (вершы «Студня», «Вернасць»). Спроба філасофскага абагульнення ў заключных радках верша «Студня» гучыць прэтэнцыёзна, бо дробязнасць думкі робіць уяўным той пафас, з якім яна выказваецца:

Казаў ён голасам прастуджаным,
палаючы агнём вачэй,
глыбей чым выкапаеш студню,
тым будзе і вада смачней.

У некаторых вершах В. Макарэвіча («Упартасць») можна сустрэць паэтычныя інтанацыі, якія характэрны для У. Маякоўскага:

Грукочам, грымім,
нібы ў цапы,
з апошняй сілы шчыра,
а стома такая,
як хто начапіў
на ногі і рукі гіры.
Гудзе спіна, гудзе ў вушах...
Кожная пядзя —
вярста.
Упасці б з вагона
на чорны шлак,
глынуць
вады
з карца.

«Чужыя» інтанацыі ў асобных радках маладога паэта — яшчэ не даюць падставы для таго, каб абвінаваціць яго ў «эклектызме», як гэта робіць С. Гаўрусёў. Наяўнасць «чужых» інтанацый у таленавітага пачынаючага аўтара — не такая ўжо страшная з'ява, калі ў яго ёсць свая асабістая ацэнка з'яў рэчаіснасці.

Адметнай асаблівасцю сучаснай паэзіі з'яўляецца пошук. Паэты імкнуцца адкрыць новыя грані рэчаіснасці, абнаўляючы адпаведна з пастаўленай мэтай і форму. У такіх умовах і маладыя цяперашнія паэты, якія толькі пачынаюць свой творчы шлях, уваходзяць у паэзію ўпэўненым крокам, з пэўнымі эстэтычнымі густамі і сімпатыямі. Пераважная большасць цяперашніх маладых — гэта людзі, якія ўжо маюць пэўны жыццёвы вопыт. Гэтым паэтам ёсць што сказаць сваім чытачам. І таму нават у першых іхніх творах прабіваюцца ўласныя галасы, заўважаюцца спробы філасофскага асэнсавання пазнанага і адкрытага ў жыцці. Менавіта гэтым і прыцягвае нашу ўвагу кірунак паэтычнай думкі ў вершы В. Макарэвіча «Я ўвесь у болі і ў муках...»

Як суразмерыць вялікае і малое («Як між сабою суразмерыць зямлю мне з кропляю вады?»), як пазнаць сутнасць з'яў рэчаіснасці («Над тайнамі ў гарачцы б'юся, мне трэба сутнасць, як жыццё») — вось што турбуе думку маладога паэта. Ён хоча «шкляной празрыстасці» ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі ў сацыялістычным грамадстве і таму з такой ярасцю абрушвае свой гнеў на тых, хто яшчэ не пазбыўся воўчых звычак праклятага свету карыслівасці і нажывы:

> Я не магу быць роўным, добрым,
> бо часта верх бярэ мана.
> І доблесць для мяне не доблесць,
> калі з аглядкаю яна.

Зусім зразумелы гэты ваяўнічы пафас маладога паэта, накіраваны на тое, каб хутчэй перамаглі ў жыцці высокія прынцыпы камуністычнай маралі. Радуе ў гэтых радках адзінства думкі і пачуцця. Аднак нельга не заўважыць, што паэт часам схільны адступіць ад гэтага адзінства і паддацца нястрымнаму запалу свайго сэрца («як старцу — кій, мне — пачуццё»). Пачуццё — не заўсёды разумны дарадчык.

Ёсць у В. Макарэвіча вершы-«мікрахвілі» («Вернасць», «Студня», «На поўначы», «Ракетадром», і вершы — «гады» («Аэрадромы — люстры на зямлі», «Бохан хлеба», «Упартасць», «Пяскі»). Першыя з іх — бясследна згараюць у памяці, «не збудзіўшы святога сумлення» (М. Багдановіч), другія — назаўсёды становяцца нашымі добрымі сябрамі. Верыцца, што з цягам часу В. Макарэвіч стане больш строгі да сябе і ў паэтычныя кнігі будзе ўключаць толькі тое, што раздічана на гады.

**Іван РАЛЬКО.**

# НАКАУТ АБСТРАКЦЫЯНІЗМУ

У вострай ідэалагічнай барацьбе нашай эпохі прарокі і разносчыкі розных «навацый» абстракцыянізму імкнуцца заваяваць на свой бок моладзь. У ход пускаецца і бессаромная самарэклама, і бравада «звышнаватарствам самавы р а ж э н н я», і грубы націск на тую частку моладзі, якая ў пагоні за «модай» не паспела аваладаць тым сапраўды здаровым і прыгожым, што ёсць у класічным і сучасным рэалістычным мастацтве.



Кіраўнікі партыі і ўрада на сустрэчах з творчай інтэлігенцыяй завастрылі нашу ўвагу на неабходнасці непрымірыма змагацца з праяўленнямі чужой ідэалогіі ва ўсіх галінах, у тым ліку і ў мастацтве. Добрым нашым саюзнікам у гэтай барацьбе з'яўляецца кніга вядомага кубінскага грамадскага дзеяча Хуана Марынельо «Гутарка з нашымі мастакамі-абстракцыяністамі», якая выйшла масавым выданнем у выдавецтве «Советский художник» *.

Хуан Марынельо даўно і плённа займаецца літаратурай і мастацтвам як рэвалюцыйны публіцыст. У трыццатыя гады ён — малады доктар філасофіі, філалогіі і юрыспрудэнцыі — вядзе цэлы шэраг перыядычных выданняў, супрацоўнічае ў сацыялістычнай газеце «Нотісіас дэ Ой». З рэвалюцыйнага падполля Кубы ён праз Мексіку выязджае ў 1937 годзе на мадрыдскі Кангрэс у абарону культуры. Вярнуўшыся адтуль, Хуан Марынельо становіцца на чале рэвалюцыйнай інтэлігенцыі лацінаамерыканскіх краін. З таго часу яго голас чуцен не толькі ў той частцы Амерыкі, якая гаворыць на іспанскай мове, а і ва ўсім свеце. Ён член Сусветнага Савета міру і адзін з правадыроў культурнай рэвалюцыі на Кубе.

У форме неафіцыйнай гутаркі з мастакамі і літаратарамі-абстракцыяністамі Х. Марынельо пераканаўча паказвае ў сваёй кнізе маральна-філасофскае ўбоства і мастацкую бясплённасць абстракцыянізму. Тут трэба агаварыцца, што, калі пісалася кніга Х. Марынельо, эканамічная, палітычная, ваенна-дыпламатычная агрэсія ЗША на Кубе шукала свайго дапаўнення і ў культурнай экспансіі. ЗША рады былі вывезці на Кубу тое, што ім было выгадна. Сюды адносілася і абстракцыянісцкае ілжэмастацтва. Вось чаму Х. Марынельо справядліва называе абстракцыянізм заразай, прынесенай на Кубу звонку (ды і не толькі на Кубу! — **Д. Ф.**).

Прыхільнікі абстракцыянізму — пры некаторым іх знешнім адрозненні — усе, без выключэння, сыходзяцца на дэгуманізацыі мастацтва, на яго антыэстэтычнасці. Імі кіруе адно нязменнае жаданне — «пазбавіць мастака яго адвечнай місіі тлумачальніка навакольнага свету, вестуна ідэй і пачуццяў сваёй эпохі».

Мастак, сцвярджаюць тэарэтыкі абстракцыянізму, — жыве ў асаблівым свеце мастацтва. Ён ідзе сваёй дарогай, абыякавы да ўсяго, акрамя таямніц сваёй душы. Іменна аб гэтым сведчаць такія работы, як «Беспрадметны свет» Малевіча, «Аб праблеме формы» і «Кропка, лінія і паверхня» Кандзінскага. «Трохвугольнік, — піша Кандзінскі, — гэта істота» і робіць вывад: «... да гэтай катэгорыі істот, якія пры ўсёй сваёй абстрактнасці жывуць, хвалююцца і аказваюць свой уплыў, належаць квадрат, круг, трохвугольнік, ромб, трапецыя і незлічоныя формы, усё больш і больш складаныя, для якіх матэматыка не мае назвы. Усе гэтыя формы — раўнапраўныя грамадзяне царства абстракцыі». Працытаваўшы гэтае «адкрыццё», Х. Марынельо трапна называе яго выражэннем смяротнага грэху абстракцыянізму перад мастацтвам.

Кубінскі публіцыст падкрэслівае, што ў прарокаў і прыхільнікаў абстракцыянізму — ці то ў скульптуры ці ў жывапісу — «тэарэтычныя» разважанні і маніфесты заўсёды бралі перавагу над самой «творчасцю», што заставалася на грані эксперыменту, які нічога не гаворыць ні розуму, ні сэрцу. На самай справе, чаму ў абстракцыяністаў так многа маніфестаў і чаму не відаць шэдэўраў, якія гаварылі б самі за сябе? Чаму іх карціны абавязкова суправаджаюцца шматслоўнымі надпісамі-подпісамі і без гэтага не выпускаюцца на

* Хуан Марынельо, Гутарка з нашымі мастакамі-абстракцыяністамі. Выд. «Советский художник», Москва, 1963.

публіку? Ці можна ўявіць сабе выстаўку або альбом абстракцыяністскіх «твораў» без подпісаў і ярлыкоў? У чым тут прычына? У хваравітай замкнёнасці, крайнім суб'ектывізме прыхільнікаў абстракцыяністскага «мастацтва». Ці выказвае мастак-абстракцыяніст «унутраную патрэбу» ці сцвярджае, што «ўдзельнічае ў драме чалавецтва» (а падобных заяў — безліч), за гэтым усім стаіць адно імкненне: прэч ад жыцця, ад яго супярэчнасцей, ад чалавека, яго пошукаў і сумненняў. «... у мастацтве няма разумення абавязку, — пісаў Кандзінскі. — Мастацтва вечна свабоднае. Мастацтва ўцякае ад загадаў, як дзень ад ночы».

Адыход ад жыцця для мастакоў-абстракцыяністаў не з'яўляецца толькі позай — ён нараджае ману беспрадметнага мастацтва, якую немагчыма ўтаіць.

Карціны вялікіх майстроў усіх часоў ставілі чалавека тварам да твару з жыццём, з прыгажосцю або пачварствам у самім чалавечым жыцці. Іменна гэтым рэалістычнае мастацтва станавілася небяспечным для «гаспадароў жыцця» ў эпоху імперыялізму. Перад палотнамі абстракцыяністаў, — заўважае Марынельо, — жыццёвыя пытанні не ўзнікаюць.

Мастацтва, піша Х. Марынельо, з'яўляецца важнай часткай жыцця народа, таму ў ім павінна знайсці сваё адлюстраванне народнае жыццё. Для кубінскага мастака гэта павінна быць перш за ўсё жыццё народа Кубы: узятыя з жыцця сюжэты зробяць яго творы цікавымі і змястоўнымі для іншых народаў. Эпідэмія абстракцыянізму пазбавіла мастацтва Захаду яго жыццёвага напаўнення і нацыянальных фарбаў. Савецкі мастак М. Жукаў зазначае: «Калі б турыстаў вазілі з завязанымі вачыма з краіны ў краіну і вярталі б ім зрок толькі на выстаўках сучаснага мастацтва, я пераканаданы, што па экспанатах выстаўкі яны не маглі б вызначыць краіну, дзе знаходзяцца, бо ўсё вельмі аднолькава».

Гэтая аднолькавасць — зусім не «агульначалавечы сінтэз будучыні», як спрабуюць давесці тэарэтыкі абстракцыянізму. Гэта аднолькавасць абстракцыяністскіх навацый пад знакам касмапалітызму.

У кнізе Хуана Марынельо змешчаны рэпрадукцыі праграмных палотнаў абстракцыяністаў. Подпісы пад імі розныя, але самі палотны паказваюць, што «дэкаратыўны дынамізм Кандзінскага, — гэта тое ж самае, што нервовая экзальтаваная спрэчка фарбаў у Пікабія», а «строгая геаметрычнасць у Мандрыана» вельмі мала чым адрозніваецца ад «П'янага джэнтльмена» Карла Д. Кара.

Адкуль гэтыя майстры, што іх натхніла на творчасць? Адказ на гэтыя пытанні адзін: усе яны ігнаравалі жыццё людзей, і, натуральна, што людзі ігнаруюць іх творы; усе яны ў доўгай эміграцыі з грамадства, таму сярод іх столькі людзей без радзімы. На самай справе, ні ў «адначасовым паказе несумяшчальных станаў парывістага і фантастычнага» ў М. Шагала, які даўно эміграваў з Віцебска, ні ў карцінах Пітэра Блума — родам са Смаргоні, — няма нічога нацыянальнага, гэтак жа як няма і агульначалавечага.

Абстракцыяністы выдаюць сябе за шукальнікаў новых шляхоў у мастацтве. Але пошукі яны ператвараюць у самамэту, выводзячы іх за межы розуму, за межы грамадскіх сувязей чалавека і разумення грамадскай ролі мастацтва. Наколькі гэты занятак трагічна бясплённы для тых, хто памыляецца, настолькі ж ён прыбытковы для тых, хто шарлатаніць.

Наша барацьба з абстракцыянізмам з'яўляецца састаўной часткай барацьбы супраць буржуазнай ідэалогіі ў мастацтве. Гэта барацьба вядзецца ў імя агульначалавечага прагрэсу сапраўднага мастацтва, якое вучыць чалавека любіць прыгажосць і ненавідзець ману і пачварнасць, недастойныя чалавецтва. Ва ўсім гэтым кніга Х. Марынельо — наш верны памочнік.

**Д. ФАКТАРОВІЧ.**




# НАРОДНЫЯ ЎСМЕШКІ

## СЛУШНАЯ ПАРАДА



Калі ў нашым сяле пабудавалі царкву, заможны селянін Лупал падараваў куплены на ўласныя грошы звон. Другі звон купіў мясцовы жандар. Хай, кажа, б'юць у два — галасней будзе. Адкрываць царкву з'ехаліся розныя дабрачынныя, архірэі і яшчэ многа, не злічыць, святых айцоў.

Званар, вядома, стараецца. І як ён ні стараўся, а такі не дагадзіў.

З натоўпу адзін селянін выгукнуў:

— Якога ты чорта б'еш толькі ў Лупала ды ў Лупала! Бі ў жандара, кажу табе!

## ЗРАЗУМЕЛІ

Вось заходзіць неяк да мяне кум Свірыд, а я са́ма што блінцы пяку.

— Бярыце,— кажу,— каштуйце, ці добрыя я блінцы пяку.

Кум падзякаваў:

— Што ж, кумка, пакаштуема.

Прысеў ля паўміска і, весела падміргнуўшы, каштуе.

Я сабе і не зважаю. Пяку, у паўмісак кідаю, а кум есць ды хваліць маё печыва.

Тады ўстае і кажа:

— Ну, дзякуй. Як і не еў.

Я глянула ў паўмісак і адказала:

— На здароўечка. Як і не пякла.



## ЯШЧЭ НЕ НАВУЧЫЎСЯ



Неяк адзін з работнікаў жывёлагадоўчай фермы падмятаў кароўнік. Загадчыку фермы не спадабалася, як той мяце, і ён пачаў дакараць жывёлавода:

— Хіба так мятуць? Дай-во толькі сюды веніка, дык я табе пакажу, як трэба месці!

Той аддаў. Загадчык фермы махнуў для выгляду сюды-туды венікам і кажа:

— На! Во як трэба месці.

Жывёлавод не разгубіўся і адказаў:

— Мяці, мяці, бо я яшчэ не навучыўся, як гэта правільна трэба рабіць.

## АДКАЗ ПА СУТНАСЦІ



Школьнікі — народ жвавы. Вось пабягуць на перапынку і давай ганяць мяча. Ганялі, ганялі і адразу ў акно настаўніцкай пацэлілі.

Паклікаў тады дырэктар самага жвавага да сябе і спытаў:

— Скажы, Сашка, якім гэта ты чынам выбіў шыбу ў акне настаўніцкай?

Сашка стаяў-стаяў, маўчаў-маўчаў, а тады і кажа:

— А я, Пятро Іванавіч, не «чынам» выбіў тую шыбку, а футбольным мячом.

## НЕ ЗРАЗУМЕЎ ЗАКАЗЧЫКА

Прыйшоў набожны чалавек да краўца і заказаў касцюм з уласнага матэрыялу. Толькі паставіў умову, каб заказ быў выкананы на «сорак святых».

Кравец запэўніў заказчыка, што ён дужа добра зразумеў яго і пастараецца выканаць заказ як найлепш.

Праз некаторы час заказчык наведаўся да краўца.

— Ну, як там мой заказ?

— Усё ў парадку,— адказаў кравец.— На трыццаць дзевяць святых я пашыў, а на саракавога матэрыялу не хапіла.

## ДАПАМОГА



Адна маладзіца запрасіла свайго суседа змалаціць капу жыта. Як і належыць, спачатку дала суседу добра пад'есці ды і чарку выпіць, а потым павяла ў гумно.

— Вось капа жыта. Вы добра пад'елі, выпілі чарку, а цяпер я лічу, што ўсё гэта змалочана.

— Я таксама лічу, што змалочана,— адказаў сусед і, узяўшы цэп пад руку, пайшоў дамоў.

Запісаў **Мікола СКУПЫ.**
Пераклаў з украінскай мовы **Уладзімір ЮРЭВІЧ.**

# Спорт

# НАША НАДЗЕЯ

Заўсёды, калі на старты выходзяць спартсмены, мы асабліва ўважліва ўглядаемся ў маладых, здольных юнакоў і дзяўчат, імкнемся ўбачыць у іх задаткі будучых «вялікіх чэмпіёнаў».

Трэба прызнаць, што сёлета на Рэспубліканскай школьнай спартакіядзе ў Мінску, а потым на Усесаюзных сустрэчах у Валгаградзе мы бачылі такіх здольных, падрыхтаваных юных спартсменаў, якіх сапраўды можна назваць нашай надзеяй. Упершыню юныя спартсмены выступалі ў адным страі з дарослымі, абараняючы гонар рэспублікі на III Спартакіядзе народаў СССР.

Каля мільёна юных фізкультурнікаў Беларусі прыняло ўдзел ва ўсіх этапах школьнай спартакіяды. А вынік такі — адно вышэйшае дасягненне краіны, 51 рэкорд рэспублікі, больш 450 рэкордаў раёнаў, гарадоў і абласцей.

### У РЭКОРДА — ТРЫ ГАСПАДАРЫ

Гамяльчаніну Юрыю Горскаму не пашанцавала на рэспубліканскай спартакіядзе. Сёлета ён двойчы паўтараў рэкорд Беларусі на 110 метраў з бар'ерамі, прабягаючы дыстанцыю за 14,4 секунды, і ў Мінску спадзяваўся палепшыць гэты вынік. Калі ён закончыў дыстанцыю, секундамеры адлічылі 14,2 секунды. Новы юнацкі рэкорд, роўны ўсесаюзнаму! Але пільныя суддзі знялі Юру са спаборніцтваў, заўважыўшы парушэнне правіл пры перанясенні нагі праз бар'ер.

І ўсё ж рэкорду ў гэты дзень суджана было нарадзіцца. У фінальным забегу, дзе прынялі ўдзел шэсць лепшых юных бар'ерыстаў, выпускнік 51-й Мінскай школы Уладзімір Шарлай адолеў дыстанцыю таксама за 14,2 секунды. Уладзімір Шарлай упісаў сваё прозвішча побач з прозвішчам бакінца Барыса Пішчуліна.

Але Юры Горскі не склаў зброі, не адмовіўся ад сваёй мары. З цвёрдым намерам змагацца за перамогу прыехаў ён у Валгаград. Фінальны забег. На старт разам з іншымі выйшлі беларус Юры Горскі і першы аўтар усесаюзнага дасягнення бакінец Барыс Пішчулін.

Зборная каманда школьнікаў Беларусі.
Фота **У. Вяхоткі.**



Барацьба напружаная. Толькі на апошніх метрах Юрыю ўдалося выйсці наперад і першым закончыць бег. Зноў 14,2 секунды!

У рэкорда краіны з'явіўся трэці аўтар.

Шчаслівы стаяў Юры на п'едэстале гонару, калі ўручалі яму залаты медаль чэмпіёна.

## СТАРТ У ЛІДЗЕ — ФІНІШ НА ВОЛЗЕ

Свой шлях на фінальныя спаборніцтвы ў Валгаград Ларыса Давідзюк пачала з зялёнага горада Ліды. Тут яна вучылася, займалася спортам у дзіцячай спартыўнай школе, тут устанавіла свой першы рэкорд, прабегшы 100 метраў за 13 секунд. Паступова расло яе майстэрства.

Ларыса выйграла свой забег, прынесла заліковыя ачкі камандзе, атрымала права аспрэчваць першынство і тытул чэмпіёнкі ў фінале. Разам з ёй стартавалі яшчэ тры ўдзельніцы, прычым вынік у папярэдніх забегах ва ўсіх быў аднолькавы. Гэта абяцала цікавую барацьбу. Так яно і было. Да апошніх метраў нельга было вызначыць, хто ж пераможа. І ўсё ж перамога дасталася Ларысе Давідзюк з 18-й школы горада Ліды.

Яшчэ большы поспех спадарожнічаў беларускай школьніцы ў Валгаградзе. Ларыса першая з нашых лёгкаатлетак заваявала залаты медаль чэмпіёнкі, прабегшы 100 метраў за 12,1 секунды. Гэта выдатны вынік!

## ДУЭЛЬ НА ШАШЫ

Даўно ідзе спрэчка паміж веласіпедыстамі Мінска і Брэста за права называцца мацнейшымі ў рэспубліцы. На гэты раз юныя мінчане заваявалі першыя чатыры месцы ў індывідуальнай гонцы на 25 кіламетраў, прычым Леаніду Бельскаму для перамогі спатрэбілася ўсяго 38 мінут 26 секунд, што адпавядае нарматыву першага разраду.

Затое юныя гоншчыкі з Брэстчыны — Генадзь Няволін, Віктар Носік, Пятро Трафімук і Віктар Германовіч — у наступны дзень спартакіяды не толькі выйгралі камандную гонку на 50 кіламетраў, але і ўстанавілі новае ўсесаюзнае дасягненне, перавысіўшы мінулае на 9 секунд. Усе хлопчыкі займаюцца ў дзіцячай спартыўнай школе пад кіраўніцтвам заслужанага трэнера рэспублікі Мікалая Васільевіча Дранько. Сёлета ўсе яны выканалі нарматывы першага разраду.

Больш дружную, згуртаваную каманду, як іхняя, у Валгаградзе мы не сустрэлі. Яны памагалі адзін аднаму ў час гонак, разам адпачывалі, разам дамагаліся перамогі. Добрай узнагародай за добрую падрыхтоўку, за вялікую дружбу былі для юных веласіпедыстаў бронзавыя медалі, заваяваныя ў гонцы на 50 кіламетраў.

## ДАРОГАЙ ЧЭМПІЁНАК

Галя Грыбок і Люся Рабкова яшчэ толькі пачыналі займацца гімнастыкай, калі іх старэйшыя сяброўкі Алена Валчэцкая і Тамара Аляксеева выступалі ўжо як вядомыя майстры. Гэтых дзяўчынак аматары гімнастыкі, мабыць, і не заўважылі тады, пяць-шэсць год назад...

Затое сёлета на школьнай спартакіядзе і Галі, і Люсі былі адрасаваны самыя шчырыя воплескі і віншаванні. Абедзве яны — пятнаццацігадовая Галя і шаснаццацігадовая Люся — перад пачаткам спаборніцтваў атрымалі па сярэбранаму значку майстра спорту СССР. Цяпер ім трэба было пацвердзіць свой спартыўны клас. І гэта дзяўчынкам удалося. Абедзве зноў набралі суму балаў, якая перавышала нарматыў майстра.

Каманда брэсцкіх юнакоў. Яна была першая ў гонках на 50 км.: Віктар Германовіч, Віктар Носік, Генадзь Няволін і Пятро Трафімук.



## НА ВОДНЫХ ДАРОЖКАХ

Доўгі час рэкорды плыўцоў у Беларусі ледзь перавышалі нарматывы трэцяга і другога разрадаў. Аднак і гэтаму, нарэшце, прыйшоў канец. Асабліва паспяхова выступаюць юныя плыўцы сёлета. Сямёра з іх упершыню выканалі нарматыў майстра спорту. Толькі на фінальных спаборніцтвах рэспубліканскай спартакіяды ў табліцу рэкордаў было ўнесена некалькі папраўак. Пятнаццацігадовая Валя Басько праплыла 200 метраў брасам за 3 мінуты 5,6 секунды, а яе сябар па камандзе 15-гадовы Валодзя Пасічнічэнка — за 2 мінуты 45 секунд. Абодва палепшылі свае ж рэспубліканскія рэкорды.

Уладзімір Бандарэнка праплыў 200 метраў на спіне за 2 мінуты 27,6 сек. Аднак новы рэкорд быў нядоўгі. Яго палепшыў вучань 50-й сярэдняй школы Мінска Юры Дзяменцеў — 2 мінуты 25,2 секунды, што перавышае нарматыў майстра спорту. Мінчанка Людміла Дзегцярова — мацнейшая плыўчыха як сярод юных, так і сярод дарослых спартсменак. З ёй у Беларусі ніхто не зраўняецца ў плаванні на спіне.

Форум юных спартсменаў у Валгаградзе не меў сабе роўных. У спаборніцтвах удзельнічалі 41 майстар спорту, 14 кандыдатаў у майстры, 822 першаразраднікі. Спіс майстроў спорту папоўніўся 30 новымі імёнамі.

Толькі школьнікі Беларусі ўстанавілі 6 рэкордаў рэспублікі па лёгкай атлетыцы. Ларыса Давідзюк, Ніна Ждан, Юры Горскі, Валянцін Панкратаў заваявалі залатыя медалі чэмпіёнаў спартакіяды.

Упершыню ў гісторыі юнацкага спорту пераможцамі ўсесаюзных спаборніцтваў па валейболу сталі дзяўчынкі з Беларусі. Ім таксама ўручаны залатыя медалі. Юнацкі спорт вырас з «кароткіх штонікаў», і за спіной у дарослых з'явіліся надзейныя рэзервы.

Ніна ПРАКАПОВІЧ.







Яны заваявалі залатыя медалі:
Ніна Ждан (Міншчына)
Валянцін Панкратаў (Мінск)
Ларыса Давідзюк (Гродзеншчына)

Фота Д. Церахава.

# СЕКУНДЫ І САНТЫМЕТРЫ

**З жыцця віцебскіх лёгкаатлетаў**

Калі ўвечары Таня прыйшла на стадыён, там было шумна. Удалечыні чарнела хударлявая фігура заслужанага трэнера СССР Шукевіча.

Ідзе дзяўчына ўздоўж трыбун, і адусюль яе ласкава вітаюць:

— Добры дзень, Танечка!

Таня дабралася да шукевіцкага кутка і спынілася. Трэніруецца майстар спорту, яе сябар па камандзе Аляксей Казлоў. Ну, як тут не паглядзець, якую работу яму задае праслаўлены беларускі трэнер.

Алёша, лежачы на спіне, выконвае розныя згінанні і разгінанні, складваецца амаль што ўдвая. Таня ледзь стрымлівае смех. Яна ведае, што Алёша не вельмі любіць гэтыя дапаможныя практыкаванні, яму, напэўна, зараз вельмі хочацца скокнуць як мага вышэй...



Таня прыслухоўваецца да трэнеравых заўваг. Яна разумее іх значэнне. Можа і «сумныя» некаторыя практыкаванні, але без іх не выпрацуеш гнуткасці, сілы. Шмат трэба працаваць скакунувышынніку.

Задумлівая падыходзіць Таня да свайго трэнера Анатоля Сямёнавіча Адахоўскага. Твар яго адразу ж засвяціўся радасцю.

— Як самаадчуванне, Таня?

— Цудоўнае, Анатоль Сямёнавіч.

— Па выгляду не сказаў бы, напэўна «тройку» адхапіла сёння ў школе.

— Не адгадалі. Якраз дзве «пяцёркі». Але я задумалася, глядзела, як Яўген Міхайлавіч муштруе Алёшу, у пот уганяе яго. Любата!

— Казлову гэта вельмі карысна, яго вынікі яшчэ няўстойлівыя. Але не зайздросць і не злосніча́й, зараз і табе дастанецца, надзявай вось шыпоўкі, пабегай, спачатку...

Трэніровачныя заняткі — частка вялікага даўно і добра спланаванага вучэбнага працэсу. Добрыя трэнеры выпрацоўваюць у сваіх вучняў патрэбныя якасці ў пэўным парадку. Арганізм спартсмена паступова прывыкае да вялікіх фізічных нагрузак. Адна за адной уключаюцца ў работу групы мышц. Усё больш складанымі і разнастайнымі робяцца практыкаванні, тэмп трэніроўкі нарастае. Лёгкаатлет выконвае розныя бегавыя заданні: развучвае старты, прабягае паскораным тэмпам невялікія адлегласці і не адзін раз, пераходзіць на скачкі цераз бар'ер, робіць па тры, па пяць разоў запар скачкі ў даўжыню. Але планкі сёння скакуну не відаць, як сваіх вушэй. Яна паявіцца на наступных занятках і то не на гранічнай вышыні.

Таня Качанава цярплівая. Шосты год вось так і з ёю займаюцца. Вядома, іншы адразу да планкі рвецца. Ёсць такія спартсменкі, здольныя нават. Бліснуць хутка высокім вынікам, а далей не ідуць. Раптам рост спыняецца, планка вышэй не паднімаецца. У Віцебску такіх не любяць. Трэнеры тут працуюць на будучыню, з перспектывай. Маладых спартсменаў рыхтуюць старанна, не гонячыся за таннай славай.

У Віцебску падабралася добрая група трэнераў па лёгкай атлетыцы. Яны згуртаваліся вакол Яўгена Міхайлавіча Шукевіча — выхавальніка многіх цудоўных спартсменаў. Кожны з трэнераў ішоў сваім шляхам, ствараючы сваю методыку падрыхтоўкі лёгкаатлетаў. Яны не пакінулі пошукаў і пасля сустрэчы з Шукевічам. Шукевіч шмат ведае, мае багаты вопыт. Ён дзеліцца сваім вопытам і ўважлівы да пошукаў маладзейшых трэнераў. Іншы раз, абмяркоўваючы штонебудзь новае, трэнеры пачынаюць спрачацца. Меркаванне Яўгена Міхайлавіча не заўсёды бярэ верх, але бярэцца пад увагу. А далей — праверка на «ўласнай скуры». Не раз некаторыя пераконваліся, што Шукевіч гаварыў праўду. Але бывае і наадварот: тое, у чым сумняваўся Яўген Міхайлавіч, на практыцы прыносіла добры плён. Тады яшчэ гарачэй бяруцца за навінку, яшчэ і яшчэ раз выпрабоўваюць яе, і зноў жа бягуць да Шукевіча падзяліцца радасцю новай знаходкі.

Таня Качанава фінішыруе. Ззаду засталіся 80 метраў з бар'ерамі.

Трэнер павінен не толькі ўмець знайсці найбольш дасканалыя метады падрыхтоўкі спартсмена, але і перш за ўсё ўмець знайсці самога спартсмена. Бегаць, скакаць уласціва кожнаму дзіцяці, і, здаецца, кожнага можна зрабіць лёгкаатлетам. Гэта так. Але не ўсе будуць таленавітымі спартсменамі, не ва ўсіх ёсць «даныя» для гэтага.

Ах, гэтыя «даныя»! Як выявіць у звычайным хлопчыку ці дзяўчынцы будучы спартыўны талент?

Ходзяць трэнеры па школах, шукаюць таленты, наладжваюць дзецям экзамены па іх фізічнаму развіццю, набіраюць, адбіраюць, некалькі гадоў навучаюць, і, глядзіш, паявіліся першыя прыкметы прызвання. Праходзіць яшчэ некалькі гадоў, і спартыўны талент расцвіў, апраўдаў надзеі і працу трэнера.

Як знайшлі Таню Качанаву? Спецыяліст па скачках у вышыню настаўнік фізкультуры з другой школы неяк сказаў:

— Ёсць у мяне ў пятым класе адна дзяўчынка, высокая, тоненькая, рухавая. Можа паглядзіш, Анатоль Сямёнавіч?

Адахоўскі глянуў, як скача Таня, і зусім застаўся задаволены. У канцы першай зімы 11-гадовая Таня ўзяла 105 сантыметраў. Летам яна пераадолела ўжо 125 сантыметраў. Далей спартыўны рост Качанавай ішоў так:

1959 год—145 сантыметраў
1960 год—151 сантыметр
1961 год—161 сантыметр.

Да нормы майстра спорту засталося ўсяго чатыры сантыметры. Вось гэтыя чатыры і былі самыя цяжкія. Другі год б'ецца над імі Таня. Праўда, выявілася ў Тані імкненне да пяцібор'я. А пяцібор'е ў камандзе асабліва патрэбна. Давялося шмат часу патраціць на ўдасканаленне яшчэ па чатырох відах лёгкай атлетыкі. Можа гэтая акалічнасць і перашкодзіла Тані летась стаць майстрам па скачках у вышыню. Няхай сярэбраны значок майстра спорту ўпрыгожыць яе грудзі крыху пазней. Не бя-




Бягуць пяціборкі на 200 метраў.



Ліза Воднева і Вера Какоркіна ідуць першыя ў кросе на прыз газеты «Праўда». Дыстанцыя — 500 метраў.

да. Затое Таня ўжо робіць пяціметравыя скачкі ў даўжыню, за 12,1 секунды прабягае 80 метраў з бар'ерамі, за 28,5 секунды прабягае 200 метраў, штурхае ядро на адзінаццаць метраў. Сярод юных пяціборак рэспублікі Таня цяпер самая мацнейшая. Не раз заваёўвала прызавыя месцы на ўсесаюзных спаборніцтвах па скачках у вышыню.

На Усесаюзнай спартакіядзе школьнікаў у Валгаградзе Таня заваявала другія месцы — у скачках і пяцібор'і.

Званне майстра спорту — мара кожнага маладога спартсмена. Таня хацела б хутчэй, вядома, ім стаць. Убачыўшы аднойчы, як трэнер выціскае штангу, Таня таксама схапілася за грыф.

— Асцярожна, Таня, тут сорак кілаграмаў! — спалохана ўсклікнуў Адахоўскі.— Для цябе хопіць.

— Мне Роберт Шаўлакадзе раіў больш браць.

— Дык ён жа — алімпійскі чэмпіён, мужчына. Ты яшчэ вельмі маладая, каб паднімаць вялікую вагу...

Асцярожным і пільным трэба быць трэнеру. Едуць на спаборніцтвы яго вучні іншы раз і без яго. А там набіраюцца такіх «навін», якія зусім не падыходзяць да іх ні па ўзросту, ні па спартыўнай сталасці... Вось і Аляксей Казлоў хоча скакаць па тэхніцы сусветнага рэкардсмена Валерыя Брумеля. А трэнер Шукевіч лічыць, што Казлову лепш удасканальваць разбег скачка, каб браць двухметравую вышыню. А вось лепшаму віцебскаму «вышынніку» Рудольфу Булыгіну, асабісты рэкорд якога — 203 сантыметры, Адахоўскі дазваляе на трэніроўках браць і больш. Гэтаму спартсмену такая работа карысная, бо ён ужо вопытны майстар, са стабільнымі вынікамі і рост мае 181 сантыметр. Яму трэба ўвесь час прывыкаць да большай вышыні. У Аляксея ж больш зайздросны рост — 188 сантыметраў. Але ён яшчэ малады, нявопытны, і ў сумеснай трэніроўцы ён абавязкова саб'ецца на чужую тэхніку, пачне пераймаць Булыгіна. Няхай мацнее яго майстэрства без блізкага ўплыву.

Аляксей не крыўдуе за гэта на трэнера. Ведае, што правільна робіць Яўген Міхайлавіч. Праўда, хочацца паспрачацца з рэкардсменам ля планкі, але аўтарытэт трэнера перасільвае жаданне.

Узлёт Аляксея Казлова адбыўся за апошнія два гады. У 1960 годзе ён узяў 160 сантыметраў, а ў наступным дадаў да асабістага рэкорда яшчэ дваццаць сантыметраў. Летась жа яго скачок дасягнуў 193 сантыметраў. І вось сёлета зімой у зале Алёша ўзяў два метры. Рубеж майстра спорту пераадолены. Потым яшчэ два разы ён узяў 195 сантыметраў. Гэта ўмацавала пазіцыі. Цяпер трэба было думаць, каб узяць большую вышыню. Думалі разам з трэнерам. І вынікі прыйшлі неўзабаве. Казлоў паспяхова выступіў па праграме васьмібор'я. Сто метраў ён прабег за 12,1 секунды, 800 метраў — за 2 мінуты 25 секунд, 110 метраў з бар'ерамі пераадолеў за 16,4 секунды, у даўжыню скокнуў на 6 метраў 20 сантыметраў, кінуў дыск на 40 метраў 38 сантыметраў, а кап'ё — на 47 метраў 79 сантыметраў, з шастом скокнуў на 2 метры 90 сантыметраў.

— Тваё прызванне, бадай, мнагабор'е, — сказаў Аляксею трэнер.

— Страшнавата брацца, Яўген Міхайлавіч. Ці адолею?

— Не ты першы. Брумель дасягнуў такіх вынікаў у скачках, а цяпер усё часцей пачынае выступаць па дзесяцібор'ю. Уяўляеш, колькі яму даводзіцца працаваць?..

Лёгкая атлетыка — гэта цэлы спартыўны комплекс. У яе ўваходзяць усе віды бегу — ад 100 метраў да 42 кіламетраў, спартыўная хадзьба, чатыры віды скачкоў, чатыры віды кідання, бег праз бар'еры і перашкоды. Лёгкая атлетыка — каралева спорту. Бегуны, скакуны, кідальнікі, скараходы — яе дзеці.

У Віцебску шмат дзяцей гэтай «каралевы».

Яўген Міхайлавіч Шукевіч вядомы і як трэнер кідальнікаў молата. Ім вырашчаны шасціразовы рэкардсмен свету Міхаіл Крыванасаў і леташні чэмпіён СССР Аляксей Балтоўскі. Цяпер у яго трэніруецца адзін з мацнейшых савецкіх «малатабойцаў» трэці прызёр краіны Рамуальд Клім. Летам віцяблянін зрабіў свой лепшы ў жыцці кідок — на 67 метраў 91 сантыметр. Яму 30 год, і ён лічыць сябе ўжо «старым». Але ён у выдатнай спартыўнай форме.

— Паглядзі, Рома, на нашых хлапчукоў. Як ты іх знаходзіш?

У гэтым пытанні адчуваецца гордасць трэнера. Вопытны кідальнік доўга сочыць за паваротамі на пляцоўцы 16-гадовых молатакідальнікаў Пеці Зайцава і Валодзі Чарамнова і з захапленнем гаворыць:

— Абодва выдатныя, Яўген Міхайлавіч. Здаецца, добрая змена будзе?..

Прыемна глядзець, як кідаюць шасцікілаграмавы молат Пеця і Валодзя. У Чарамнова ўжо ёсць выдатны вынік — 49 метраў. Зайцаў не дакінуў да яго адзнакі на 13 сантыметраў.

Побач практыкуецца з дыскам, кап'ём і іншымі снарадамі 17-гадовы Валодзя Іваноў. Гэты расце мнагаборцам. Вясной ён устанавіў юнацкі рэкорд рэспублікі ў васьмібор'і: 100 метраў прабег за 11,8 секунды, 800 метраў за 2 мінуты 13,7 секунды, дыск у яго праляцеў 44 метры 84 сантыметры, а кап'ё — 51 метр 41 сантыметр. Горш пакуль даюцца скачкі ў вышыню, даўжыню і з шастом.

Вядомая мінская спартсменка Марыя Іткіна 400 метраў прабегла за 53,4 секунды, што з'яўлялася рэкордам свету. 18-гадовая віцяблянка Вера Какоркіна гэтую ж дыстанцыю прабегла за 59,2 секунды. Усяго на 5,8 секунды горш. Як быццам дробязь, але ў спорце на такія «дробязі» затрачваюцца гады трэніроўкі і барацьбы. Ніхто Веру «не сватае» ў сусветныя рэкардсменкі, яе самую задаволіла б пакуль сціплае званне «чэмпіёнкі Беларусі».

Паміж сусветным рэкордам у бегу на 100 метраў і асабістым рэкордам віцебскага міліцыянера Юрыя Дзербаса маленькая розніца — адна секунда. Віцяблянін прабягае гэтую дыстанцыю за 11 секунд. На такой кароткай дыстанцыі кожная дзесятая доля секунды даецца гадамі ўпартай працы. Колькі гэтых долек Дзербас скіне ў сёлетнім сезоне?..

У сям'і віцебскіх лёгкаатлетаў ёсць цудоўная бягуння на сярэдніх дыстанцыі Ліза Воднева, якая вызначылася на кросе імя газеты «Праўда» ў Маскве,— а яшчэ ёсць бягуння на кароткія дыстанцыі Оля Чарткова, ды Люда Цялічка, якая добра скача, і 19-гадовы кінамеханік Генадзь Правілаў, які пры росце 179 сантыметраў пераадольвае вышыню 190 сантыметраў.

Караліна Пятровіч — не віцяблянка. Яна стала вядомая, як дыскаболка, займаючыся яшчэ ў Астраўцы. Караліна пераехала ў Віцебск, каб удасканаліць сваю тэхніку ў Шукевіча. Першы год трэніроўкі ў заслужанага трэнера прынёс ёй поспех. Дыск, кінуты яе рукой, праляцеў 49 метраў 56 сантыметраў. Трэнер паставіў ёй задачу — кінуць дыск на 52 метры. Дзяўчына трэніруецца і ў штурханні ядра. Узяўшы рубеж 14 метраў, яна і ў гэтым відзе дасягнула ўздучага месца ў рэспубліцы.

З раніцы да позняга вечара на віцебскім стадыёне можна сустрэць трэнераў па лёгкай атлетыцы і іх выхаванцаў. Тыя, што пачынаюць, прыходзяць групамі, члены зборнай каманды — кожны ў свой графік. Пячэ сонца, дзьме вецер, лье дождж, а трэнеры на вахце. У іх работа не спыняецца, трэба ж за сезон паспець зрабіць многа. Адным з іх не хапае да запаветнага рубяжа метра або сантыметра, другім трэба ўрэзаць секунды або долі секунд, каб узяць запаветны паказчык.

Стомленая, але бадзёрая спяшаецца Таня Качанава дадому. На двары застае сваю сястрычку васьмігадовую Лену. Тая практыкуецца скакаць у вышыню праз вяровачку. Лена скача «хваляй», і Таня здзіўляецца:

— Хто цябе так навучыў скакаць?

— А ў цябе ж, Таня, так атрымліваецца?

— Атрымліваецца, Леначка, яшчэ як атрымліваецца! Прыйдзецца і цябе адвесці да трэнера, да Анатоля Сямёнавіча.

Расце, дужэе, сталее сям'я маладых лёгкаатлетаў Віцебска. На III Усебеларускай спартакіядзе юныя лёгкаатлеты Віцебска занялі першае, а каманда дарослых спартсменаў Віцебшчыны — другое месца.

**Ісак ЦЫВЕС.**
Фота **Я. Брахунова.**



Бег з бар'ерамі. Наперадзе Ядзвіга Бесарабская.

# Шахматы

пад рэдакцыяй міжнароднага майстра спорту
**А. СУЭЦІНА**

# УЗОРЫ ШАХМАТНАЙ ТЭХНІКІ

Гавораць, што крытэрый шахматнага майстэрства — высокая тэхніка скарыстання самай малой перавагі. У сувязі з гэтым узнікае законнае пытанне: што трэба разумець пад тэхнікай у шахматах? Тэхніка ў шахматнай творчасці гэта — адзінства задумы, плану і яго дакладнага ажыццяўлення, даведзенага да аўтаматызму.

Вядома, у складаных пазіцыях, насычаных багатымі тактычнымі і стратэгічнымі магчымасцямі, пытанні тэхнікі адступаюць на другі план, даючы месца камбінацыі і пазіцыйнай гульні. Але ў пазіцыях, якія ўжо вызначыліся, з выразным планам і без складаных тактычных праблем, значэнне тэхнікі велізарнае.

Асабліва гэта датычыць нязначных пазіцыйных пераваг, якія трэба рэалізаваць. Да такіх пераваг можа быць аднесена ўдалае размяшчэнне пешак, наяўнасць адкрытай лініі, абмежаванне руху лёгкіх фігур праціўніка і іншае.

Часта такую перавагу бачыш адразу. Але як жа далёка да яе рэалізацыі!.. Тут самая маленькая памылка можа прывесці да пройгрышу. Дакладнасць — вось галоўная рыса высокай шахматнай тэхнікі.

Кожны юны аматар шахмат заўважае ў шахматнай творчасці камбінацыю і вельмі добра адчувае значэнне дакладнага разліку. А вось калі справа датычыць тэхнікі, мала хто прызнае ролю матэматычнай дакладнасці мыслення.

Вопыт — вельмі важны фактар удасканалення тэхнікі, і таму карысна разбіраць метады рэалізацыі магчымасцей у партыях гросмайстраў. Разгледзім такі класічны прыклад з практыкі геніяльнага кубінскага гросмайстра Хазэ Рауля Капабланкі. Яго партнёрам быў таксама выдатны гросмайстар А. Німцовіч, які гуляў белымі. Партыя сыграна ў Рызе ў 1914 годзе.



Ход чорных. У чорных лішняя пешка, але наяўнасць рознакаляровых сланоў гаворыць як быццам пра нічыйны характар партыі: на 1. ...С:g4 можа быць 2. Л:f6+, і белыя фарсіравана вяртаюць матэрыяльныя страты. Тым больш павучальны спосаб гульні, які знайшоў Х. Р. Капабланка.

Было зроблена: 1. ...c5!, 2. С:f6 Лd1!, 3. Сe5 Л:f1, 4. Кр:f1 С:g4.

Зноў лішняя пешка ў чорных, але на дошцы толькі рознакаляровыя сланы — «нічыйныя мікробы». Тым не менш Капабланка даказвае перавагі сваёй пазіцыі:

5. a4 Крe6, 6. Сb8 a5!

Цяпер на 7. Сc7 можа быць зроблена 6. ...b5!, і пешка нечакана праходзіць у фярзі.

7. Крe1 Крd5, 8. Крd2 Сd7, 9. Сc7 Крc6, 10. Сd8.

Пешка a5 недатыкальная з-за 10. ...b6.

10. ...b6, 11. c4 Крb7, 12. Крc3 С:a4, 13. Крb2 Сd7, 14. Крb3 Сe6. 15. Крc3 a4, 16. Крd3 Крc6, 17. Крc3 g4, 18. Сh4 h5.

Гульня чорных выйграна. Дасягнуўшы прахадной на ферзевым флангу, Капабланка асноўную ўвагу скіроўвае на каралеўскі фланг.

19. Сg3 a3, 20. Крb3 С:c4+!, 21. Кр:a3 (Фарсіравана прайгравала і 21. Кр : c4 з-за 21. ... a2, 22. Сe5 h4, 23. Крb3 g3, 24. hg h3!, і адна з крайніх пешак праходзіць у фярзі.)

21. ...b5, 22. c3 Крd5, 23. Сf2 Сe2, 24. Крb3 Сd1+, 25. Крb2 Крc4, 26. Крc1 Сf3, 27. Крd2 b4, 28. cb cb, 29. Сh4, Сe4, 30. Сh4 Сe4, 31. Сf6 Сg6, 32. Сh4 b3, 33. Сf6 h4, 34. Крe3 g3, 35. hg h3, 36. Крf2 Сf5.

Апошняя тонкасць: чорны кароль ідзе на дапамогу пешцы b3, выйграе слана, а потым вяртаецца назад і фарсіруе рух пешкі «h» у фярзі.

37. g4 С:g4, 38. Крg3 Крd3.

Белыя здаліся.

Гэты прыклад лепш за словы ілюструе значэнне шахматнай тэхнікі.

А вось партыя Х. Р. Капабланкі ў Нью-Йорку ў 1915 годзе з Купчыкам (чорныя).



Становішча, здаецца, зусім сіметрычнае. Але пільнае вока геніяльнага шахматыста заўважае слабую пешку чорных. Тэхніка ўступае ў свае правы, і партыя развіваецца так:

1. Лa4 Лa8, 2. Лa5! d5, 3. c4! Крd6, 4. c5+! Крd 7, 5. d4 f5, 6. Л:e6 fe, 7. f4 Крc8, 8. Крd2 Крb7, 9. Лa3 Лg8, 10. Лh3 Лg7, 11. Крe2, Крa6, 12. Лh6, Лe7, 13. Крd3 Крb7, 14. h4 Крc8, 15. Лh5 Крd7, 16. Лg5 Лf7, 17. Крc3 Крc8, 18. Крb4 Лf6, 19. Крa5 Крb7, 20. a4 a6, 21. h5.

Перавага белых — у актыўным размяшчэнні абодвух фігур, караля і ладдзі. Гэта дазваляе ім паслядоўна нарошчваць перавагу ў пазіцыі.

21. ...Лh6, 22. b4 Лf6, 23. b5!

Дынамічнае вырашэнне праблем пазіцыі. Белыя дасягаюць перавагі на ферзевым флангу.

23. ...ab, 24. ab Лf8, 25. Лg7 Лa8+, 26. Крb4 cb, 27. Кр:b5 Лa2+, 28. c6+ Крb8, 29. Л:h7 Лb2+, 30. Крa5 Лa2+, 31. Крb4 Л:f2, 32. Лe7 Л:f4, 33. h6+!, і белыя неўзабаве дасягаюць перамогі.

Да гэтага часу гульня Х. Р. Капабланкі з'яўляецца вартым пераймання прыкладам таго, як рэалізаваць нават самыя малыя перавагі сваёй пазіцыі. Свае погляды на шахматную творчасць гросмайстар выказаў у кнігах «Мая шахматная кар'ера» і «Падручнік шахматнай гульні», якія не аднойчы перакладаліся на рускую мову.

Цяпер традыцыі Х. Р. Капабланкі найбольш ярка ўвасоблены ў творчасці новага чэмпіёна свету Ціграна Петрасяна.

Удасканальваць шахматную тэхніку трэба ўвесь час. Авалоданне ёю — найкарацейшы шлях да шахматнага майстэрства.

# НАШ КОНКУРС

Ход белых

Знайдзіце рашаючую камбінацыю (3 ачкі).



Правільныя адказы на заданне, што было ў чацвёртым нумары часопіса, нам прыслалі Сяргей Шмурадка і Мікалай Шлемянкоў — вучань Кармянскай сярэдняй школы з Гомельшчыны. Ім залічваецца па тры ачкі.

Камбінацыя дасягаецца шляхам: 1. С:f6+! і калі 1. ...К:f6. 2. Л:g7+Кре8, 3. Фf7+! Гэтая камбінацыя сустрэлася ў партыі Карчной — Гелер (XXI першынство СССР 1954).

**У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:**

**Аповесць Алеся Бажко «ПОЗНЯЕ ВОРЫВА».**
**Вершы Эдзі Агняцвет, Уладзіміра Ляпёшкіна, Янкі Сіпакова і Нэлы Тулупавай.**

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108$^1/_{16}$. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 7.423. Цана 40 кап.
АТ 01646. Здадзена ў набор 1.VIII.63 г. Падпісана да друку 27.VIII.63 г. Зак. 414.

Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праспект, 79.



Л. Дударэнка. Падзел зямлі.



А. Казак. Бітумшчыкі.

